МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ, СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ
І ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР
БЕЛАРУСКІ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА
ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя У. І. ЛЕНІНА

# МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА МІНСКА-МАЛАДЗЕЧАНСКІХ ГАВОРАК

*Пад рэдакцыяй М. А. Жыдовіч*

ВЫДАВЕЦТВА БДУ імя У. І. ЛЕНІНА
МІНСК 1970

Укладальнікі:
*М. А. Жыдовіч, І. А. Каралёва, У. М. Лазоўскі, Е. С. Мяцельская, І. М. Шчарбакова*

**М34** **Матэрыялы** для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мн., Выд. БДУ, 1970.

172 с. 1000 экз. 14 к

У рабоце тлумачацца значэнні дыялектных слоў, адлюстроўваюцца фанетычныя, граматычныя і стылістычныя асаблівасці мінска-маладзечанскіх гаворак, паказваецца сінаніміка і сфера бытавання дыялектызмаў.

Прызначаецца навуковым работнікам, выкладчыкам ВНУ і настаўнікам школ, студэнтам-філолагам і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай народнай мовай.

7-1-5
40-70

4 Бел(03)

# ПРАДМОВА

Кафедра беларускай мовы філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна на працягу некалькіх год займаецца збіраннем дыялектнай лексікі для слоўніка мінскамаладзечанскіх гаворак. За гэты час сабраны надзвычай цікавы і каштоўны матэрыял. Але, як вядома, праца над слоўнікам карпатлівая і працяглая. Падрыхтоўка слоўніка зойме многа год. Улічваючы гэта, укладальнікі вырашылі выдаваць матэрыялы для слоўніка паасобнымі «сшыткамі».

Тут змешчаны словы, якія адсутнічаюць у беларуска-рускім слоўніку, за выключэннем слоў з паметай *абл., разм.,* а таксама словы, у якіх значэнне або націск іншыя, чым у літаратурнай мове.

Пры тлумачэнні слоў даецца адпаведны сінонім літаратурнай мовы. Калі ж такі сінонім адсутнічае, то слова тлумачыцца апісальна.

Словы падаюцца ў алфавітным парадку. Загалоўнае слова прыводзіцца ў літаратурным запісу, у дужках — транскрыбіраваны запіс яго вымаўлення ў гаворцы. Затым даюцца граматычныя паметы: род для назоўнікаў, назва для іншых часцін мовы, канчаткі 1-й і 2-й або 3-й асобы адзіночнага ліку, закончанае і незакончанае трыванне дзеясловаў. Пасля раскрываецца значэнне слова і прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял у транскрыбіраваным запісу і пашпарт. Калі слова ўжываецца ў некаль-

кіх населеных пунктах, то іх скарочаныя назвы ўказваюцца пасля значэння гэтага слова. Розныя значэнні слоў дадзены пад арабскімі лічбамі.

Многія словы прыводзяцца са стылёва-сэнсавымі паметамі: *перан., спец., асудж., іран.* і інш. Фразеалагічныя спалучэнні, прыказкі, прымаўкі змешчаны ў дадатку.

Ілюстрацыйны матэрыял падаецца спрошчанай транскрыпцыяй: перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е;* мяккасць зычных перад зычнымі і на канцы слова — праз мяккі знак *(зьлізаць, сьмярдзюха);* падоўжаныя мяккія зычныя абазначаюцца падвоеным напісаннем літар, паміж якімі пішацца мяккі знак *(амецьце, смольлю, рэзьзю)*; выбухное **г** выдзелена курсівам *(г);* для спрашчэння набору націскі ў словах пастаўлены пасля галоснай *(ба'цька, малы').*

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

## 1. Граматыка-стылістычныя

*агульн.* — агульны род
*адз.* — адзіночны лік
*арф.* — арфаграфічна
*асудж.* — асуджальнае
*выкл.* — выклічнік
*гл.* — глядзі
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік
*жан.* — жаночы род
*зак. тр.* — закончанае трыванне
*мн.* — множны лік
*мужч.* — мужчынскі род
*ніяк.* — ніякі род
*перан.* — пераноснае
*прым.* — прыметнік
*прын.* — прыназоўнік
*прысл.* — прыслоўе
*часц.* — часціца

## 2. Населеныя пункты, у якіх запісвалася лексіка

*Аздз.* — Аздзяцічы Барысаўскага раёна
*Аляхн.* — Аляхновічы Маладзечанскага раёна
*Астр.* — Астроўцы Нясвіжскага раёна
*Бар.* — Барок Стаўбцоўскага раёна
*Бобр* — Бобр Крупскага раёна
*Быт.* — Бытча Барысаўскага раёна
*Бял.* — Бяларучы Лагойскага раёна
*Бяс.* — Бясяды Лагойскага раёна
*Варн.* — Варняны Астравецкага раёна
*Вайк.* — Ваўкалака Докшыцкага раёна

| | | |
|---|---|---|
| *В. В.* | — | Вялікая Вуса Уздзенскага раёна |
| *Вен.* | — | Венцавічы Мядзельскага раёна |
| *Вішн.* | — | Вішнева Валожынскага раёна |
| *Выд.* | — | Выдрыца Крупскага раёна |
| *Гіл.* | — | Гілікі Валожынскага раёна |
| *Горкі* | — | Горкі Стаўбцоўскага раёна |
| *Гр.* | — | Гранічы Маладзечанскага раёна |
| *Гум.* | — | Гумны Крупскага раёна |
| *Дук.* | — | Дукора Пухавіцкага раёна |
| *Жабч.* | — | Жабчава Копыльскага раёна |
| *Жор.* | — | Жораўкі Пухавіцкага раёна |
| *Заастр.* | — | Заастравечча Клецкага раёна |
| *Заб.* | — | Забалоцце Смалявіцкага раёна |
| *Заям.* | — | Заямнае Стаўбцоўскага раёна |
| *Ігр.* | — | Ігрушка Крупскага раёна |
| *Ін.* | — | Ініца Стаўбцоўскага раёна |
| *Кальч.* | — | Кальчуны Ашмянскага раёна |
| *Кар.* | — | Караваева Пухавіцкага раёна |
| *Карм.* | — | Кармазы Старадарожскага раёна |
| *Клоч.* | — | Клочкава Маладзечанскага раёна |
| *Кол.* | — | Колюш Бярэзінскага раёна |
| *Комл.* | — | Комлеўшчына Клецкага раёна |
| *Ляв.* | — | Лявонавічы Нясвіжскага раёна |
| *Лях.* | — | Ляхавічы Дзяржынскага раёна |
| *Ляшч.* | — | Ляшчынскія Мядзельскага раёна |
| *Малм.* | — | Малмыгі Вілейскага раёна |
| *Масц.* | — | Масцілавічы Клецкага раёна |
| *Мац.* | — | Мацькаўцы Вілейскага раёна |
| *Мех.* | — | Мехаўка Чэрвеньскага раёна |
| *Мільчы* | — | Мільчы Вілейскага раёна |
| *Мік.* | — | Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна |
| *Ніз.* | — | Нізок Уздзенскага раёна |
| *Нік.* | — | Нікольцы Мядзельскага раёна |
| *Няд.* | — | Нядаль Барысаўскага раёна |

*Паг.* — Пагост Бярэзінскага раёна
*Папл.* — Паплавы Бярэзінскага раёна
*Пр.* — Пруды Стаўбцоўскага раёна
*Прудз.* — Прудзішча Мінскага раёна
*Рак.* — Ракаў Валожынскага раёна
*Р. Л.* — Рудня Лагойскага раёна
*Р. Ч.* — Рудня Чэрвеньскага раёна
*Сав.* — Савані Стаўбцоўскага раёна
*Сак.* — Сакаловічы Крупскага раёна
*Сал.* — Саланая Валожынскага раёна
*Сл.* — Слабодка Стаўбцоўскага раёна
*Ст. С.* — Старое Сяло Мінскага раёна
*Сял.* — Сяледчыкі Маладзечанскага раёна
*Так.* — Такарышкі Іўеўскага раёна
*Тур.* — Турын Пухавіцкага раёна
*Уг.* — Углы Клецкага раёна
*Халм.* — Халмоўка Барысаўскага раёна
*Хар.* — Харавічы Пухавіцкага раёна
*Хож.* — Хожава Маладзечанскага раёна
*Цял.* — Цялякава Уздзенскага раёна
*Чан.* — Чанавічы Нясвіжскага раёна
*Шут.* — Шутавічы Смаргонскага раёна
*Якш.* — Якшыцы Клецкага раёна
*Ямк.* — Ямкавічы Валожынскага раёна.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ СЛОЎНІКА

### А

АБАРВА′ЦЬ (абарва′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Раздабыць, прыдбаць. То′лька калі′ дзе што абарве′, дык на сябе′ пу′сьціць. *Цял.*

АБЕ′РДЗІЦА (абе′рдзіца) *жан.* Падоўжны край бёрда. У абе′рдзіцы ўстаўля′ецца трысьцё′. Абе′рдзіца злама′лася, так пры′дзецца ўсё бё′рда перапле′таць. *Мік.*

АБЕ′РУЧ (абе′руч) *прысл.* Абедзвюма рукамі. Мы су′ткі абе′руч яе калыха′лі. *Цял.*

АБЗЫЎНУ′ЦЦА (абзыўну′цца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* Абазвацца. Як узышла′ ў ха′ту, дык абзыўну′лася, ды як загало′сіць. *Дук.*

АБІЯ′КІ (абія′кі) *толькі мн.* 1. Боты на драўлянай падэшве. Я по′мню, як пад бо′ты падбіва′лі дзярав′ныя падо′швы, не′кія абія′кі зва′ліся, на′ша Я′дзя насі′ла. *Сав.* 2. Абутак на драўлянай падэшве. Малады′я не то′лькі не насі′лі, але на′ват не ба′чылі абія′каў. *Папл.*

АБЛА′ВА (абла′ва) *жан.* Група людзей. Прышла′ абла′ва і забра′ла яго. *Цял.*

АБЛЕ′ЯЦЦА (абле′яцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Абліцца. Малы′ абле′яўся вадо′ю. *Дук.*

АБЛО′Г (аблю′х) *мужч.* Запушчанае поле, якое доўга не апрацоўвалася. Раней мно′га зямлі′ ляжа′ла ў абло′гах. *Лях.*

АБЛЯМО′ЎКА (аблямо′ўка) *жан.* Абшыўка ў кажуху. Сё′ньня прышы′ю аблямо′ўку на кажу′х. *Вішн.*

АБМЫ′ЛАК (абмы′лак) *мужч.* Памылка пры тканні палатна, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання. Вот у красна′х абмы′лак сьляпа′я зрабі′ла. *Так.*

АБМЫЛІ′ЦЦА (абмылі′цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Памыліцца. Я абмылі′лася, ке′пска палічы′ла. *Цял.*

АБМЫ′ЦЬ (абмы′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Абгаварыць. У Хадо′сьсі такі′ язы′к бры′ткі, пры′дзя к табе′, пасядзі′ць, пагаво′рыць, а по′тым на ўсё сяло′ абмы′я. *Жор.*

АБРАЗА′ЦЬ (абраза′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Абіраць бульбу. Гэ′лька карто′плю абраза′я на вячэ′ру. *Цял.*

АБРУЧЫ′ (абручы′) *мужч.* Тасьма, якой расшыты падол спадніцы або сукенкі. Купі′ла ў магазі′не цясьмы′ на абручы′. *Заб.*

АБСАЮ′ЗІЦЬ (апсаю′зіць), -жу, -зіш; *зак. тр.* Прышыць галоўкі да халяваў. *Ніз., Мік., Р. Ч.* Трэ′ба апсаю′зіць бо′ты, а то парва′ліся. *В. В.*

АБСКЛЮДО′ВАНЫ (апсклюдо′ваны) *дзеепр.* Абчэсаны склюдам. Дом апсклюдо′ваны, ўсё ж лепш. *Цял.*

АБУДЗІ′ЦЬ (абудзі′ць), -дж-у, -дз-іш; *зак. тр.* Злёгку абварыць. Кілбасу′ тро′шкі абуджу′, пяць міню′т, а тады′ жа′рыць, ото′ ўку′сная. *Сав.*

АБУЯ′ЦЬ (абуя′ць) *зак. тр.* Апанаваць. Такі′ мяне′ страх абуё′ў. *Дук.*

АБФІКЛЯВА′ЦЬ (апфіклява′ць), -юю, -еш; *зак. тр.* Абвесці вакол пальца. Гры′шка Ві′цю здо′рава апфіклява′ў. *Аляхн.*

АБХЛЮ′НДРАЦЦА (апхлю′ндрацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Вымачыцца, абпэцкацца ў гразь. Адна′ ішла′ апхлю′ндраўшыся. *Дук.*

АБХО′ДЛЫ (апхо′длы) *прым.* Дабраякасны. Як апхо́длая насе′ньне, дык яно′ віда′ць, се′мячка ў сярэ′дзіне есьць. *Ляшч.*

АБЦА′Ц (апца′ц) *мужч.* Абцас. У го′радзе ско′ра зно′шваюцца абца′цы. *Варн.*

АБЦЯ′ГАВІНЫ (апця′гавіны) *толькі ў мн.* Адыходы пры трапанні лёну. Апця′гавіны, быва′е, праду′ць, а быва′е, да кудзе′лі даба′вяць і ко′ўдру шы′юць. *Так.*

АБШУ′СТАЦЦА (апшу′стацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Збяднець. Апшу′сталася, дак німа′ ш чым е′хаць *Цял.*

АБШЭ′ЎКА (апшэ′ўка) *жан.* Аблямоўка. Каро′ткія рукавы′ выгадне′й каля′ рабо′ты, у до′ўгіх апшэ′ўкі ве′льмі ско′ра рву′цца. *В. В.*

АБЭ′РЖА (абэ′ржа) *жан.* 1. Прасторная, вялікая хата. У слу′чай што, дак за гэ′тыя дзе′ньгі куплю′ сабе′ які′ куто′чак мале′нькі, нашто′ мне така′я абэ′ржа, як ма′ю. 2. *Перан.* Здаровая, мажная кабеціна, не вельмі спрытная ў рабоце. Хто яе во′зьмя, абэ′ржа гэ′та каму′ патрэ′бна? Гуля′ць по′йдзя, ажні′ пол дрыжы′ць, а да рабо′ты няўда′лая, усё′ з рук ва′ліцца. *Сав.*

АБ’ЯДЗЕ′ННЕ (аб’ядзе′ньне) *ніяк.* Прысмакі. Дзе′ці мае′ за аб’ядзе′ньнем ганя′юцца. *Комл.*

АВО′ (аво′) *прысл.* Зараз. Хлеп прыве′зьлі, ідзі′ хучэ′й.— Аво′, бягу′. *Якш.*

АВУ′НЬ (аву′нь) *прысл.* Там. Аву′нь мальцы′, дзе вэ′рхал. *Масц.*

АГЛЕ′ДЗЕЦЬ (агле′дзяць), -дж-у, -дз-іш; *зак. тр.* Перажыць, зазнаць тое, чаго жадаеш другім. Клялі′ мяне′, а цяпе′р на сабе′ агле′дзялі. *Дук.*

АГЛО′БНЯ (агло′бня) *жан.* Звычайна ўжываецца ў форме мн. ліку: аглобні. Аглобля. Ра′нянага прывяза′лі к агло′бням. *Дук.*

АГО′ЎТАЦЦА (апо′ўтацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.*

Прызвычаіцца. Зра′зу ке′пска было′, ду′мала, што ніко′лі ні прывы′кну, а по′сьля аго′ўталася памале′ньку. *Цял.*

АГРАША′ЦЦА (аграша′цца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Увесь дзень нічога не есці. Сё′ньня, сыно′к, і пе′чы ні палі′ла, ні аграша′лася. *Сав.*

АГРО′ДНІК (агро′днік) *мужч.* Агароднік. У Міку′ліча сат харо′шы, ве′дама, сам агро′днік. *Дук.*

АГРЭ′К (агрэ′к) *мужч.* Агрэх. Ня ўме′ў до′бра ара′ць, то й нарабі′ў агрэ′каў шмат. *Мік.*

АГЫ′ (агы′, ігы′) *сцвярдж. часціца.* Ага, але (да). Ці ўсё зрабі′ла до′ма? — Агы.. *Масц.*

АДАПНУ′ЦЬ (адапну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Развязаць і скінуць, зняць. Адапну′ ваш хварту′х, а то зьнясу′ дамо′ў. *Дук.*

АДАРО′БКІ (адаро′пкі) *толькі ў мн.* Матавіла. Адаро′пкі даўне′й ўжыва′ліся. *Папл.*

АДБА′БІЦЬ (адба′біць), -лю, -іш; *зак. тр.* Адрэзаць пупавіну. *Вішн.* Трэ′ба дзіця адба′біць... Так гаво′руць у нас, у Ві′шневе, а да́лей, так мы ні зна′ім. Ужо′ адба′білі? Быстра. *Варн.*

АДБІ′ТЫ (адбі′ты) *дзеепр.* Адгароджаны. У свато′ў маі′х і ха′та вялі′кая, і камо′ра адбі′тая. *Дук.*

АДВІВА′ЦЦА (адвіва′цца), *незак. тр., перан.* Адлягаць. А ма′тка ў сэ′рцо сму′тку набра′ла, засумава′ла, хо′дзіць да пла′ча.., а тады′ адвіло′сё, адышло′, жыла′, му′чылася. *Сав.*

АДГАВА′РВАЦЦА (адгава′рвацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Пярэчыць. Вот яму′ гавары′, а ён ні адгава′руецца. *Цял.*

АДГО′Р (адго′р) *мужч.* Частка ўзаранага ў роскідку поля. Быва′е гарэ′ ні заго′н і ні паўзаго′на, тады′ ка′жуць — адго′р зрабі′ў. *Так.*

АДГРО′ХАЦЬ (адгро′хаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Збудаваць. Буды′ніну таку′ю адгро′хаў. *Заб.*

АДДЫ′ХАЦЬ (адды′хаць), -ш-у, -ш-аш; *зак. тр.* Адпачыць. Ты ўсё пі′шаш, ле′пяй бы ле′гла, ды адды′хала. *Дук.*

АДЖО′Н (аджо′н) *мужч.* Адработак жнівом. Набяру′ць се′на на аджо′н. *Цял.*

АЗІ′МКА (азі′мка) *жан.* Азімая пшаніца. Што на зіму′ се′юць пшані′цу, дак гэ′та азі′мка. *Цял.*

АЗУ′ЗЛІВАТАЯ (азу′зьліватая) *прым.* Азызлая. Яна′ не′кая была′, як азу′зьліватая. *Цял.*

АДКІ′ДЗІЧ (аткі′дзіч) *мужч.* Пража, звітая на вялікае верацяно для прасушкі. Вазьмі′ аткі′дзіч, гля′нь, ці прасо′хла ўжо. *Р. Ч.*

АДКІ′НУЦЬ (аткі′нуць), -у, -еш; *зак. тр.* Аддзяліць, абасобіць. Ён, удаве′ц, чака′ў той няве′сткі як бо′га, што памы′ць ці прыбра′ць. А сын жані′ўся, і аткі′нулі яны′ ба′цька. *Сав.*

АДЛЕ′ЦІЦЦА (адле′ціцца), -іцца; *зак. тр.* Крыху нагрэцца. Вада′ адле′цілася ўжо, чуць лецьь. *Сав.*

АДМЯНІ′ЦЬ (адмяні′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Выменяць. У міне′ ўся′кая вяргі′ня. Гэ′ту жо′ўтую я адмяні′ла на сваю′. *В. В.*

АДНА′КАВА (адна′кава) *прысл.* Аднолькава. Усе′ адна′кава жыву′ць у нас. *Дук.*

АДНАРУ′ЧКА (аднару′чка) *жан.* Пучок сухога лёну для апрацоўкі. За адзі′н рас труць аднару′чку. *Сал.*

АДНО′ГАДАК (адно′гадак) *мужч.* Аднагодак. Яны′ адно′гаткі былі′. *Дук.*

АДНО′СНІК (адно′сьнік) *мужч.* Насоўка. Фарсі′ць хло′пец, адно′сьнік с кішэ′ні вы′пусьціў. *Бобр.*

АДСВЯНЦІ′ЦЬ (атсьвяньці′ць), -чу, -ціш; *зак. тр.* Вылаяць. Няве′стка так мяне′ атсьвяньці′ла пяра′д людзьмі′, што я ня ве′дала дзе дзе′цца. *Дук.*

АДХА′КАЦЦА (атха′кацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.*

Аддыхацца. Ой, так заха′каўся бегучы′, што по′тым чуць атха′каўся. *Гум.*

АДХА′ЯЦЬ (атха′іць), -ю, -еш; *зак. тр.* Выхадзіць. Ледзь атха′іла яго′, калі′ быў малы′м, а цяпе′р дык вось ужо′ й чалаве′кам стаў. *Гум.*

АДЧУБА′СІЦЬ (атчуба′сіць), -шу, -сіш; *зак. тр.* Адлупцаваць. Дзе вы былі′? Хава′йцяся, бо атчуба′сіць ма′ці. *Дук.*

АДШЧАПІ′ЦЦА (атшчапі′цца), -плю-ся, -піш-ся; *зак. тр.* Адбіцца ад каго-небудзь, не падтрымліваць зносін. Атшчапі′ліся ат людзе′й і асталі′ся адны′. *Дук.*

АДШЧЫКНУ′ЦЬ (атшчыкну′ць), -ну, -неш; *зак. тр.* Адарваць. Ідзі′це ў сат, атшчыкні′це я′гат сабе′. *Жор.*

АДЫЙСЦІ′ (адыйсьці′), -д-у, -дз-еш; *зак. тр.* Ачуняць, паправіцца, выздаравець. Іва′н мо′цна хварэ′я, му′сіць, ня адо′йдзя. *Дук.*

АЖЭ′ВІСТАЯ (ажэ′вістая) *прым.* Рэдзька з чорнымі валокнамі ў сярэдзіне. Есьць праста′я рэ′цька і ажэ′вістая. *Хож.*

АКІ′ДАЦЦА (акі′дацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Абрадзіцца. А Мары′я ш та′я яшчэ′ не акі′далася? Яшчэ′ хо′дзіць? *Сав.*

АКІ′НУЦЬ (акі′нуць), -у, -еш; *зак. тр.* Адрачыся. Му′сіць ён до′бры быў, калі′ ўся радня′ акі′нула. *Цял.*

АКО′ЦЦЕ (ако′цьця) *ніяк., толькі ў адз.* Восці з каласоў ячменю. Ако′цьцямі во′чы запару′шыў. *Пр.*

АМЯ′ЛЛЕ (амя′льля) *ніяк., толькі ў адз.* Адыходы пры апрацоўцы лёну мяліцай. Пасядзі′ на амя′льлі, ні мяша′й. *Пр.*

АНАДО′Е (анадо′е) *прысл.* Пазаўчора. А што вы ду′маеце, мы анадо′е і ў Мі′нск с канцэ′ртам е′зьдзілі. *Ляв.*

АНДЫНА′РА (андына′ра) *жан.* Андынарыя. У дварэ′ не′калі андына′ру дава′лі, хто ро′біць. *Цял.*

АНГЕ′ЛЬСКАЕ (анге′льскае) ШВО. Двайное (шво). Анге′льскае шво мо′цнае, ім не′калі то′лькі дарагі′я суке′нкі шы′лі. *Вішн.*

АНГЕ′РКА (анге′рка) *жан.* Жаночая кароткая вопратка з саматканага сукна. Гэ′тыя анге′ркі даўне′й насі′лі і цяпе′р но′сяць. *Шут.*

АНДАВА′ЦЬ (андава′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Аддаваць. А сястра′ на каро′ву ўсе гро′шы і сі′лы андае′. *Так.*

АНДРЭ′ЙКА (андрэ′йка) *жан.* Божая кароўка. Андрэ′йка-кало′да, скажы′, што зо̆ўтра бу′дзя — дошч ці паго′да? *В. В.*

АННА′ (анна′) *ліч.* Адна. Гэ′ля як по′йдзе ў Юра′цішкі, то ца′лы дзень няма′, а я ўсё анна′. *Так.*

АННЫ′Я (анны′я) *ліч.* Адны. Анто′бусы хо′дзяць і хо′дзяць. Анны′я — сюды′, другі′я — наза′т. *Так.*

АНТАЛЯ′ЖЫ (анталя′жы) *толькі ў мн.* Карункі. Анталя′жы быва′юць з уся′кімі ўзо′рамі: ко′льцамі, ро′мбікамі. *Сал.*

АНТЫЛЯ′ЖЫ (антыля′жы) *толькі ў мн. Гл.* анталяжы. *(Дук., Пр., Р. Ч.)* Цяпе′р антыля′жы купля′юць, а ране′й усё′ са′мі вяза′лі. Мне да ска′цярці антыля′жы трэ′ба зьвяза′ць. *Р. Ч.* Панавя′зваем, быва′ла, антыля′жаў на вячо′рках, дай паапшыва′ем по′сьцілкі, ручнікі′. *Папл.*

АПАВЕ′ДАЦЬ (апаве′даць), -аю, -еш; *зак. тр.* Паведамляць. Галава′ ня ве′дая, што язы′к апаве′дая. *Сл.*

АПАЛА′ЕЧКА (апала′ечка) *жан.* Начовачкі для апалання зерня, круп. Не′калі як стаўчэ′ш кру′пы ў сту′пе, так у апала′ечку высыпа′еш. *Так.*

АПАЛА′НКІ (апала′нкі) *толькі ў мн. Гл.* апалаечка. Апала′нкі ў мяне′ ёсьць яшчэ′ даўне′йшыя. *Хож.*

АПА′ЛІНЫ (апа′ліны) *толькі ў мн.* Адыходы пры

апаланні зерня, круп. Мно′га апа′лінаў? Занясі′ кура′м, хай перабо′раюць. *Бяс., Сал.*

АПАЛО′ЙКА (апало′йка) *жан.* Галоўка кіслай капусты. Ве′льмі ўсе лю′бяць ў нас апало′йкі, дык на зі′му паста′вілі ква′сіцца. *Кар.*

АПАРНЯ′ (апарня′) *жан.* Зямлянка, у якой адпарвалі матэрыял для абадоў. У зямлі′ апарня′ вы′капана. Там пало′жаць пол, напха′юць па′лак. І цэ′лаю ноч па′ляць уні′зі, кап па′лкі распа′рыліся, тады′ гнуць абадэ′. *Цял.*

АПА′РТ (апа′рт) *прысл.* Асобна. Чырво′ныя я′блыкі трэ′ба апа′рт палажы′ць. *Цял.*

АПЕ′ЛЬКА (апе′лька) *жан.* Пятля для кручка. Зрабі′, дачу′шка, апе′льку ў каўняры′. *Сал.*

АПІ′КУР (апі′кур) *мужч.* Гультай, абібок. Што ж гэ′та за апі′кур такі′, ні гра′ма ня хо′ча працава′ць. *Гум.*

АПІСА′ЦЬ (апіса′ць), -у, -аш; *зак. тр., перан.* Ссекчы скуру пісягамі. Ах, кап табе′ чорт ску′ру апісо′ў. *В. В.*

А′ПКА (а′пка) *жан. Гл.* апелька. Не мо′жа гульта′іна а′пку зрабі′ць у спадні′цы — хо′дзіць са шпі′лькай. *Варн.*

АПЛЭ′ВУХ (аплэ′вух) *мужч.* Непаваротлівы, неахайны чалавек. Аплэ′вух гэ′ты, апусьці′ў кры′льля, смаркачэ′ ве′чна блішча′ць на вуса′х. *Дук.*

АПЛЯСКА′ЦЬ (аплnetwork′ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Абабіць, прыбіць разоркі градак рыдлёўкай пасля ўскопвання. Ускапа′ла, тады апляска′ла гра′тку. *Лях.*

АПЛЯТА′НІК (аплята′нік) *мужч.* Гліняны гаршчок, аплецены дротам. Я то′жа насі′ла ба′цьку е′сьці ў аплята′ніку, як ён на тра′ктары рабі′ў. *Аздз.*

АПО′ЛІНЫ (апо′ліны) *толькі ў мн. Гл.* апаліны. Апо′ліны ляця′ць, я ш кажу′, а гру′ца астае′цца. *Хож., Ніз., Шут.*

АПО′ЛУШКІ (апо′лушкі) *толькі ў мн. Гл.* апалаечка. Вазьмі′ ў цё′ткі апо′лушкаў. *Пр.*

АПО′РАК (апо′рак) *мужч., перан.* Нікчэмны чалавек. Я ўжо апо′рак, а яна′ з апо′рка вон, ні зрабі′ць, ні сказа′ць ня ўме′я. *Дук.*

АПРА′НІК (апра′нік) *мужч.* Пранік. Як по′йдзем абіва′ць лён — ко′жнаму па апра′ніку. То′лькі стук ня-се′цца. *Сал.*

АПРА′ТКА (апра′тка) *жан.* Вопратка. У нас апра′т-ка тады′ ў вайну′ была′ сваё′й рабо′ты. *Малм.*

АПРЫ′НДЗІЦЦА (апры′ндзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *зак. тр.* Здохнуць. Кап ты апры′ндзіўся. *Чан.*

АПУСТО′ШЫЦЬ (апусто′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Абабраць. Апусто′шыла мяне′ ўсю, усё дачы′ста забра′-ла. *Дук.*

АПУ′ХА (апу′ха) *жан. Гл.* аблямоўка. З апу′хай ка-жу′х прыгажэ′йшы. *Вішн.*

АПЯКА′НЫ (апяка′ны) *дзеепрым.* Дагледжаны, вы-пеставаны. Харо′шыя парася′тка, знако′мыя, яны неапя-ка′ныя, яду′ць што папа′ла, хвата′юць адно′ пе′рад ад-ны′м. *Сав.*

АРАБІ′НА (арабі′на) *жан.* Рабіна. Хай бы сабе′ расла′ арабі′на, кап ме′ста было′. *Цял.*

АРАБІ′НЫ (арабі′ны) *жан., толькі ў мн.* Ягады ра-біны. Зьбіра′лі гэ′тыя арабі′ны зімо′ю і е′лі. *Ляшч.*

АРЖА′ЎКА (аржа′ўка) *жан.* Заліўны луг. На ар-жа′ўца вада′ стаі′ць ржа′вая така′я. *Вайк.*

А′РПА (а′рпа) *жан.* Веялка. У Ста′ся а′рпа до′брая. Прасі′ ў яго′. *Заб., Малм., Вайк.*

АРПАВА′ЦЬ (арпава′ць), -пу-ю, -пу-еш; *незак. тр.* Арфаваць. *Малм., Вайк.* Арпава′ць до′брая паго′да, дык збо′жжа на гумне′ арпава′лі. *Заб.*

АРТА′Й (арта′й) *мужч.* Араты. *Так., Ляшч., Варн.* Арта′й усё′ арэ′ць, са′дзіць карто′шку. *Малм.*

АРУ′Д (ару′т) *мужч.* Засек у свірне на збожжа. Дабро′ ссыпа′юць у ару′т, правяра′юць, ці шчы′льна

скла′дзены до′шкі, кап пасьля′ прас сьце′нкі ару′да яно′ не вы′сыпалася. *Бяс.*

А′РХА (а′рха). *Гл.* арпа. *Мік., Кальч., Р. Ч.* Даўне′й ве′ялкай, а цяпе′р а′рхай жы′то чы′сьцяць. *Сал.*

АРХАВА′ЦЬ (архава′ць), -ху-ю, -ху-еш; *незак. тр. Гл.* арпаваць. *Сал., Мік., Кальч., Р. Ч.*

АСВА′ (асва′) *жан.* Аса. *Вішн., Хож., Ляшч., перан.* Во зла′я, як асва′. Ні хачу′ аб асьве′ ўспаміна′ць, у іх джа′ла балю′чае. *Шут.*

АСВІ′НАЕ (асьві′нае) *прым.* Асінае. *Вішн., Хож., Ляшч.* Я ўчо′ра грабла′ се′на, дык гняздо′ асьві′нае знайшла′. *Шут.*

АСКАБА′ЛАК (аскаба′лак) *мужч.* Кавалак палена, дошкі. Гэ′та ш хале′рая кавалё′ва майму′ Ю′зіку як урэ′зала аскаба′лкам міш плеч, дак ён і зайшоў′ся. *Дук.*

АСЛЯПЕ′НЬ (асьляпе′нь) *мужч.* Сляпень. Асьляпе′нь ляці′ць і адра′зу кі′даецца на руку′ і куса′ецца, нічо′га ня ба′чачы. *Р. Л.*

АСМО′ЛАК (асмо′лак) *мужч.* Тоўстая жэрдка, да якой прымацоўваюцца кроквы. Паста′вілі кро′квы, на іх палажы′лі асмо′лак і пачалі′ драбясьці′ць. *Бяс.*

АСО′БЕННА (асо′бянна) *прысл.* Асобна. На ко′жнага плі′тка асо′бянна. *Цял.*

АСО′ЧКА (асо′чка) *жан.* Асака. Я ў асо′чку пайду′. *Цял.*

АСТАЛЯВА′ЦЦА (асталява′цца), -люю-ся, -люеш-ся; *зак. тр.* Прыжыцца, прызвычаіцца. До′бра было′ п, кап асталява′лася там, кап ізно′ў ні прыбе′гла да ма′ткі. *Цял.*

АСТО′ПКІ (асто′пкі) *толькі ў мн.* Стары стаптаны абутак. У нас дык усе асто′пкі валя′юцца на гарэ′. *Папл.*

АТВАРО′Г (атваро′х) *мужч.* Тварог. Атварагу′ аттаплю′ і ў лё′хкі дух усто′ўлю. *Дук.*

АТО′ЖЫЛАК (ато′жылак) *мужч.* Адростак. Га′нна пасадзі′ла ато′жылак, дак вы′рас цэ′лы куст. *Цял.*

АТРУ′БАМ (атру′бам) *прысл.* Адным чынам, абавязкова. Ва′ня, адны′м атру′бам — вы′плацім. *Дук.*

АТТАРТА′ЦЬ (аттарта′ць), -чу, -чыш; *зак. тр.* Адвесці. Аттарта′ла п ты яго′ адсю′ль, заміна′е то′лькі. *Гр.*

АТЫ′МАЧ (аты′мач) *мужч.* Ануча, якой бяруць або прыкрываюць гаршкі. Сага′н з бу′льбаю прыкрыва′юць аты′мачам, як бу′льбу атцэ′джваюць. *Бяс.*

А′ФТКА (а′фтка) *жан. Гл.* апка. Усе′ а′фткі зрабі′ла, гато′ва ўжо. *Кальч.*

АХО′ПАК (ахо′пак) *мужч.* Ахапак. Вазьмі′ ты і мне ахо′пак лё′ну. *Бяс.*

АЦІХА′ЦЬ (аціха′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Супакойвацца. А по′тым аці′хла. *Дук.*

АЦЯРО′БКІ (ацяро′пкі) *толькі ў мн.* Пацяробкі. Ідзі′ ацяро′пкі вы′сып каро′ве. *Р. Ч.*

АШАМО′ТАК (ашамо′так) *мужч.* Мяккі качан капусты. Ашамо′ткі до′бра каро′ві рэ′заць. *В. В.*

АШО′МАК (ашо′мак) *мужч. Гл.* ашамотак. Як лі′сьця пасклада′ецца, а гало′ўкі само′й няма′, то капу′ста не ўрадзі′ла, а ўся ў ашо′мкі пайшла′. *Мік.*

АШУ′СТАЦЬ (ашу′стаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Абабраць. Яна′ хаце′ла ашу′стаць яго до′бра, адзе′жу ўжо зане′сла к ма′цяры. *Цял.*

АШЧЭ′ (ашчэ′). Яшчэ. Ашчэ′ то′лькі два гадэ′? *Дук.*

## Б

БАБІНА′ (бабіна′) *жан.* Зерне бобу. *Хож., В. В., Пр., Папл.* Бабіну′ з′еў, а яна ка′жа, што нае′ўся. *Ляшч.*

БА′БКА[1] (ба′пка) *жан.* Запяканка з дранай бульбы. Я ба′пку люблю′, але ні магу′ е′сьці. *Дук.*

БА′БКА[2] (ба′пка) *жан.* Страказа. Ба′бак мая′ дачка′ засу′шваець. *Ігр.*

БА′БКА[3] (ба′пка) *жан.* Прыстасаванне на ножках, пры дапамозе якога ўбівалі спіцы ў вобад. Ба′пкаю, каля′ сьпі′цы ў во′бадзі, паддзе′ржуюць сьпі′цу. *Цял.*

БА′БІЦЬ (ба′біць), -лю, -іш; *незак. тр. Гл.* адбабіць. *Малм., Заб., Вайк., Дук., Р. Л., Ляшч., Р. Ч.* Пры ро′дах стаі′ць ба′пка, яна і ба′біць дзіця′. Ба′біць паві′нна старэ′йшая жанчы′на. Не, мая′ шчэ ніко′га не ба′біла. *Пр., Вайк., Ляшч., Малм.*

БА′БІЧ (ба′біч) *мужч.* Дзіця жанчыны, якая ўжо бабіла. *Угр., Р. Ч., Дук., Малм.* У на′шай вё′сцы адзі′н то′лькі ба′бічё. *Папл.*

БАБО′К (бабо′к) *мужч.* Пакаёвая дэкаратыўная расліна. Бабо′к цьвіце′ раз у год, кве′тачкі такі′я дро′бныя, кра′сныя. *Бяс.*

БАГА′ТАЯ КУЦЦЯ′ (бага′тая куцьця′). Куцця, якую ставяць у куце на сене перад Новым годам. Прышо′ў на бага′тую куццю′. *Дук.*

БАГАЦЕ′Й (багаце′й) *вышэйшая ступень ад* багаты. Багацейшы. Ён багаце′й ад гэ′тых быў. *Ляшч.*

БАДЗІСТО′ЎКА (бадзісто′ўка) *жан.* Хустачка з батысту. Ото′ ш я люблю бадзісто′ўку! Ні чува′ць на′ват, што на галаве′ сядзі′ць. *Горкі.*

БАДЗЯ′ЦЦА (бадзя′цца) *незак. тр.* Валяцца. Бадзя′лася ско′шаная трава′ нядзе′лі паўтары′. *Ляшч.*

БАЛА′БУХА (бала′буха) *жан.* Булачка з начынкай. Яна′ бала′бухаў напячэ′ і яду′ць. *Цял.*

БАЛАЦІНА′ (балаціна′) *жан.* Забалочанае месца, якое не аруць. От, лясо′к за балаціно′й, ба′чыця? *Сал.*

БА′ЛЕЧКА (ба′лячка) *жан.* Жэрдка, на якой сушаць лён. Ба′лячкі с сасо′нкі, яны ў ба′ні спрадве′ку. На іх адзе′жу ве′шаюць, а як пры′дзецца — лён ста′вяць. *Малм.*

БАЛЁ′Н (балё′н) *мужч.* Шар. Які′ жа прыго′жы чырво′ны балё′н купі′лі! Трыма′й мо′цна. *Ямк.*

БАЛЬКЛІ′ВЫ (бальклі′вы) *прым.* Каросліва, шурпаты. Бу′льба бальклі′вая, кара′вая ма′ла быва′іць, больш харо′шая. *Р. Ч.*

БАЛЮ′ШЧЫ (балю′шчы) *прым.* Балючы. Адзі′н уко′л ве′льмі балю′шчы. *Дук.*

БАЛЯ′СЫ (баля′сы) *толькі ў мн.* Агароджа вакол магілы. Баля′сы до′брыя паста′віў па ба′цьку. *Цял.*

БАРАНАВАЛО′К (баранавало′к) *мужч.* Той, хто барануе. Баранавало′к той чуць но′гі цяга′я. *Дук.*

БАРАНАВАЛО′КА (баранавало′ка) *мужч. Гл.* баранавалок. Ён не′калі баранавало′ка быў. *Цял.*

БАРАНАВАЛО′ЧНІК (баранавало′чнік) *мужч. Гл.* баранавалок. Во, у цяньку′ баранавало′чнік атпачыва′е. *Сал.*

БАРАНАВА′ЛЬНІК (баранава′льнік) *мужч. Гл.* баранавалок. Знайсьці′ баранава′льніка ні так ужо′ ця′шка, абы гро′шы. *Папл.*

БАРАНАВО′К (баранаво′к) *мужч. Гл.* баранавалок. Мой ме′ньшы як то′лькі пры′дзя са шко′лы, так і ляці′ць к баранаво′кам. *Так.*

БАРАНАЎЛО′К (баранаўло′к) *мужч. Гл.* баранавалок. *Варн.*

БА′ЛО (ба′ло). Бывала. Ба′ло сядзі′ш, кудзе′лю прадзе′ш і зы′баеш дзіця′. *Бяс.*

БАРАДА′ (барада′) *жан.* Пропуск пры касьбе ўручную. *Дук., Мік., Шут., Р. Ч., Р. Л., Сав.* Ня ўмеў той касі′ць, дык адно′ баро′даў напакіда′ў. *Папл.*

БАРАВА′Я (барава′я) *прым.* Добрая, урадлівая (пра глебу). Барава′я зямля′ то′лькі ў паме′шчыка была′. *Варн.*

БАРА′ШКА (бара′шка) *жан.* Мужчынская шапка з аўчыны. Ле′пей за ўсё мецъ чо′рную бара′шку. *Р. Ч.*

БА′РБАРА (ба′рбара) *жан.* Рэвень. Трэ ўжо ба′рбару вары′ць. *Варн.*

БАРНІ′ЦЫ (барні′цы) *толькі ў мн.* Каноплі без семя. Барні′цы рвуць с цьве′там. Зь іх вілі′ вужы′шчы, вяро′ўкі. *Мік.*

БАРУКА′ЦЦА (барука′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Дужацца. Пад′е′ш до′бра, тады′ с па′пкам по′йдзяш барука′цца. *Цял.*

БАСІ′ЛЫ (басі′лы) *мужч.* Абутак з шыны. Басі′лы адзява′лі лю′дзі пасьля′ вайны′. *Вайк.*

БАСЯ′ДЛА (бася′дла) *жан.* Сабака. Не хадзі′, сыно′к, да бася′длы, уку′сіць. *Мік.*

БАТАРЭ′Я (батарэ′я) *жан.* Штабель, складзены на полі з пластоў гною ці торфу. *Р. Ч.* Склада′юць длі′нную й высо′кую батарэ′ю, ко′ньмі ўз′язджа′юць, уто′птваюць, а вясно′й разво′зяць. *Хож.*

БАЎТУ′ХА (баўту′ха) *жан.* Рэдкая страва з малака, мукі і яец. Разьме′шваюць малако′ з муко′ю і я′йкамі, ўсё гэ′та выліва′юць на скавараду′ і пяку′ць баўту′ху ў пе′чы. *Бяс.*

БАХУ′Р (баху′р) *мужч.* Байструк. *Сав.* Нараджа′ла бахуро′ў і му′чыцца; яна, му′сіць, і ня ве′дала, хто чый ба′цька. *Дук.*

БАЦЁ′ХА (бацё′ха) *жан.* Зацірка. А бацё′ха была′ ве′льмі сма′чная. *Нік.*

БАЮ′РЫНА (баю′рына) *жан.* Кар′ер, запоўнены вадой. Хо′дзіць на бало′то, на рэ′чку, дзе′дзя баі′цца, каб у баю′рыну дзе ня ўсу′нуўся. *Сав.*

БА′ЯВАЯ КО′ЖА. Фабрычная мяккая тканіна. З ба′явай ко′жы суке′нкі часьце′й шы′юць. *Шут.*

БА′ЯЦЬ (ба′іць), -ю, -іш; *незак. тр.* Расказваць. Яны′ ўсе мо′гуць до′бра ба′іць, то′лькі слу′хай. *Заастр.*

БЕ′ДНЫ (бе′дны) *прым.* Жабрак. Сё′ньня адно′й бе′днуй пла′цьця аддала′. *Дук.*

БЕ′ЛЛЕ (бе′льля) *ніяк.* Тонкае саматканае палатно з лёну. З бе′льля то ні то′лькі про′стыні, але′ й кашу′лі рабі′лі. *Мік.*

БЕЛЬ (бель) *жан.* Выбеленае саматканае ільняное палатно. Бель — гэ′та як суро′вае палатно′ пало′жаць пад дажджо′м ды памо′кня, а тады′ вы′сахшы і бель бу′дзе. *Мік.*

БЕ′ЛЬМЫ (бе′льмы) *толькі ў мн.* Вочы. *Дук., Цял., Сав.* Так праці′ўна гля′нуў сваі′мі бе′льмамі. *Бяс.*

БЕ′РАГ[1] (бе′рах) *мужч.* Узлесак. Вы′шла на бе′рах ле′су, але′ ні на той. *Дук.*

БЕ′РАГ[2]. Край чаго-небудзь — тканіны, пасудзіны і інш. Парва′лася ху′стка на сярэ′дзіня, то′лька бераге′ засталі′ся. Ні бяры′ тале′рку за бе′рах, а то атлю′міцца. *Дук.*

БІ′ЛЬЦЫ (бі′льцы) *толькі ў мн.* Чатыры папяроч-ныя перакладзіны, якімі замацоўваюць станіны. Трэ′ба ля бі′льцаў клінкі′ ўсадзі′ць, а то ўжо ні дзяржа′ць. *Ігр.*

БІ′ЛЬЧЫНА (бі′льчына) *жан. Гл.* абердзіца. *Малм., Шут.* Не знайду′ бі′льчыны, трэ′ба кап стары′ зрабі′ў. *Вішн.*

БІ′ЦЦА (бі′цца) *незак. тр.* Бадацца. Каро′ва б′е′цца, ня′к ні прыступі′цца. Я з-за таго′ прадала′, што б′е′цца. *Дук.*

БЛАШЧЫ′ЦА (блашчы′ца) *жан.* Клоп. Блашчы′цы ў сьце′нах вяду′цца, ве′льмі куса′юцца. *Пр.*

БЛІЖНЕ′ЙШЫ (бліжне′йшы) *прым.* Больш блізкі. Мо′жа там хто бліжне′йшы е, дак свайго′ скарэ′й устро′-іць. *Цял.*

БЛІЗНЮ′К (блізьню′к) *мужч.* Двайная баразна. Калі′ харо′шая карто′шка расьце′ць у блізьнюку′, а на і′нны рас — плаха′я. *Малм.*

БЛІЗНЮ′ЧКІ (блізьню′чкі) *толькі ў мн. Гл.* блізнюк.

Ніяʼк ня выʼкраіш, усіроʼўна блізьнюʼчкі палучаʼюцца. *Вайк.*

БЛІШЧАʼСТЫ (блішчаʼсты) *прым.* Бліскучы. Прынёʼс хуʼстку ў блішчаʼстыя лаʼпкі. *Цял.*

БЛОХ (блох) *мужч.* Блыха. Вой, на нагуʼ блоʼх скоʼкнуў. *Вішн.*

БЛУʼТАЦЦА (блуʼтацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Бадзяцца. Дак янаʼ паблуʼталася дзень і прышлаʼ. *Дук.*

БЛЮʼЗКА (блюʼска) *жан.* Блузка. Веʼльмі ш стракаʼтая тваяʼ блюʼска. *Вішн.*

БОʼЙКАЯ ДАРОʼГА (боʼйкая дароʼга). Людная дарога. Пярвеʼй тут былаʼ боʼйкая дароʼга, а цяпеʼр зараслаʼ. *Малм.*

БОʼЛЬШЫ (боʼльшы) *прым.* Старэйшы. Боʼльшы хлоʼпяц прыкасьцюʼміўшыся: касьцюʼм ноʼвы, пальтоʼ. *Дук.*

БОʼРАЎ (боʼраў) *мужч.* Парсюк. Бараво́ʼў вазіʼлі ў гоʼрат. *Ляшч.*

БРАНДЗОʼВЫ (брандзоʼвы) *прым.* Бурачковы. У яеʼ былаʼ хуʼстка брандзоʼвая з махраʼмі. *Жабч.*

БРАХТУʼХА (брахтуʼха) *жан.* Частушка. Янаʼ як запяеʼ брахтуʼхі, усеʼ дзеʼўкі і хлоʼпцы на вуʼліцу павыхоʼдзяць і служʼхаюць. *Жор.*

БРАЦІʼХА (браціʼха) *жан.* Жонка брата. Маяʼ браціʼха роʼбіць пры таргоʼўлі. *Жор.*

БРАʼЦЦА НА КУЛАКІʼ. Біцца. Былаʼла крычаʼць, кап даваʼлі хлеʼп, аш на кулакіʼ бяруʼцца. *Дук.*

БРАЦЬ ГРЫБЫʼ (браць грыбэʼ). Збіраць грыбы. Тыʼя грыбэʼ, што я браʼла. *Дук.*

БРОК (брок) *мужч.* Збудаванне для ўкладкі сена. Буʼдзеш клаʼсьці сеʼна ў броʼк, там дош не памяшаʼе. Да вайныʼ ўсё сеʼна былоʼ ў бракоʼх. *Лях.*

БРОʼХНУЦЦА, -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Кінуцца, паваліцца на што. Броʼхнуўся на канапу і ляжыʼць. *Сав.*

БРУНЗУЛЕ′Т (брунзуле′т) *мужч.* Бранзалет. Брунзуле′т но′сяць з зага′ркам. *Вайк.*

БРУ′ШКА (бру′шка) *жан.* Бручка. Бру′шкі чаты′ры мяшке′ накапа′лі. *Цял.*

БРЫ′ДКА (бры′тка) *прысл.* Нецэнзурна. Яна′ ве′льмі бры′тка гаво′рыць. *Дук.*

БРЫ′ДКІ (бры′ткі) *прым.* Непрыгожы. Яе′ дачка′ ні на′тта бры′ткая. *Цял.*

БРЫ′ЖКІ (бры′шкі) *прым.* Хуткі. Пасядзі′ кры′шачку, такі′ ўжо бры′шкі. *Заастр.*

БРЫЗЯНТО′ЎКІ (брызянто′ўкі) *толькі ў мн.* Брызентавыя туфлі. Куды′ ты ў гэ′тых сто′птаных брызянто′ўках по′йдзяш, у іх адно′ на рабо′ту мо′жно хадзі′ць. *Горкі.*

БРЫ′ЖЫКІ (бры′жыкі) *толькі ў мн.* Махры з ніток. Вы′цягнеш бры′жыкі — от і насто′льнік. *Хож.*

БРЫ′КАЦЦА (бры′каццa), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр. перан.* Адмаўляцца. Дык ён хадзі′ў, хадзі′ў да бры′каўся, ве′льмі ня хаце′ў рабі′ць кладаўшчыко′м. *Дук.*

БРЫ′ЛЯ (бры′ля) *жан.* Валік зямлі, што адкладваецца плугам пры ворыве. Так хо′раша бры′лі кла′ліся, аж блішча′ць, аш сьце′ле іх. *Так.*

БРЭ′НДЗАЛ (брэ′ндзал) *мужч.* Ручнік з доўгімі махрамі, якім выціраюць пасуду. Гэ′ты брэ′ндзал як схаплю′, то пасьмяе′сься тагды′! *Мік.*

БРЭХ (брэх) *мужч.* Прыстасаванне з чатырох слупоў са стрэшкай для ўкладкі снапоў. Зака′пваюць чаты′ры сталбэ′, чапля′юць кры′шу і палуча′ецца брэ′х. *В. В., Ніз.*

БУ′БА (бу′ба) *жан.* Карова вялікая, трыбухатая. Каро′ва ве′лька як ско′чыла — во′сімісят кусто′ў (бу′льбы) і німа′, ве′дамо, бу′ба такая гало′нная. *Сав.*

БУВА′ЛЬНІЦА (бува′льніца) *жан.* Баваўняныя ніткі ў матках. З бува′льніцы дываны′ ў нас тку′ць. *Пр.*

БУДЫ′НЧЫНА (буды′нчына) *жан.* Будыніна. Мая буды′нчына но′вая. *Пр.*

БУ′ЛЬМА (бу′льма). Бульба. *Тур.* А там вунь у мяне′ бу′льма расьце′ць. *Р. Ч.*

БУНАВА′ЦЬ (бунава′ць), -ну-ю, -ну-еш; *незак. тр.* Сварыцца. На′ша вот зло′сная, як узлуе′цца, дак буну′я ўвесь ве′чар. *Цял.*

БУРАКІ′ (бураке′) *толькі ў мн.* Боршч. Мае′ ня яду′ць бурако′ў, учо′ра звары′ла з мя′сам, сьмята′ны ўліла′ і ўсядно′ вы′ліла сьвіння′м. *Дук.*

БУРДО′ВЫ (бурдо′вы) *прым.* Бардовы. Мая′ спаньні′ца бурдо′вая ўжэ парва′лася. *Цял.*

БУ′РКА (бу′рка) *жан.* Верхняя кароткая мужчынская вопратка з саматканага сукна. Пад дождж бу′рку не шкада′ надзе′ць. *Вішн.*

БУ′РКА ПАЎСУКЕНКО′ВА. Верхняя кароткая жаночая вопратка з саматканага паўсукна. У бу′рцы паўсукенко′вай ляхчэ′й працава′ць. *Вішн.*

БУРЛІ′ШЧАЯ (бурлі′шчая) *прым.* Бурлівая (аб пагодзе). Паго′да така′я бурлі′шчая, ку′даса, завяру′ха, наза′ўтры ўсё засы′пля. *Сав.*

БУ′РСА (бу′рса) *жан.* Група, пэўная колькасць людзей. Хадзі′лі па валачо′ннаму, да нас пе′ршая бу′рса ні дайшла′, я рубе′ль прыгато′віла, а іх німа′ і німа′, я ўжо ду′маю, ні пры′дуць. А тады′ друга′я бу′рса. *Сав.*

БУ′ТАЛЬ (бу′таль) *мужч.* 1. Вялікая бутэлька. Бу′таль малака′ прывязу′. *Дук.* 2. *Перан.* Тоўсты непаваротлівы чалавек. Бу′таль гэ′ты, разье′ўся на калхо′знум хле′бі. *Цял.*

БУРЧА′К (бурча′к) *мужч.* Гатунак гароху. Бурча′к са′мы ле′пшы гаро′х, то′ўсты такі′. *Вайк.*

БУРЫ′ЦЦА (буры′цца) *незак. тр.* Абвальвацца. Узя′ла ды столь абуры′лася, дык я крычу′: «Лю′дзі, столь бу′рыцца!». *Дук.*

БУРЫ′ЦЬ (буры′ць) *незак. тр.* Распускаць вязанае. Пабуры′ла тро′я вя′заных штано′ў. Ест йшчэ′ руба′шачка, але′ ке′пска бу′рыцца. *Дук.*

БУЯ′ЦЬ (буя′ць) *незак. тр.* Расці ў бацвінне. На′ша карто′пля пад я′блынамі збуя′ла. *Цял.*

БЫВА′ЛЕШНЯЯ (быва′лешняя) *прым.* Даўняя, старая. У яе′ ху′стка быва′лешняя, але′ яшчэ′ до′брая. *Паг.*

БЫ′ТТА (бы′тта) *злуч.* Быццам. Як бы′тта па ваду′ йдзе′. *Цял.*

БЫЦЬ ДО′МА. Не замужам. Ён пагі′п, як шчэ Мары′ля до′ма была′. *Цял.*

БЭ′МБАЛЬ (бэ′мбаль) *мужч.* Пухір. Ве′траная во′спа вы′ступіла, каза′ў, усё′ це′ла, як кара′, было′, бэ′мбаль ло′пае, дзі′рка ро′біцца. *Сав.*

БЭНСЬ (бэньсь) *мужч. Гл.* бахур. Другі′ хло′пяц ад мужыка′, а бо′льшы бэньсь. *Дук.*

БЯГУ′Н (бягу′н) *мужч.* Верхні камень у жорнах. У на′шуй ха′ці ве′рхні ка′мень (у жо′рнах) бягу′н заву′ць, а ні′жні — ляжа′к. *Горкі.*

БЯЗБРЭ′ЖНА (бязбрэ′жна) *прысл.* Брыдка, непрыстойна. Яна′ бязбрэ′жна сябе′ вяла′. *Дук.*

БЯЗГРУ′ДНЫ (бязгру′дны) *прым.* Бязгруды. Яны′ не′кія бязгру′дныя, нізгра′бныя, як до′шкі. *Цял.*

БЯЗДЗЕ′ТУХА (бязьдзе′туха) *жан.* Бяздзетная жанчына. Там не′ка бязьдзе′туха, дзяце′й німа′, каза′лі, прыбра′ла хо′рашо, хо′рашо ў ха′ці, і купі′ла ку′клу бальшу′ю, пасадзі′ла на дзіва′н ку′клу бальшу′ю, бальшу′ю, як Марына. *Сав.*

БЯЗЛЮ′ДНІК (бязьлю′днік) *мужч.* Чалавек, які не падтрымлівае сувязі з роднымі, сваякамі. Бязьлю′днікі, бо като′рыя лю′дныя, то ты′я глядзя′ць ро′ду, ці напіса′ў бы, ці зае′хаў бы Лё′нік той, а то, як пае′хаў, дак і ні ба′чылі. *Сав.*

## В

ВАГА′ЦЬ (вага′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Паглыбляць барозны пасля сяўбы жыта для сцёку вады. *В. В., Ніз.* У нас по′ле пяшча′нае, і вага′ць жы′та ня на′да. *Лях.*

ВАЙЛАКІ′ (байлакі′), *адз.* вайлак. Мяккія валёнкі. На вайлакі′ трэ′ба мець і калё′шы. *Варн.*

ВАЛАСА′ТЫ (валаса′ты) *прым.* Проставалосы. Ён і зімо′й хо′дзіць валаса′ты, рабі′ць няма′ чаго′. *Хож.*

ВАЛЁ′НКА (валё′нка) *жан.* Шапка з воўны. Валё′нка, калі′ з во′ўны ва′лім ша′пку. *Быт.*

ВАЛАСЕ′НЬ (валасе′нь) *мужч.* Нарыў ад касці. Мне Іва′ніха выліва′ла валасе′нь. У міне′ валасе′нь быў на па′льцы. *Дук.*

ВАЛНАВА′ЦЦА (валнава′цца) *незак. тр.* Кіпець. Суп зьняць с плі′ткі, ці хай яшчэ′ павалну′ецца? *Цял.*

ВАЛО′ЎНІК (вало′ўнік) *мужч.* Будынак, у якім стаялі валы. Там быў вало′ўнік, дзе валэ′ стая′лі, а по′тым той валю′ўнік разабра′лі. *Цял.*

ВАРЫЎНЯ′ (варыўня′) *жан.* Памяшканне для захавання бульбы і гародніны. Карто′плю на зіму′ сы′палі ў варыўню′. *Цял.*

ВА′ЛЬНУЦЬ (ва′льнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Стукнуць, ударыць. А хма′ра ве′лька, нівазмо′жно б′е, як ва′льня — і або′іх забі′ла, гавязе′нску аграно′мшу і яго′. *Сав.*

ВАЛЮХА′ЦЦА (валюха′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Перавальвацца з нагі на нагу. У Прузы′ны хада′ така′я, ідзе′ і валюха′яцца, як ка′чка. *Цял.*

ВАЛЮ′ШКА (валю′шка) *жан.* Кавалак гліны. Зьбіва′ў глі′ну ў тро′ха ме′ншыя валю′шкі. *Шут.*

ВАНДЗЭ′ЛАК (вандзэ′лак) *мужч.* Клунак. Вандзэ′лак ця′шкі навяза′ла. *Цял.*

ВАНЦА′Ч (ванца′ч) *мужч.* Ванцак. Кап цябе ванца′ч схапі′ў ды ні атпусьці′ў. *Цял.*

ВА′РАТАК (ва′ратак) *мужч.* Вар. Залі′ць ва′раткам. *Так.*

ВА′РПА (ва′рпа) *жан. Гл.* арпа. Упе′рат не варпава′лі, а цяпе′р і варпу′юць і сарціру′юць на ва′рпе. *Быт.*

ВАРПАВА′ЦЬ (варпава′ць), -пую, -пуеш; *незак. тр. Гл.* архаваць. *Быт.*

ВАРТНЕ′ЙШЫ (вартне′йшы) *вышэйшая ступень ад вартны (паважаны).* Больш паважаны. На′шы хло′пцы вартне′йшыя за вас. *Цял.*

ВА′РТНЫ (ва′ртны) *прым.* Паважаны. Яе′ мужы′к ва′ртны чалаве′к. *Цял.*

ВА′РХА (ва′рха) *жан. Гл.* арпа. Не′калі маю′ ўсю спадні′цу ўкруці′ла ў ва′рху. *Дук.*

ВАРХАВА′ЦЬ (вархава′ць), -ую, -уеш; *незак. тр. Гл.* архаваць. Брыгадзі′р сказа′ў, каб за′ўтра ішлі′ вархава′ць ячме′нь. *Так.*

ВАСМЯРЫ′К (васьмяры′к) *мужч.* Жылое памяшканне з васьмі кватэр. Яна′ ў васьмярыку′ жыве′. *Дук.*

ВАСЬМІНІТО′ВЫ (васьмініто′вы) *прым.* Тканы ў восем нітоў. У мяне′ васьмініто′вая ска′цярсьць. *Дук.*

ВА′ТНІКІ (ва′тнікі) *толькі ў мн.* Мужчынскія ватовыя штаны. Далі′ мне но′вую сьпяцо′ўку, бо′ты рызі′навыя і ва′тнікі. *Горкі.*

ВАТО′ (вато′) *прысл.* Хутка. Вато′ я вы′йду, пачака′й. *Уг.*

ВАТО′ВІК (вато′вік) *мужч.* Цёплая верхняя вопратка без рукавоў. Апрані′ вато′вік, цяпле′й бу′дзе. *Вішн.*

ВАТО′ЎКА (вато′ўка) *жан.* Кароткая вопратка на ваце. Надзе′ня вато′ўку касма′тую, да патпяра′жацца, дак вот бры′тка глядзе′ць. *Цял.*

ВАЧЫВІ′ТНА (вачыві′тна) *прысл.* Увачавідкі. Вачыві′тна сьнех расстае′. *Цял.*

ВЕ′ДАМА (ве′дама) *прысл.* Вядома. Ве′дама, каро′ва, ей мно′га трэ′ба ко′рму. *Цял.*

ВЕ′ДАЦЦА (ве′дацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Падтрымліваць знаёмства. Мы ве′даямся даўно′. *Дук.*

ВЕРАБІ′НКА (верабі′нка) *жан.* Мясцовы гатунак бульбы. Верабі′нка — яна′ кра′сная і гла′ткая. *Мік.*

ВЕРАЎЧА′НКІ (вяраўча′нкі). *Гл.* вяровачнікі. Вяраўча′нкі насі′лі ўсю′ды, бо ня было′ бо′таў. *Дук.*

ВЕ′РАЦЕН (ве′рацян) *мужч.* Постаць. Ве′рацян жжа′ла і на другі′ перайшла′. *Пр.*

ВЕ′ЯЛКІ (ве′ілкі) *толькі ў мн.* Вейкі. Дзе′ўчыны на′шы мно′гія ве′ілкі патфарбо′ўваюць. *Астр.*

ВІДУ′ШЧЫ (віду′шчы) *прым.* Чалавек, які ўсё заўважае. Ад яго′ нічо′га не ўто′іш, ве′льмі віду′шчы. *Мік.*

ВІЛЭ′ЧНІК (вілэ′чнік) *мужч.* Вілачнік. На вілэ′чнік аса′джваюць ві′лкі, каб вына′шчь гаршкі′ сь пе′чы. *Бяс.*

ВІ′НДА (ві′нда) *жан.* Ліфт. А тут у вас мо′жа ві′нда, у том но′вом магазі′не? А як жа на той ві′ндзе падыма′цца?! *Сав.*

ВІ′РЛЫ (ві′рлы) *толькі ў мн.* Вочы. Чаго′ вы′таращчыў свае′ ві′рлы, пе′ршы раз уба′чыў ці што? *Шут.*

ВІ′РНІК (ві′рнік) *мужч.* Ніжняя частка ганчарнага круга. Ві′рнік абаро′ты бы′стра ро′біць. *Кальч.*

ВІРО′К (віро′к) *мужч.* Прылада, пры дапамозе якой звіваюць ніткі ў клубок. *Шут., Ніз., Хож., Лях., Р. Ч., Быт., Вішн., Дук., В. В., Мік.* Трэ′ба пайсьці′ да сусе′ткі пазы′чыць віро′к. *Кальч.*

ВІРЁ′К (вірё′к) *мужч. Гл.* вірок. Пазы′чу вірё′к ні′ткі зьві′ць, бо згубі′ла. *Варн.*

ВІСО′ЗНЫ (віго′зны) *прым.* Вельмі высокі. Паста′вілі па′мятнікі віго′зныя. *Дук.*

ВІСТЭ′РКО (вістэ′рко) *ніяк.* Люстэрка. Гэ′ная во дзяўчы′на ве′льмі ж лю′біць угляда′цца ў вістэ′рко. *Комл.*

ВІСУ′ШЧАЯ (вісу′шчая) *прым.* Вісячая. На′ша вісу′шчая ля′мпа разьбі′лася. *Цял.*

ВІШЭ′ННІК (вішэ′ньнік) *мужч.* Вішнёвы зараснік. У нас вішэ′ньнік ве′льмі густы′. *Цял.*

ВІЮ′ШКА (віюʹшка) *жан. Гл.* адкідзіч. Вот жа няма′ ў нас гэ′тай віюʹшкі. *Ляшч.*

ВО′БМЕГАМ (во′бмегам) *прысл.* Бокам. Глядзі′, кап табе′ ала′ткі гэ′тыя во′бмегам ні вы′лязьлі. *Цял.*

ВО′БМЕШКА (во′бмешка) *жан.* Мука, якую сыплюць у корм жывёле. Сьві′ня до′брыя, але во′бмяшкі няма′. *Цял.*

ВО′БЦУСАМ (во′пцусам) *прысл.* 1. Стрымгалоў, рашуча. А гэ′ты во′пцусам кі′нуўся. Ве′дама ш, свайго′ абараня′ць. *Мік.* 2. Нахабна. Я яму′ і ану′чаю па тва′ры, а ён ка мне во′пцусам лезе. *Мік.*

ВО′ГНІК (во′гнік) *мужч.* Струпы на твары. Во′гнік — бо′лькі на тва′ры. Яго′ аткіда′юць вуго′льчыкамі. Бяру′ць дзе′вяць вуго′льчыкаў, са′дзяць, у каго′ во′гнік, каля пе′чы. Тады′ бяру′ць ву′гальчык, ху′каюць і кі′даюць у печ. Гэ′дак ро′бяць дзе′вяць разо′ў. Во′гнік быва′я то′лькі ў малы′х. Яго′ до′ктар ні выле′чуя, яго′ то′лькі аткіда′юць. *Цял.*

ВО′ДДАЛЯ (во′ддаля). Воддаль, далекавата. Ён не′дзя во′ддаля жыве′. *Цял.*

ВО′ДДЗЕ (во′дьдзя) *прысл.* Тут. Во′дьдзя стаі′ць твой кош. *Цял.*

ВО′ДЛІЖ (во′дліш) *жан.* Пацяпленне пасля марозу. По′сьле маро′зу ста′не цё′пла — вот і во′дліш. *Бяс.*

ВО′МПІЦЦА (во′мпіцца), -плю-ся, -піш-ся; *незак. тр.* Злавацць. Ба′чу, што і яны′ ш во′мпяцца. *Цял.*

ВОНЬ (вонь) *прысл.* Вунь. Вонь, ка′жа, ваўчаня′. *Дук.*

ВО′ПУХ (во′пух) *мужч.* Пухліна. Калі′ во′пух, дык агнё′м гары′ць гэ′та ме′сца. *Гіл.*

ВО′СВА (во′сва) *жан. Гл.* асва. Пчала′ раз укуса′е, а во′сва дзе′сяць раз мо′жа ўкусі′ць. *Р. Л.*

ВО′СМА (во′сма) *жан. Гл.* асва. Во′сма мо′жа паткры′шай гняздо′ зьві′ць ці ў сьцяне′. *Сал.*

ВОСЬ (вось) *прысл.* Потым. Я вось падмяту′, ціпе′р німа′ калі′. *Цял.*

ВО′ТРАНЫ (во′траны) *толькі ў мн.* Адыходы пры арфаванні зерня. Жы′та на сі′та прасе′йваецца, во′траны адлята′юць адыдзе′льна. Вот, ка′жа, як жы′та мо′крае, дык ма′ла сяго′ньня во′тран. *Быт.*

ВУ′ГАЛЛЕ (ву′гальля) *зборн.* Вуголле. Калі′ няма′ ву′гальля, дак і до′ма. *Цял.*

ВУГО′Л (вуго′л) *мужч.* Рог зруба, які ўтвараецца, калі бярвенні кладуцца накрыж. Ха′ты цяпе′р, як і ране′й, ро′бяцца ў гла′ткі вуго′л або′ ў про′сты вуго′л. *Бяс.*

ВУ′НЬДЗЕКА (ву′ньдзека) *прысл.* Вунь. *Малм., Р. Ч., Папл., Мік., Ляшч., Р. Л.* Ву′ньдзека сядзі′ць, то′лькі недасе′кі ро′біць. *Вішн.*

ВУНЯНЁ′ (вунянё′) *часц.* Вунь. Вунянё′ пайшлі′ са шко′лы. *Чан.*

ВУ′СТАЎКА (ву′стаўка) *жан.* Клін, які ўстаўляецца ў пройму рукава. *Ніз.* Шоў у ву′стаўцы распаро′ўся. *В. В.*

ВУЦО′ВАЕ ДРЭ′ВА (вуцо′вае) *прым.* Дрэва, якому робяць прышчэпліванне. У вуцо′вае дрэ′ва ўшчэ′пліваецца ўшчэп. *Кальч.*

ВЫ′БАВІЦЬ (вы′бавіць), -ўлю, -в-іш; *зак. тр.* Вызваліць. Яго′ не′мцы ўхапі′лі, але за зо′лата ба′цька вы′бавіў сь цюрмы′. *Цял.*

ВЫБІРА′НЦЫ (выбіра′нцы) *толькі ў мн.* Каноплі з семем. Выбіра′нцы рвуць во′сеньню, у іх садзіць. *Так.*

ВЫГІНА′ШЧЫ (выгіна′шчы) *прым.* Гнуткі. Выгіна′шчае дзе′рава ідзе′ на ду′гі, абады′ і палазы′. *Бяс.*

ВЫ′ГІНУЦЬ (вы′гінуць) *зак. тр.* Прапасці на корані.

Мару′ся пасадзі′ла — вы′гінула, а мая′ нічаво′ капу′стачка. *Сав.*

ВЫ′ДАІЦЬ (вы′даіць), -ю, -іш; *зак. тр., перан.* Абабраць. Вы′даіла Гэ′льку, дак ужо′ ні трэ′ба яна′ ёй, бо няма′ нічо′га ў Гэ′лькі. *Дук.*

ВЫ′ДЗІКТАВАНЫ (вы′дзіктаваны) *дзеепрым.* Вымуштраваны. Такі′я ўжо вы′дзіктаваныя твае′ дзе′ці, як ні ў ко′га. *Дук.*

ВЫ′ЖЫМКІ (вы′жымкі) *толькі ў мн.* Рэшткі ільнянога семя пасля выціснутага масла. Гна′лі але′й, асталі′ся вы′жымкі. З вы′жымак ро′біцца до′брае пю′йла. *Бяс.*

ВЫ′ЗВЕРЫЦЦА (вы′зьверыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Закрычаць са злосцю. Як вы′зьверыцца на сьвякру′ху, дак та′я ў сьлё′зы. *Цял.*

ВЫ′КАРЫЦЬ (вы′карыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Запарушыць. Не стой, бо′ўдзіла, блі′ска, во′чы вы′карыш. *Ігр.*

ВЫ′КУЛІЦЬ (вы′куліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Вывернуць, высыпаць. Начо′ўкі я′блыкаў вы′куліла на сьме′тнік. *Дук.*

ВЫ′КУЛІЦЦА (вы′куліцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Выкінуцца. Дзіця′ вы′кулілася с калы′скі. *Дук.*

ВЫЛО′ГА (выло′га) *жан.* Борт у адзенні. Пальто′н шы′юць з выло′гамі. *Быт.*

ВЫ′ЛЮДНЯЦЬ (вы′людняць), -ю, -еш; *зак. тр.* Стаць такім, як іншыя людзі. А цяпе′р, глядзі′ ты, вы′людняла. *Дук.*

ВЫ′МЕКНУЦЦА (вы′мякнуцца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* Прагаварыцца. Ка′жа, вы′мякнуліся, што ён ні сам падарво′ўся, а да′ляй замя′лі. *Цял.*

ВЫМІНА′КА (выміна′ка) *жан.* Асоба (звычайна жанчына), якая вядзе канчатковую апрацоўку льну церніцай. Выміна′ка ўсю кастру′ выміна′е, даліка′тненька бярэ′ дзьве жме′ні і чы′сьціць. *Хож.*

ВЫ′М’Я (вы′м’я) *ніяк*. Вымя. Вы′м’я каро′ва распаро′ла, малако′ с кро′ўю. *Цял.*

ВЫ′МЯРГАВАЦЬ (вы′мяргаваць), -*гую*, -*гуеш*; *зак. тр.* Вымеркаваць. Я не′як вы′мяргавала і ўзяла’ гарэ′лкі. *Дук.*

ВЫ′НАШАЙ (вы′нашай) *мужч.* Пук сухога лёну, вынесены з сушні за адзін раз. Ідзі′ ўжо вы′нашай нясі′, працу′й. *Так., Ніз., В. В.*

ВЫ′НАШАЯ (вы′нашая) *жан. Гл.* вынашай. Яшчэ′ застала′ся адна′ вы′нашая. *Дук.*

ВЫ′ПАСАЖЫЦЬ (вы′пасажыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Выжыць. Уну′чка вы′пасажыла дзе′да с ха′ты. *Дук.*

ВЫ′ПАТРАШЫЦЦА (вы′патрашыцца), -у-ся, -ыш-ся; *зак. тр.* Зрабіць аборт. Вы′патрашыся, калі′ ня ба′ісься, бо со′рам бу′дзя. *Дук.*

ВЫ′ПРУДЗІЦЦА (вы′прудзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *зак. тр.* Памерці. Ня чапа′йця дзе′ці яго′, хай ён вы′прудзіцца, зло′дзяй гэ′ты. *Дук.*

ВЫ′ПУСЦІЦЬ (вы′пусьціць), -шчу, -ціш; *зак. тр.* Пакінуць на гадсўлю. У яе каро′ва ест і цялу′шку вы′пусьціла. *Цял.*

ВЫ′РАЧ (вы′рач) *мужч.* Балота. Ху′тка ў нас на вы′рачы асуша′льныя рабо′ты пачну′цца. *Бобр.*

ВЫ′СВЕНЦІЦЬ (вы′сьвяньціць), -чу, -ціш; *зак. тр.* Гл. адсвянціць. Я яе′ до′бра вы′сьвяньціла, бо′ляй яна′ мяне′ ня зачэ′піць. *Дук.*

ВЫСКРАБА′ЧКА (выскраба′чка) *жан.* Маленькая булачка хлеба, спечаная з рэштак цеста. Дзяжу′ вы′скрабуць нажо′м, зьле′пяць це′сто ў галу′шачку і выскраба′чкі пяку′ць. *Горкі.*

ВЫСТА′ЧА (выста′ча) *жан.* Лішак, рэштка. Як кро′сна тчэш, ды вы′станяцца пра′жа, дак ка′жаш, што абмылі′лася, выста′чы мно′га. *Цял.*

ВЫ′СТРАБІЦЬ (вы′страбіць), -блю, -біш; *зак. тр.*

Вылаяць. Як пае′ду, дык вы′страблю пяра′д людзьмі′. *Дук.*

ВЫ′СТРАІЦЦА (вы′страіцца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Забудавацца. Вы′страілася гэ′дак, сваю′ ха′ту пастро′іла, хлеў. *Цял.*

ВЫ′СТРЫГАЦЬ (вы′стрыгаць), -гу, -жаш; *зак. тр.* Скроіць. Касьцю′м бла′га вы′стрыгла. *Варн.*

ВЫ′СЕЎКІ (вы′сяўкі) *толькі ў мн.* Адыходы, што застаюцца ад прасеянай мукі. Вы′сяўкі сы′плюць хоць каму′, й кура′м, й сьві′нкам. Зь ячме′ню бо′лей вы′сявак, як ш чаго′. *Мік.*

ВЫ′ТРАВІЦЬ (вы′травіць), -ўлю, -віш; *зак. тр.* Знішчыць. За вайну′ вы′травілі зьвяро′ў. *В. В.*

ВЫ′ХАВАЦЬ (вы′хаваць), -ю, -еш; *зак. тр.* Зберагчы. До′бра вот, што 40 рублё′ў вы′хаваў, дак се′на купі′лі. *Цял.*

ВЭ′ДЛЕ (вэ′дле) *прысл.* Побач. Мае′ со′ткі вэ′дле мяне′. Курэ′й на іх не пушчу′. *Так.*

ВЭ′ДЛУГ (вэ′длух) *прыназ.* Паводле, у параўнанні. Але′ яна′ як блыха′ вэ′длух тых. *Цял.*

ВЭ′ЛЕН (вэ′лян) *мужч.* Вэлюм. Шчэ вэ′лян купі′ця ёй да вянца′. *Дук.*

ВЭ′НДЗЯ (вэ′ньдзя) *прысл. Гл.* авунь. Ве′ньдзя прычында′лы твае′, не збаё′дай. *Масц.*

ВЯРМО′ (вярмо′) *ніяк.* Ярмо. Тако′е вярмо′ зро′бляна, яно′ чапля′ецца за саху′. *Цял.*

ВЭР′ХАЛ (вэ′рхал) *мужч.* Лямант, гвалт. Тады′ яна′ нарабі′ла вэ′рхалу. *Дук.*

В'ЮРО′К (в'юро′к) *мужч. Гл.* вірок. *Ляшч.* Ні′ткі на в'юро′к зьвіва′юць. Згубі′ўся мой в'юро′к не′дзе. *Пр.*

ВЯ′ЗАНКА (вя′занка) *жан.* Вязаная хустка з шарсцяных нітак. Ні′ткі праду′ на вя′занку. *Вішн.*

ВЯЗЕ′НКІ (вя′зенкі), *адз.* вязёнка. Вязаныя рукавіцы. Я цяпе′р памале′ньку праду′ ні′ткі на вязе′нкі. *Быт.*

ВЯЗЬМО′ (вязьмо′) *ніяк.* Перавясла. *Вішн., Быт.* Нешта ш у цябе′ вязьмо′ зусі′м сла′бае. Ня ўсьпе′ла зрабі′ць вязьма′. *Ігр.*

ВЯЛІ′КІ (вялі′кі) *прым.* Доўгі. У на′шай Рыпі′ны вялі′кія валасэ′ былі′, як запляце′ касу′, да чуць ні па кале′на. *Цял.*

ВЯРО′ВАЧНІКІ (вяро′вачнікі), *адз.* вяровачнік. Лапці з вяровак. Німа′ канапе′ль віць вяро′ўкі на вяро′вачнікі. *Пр.*

ВЯРНУ′ЦЬ (вярну′ць), -у, -еш; *незак. тр.* Згарнуць кудзелю да прадзіва. Кудзе′лю ве′рнуць і праду′ць, хто на самапра′тку, хто на верацяно′. *Быт.*

ВЯРШЫ′НКА (вяршы′нка) *жан.* Верхні слой на салодкім малацэ, калі малако састоялася. Вяршы′нка састано′вілася на мле′ку, назьбіра′ла паўлітро′вы сло′ік вяршы′нкі вунь с таго′ трохлітро′вага жбано′чка, што на стале′ стаі′ць. *Бяс.*

ВЯТРО′ЎКІ (вятро′ўкі) *жан.* Басаножкі. Пазьбіва′ла вятро′ўкі, трэ′ба падбі′ць. *Вішн.*

ВЯЧНІ′НА (вячні′на) *жан.* Не век векаваць. Мне тут ні вячні′на. *Быт.*

ВЯША′К (вяша′к) *мужч.* Пятля для вешання адзення. Прышы′й, Гэ′ля вяша′к у куфа′йку, а то на цьвіку′ рве′цца. *Пр.*

## Г

ГА′ДАСНЫ (га′дасны) *прым.* Агідны. Ён такі′ га′дасны. *В. В.*

ГА′ДКА (га′тка) *прысл.* Нецэнзурна. Яна′ га′тка гаво′рыць. *Дук.*

ГА′ДКІ (га′ткі) *прым.* Непрыгожы, брыдкі. Чалаве′к ён до′бры, але′ зь ліца′ га′ткі. *Цял.*

ГА′ДЗІЦЦА (га′дзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Грэбаваць. Я тро′ха га′дзілася яе малака′. *Дук.*

ГАЗО′ЎКА (газо′ўка) *жан.* Самаробны асвятляльны прыбор — пасудзіна з кнотам. Гэ′та цяпе′р электры′чнасьць, а яшчэ′ як я была′ малада′я, пра′лі пры газо′ўках. Бываʹла так до′ўга сядзе′лі, што прыхо′дзілася га′зу даліва′ць у газо′ўку. *Бяс.*

ГАЛАВА′[1] (галава′) *жан.* Выраз для рукава. Трэ′ба вы′разаць галаву′ для рукава′. *Сал.*

ГАЛАВА′[2] (галава′) *жан.* Кола на навоі. *Вішн., Быт.* Галава′ ня ле′зе ў ставы′, дзю′рка мала′я. Не туды′ галаво′й палажы′ў ніўме′ка. *Ігр.*

ГАЛЁ′КАЦЬ (галё′каць), -ю, -еш; *незак. тр.* Моцна крычаць. Як ста′лі галё′каць, аш усё′ разьляга′лася. *Дук.*

ГАЛО′ЎКІ (гало′ўкі) *толькі ў мн.* Ніжняя частка ботаў, якая прышываецца да халяваў. Трэ′ба да стары′х халя′ваў прышы′ць гало′ўкі, і бу′дуць бо′ты. *Сал.*

ГАЛУ′ЗА (галу′за) *жан.* Неабцярэбленыя галінкі. Нарэ′заў галу′заў на ве′нік. Ёсьць галу′зы мале′нькія і вялі′зарныя. *Кальч.*

ГА′ЛЬКА[1] (га′лька) *жан.* Споднняя спадніца з карункамі або вышытая ўнізе. Га′лькай у нас называ′юць прыго′жую, свято′чную спадні′цу, апшы′тую кружава′мі. *Шут., Малм.*

ГА′ЛЬКА[2] (га′лька) *жан.* Нацельная трыкатажная кашуля жанчыны. Мой на васьмо′ё ма′рта га′льку ў пада′рак купі′ў, але′ ш са′мы вялі′кі разьме′р які′ быў, му′сіць. *Горкі.*

ГАЛЯШО′ВАЧКІ (*галяшо′вачкі*) *толькі ў мн.* Туфлі парусінавыя або брызентавыя. У мяне′ ўсё′ ест, на′да то′лькі *галяшо′вачкі* купі′ць. *Сав.*

ГАНАВІ′ЦЫ (ганаві′цы) *толькі ў мн.* Верхнія мужчынскія штаны. У старо′га парва′ліся ганаві′цы. *Сал.*

ГАНАПЛЕ′ЧКА (ганапле′чка) *жан.* Мужчынская кашуля са складкамі каля каўняра. Сшый ты яму′ кужэ′льную ганапле′чку. *Мам.*

ГА′ННЫ (га′нны) *толькі ў мн.* Свята ў час вялікага посту. Га′нны наскачы′лі — дня наттачы′лі, а Варва′ры — дня ўварва′лі. *Бяс.*

ГАНТА′ (ганта′) *жан.* Гонты. Страха′ пакры′та ганто′й, ганта′ — гэ′та до′шчачкі, які′я на страсе′ кладу′цца адна′ каля′ друго′й. *Бяс.*

ГАНЧА′К (ганча′к) *мужч.* Вірнік. У мяне′ дык ганча′к не′шта пераста′ў круці′цца. *Шут.*

ГА′ПКА (га′пка) *жан. Гл.* апелька. У фуфа′йца ро′бяць га′пкі і для апліко′ў то′жа, а для гу′зікаў дзі′ркі прараза′юць і зару′бліваюць. *Пр.*

ГА′РАСЦЬ (га′расьць) *жан.* Гар. Не′йкаю га′расьцю па′хня. *Дук.*

*Г*А′РАЦ (*га*′рац) *мужч.* Гарнец. Пазы′чыла га′рац. ме′рала пшані′цу, дык хай бы прыне′сла сама′. *Жор.*

ГАРА′ЦЬ (гара′ць), -у, -эш; *незак. тр.* Араць. Хло′пцы пайшлі′ гара′ць так ра′на сё′ньня. *Малм., Так., Ляшч., Варн.*

ГАРБУЗЫ′ (гарбузэ′) *толькі ў мн.* Гарбузовае семя. Дзе йдзе′ — усё′ гарбузэ′ луза′я. *Цял.*

*Г*АРДА′ВЫ (*г*арда′вы) *прым.* Картавы. Мужы′к быў *г*арда′вы. І′ншы рас тру′дна разабра′ць, што ён швэ′ргая. *Цял.*

ГАРО′ХАЎКА (гаро′хаўка) *жан.* Гарохавы суп. Накры′шыцца карто′шкі, усы′пецца гаро′ху і ва′рыцца гаро′хаўка. *Бяс.*

ГАРСЭ′Т (гарсэ′т) *мужч.* Цёплая верхняя вопратка без рукавоў. Быў у мяне′ не′калі чырво′ны гарсэ′т. *Сал., Заб.*

ГАТАВА′ЦЦА (гатава′цца), -тую-ся, -туеш-ся; *не-*

*зак. тр.* Рыхтавацца. Трэ′ба каб вучы′ўся, гатаво′ўся паступа′ць. *Цял.*

ГАЦАВА′ЦЬ (гацава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Бегаць. Така′я даро′слая дзяўчы′на, а гацу′е зь дзе′цьмі па сяле′. *Гр.*

*ГЕ′ГАЎКА* (*ге′гаўка*) *жан.* Валляк. У Ма′нькі на шы′і *ге′гаўка* с куры′ная яйцо′, дактарэ′ ка′жуць, што трэ′ба выраза′ць, а яна′ баі′цца. *Дук.*

*ГЕ′ГАЦЬ* (*ге′гаць*) *незак. тр.* Гергетаць. Гу′сі *ге′гаюць*, як хто спужа′я. *Дук.*

ГЕРГЯТА′ЦЬ (гергята′ць), -чу, -чаш; *незак. тр.* Гаварыць невыразна, на чужой мове. Не′мцы, як пры′дуць, дак гярге′чуць ня па-на′шаму. *Дук.*

ГІКУ′Н (гіку′н) *мужч.* Той, хто ікае. Што ты, мой гіку′н, гіка′еш? *Кальч.*

ГІЛЬ (гіль) *мужч.* Авадзень. *Гіл., Вішн.* Хутчэ′й бы захо′дзіла со′нца, пахава′ліся б гілі′. І нам менш бегані′ны было′ б і аве′чкам лепш. Гілі′ ко′ням на па′шы не даю′ць до′бра пае′сьці. *Шут.*

ГІМО′РЫ (гімо′ры) *толькі ў мн.* Капрызы. Ну што ты тут мне ста′віш свае′ гімо′ры. *Гум.*

ГЛА′ДКІ ВУГО′Л (гла′ткі вуго′л). Вугал у збудаванні з абрэзанымі выступамі. У ха′це, зро′бленай у гла′ткі вуго′л, вуглы′ ашалё′ўваюцца, усё′ ро′біцца гла′ткагла′тка. *Бяс.*

ГЛА′ДЗІЦЬ (гла′дзіць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Вастрыць серп на тачыле. Ото ш мне нагла′дзіў серп! Бо′лей натупі′ў. *Быт.*

ГЛІНАБІ′ТКА (глінабі′тка) *жан.* Жылое памяшканне, сцены якога зроблены з гліны. У на′шай вё′сцы ў глінабі′тках жылі′, і по′мняць іх то′лькі некато′рыя са стары′х. *Варн.*

ГНУ′ШКА (гну′шка) *жан.* Падстаўка пад патэльню. Нясі′ хутчэ′й на стол гну′шку! *Клоч.*

ГО (го) *займ.* Чаго, што. Го таро′чыш! Дрэ′нна чу′ю. *Заастр.*

ГО′БАР (го′бар) *мужч.* Месца на печы каля коміна. Дзе панчо′хі мае′? Ды вунь, на го′бары ляжа′ць. *Халм.*

ГО′ПА (го′па) *жан.* Бабка з цёртай бульбы. Лю′біце го′пу е′сьці, а карто′флю драць хто за вас бу′дзя? *Горкі.*

ГО′ЛЫ (го′лы) *прым., перан.* Бедны, у каго нічога няма. Ве′льмі го′лыя яны′, нічагу′сянька німа′. *Дук.*

ГО′ПНУЦЬ (го′пнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Упасці. Але′ на як го′пнула, дык руку′ ве′льмі пабі′ла. *Цял.*

ГО′РСІК (го′рсік) *мужч.* Верхняя частка стану ў сукенцы ці блузцы. У суке′нцы го′рсік з друго′га матэрыя′лу. *Сал.*

ГРАБЛО′ (грабло′) *ніяк.* Чалавек, які цягне ўсё сабе. Нацягну′ў усяго′, такі′ грабло′ быў. *Дук.*

ГРА′ВІК (гра′вік) *мужч., толькі ў адз.* Гравій. Е′зьдзіў па гра′вік, дык нагрузі′ў скры′ню с ко′птарам. *Жор.*

ГРАЗНІ′СТЫ (гразьні′сты) *прым.* Урадлівы. Вот гразьні′стая бу′льба ста′ла. *Р. Л.*

ГРА′НКА (гра′нка) *жан.* Корч цыбулі. Цыбу′ля парасла′ вялі′кімі гра′нкамі. *Ляшч., Вайк.*

ГРАСАВА′ЦЬ (грасава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Разбіваць. Паграсава′ла ві′лкамі гра′ды. *Лях.*

ГРА′ТАЎКА (гра′таўка) *жан.* Паліца. На гра′таўцы кні′гі ляжа′ць або′ што і′ншае. *Астр.*

ГРА′ТАЧКА (гра′тачка) *жан.* Клетачка. Канапля′нкі ўсяля′кія ест, але′ ўсё больш у гра′тачкі. *Сав.*

ГРА′ФКА (гра′фка) *жан.* Шпілька, якою зашпільваюць вопратку. Дай мне гра′фку, калі′ ёсьць, зашпылі′ць ко′фту. *Вішн.*

ГРО′ЗЕНЬ (гро′зень) *мужч.* Адно гняздо бульбы. Вы′вернуў вунь плушко′м не′калькі гро′зеняў бу′льбы. *Р. Л.*

ГРУБІЗНА′ (грубізна′) *жан. Гл.* зрэбніна. Я вы′ткала грубізны′ на во′ркі. *Варн.*

ГРУ′БЫ (гру′бы) *прым.* Тоўсты. Дрэ′вы гру′быя былі′, ма′ла на ха′ту пашло′. *Ляшч.*

ГРУДЗІ′НА (грудзі′на) *жан.* Манішка ў мужчынскай сарочцы. І мужчы′нам шы′лі руба′шкі з накладно′ю грудзі′наю. *Цял.*

ГРУ′ДКА (гру′тка) *жан.* Кавалачак чаго-небудзь. Я вазьму′ гру′тку ма′сла, пама′жу на хлеп і куса′ю с хле′бам. *Цял.*

ГРУ′ДКІ (гру′ткі) *толькі ў мн.* Дзіцячыя грудзі. У гру′тках хрыпі′ць у яго′, му′сіць, запале′ньне лё′хкіх′. *Цял.*

ГРУ′ЗЛІЦА (гру′зьліца) *жан.* Сухоты. Як гру′зьліца, дык гэ′та баля′ць лё′хкія, зады′шка, цё′нгле ўсё э′хе-э′хе. *Гіл.*

ГРУНІ′ЦЬ (груні′ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Баранаваць. Пасьля′ абе′ду груні′ць по′йдзеш. *Лях.*

*Г*РУНТ (*г*рунт) *мужч.* Прысядзібны участак, зямля з забудовамі. Мая′ зямля′, мой *г*рунт, і забудо′ва мая′, і ўсё, што ест на *г*ру′нці. Замка′ на *г*ру′нці нія′кага няма′. *Сав.*

ГРЫБЦЫ′ (грыпцы′) *мужч.* Грыбы. У нас у ле′се мно′га малі′ны расьце′, а ў гэ′тым го′дзе грыпцо′ў ні бу′дзе, су′ха, а грыпцы′ лю′бяць ваду′. *Так.*

ГРЫ′ВА (гры′ва) *жан. Гл.* барада. *Ляшч., Варн., Ігр.* Як ты ко′сіш, што зза′ду гры′вы стая′ць! *Дук.*

ГРЫВІ′ЦЬ (грыві′ць), -ўлю, -іш; *незак. тр.* Прапускаць траву пры касьбе. Вот грыві′ць, ко′лькі грыў напуска′ў. *Вайк.*

ГРЫ′ЖА (гры′жа) *жан.* Грызня. До′ма цё′нгля гры′жа была′, ніспако′й. *Цял.*

ГРЫ′ЗЦІ (гры′сьці), -у, -еш; *незак. тр., перан.* Адмываць, адціраць. Гры′зла, гры′зла гэ′тыя манке′ты, нія′к не адмы′ць, кап само′га паста′віў. *Мік.*

ГРЫ′ЗЦІСЯ (гры′сьціся), -у-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Сварыцца. Што ў іх за жы′зьня: ве′чна грызу′цца. *Дук.*

ГРЫМЕ′ЦЬ (грыме′ць), -млю, -міш; *незак. тр.* Моцна стукаць. Дак я грымлю′ і ў дзьве′ры. *Дук.*

ГУ′БА (гу′ба) *жан.* Рот. Зьеў нанач цыбу′лі, дык так было′ нядо′бра ў гу′бе цэ′лую ноч. *Бяс.*

ГУ′БІЦА (гу′біца) *жан.* Мера палатна ўдаўжыню (4—5 метраў). Сё′ньня аснава′ла ажно′ дзе′сяць гу′біц. *Мік.*

*ГУМО′ЎЦЫ* (*гумо′ўцы*), *адз. гумовец.* Гумавыя боты. Грась пасьля′ дажджу′, ня вы′лясьці, ба′чыш, у *гумо′ўцах* прые′хаць му′сіў. *Горкі.*

ГУРБЯ′К (гурбя′к) *мужч.* Карак. Адно′ дзіця′ на гурбяку′ нясе′, а дво′я на рука′х. *Дук.*

ГУРА′ (гура′). Ура. Падніма′лі на гура′, паздраўля′лі. *Цял.*

ГУСЁ′ (гусё′) *ніяк.* Гусяня. Бу′льба мала′я. Няма′ як і гусё′ вы′гадаваць. *Так.*

ГУ′СТА (гу′ста) *прысл.* Многа. Гу′ста сьліў, але′ мале′нькія. *Ляшч.*

ГУСЦІ′ (гусьці′) *незак. тр.* Вельмі шпарка расці. Вот агаро′т аж гудзе′ пры ву′ліцы. *Цял.*

ГУШЧЭ′Р (гушчэ′р) *мужч.* Гушчыня, густы лес, зараснік. Такі′ ўжо гушчэ′р, што вуш ня прале′зя. *Дук.*

ГЭ′ДАК (гэ′дак) *прысл.* Так. Я табе′ скажу′, кабе′ціна, што гэ′дак ні трэ′ба каза′ць. *Цял.*

ГЭ′ДАКІ (гэ′дакі) *займ.* Такі. Гэ′дакі са′мы, як і ба′цька. *Цял.*

ГЭ′МКА (гэ′мка) *жан.* Гатунак бульбы. Гэ′мка ве′льмі сма′чная, у ёй крухма′лу шмат. *Мік.*

ГЭТАГО′ДНІ (гэтаго′дні) *прым.* Сяголетні. Гэтаго′днё кабана′ ні кало′ла, у яе даўле′нё крыві′, ні мо′жно е′сьці ско′раму. *Сав.*

ГЭТАРО′ШНІ (гэтаро′шні) *прым. Гл.* гэтагодні. Жы′-

ру яшчэ′ прашлаго′дняго ест, і гэтаро′шняго ест, а ўку′сны, маласо′льны. *Сав.*

ГЭ′ТТА (гэ′тта) *прысл.* Тут. Тушы′ і гэ′тта аго′нь. *Цял.*

ГЭ′ТУЛЬКІ (гэ′тулькі′) *прысл.* Столькі. Гэ′тулькі ската′ было′. *В. В.* Мы гэ′тулькі ні пажыво′м. *Цял.*

ГУ′БКА (гу′пка) *жан. Гл.* губіца. *Заб., Малм., Дук., В. В., Вішн., Ляшч.* Пазале′тась вы′ткала чаты′ры гу′пкі палатна′. Во асно′ва даўга′я, аж дзе′вяць гу′бак. *Р. Ч.*

ГУ′БЫ (гу′бы) *толькі ў мн.* Чапяла. У нас гу′бы ўсяро′ўна як ё′мка, патэ′льню браць. *Астр.*

*ГУЗА′ВЫЯ НІ′ТКІ* (*гуза′вы*я ні′ткі) *прым.* Няроўна спрадзеныя. Ні′ткі няроўныя, *гуза′вы*я. *Дук.*

ГУЗА′РЫЦЬ (гуза′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гуляць, баляваць. Усё гуза′раць, дзе які′я імяні′ны, дзе гу′лі, дак яны′ там. *Цял.*

ГУ′ЗЗЯ (гу′зьзя) *зборн.* Гузы. На назе′ гу′зьзя панаця′гувала. *Дук.*

ГУКА′ЦЬ (гука′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Гаварыць. Мары′ля гука′ла, што за′ўтра по′йдзя ў другу′ю вё′ску. *Няд.*

ГУ′ЛА (гу′ла) *жан.* Тлушчавае адкладанне на сківіцах і падбародку. От каму′ до′бра жыве′цца! Палуча′я мно′го, хле′ба мно′го, чырво′нянькі, як ме′сяц, вот такі′я гу′лы. *Сав.*

ГУЛЬТА′Й (гульта′й) *мужч.* Труцень. Гэ′ных гультаё′ў у ву′льлі разьвяло′ся мно′га. *Малм.*

## Д

ДАБІТНЫ′ (дабітны′) *прым.* Настойлівы чалавек, які заўсёды дабіваецца свайго. У і′хнім ро′дзе ўсе дабітны′я. Гэ′ты дык да мінісьце′рства дапя′ў, але′ свайго′ дабі′ўся. *Мік.*

ДАБРААХВОЧЫ (дабраахво′чы) *прым.* Памяркоўны, чулы. Ён чалаве′к дабраахво′чы, папрасі′ кап памо′г, дак памо′жа. *Цял.*

ДАБРО′ (дабро′) *ніяк.* Збожжа. Як пачну′ць дабро′ зво′зіць, здэ′цца, дзе яго′ і дзява′ць сто′лькі. А змало′ціш то′е дабро′, пакі′неш на пасе′ў, дык і мале′нька застае′цца. *Бяс.*

ДАБРЭ′ННЫ (дабрэ′нны) *прым.* Вельмі добры. Такі дабрэ′нны чалаве′к, што і рубля′ на сьве′чкі не пашкадава′ў. *Мік.*

ДАВЕ′ДКІ (даве′ткі) *толькі ў мн.* Адведзіны. Гэ′та ж Заліва′кава няве′стка на днях радзі′ла, то трэ′ба нек на даве′ткі схадзі′ць. *Мік.*

ДАІ′ЦЬ (даі′ць), -ю, -іш; *незак. тр., перан.* Выманьваць, жывіцца за кошт другога. На′тта ты мі′ласьлівая. Ні трэ′ба быць гэ′дакуй мі′ласьлівуй. Ты ро′біш, а яны′ гу′льма гуля′юць і до′яць цябе′. *Цял.*

ДА′ЙЖА (да′йжа) *часц.* Нават. У такі′ дзень до′брыя лю′дзі да′йжа саба′ку не выпуска′юць на ву′ліцу, а не то′лькі чалаве′ка. *Гум.*

ДАЙСЦІ′[1] (дайсьці′), -ду, -еш; *зак. тр.* Памерці. Яны′, му′сіць, бая′ліся, кап я ні дайшла′. *Цял.*

ДАЙСЦІ′[2] (дайсьці′), -ду, -еш; *зак. тр.* Дапытацца. У яе′ нічо′га ні до′йдзяш. *Дук.*

ДА′ЛЕЙ (да′ляй) *прысл.* Потым. Хаце′ў 50 рублё′ў, а да′ляй сказо′ў 40. *Цял.*

ДАЛО′НЯ (дало′ня) *жан.* Далонь. Са′ла дак на маю′ дало′ню. *Дук.*

ДАЛЬНЕ′ЙШЫЯ (дальне′йшыя). Якія знаходзяцца далей. Усё′ ду′мая, хай дальне′йшыя іду′ць. *Дук.*

ДАНО′СКІ (дано′скі) *толькі ў мн.* Абноскі. Ме′ншы дык у дано′сках бе′гая, нія′к не зьбяро′мся ле′пшая прыдба′ць. *Мік.*

ДАРЖНІ′К (даржні′к) *мужч.* Агароджанае месца

для скаціны. Удзе′нь у даржні′к заганя′юць на о′ддых, но′ччу сахо′зныя ко′ні стая′ць каля′ хле′ва. *Бяс.*

ДАРМО′ (дармо′) *прысл.* Дарма. Дармо′, што бе′лка дурна′я, але рабі′ць усё′ ўме′я. *Дук.*

ДАРО′ЎЛІВАЦЬ (даро′ўліваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Дараваць. Така′я крадзё′ш, я ве′даю, хто мяне′ абакра′ў, але′ я даро′ўліваю. *Ляшч.*

ДАРЭ′МНЯ (дарэ′мня) *прысл.* Дарэмна. Цё′тка, вы дарэ′мня гэ′та, ні яна′ падвяла′ вас аграно′му. *Цял.*

ДАТЫКА′ЛЬНІ (датыка′льні) *толькі ў мн.* Ніткі, адрэзаныя пасля ткання палатна ад кросен. Асталі′ся датыка′льні до′ўгія. *Дук.*

ДАЎБЕ′ШКА (даўбе′шка) *жан.* 1. Прылада, якою б'юць скаціну. Мой ба′цька ні ко′ля сьвіне′й, а б'е даўбе′шкаю. 2. *Перан.* Неразумны чалавек. Ме′нціць языко′м, што папа′ла, даўбе′шка гэ′та дурна′я. *Дук.*

ДАЎЖЭ′ЙШЫ (даўжэ′йшы) *прым., перан.* Высшы. Даўжэ′йшы гэ′ты хло′пяц за ўсіх. *Дук.*

ДАЎЖЭ′Р (даўжэ′р) *жан.* Даўжыня. Гэ′дакая даўжэ′р, як во′кам ські′нуць. *Цял.*

ДАЎЛО′СУ (даўло′су) *прысл.* Без галаўнога ўбору. Яны′ хо′дзяць даўло′су ле′там, ху′стак ні но′сяць. *Цял.*

ДА′ЧКА (да′чка) *жан.* Неадбеленая бязь. Купі′ла тры ме′тры да′чкі. *Дук.*

ДАЧЧЫНО′Е (даччыно′я) *прым.* Даччына. Даччыно′я адзе′ніць і йдзе. *Ляшч.*

ДВАРО′ВЫЯ (дваро′выя). Батракі, якія працавалі ў панскіх дварах. Дваро′выя не′калі ве′льмі ке′пска жылі′. *Цял.*

ДВАЮРО′ДНЫ (дваюро′дны). Дваюрадны, стрыечны. Анто′сь мой брат дваюро′дны. *Дук.*

ДВО′ЙКА (дво′йка) *жан.* Блізняты. Каза′лі, малада′я прывяла′ дво′йка, блізьня′тачка, а друга′я, тро′ха ў гада′х — тро′ё, два хло′пчыкі і дзе′вачка. *Сав.*

ДЖМЕЛЬ (джмель) *мужч.* Чмель. Джмель бо′льшы за пчалу′. *Ніз.*

ДЗЕ′ЙКА (дзе′йка) *жан.* Чутка. Пу′сьцяць дзе′йку, што я паміра′ць бу′ду. *Цял.*

ДЗІЧ (дзіч) *мужч.* Барадаўка. Дзіч сеў на са′май дало′ні і што рабі′ць? *Ляшч.*

ДЗЯВО′ЧЫНА (дзяво′чына) *жан., толькі ў адз.* Адзенне дзяўчыны, якое яна бярэ з сабой, калі ідзе замуж. Дзяво′чыну ма′тка выбіра′е, калі′ дачка′ ідзе′ за′муж. *Варн.*

ДЗЯДО′К (дзядо′к) *мужч.* Прымітыўнае прыстасаванне для асвятлення хаты лучынаю: у калодачцы ўмацоўвалі палку, да верхняга канца якой прыбівалі дзве жалезкі (зубы), куды закладалі лучыну. А як жа даўне′й за лучы′наю жылі′? У кало′дачку, дзядо′к такі′, даду′ць у зу′бы яму′ лучы′ну і гары′ць. *Сав.*

ДЗЯДЫ′ (дзядэ′) *толькі ў мн.* Рэлігійны абрад, прысвечаны паміnанню мёртвых. На дзядэ′, як павячэ′раюць, ні прыбіра′юць са стала′, ка′жуць, мярцьвіцэ′ пры′дуць е′сьці. *Цял.*

ДЗЯ′ЛКА (дзя′лка) *жан.* Кавалак зямлі, якім надзялялі пры Польшчы малазямельных. *Сав.* У каго′ зямлі′ ма′ла было′, а сям′я′ вялі′кая, то дзя′лкай надзяля′лі. *Вайк.*

ДЗЯРБО′НІК (дзярбо′нік) *мужч.* Блін з дранай бульбы. Надзё′рла карто′плі на дзярбо′нікі, пра′ўда, ма′ла, бу′ду пячы′ ко′лькі ёсьць, а пасьля′ даба′ўлю. *Бяс.*

ДЗЕРАВЯ′ШКІ (дзеравя′шкі). *Гл.* абіякі. Даўне′й былі′ дзеравя′шкі, цяпе′р іх няма′. *Вішн.*

ДЗЯРВЯ′НІКІ (дзярвя′нікі) *мужч. Гл.* абіякі. *Бяс.*

ДЛЯ (для) *злуч.* Каля. Усю′ды ўзара′лі, то′лька для сянажа′ці пакі′нулі. *Цял.*

ДНЁМ (днём) *прысл.* Удзень. Вот днём калі′ малака′ з′ем. *Дук.*

ДНУ′ШКА (дну′шка) *жан.* Пагабляваная прадаўгаватая дошчачка, на якой крышаць капусту, буракі, сала і інш. Ня сто′ў дну′шкі на пры′пяк, бо рассо′хняцца. *Дук.*

ДО (до) *прысл.* Досыць. Харо′шы, до′бры дошч ноч хай палье′ і до бу′дзе. *Так.*

ДО′БРЫЦА (до′брыца) *жан.* Правы бок тканіны. На до′брыцу гэ′та матэ′рыя ве′льмі ш прыго′жая. *Халм.*

ДО′ЙКА (до′йка) *жан.* Даярка. Дачка′ была′ до′йкаю, мно′га малака′ надо′йвала, дак прэ′мію дава′лі ко′жны гот. *Цял.*

ДОЛ (дол) *мужч., разм.* Магіла. Абе′даць далі′ тым, што капа′лі дол. *Цял.*

ДО′ЛЕ (до′ля) *прысл.* На зямлі. Не сядзі′ до′ля, хало′дная яна′. *Рак.*

ДО′ЛЯХ (до′лях) *прысл.* У зямлі. Ён даўно′ ўжо до′лях ляжы′ць. *Ямк.*

ДО′ЎЗАЗНЫ (до′ўзазны) *прым.* Вельмі доўгі. Саро′чка ў яе была′ ве′льмі до′ўзазная. *Дук.*

ДРАБАКАВА′ЦЬ (драбакава′ць), -ую, -уеш; *незак. тр.* Баранаваць вясною зямлю, узараную на зіму. Баранава′ць, або драбакава′ць, як трава′, тады′ разво′зяць гной і ару′ць. Гэ′та шчыта′ецца, што по′ле раўну′іцца. *Малм.*

ДРА′НКА (дра′нка) *жан. Гл.* бапка. Уста′віла на абе′т дра′нку. *Жор.*

ДРАПЦЫ′ (драпцы′) *толькі ў мн.* Вілкі з тупымі зубамі для насыпання бульбы. Драпцы′ стая′ць пат пло′там, ідзі′ насыпа′й карто′флю. Бу′льба збуя′ла, праз драпцы′ сы′пліцца. *Лях., Шут., Варн., Заб.*

ДРАЦЬ (драць), -у, -эш; *незак. тр.* 1. Здрабняць на тарцы. Карто′плю драць до′бра было′ ў кацяло′к. 2. Кару з дрэва. Не′калі на ла′пці кару′ дра′лі. 3. Ванітаваць. У майго′ хло′пца, му′сіць, рабаке′, бо прас усю ноч казлэ′ дроў. *Дук.*

ДРА′ЧЫК (дра′чык) *мужч.* Матыка з зубамі. Дра′-

чык у сусе′ткі ўзяла′. Цяпе′р ляхчэ′й, а то капані′цай глядзі′, кап не пасе′кчы карэ′ньня ў я′блыні. *Жор.*

ДРО′БЯЗЬ (дро′бясь) *жан.* Рэчы малога памеру, дробныя. Там то′лька дро′бясь ро′бяць. *Дук.*

ДРО′ГЛАЯ (дро′глая) *прым.* Азяблая. Ты ж, пэ′ўна, дро′глая, лесь ху′ценька на печ. *Сак.*

ДРУБО′К (друбо′к) *мужч.* Зубок часнаку. Ат рабако′ў до′бра зье′сьці друбо′к часнаку′. *Так.*

ДРЭ′НЧЫЦЦА (дрэ′нчыцца), -уся, -ышся; *незак. тр.* Моцна крычаць. Пераста′нь дрэ′нчыцца, ты ж ні малы′. *Варн.*

ДУБАВА′ЦЬ (дубава′ць), -бу-ю, -бу-еш; *незак. тр.* Лаяцца, скандаліць. Ёй не пашанцава′ла: муж так ча′ста дубу′е, бры′ткія сло′вы гаво′рыць, аж біць пачына′е. Ад бацько′ў і дзе′ці ста′лі дубава′ць. *Бяс.*

ДУБАЛЬТО′ВЫЯ (дубальто′выя) *прым.* Двайныя. Дубальто′выя рукаві′цы ро′бяць гэ′та ў нас у два во′чкі. *Кальч.*

ДУБО′ВАЧКА (дубо′вачка) *жан.* Невялікая дубовая кадушка. Я дубо′вачку пат капу′сту купі′ла на база′ры. *Дук.*

ДУБЭ′ЛЬТ (дубэ′льт) *мужч. Гл.* вылога. Дубэ′льты прышы′ты з друго′га матэрыя′лу ў фрэ′нчы. *Сал.*

ДУКЕ′Т (дуке′т) *мужч.* Штучнае ўгнаенне. У нас то′лькі дуке′т і сале′тра ёсьць. *Ляшч.*

ДУ′ЛЬКА (ду′лька) *жан.* Адыходы пры трапанні лёну ў выглядзе дробнай кудзелі. *Хож., Малм., Вайк., Ляшч., Пр., Лях., Р. Л.* Ду′лька така′я дро′бная, як ва′тачка. *Быт.*

ДУМАЎЁ′ (думаўё′) *ніяк.* Труна. Про′сіць думаўё′ зрабі′ць. Не′льга атказа′ць. *Малм.*

ДУРНІ′ЦЫ (дурні′цы) *толькі ў мн.* Буякі. Прые′халі і пайшлі′ на бало′та ў дурні′цы, малы′х с сабо′ю пабра′лі, а яны ад багуну′ за гало′вы. *Жор.*

ДУШАГРЭ′ЙКА (душагрэ′йка) *жан. Гл.* гарсэт. Душагрэ′йка, бо ўсягды′ душу′ грэ′е, цяпло′ стано′віцца. *Шут., Варн.*

ДЫЛЕ′ЦЬ (дыле′ць) *незак. тр.* Імжаць. Але ш вот дошч, дылі′ць — дылі′ць цэ′лы дзень. *Цял.*

ДЫ′ЛІ (ды′лі) *толькі ў мн.* Прыстасаванне для падвешвання набіліц. Ця′шкія ду′жа ды′лі, то′лькі лі′шні грус у красна′х. *Мільчы.*

ДЫ′РЫЦЬ (ды′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Хлынуць. Кроў ды′рыла з ро′та. *Дук.*

ДЭ′РБА (дэ′рба) *жан.* Жанчына высокага росту з тонкімі доўгімі нагамі. Не′ка патанча′ла, худо′ба зрабі′лася і тут то′ненька, адно но′гі до′ўгія, дэ′рба. *Сав.*

ДЫСЭ′НІ (дысэ′ні) *толькі ў мн.* Узор. У ха′це ў іх хо′раша, ло′шкі засьціла′юцца пасьці′лкамі, які′я вы′тканы ў дысэ′ні. *Бяс.*

## Е

Е (е). Ёсць. Чы′стая е, дак вы′ду ў чы′стум. *Цял.*

Е′ЙНЫ (е′йны) *займ.* Яе. Е′йны кало′к убі′ты, каб ба′чыла што е′йная дзя′лка. *Ляшч.*

ЕСТ (ест). *Гл.* е. Ест у яе′ дзе′ці. *Цял.*

Е′СЦЯКА (е′сьцяка). *Гл.* е. У на′шага са′нкі е′сьцяка. *Цял.*

Ё′МКА (ё′мка) *прысл.* Прыгожа, добра. Так ё′мка ёй гэ′та ко′фта. Та′ся ве′льмі ё′мка кро′іць бу′рку. *Дук.*

Ё′МКІ (ё′мкі) *прым.* Спрытны. Ва′ша ішчэ′ ё′мкая ба′ба. *Дук.* Прыгожы, складны. Ё′мкі ў яе′ сын: с тва′ру харо′шы і с ста′ну. *Дук.*

## Ж

ЖА′БА (жа′ба) *жан.* Карабатае месца на астрыі касы. Като′ры не ўме′е кляпа′ць, дык жа′баў больш наро′біць, як накле′пле. *Так.*

ЖАГНА′ЦЦА (жагна′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Хрысціцца. Сыно′чкі мае′ мі′лыя, жагна′йцяся, прасе′ця бо′га, кап вас ні пабра′лі. *Цял.*

ЖА′ЛАСЦІВЫ (жа′ласьлівы) *прым.* Жаласлівы. Ён к скаці′не саўсі′м ня жа′ласьлівы. *Жор.*

ЖАРАБОК (жарабо′к) *мужч.* Памылка пры снаванні. Ужо і жарабо′к пасьпе′ла палажы′ць. *Вайк.*

ЖАРАБУ′К (жарабу′к) *мужч.* Жарабок. Ён купі′ў у вайну′ жарабука′. *Цял.*

ЖАЎТА′ЧКА (жаўта′чка) *жан.* Жаўтуха. На жаўта′чку хварэ′юць, калі с пе′чанем што ні ў пара′тку ці з жо′ўцям. *Гіл.*

ЖМУ′РАЧКА (жму′рачка) *жан.* Зморшчынка. У яе быў твар уве′сь у жму′рачках. *Цял.*

ЖМУ′РКІ (жму′ркі, зму′ркі) *толькі ў мн.* Частаванне на другі, трэці дзень пасля хрэсьбін. *Дук.* Я дык на гэ′тыя жму′ркі ніко′лі не хадзі′ла. Зму′ркі — е′то ўжо на другі′ дзень п'юць, што асталo′ся ад радзі′н. *Папл.*

ЖМУ′РЫНКІ (жму′рынкі) *толькі ў мн. Гл.* жмуркі. Ба′бу трэ′ба на жму′рынкі зваць. *Ігр.*

ЖНЕ′ЎНІК (жне′ўнік) *мужч.* Іржэўнік. Жне′ўнік касі′ў жняя′ркаю. *Дук.*

ЖУ′ЖАЛКА (жу′жалка) *жан.* Чарнявая жанчына. Яна′ красі′вая, жу′жалка гэ′та, але′ гульта′й. *Дук.*

ЖУКО′ВІНА (жуко′віна) *жан.* Пярсцёнак. Як мы з стары′м вянча′ліся, ды ён мне падары′ў жуко′віну, дык во, яка я′шчэ прыго′жая! *Дук.*

ЖУЧО′К (жучо′к) *мужч.* Шпілька, якою зашпільваюць жанчыны кароткія валасы. Во′ля, дай мне адзін жучо′к. *Вішн.*

ЖЫ′ЖКА (жы′шка) *жан.* Сок з фруктаў або ягад. Я′блыкі сь сьлі′вамі ту′шацца до′бра, тады′ іх кі′даюць на рэ′шата, кап жы′шка сьцякла′. *Ляшч.*

# З

ЗААГРЭ′Х (заагрэ′х) *мужч. Гл.* агрэх. Ко′лькі заагрэ′хаў на по′лі, зале′жыць ад хазя′іна. *Заб.*

ЗАБАРСА′ЦЬ (забарса′ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Уцягнуць у вушкі аборы. Або′рамі ла′пці забарса′й. *Ігр.*

ЗА′БАРСКІ (за′барскі) *жан., адз.* забарска. Верхнія дзірачкі ў лапцях, у якія працягваецца абора. *Быт.* Абу′лася ў ла′пці і за′барскі крэ′пка заці′снула. *Р. Ч.*

ЗА′БРАСНІ (за′брасьні). *Гл.* забарскі. За′брасьні трэ′ба рабі′ць адра′зу, як і ла′пці. *Папл.*

ЗАБО′ЛЬВАЦЦА (забо′люваацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Захворваць. Мой хло′пяц ужо′ забо′люваяцца. *Цял.*

ЗАБУРМА′ШЫСТЫ (забурма′шысты) *прым.* Цяжкі, грубай работы (абутак). Баці′нкі забурма′шыстыя, гру′быя, цяжо′лыя, куды′ такі′я баці′нкі. *Сав.*

ЗАБЫТНО′Е (забытно′я). Забытае. Усё ке′пская ні забытно′я. *Цял.*

ЗАВА′ЛА (зава′ла) *жан.* Прызба. Вунь ідзі′ к дзе′ду на зава′лу ды пасядзі′. *Кол.*

ЗА′ВАЛАЧ (за′валач) *толькі ў адз.* Непаваротлівы, лянівы чалавек. За′валач гэ′та цэ′лы дзень на пе′чы ляжы′ць. *Цял.*

ЗАВАЛІ′ЦЬ (завалі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Заперці дзверы, вароты. Тэ′кля, ты завалі′ла дзве′ры? А то шчэ хто ўле′зя ў ха′ту. *Дук.*

ЗАВА′ЛКА (зава′лка) *жан.* Гланда. Го′рло маё′ балі′ць, во тут, зава′лкі гэ′тыя. *Сав.*

ЗАВІНУ′ЦЦА (завіну′цца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* 1. Хутка прыняцца за якую-небудзь справу. Мы як завіну′ліся, дак ско′ра апало′лі граду′. *Цял.* 2. Усхадзіцца, раскрычацца. Як завіне′цца, дак цэ′лы ве′чар бубні′ць. *Цял.*

ЗАВІРА′Ч (завіра′ч) *мужч.* Клін у коле задняга навоя. Паглядзі′, Міко′ла, не′дзе згу′біўся завіра′ч. *Ляшч.*

ЗАГАРА′ЦЬ (загара′ць), -у, -эш; *зак. тр.* Заараць. Като′ры талко′вы, дак варо′чаецца ды загарэ′. *Так.*

ЗА′ГРАДКА (за′гратка) *жан.* Паліца для посуду. Памы′й чы′сьценька по′суд ды на за′гратку паста′ў. *Кол.*

ЗАГРЭ′Х (загрэ′х) *мужч. Гл.* агрэх. Мно′га ты вось загрэ′хаў ро′біш. *Р. Ч.*

ЗАДРАТАВА′ЦЬ (задратава′ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Уцягнуць у лыч свінні дроцік, каб не рыла. Задратава′лі на′шу сьвіньню′, дык ляхчэ′й ста′ла, не ры′е ўжо так. *Хож.*

ЗАЕ′СЦІ (зае′сьці), -ем, -ясі; *зак. тр.* З'есці скаромнае ў посны дзень, ці ў пост. Ко′лька жыву′, дак адно′ адну′ куцю′ зае′ла. *Цял.*

ЗАЙСЦІ′СЯ (зайсьці′ся), -ду-ся, -дзеш-ся; *зак. тр.* Страціць прытомнасць. Бо′льшы сту′кнуў мало′й па галаве′ ба′нкай, а та′я і зайшла′ся. *Жор.*

ЗА′ЙЧЫК (за′йчык) *мужч.* Маленькі хлябок з рэштак цеста, у сярэдзіну якога гаспадыня кладзе мяса. Ната′шцы, глядзі′ця, за′йчык сьпё′кся. *Горкі.*

ЗАКАБЛУ′К (закаблу′к) *мужч.* Абцас. На закаблука′х у бо′тах прыбіва′юць падко′ўкі. *Вайк.*

ЗАКА′ЛЯЦ (зака′ліц) *мужч.* Рэшткі гарэлкі ў шклянцы. Хто пакіда′я зака′ліц — той не жада′я дабра′ гаспадару′. *Мех.*

ЗАКІ′ДАНЫ (закі′даны) *дзеепрым.* Недагледжаны. Яны′ з ма′льства такі′я закі′даныя. *Жор.*

ЗАКРА′СА (закра′са) *жан.* Сала. Вазьмі′ крыху′ закра′сы, паку′ль я тут спра′ўлюся. *Кар.*

ЗАЛ (зал) *мужч.* Найбольшы пакой у жылой частцы дома. Як го′сьці пры′йдуць, то ў за′ле іх са′дзяць, часту′юць то′жа ў за′ле. *Малм.*

ЗА′ЛЕЗЬ (за′лесь) *жан.* Запушчанае поле. Саўхо′с мно′га за′лезі дапуска′я. *Пр.*

ЗАЛІ′Ў (залі′ў) *мужч.* Заліўны луг. Дак у нас залі′ваў пасьці′ што німа′. *Бяс.*

ЗАЛО′ЖНІК (зало′жнік) *мужч.* Паліца, на якую ставяць кухонную пасуду. Паглядзі′, што там у зало′жніку звалі′лася, но′ччу як цю′кнула, дык ду′мала, што сам зало′жнік зьляце′ў. *Жор.*

ЗАЛУВІ′ЦА (залуві′ца) *жан.* Залоўка. Нядо′бро выхо′дзіш за′муш, дзе по′ўна ха′та залуві′ц нізаму′жніх. *Горкі.*

ЗАМЁ′ТА (замё′та) *жан.* Замець. Така′я была′ замё′та, і сьнех, і ве′цяр, я прамё′рзла. *Сав.*

ЗАМГНУ′ЦЬ (замгну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Задрамаць на момант. Але′ніна дзіця′ ве′льмі благо′я, усё′ вядзе′ і вядзе′ (доўга плача), замгне′ то′лькі і зноў вядзе′. *Цял.*

ЗАМІ′Ш (за′міш) *прысл.* Замест. Нале′ю ку′бачак малака′ і вы′п'ю замі′ш вады′. *Цял.*

ЗАМУ′ЛЯЦЦА (заму′ляцца), -ю-ся , -еш-ся; *зак. тр.* Перапрацавацца. Гэ′ты ня заму′ляяцца, лі′шняга ша′гу ня сту′піць. *Дук.*

ЗАМЫ′ЛІЦЬ (губы), -ю, -іш; *зак. тр.* Сціснуць. Чаго′ гу′бы замы′ліла, ніхто′ цібе′ не чапа′е. *Мац.*

ЗАПА′ЗУХА (запа′зуха) *жан.* Пазуха. На, схава′й у запа′зуху. *Дук.*

ЗАПАСЦІГА′ЦЬ (запасьціга′ць), -а-ю, -а-еш; *незак. тр.* Мець у наяўнасці. Па чаты′ры працадні′ зарабля′я (сын), прыве′зьлі больш сто пудо′ў хле′ба, і се′на, і сало′мы, збожо′ ўвалі′ў, а ка′са ў ма′цяры, про′сіць капе′йку на кіно′, гро′шай нізапасьціга′я. *Сав.*

ЗАПЕ′ЧНІКІ (запе′чнікі) *толькі ў мн.* Драўляны фундамент печы ў два-тры вянкі. Зру′бак з дзе′раваў два-тры вянкі′, над які′м завыша′ецца печ — гэ′та і ёсьць запе′чнікі. *Бяс.*

ЗАПО′ІНЫ (запо′іны) *толькі ў мн.* Заручыны. Запо′іны ў дачкі′, за′муж аддо′ў. *Цял.*

ЗА′ПУСКІ (за′пускі) *толькі ў мн.* Апошні дзень перад постам. Ад дзядо′ў да за′пусак тры нядзе′лі. *Цял.* За′пускі — гэ′та апо′шні дзень пяра′т по′стам. *Цял.*

ЗАПУ′СТЫ (запу′сты) *толькі ў мн.* Субота перад масленіцай. На запу′сты лю′дзі наяду′цца мя′са і тады′ нядзе′ль шэсьць ні яду′ць. *Так.*

ЗАПУ′ХНУЦЬ (запу′хнуць) *зак. тр.* Набрыняць ад вільгаці. Наш цэ′бар паце′к, дак я наліла′ вады′: хай запу′хня. *Дук.*

ЗАПЫНІ′ЦЬ (запыні′ць), -ю, -ніш; *зак. тр.* Пераняць. Я пабягу′, запыню′ каро′вы, кап у ві′ку ні ўпа′лі. *Цял.*

ЗАРА′НЕ (зара′ня) *прысл.* Рана. Я зара′ня з до′му пашла′. *Дук.*

ЗА′РА (за′ра) *прысл.* Зараз. За′ра пайду′ каро′ву даі′ць. *Так.*

ЗА′РУБКА (за′рупка) *жан.* Малы выступ на коміне для формы. На за′рупку мы нічо′га ня ло′жым, то′лькі калі-не′буць мы′ла су′шым. *Аздз.*

ЗА′СЕНЬ (за′сень) *жан.* Сенцы. За′сень прыбудава′ў, усё ш цяпле′й бу′дзе. *Хож.*

ЗАСІЛІ′ЦЬ (засілі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Набраць, зачэрпаць. Зусі′м вады′ ў ха′ці няма′, засілі′ вядро′ хоць. *Вен.*

ЗАТАЎЧЫ′ (затаўчы′), -ку, -чэш; *зак. тр.* Засквараць. Я, быва′ла, навару′ булё′ну, затаўку′ тро′ха здо′рам і ядо′м. *Дук.*

ЗАСАЛАМА′ЦІЦЬ (засалама′ціць), -чу, -іш; *зак. тр.* Заблытаць. Не′шта ш ты там засалама′ціў. *Аляхн.*

ЗАСТА′ВІЦЬ (заста′віць), -ўлю, -іш; *зак. тр.* Пакінуць. Заста′віла два′ццаць рублё′ў на се′не. *Цял.*

ЗАСТАРО′НАК (застаро′нак) *мужч.* Адгародка. У гу′мнах адгара′жувалі застаро′нкі. *Цял.*

ЗАТАРАБА′НІЦЬ (затараба′ніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Гаварыць хутка і незразумела. Сьці′хні ты! Затараба′ніла, як саро′ка. *Варн.*

ЗАТЫ′ЛАК (заты′лак) *мужч.* Задняя частка бота, якая надае боту трываласць і форму. Для заты′лка кладу′ць кару′ бяро′завую. *Шут.*

ЗАТЭ′ПАЦЬ (затэ′паць), -аю, -еш; *зак. тр.* Зайсці паволына. Паку′ль затэ′паю даха′ты, то ўжо і зьвечарэ′я. *Мік.*

ЗАЎГРЭ′Х (заўгрэ′х) *мужч. Гл.* апрэх. Таке′й за пла′нам паляці′ць, а што за ім заўгрэ′хаў по′ўна, дык ён ня ба′ча. *Папл.*

ЗАЦУРБЭ′НІЦЬ (зацурбэ′ніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Закінуць. Ігра′лі ў ба′пкі ды цу′рку зацурбэ′нілі аж у гаро′т. *Выд.*

ЗАЧЫ′НАК (зачы′нак) *мужч.* 1. Прымурак. Дый пасядзе′ць на зачы′нку мо′жна, пле′чы ап печ пагрэ′ць. *Аздз.* 2. Лавачка, умазаная ў печ. Сядзь на зачы′нак ды пасядзі′ ці′ханькі хоць нямно′га. *Халм.*

ЗБАЁ′ДАЦЬ (збаё′даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Згубіць. Та′мака ня ты рыдлё′ўку збаё′даў? *Масц.*

ЗБАЯ′ЦЦА (збая′цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Пабаяцца. Яна′ дзяце′й ні збая′лася і вы′шла на дзе′ці. *Цял.*

ЗБЕ′РЦІ (зьбе′рці), -у, -раш; *зак. тр.* Сабраць. Ма′сла зьбе′раш, панясе′ш, прадасі′. Калі′ зьбе′руць што, то до′бра. *Ляшч.*

ЗБО′ЙКІ (збо′йкі) *толькі ў мн.* Клінкі. Збо′йкі пазаганя′й, а то кро′сны тває′ разва′ляцца. *Мільчы.*

ЗБЫТ (збыт) *мужч., толькі ў адз.* Продаж. У нас то′лькі збыт быў у Ві′льні. *Ляшч.*

ЗБЫ′ЦЦА (збы′цца) *незак. тр.* Звесціся. І ўжэ ўсё′ збу′дзяцца ба′цькава. *Дук.*

ЗВІ′ЦЦА (зьві′цца), саўюся, саўешся; *зак. тр.* Стра-

ціць прытомнасць ад болю. Гэ′ты зло′дзяй як доў па галаве′ на′шаму, дак той і зьві′ўся. *Дук.*

ЗВЯЗІ′СТЫ (зьвязі′сты) *субстантаваны прым.* Сувязны. У партыза′наў жа былі′ зьвязі′стыя, яны′ прачува′лі праз не′мцаў усё′ і дакла′дувалі парці′занам. *Цял.*

ЗГАНТАПЕ′ЖЫЦЬ (згантапе′жыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Змяць. Ты куды′ гэ′та зале′зла? Усё′ се′на згантапе′жыш. *Выд.*

ЗГАРНУ′ЦЬ (згарну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Скласці. Цяпе′р я рук не магу′ згарну′ць. *Дук.*

ЗГЛУ′МЛЕНЫ (зглу′млены) *дзеепрым.* Сапсаваны, дрэнна пашыты. Мой касьцю′м красі′вы, але зглу′мляны. *Дук.*

ЗГО′ДЗІЦЦА (зго′дзіцца) *зак. тр.* Спатрэбіцца. Ня выкіда′й гэ′тых абрэ′скаў, яны′ шчэ зго′дзяцца. *Цял.*

ЗГУ′РЫ (згу′ры) *прысл.* Адразу. Рас во′тку п'е — жыць нівазмо′жно, згу′ры кіда′ць на′да. *Сав.*

ЗГРЭ′БАЧ (згрэ′бач) *мужч.* Крукі для зграбання гною з воза або машыны. Цяпе′р то ўжо ма′ла хто по′льзуяцца згрэ′бачам, цяпе′р ўсё′ ві′лкамі ро′бяць *Дук.*

ЗГРЭ′БЛА (згрэ′бла) *ніяк.* Шчотка з тонкага дроту, якою чысцяць жывёлу. Чы′сьцілі вало′ў згрэ′блам. *Цял.*

ЗГРЭ′БЦІ (згрэ′пці), -бу, -беш; *зак. тр.* Узяць сілком. Яны′ згрэ′блі мяне′ і пацягну′лі. *Цял.*

ЗДАЕ′СЯ (здае′ся) *незак. тр.* Здаецца. І здае′ся, з зямлё′й зраўня′ла. *Ляшч.*

ЗДАЎМЕ′ЦЦА (здаўме′цца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Здагадацца. Міку′ліч здаўме′ўся і ўцёк, а то забі′лі п. *Цял.*

ЗДРАПАЧЫ′ЦЬ (здрапачы′ць по′льку), у, -ыш; *зак. тр.* Станцаваць. По′мню, за ве′чар, як здрапачу′, дык но′ччу нох ня чу′ствую. *Жор.*

ЗДРО′ГНУЦЦА (здро′гнуцца), -ну-ся, -неш-ся; *зак.*

*тр.* Здрыгануцца. Увалі′ўся ў каляі′ну і, му′сіць, здрo′гнуўся мо′цна і памё′р. *Цял.*

ЗДЭ′СЯ (здэ′ся). *Гл.* здаеся. Здэ′ся яна′ тут была′. *Ляшч.*

ЗЛА′ГАДА (зла′гада) *жан.* Згода. У зла′гадзі жылі′. *Цял.*

ЗЛА′ГАДНА (зла′гадна) *прысл.* Дружна. Не′калі хло′пцы зла′гадна жылі′, вогэ′дак як і вы. *Цял.*

ЗЛУПІ′ЦЦА (злупі′цца) *зак. тр.* Падрацца. Пла′цьця ўсё злупі′лася на нет. *Лях.*

ЗМА′ЗАЦЬ (зма′заць), -жу, -жаш; *зак. тр.* Украсці. У нас бярвяно′ зма′заў Ко′ля. *Цял.*

ЗМАЛІ′ЦЦА (змалі′цца), -лю-ся, -ліш-ся; *зак. тр.* Сабрацца. Паку′ль я змалі′лася, дак яны′ вы′бралі ўсю карто′плю. *Цял.*

ЗМАРНАВА′ЦЬ (змарнава′ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Сапсаваць. Ты ж ні пашы′еш сама′ суке′нку, то′лькі матэ′рыю змарну′еш. *Хож.*

ЗМЕ′РЦІ (зьме′рці) *зак. тр.* Вымерці. У іх уся′ сям′я′ зьме′рла. *Цял.*

ЗМІРЫ′ЦЦА (зьміры′цца), -ру-ся, -рыш-ся; *зак. тр.* Памірыцца. Сусе′тка пярапрасі′ла, і яны′ зьміры′ліся. *Цял.*

ЗНА′ЙНІЦА (зна′йніца) *жан.* Левы бок тканіны. Надзе′ла суке′нку на зна′йніцу. *Халм.*

ЗНАКІ′ (знакі′) *толькі ў мн.* Прылада для правядзення радкоў на градзе. Вазьмі′ знакі′ ды правядзі′ хоць не′калькі ратко′ў. *Хож.*

ЗНА′ЧЫЦЬ (зна′чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Праводзіць радкі для вызначэння грады. У нас гра′ды зна′чаць. Ко′нчым гра′ды зна′чыць сё′ньня да ве′чара, а за′ўтра бу′дзем рабі′ць гра′ды. *Хож.*

ЗНОЙ (зной) *прысл.* Зноў. Зной ты на гу′ліцы швэ′ндаешся. *Масц.*

ЗНЯЧЭ′ЎКУ (зьнячэ′ўку) *прысл.* Знянацку. Зьнячэ′ўку пасьлізну′ўся і нагу′ зламо′ў. *Цял.*

ЗРАДЗІ′ЦЬ (ізрадзі′ць) *зак. тр.* Урадзіць. На′ша карто′пля была′ ізрадзі′ла, цэ′лаю скры′ню накапа′лі. *Цял.*

ЗРУ′ШАНЫ (зру′шаны) *дзеепрым.* Падарваны цяжкай працай. Яшчэ′ ў дзяці′нстве ён зру′шаны. *Гіл.*

ЗРУ′ШЫЦЬ (зру′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Падарваць. Пае′хаў у лес, паднё′ў я′сяню і зру′шыў жыво′т. *Цял.*

ЗУБ (зуп) *мужч. Гл.* абмылка. Прас по′наш кі′нула і зуп натка′ла. *Вайк.*

ЗУРНУ′ЦЬ (зурну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Штурхнуць. Яна′ як зурну′ла няве′стку, дак та′я і пакаці′лася. *Цял.*

ЗУСЁ′М (зусё′м) *прысл.* Зусім. У нас мост зусё′м благі′, ніхто′ яго′ не пра′вя. *Кальч.*

ЗЫ′БАЎКА (зы′баўка) *жан.* Вісячая калыска. Пад тра′му падкла′дваецца выгіна′шчае дзе′рава, за дзе′рава завя′зваюцца вяро′ўкі, да які′х прычэ′пліваецца зы′баўка. *Бяс.*

ЗЫК (зык) *мужч.* Конскі крывасос. На каня′, ка′жа, ужэ′ зык сеў, і конь ня мо′жа на ме′сцы стая′ць. *Р. Л.*

З'ЕЗД (зьест) *мужч.* Чатыры колы для павозкі. Не′калі па васімна′ццаць зье′здаў калё′с рабі′лі. *Цял.*

## І

ІЗРЭ′Б'Е (ізрэ′б'е) *ніяк. Гл.* зрэбіна. З ізрэ′б'я шы′ям сяньнікі′, мяшкі′, а больш нічо′га. *Заб.*

ІК (ік) *злуч.* Як. Ік за′ўтра дошч по′йдзя, то мая′ пае′стка до′ма бу′дзя. *Якш.*

І′ННЫ (і′нны) *займ.* Іншы. І′нны рас е′сьці хо′чацца. *Дук.*

ІНЬ (йінь) *жан.* Іней. На дзе′раве йінь, аж ла′пкі пагну′ліся. *Бяс.*

ІРДЗЕ′ЦЦА (ірдзе′цца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Супраціўляцца. Яна′ ста′ла гэ′тых выпіха′ць, а яны′ ірдзе′ліся, ня хаце′лі ісьці′. *Дук.*

ІСКРУ′ТАК (іскру′так) *мужч.* Скрутак. Жо′нка іскру′так здо′ру дала′. *Цял.*

ІССУШЫ′ЦЬ (іссушы′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Высушыць. Ты′я баравікі′ я іссушы′ла. *Дук.*

ІСТРУ′ГА (істру′га) *жан.* Металічны інструмент, якім стругаюць спіцы. Істру′га дзеравя′нная віco′кая, е′ю сьпі′цы стругу′ць. *Цял.*

І′ХНА (і′хна) *займ.* Іх. І′хна машы′на «Маскві′ч». *Дук.*

ІШПЕ′КТ (ішпе′кт). Парнік. Гэ′тыя бураке′, му′сіць, с ішпе′ктаў. *Цял.*

## К

КАБА′Т (каба′т) *мужч.* Гарсэт. Каба′т і ні скіда′ю, стара′я ўжо, кроў ні саграва′я. *В. В.*

КА′ДАЎБ (ка′даўп) *мужч.* 1. Пасудзіна, выдаўбленая з дрэва. Мы не′калі кру′пы сы′палі ў ка′даўп. *Дук.* 2. *Перан.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. Таі′са то′ўстая, як ка′даўп. *Дук.*

КАДЗЕ′ (кадзе′) *прысл.* Нядаўна, толькі што. Кадзе′ жаля′ско на ўсло′ні ба′чыла. *Масц.*

КАДО′БЧЫК (кадо′пчык) *мужч.* Памяншальнае ад кадаўб. Не′калі кадо′пчыкі з дзе′рава дзяўба′лі. *Дук.*

КАЖУРЫ′НА (кажуры′на) *жан.* Кажух. Надзе′нь, дзяду′ля, кажуры′ну, а то ве′льмі хо′ладна на двары′. *Ін.*

КАЗА′[1] (каза′) *жан. Гл.* барада. Вось быва′е ідзе′ш с касо′й, а каза′ застала′ся ня ско′шана. *Кальч.*

КАЗА′[2] (каза′) *жан. Гл.* жарабок. Мая′ дачка′ як вучы′лася ткаць, то то′лькі ко′зы і рабі′ла. *Дук.*

КАЗЁ′Л[1] (казё′л)[1]. *Гл.* жарабок. Ой, трэ′ба казла′ вы′правіць. Вот і ўлажы′ла ты казла′. *Ляшч., Кальч.*

КАЗЁ′Л[2] (казё′л) *мужч.* Конік. *Вішн.* На сенажа′ці казлы′ шчабе′чуць, хоць ву′шы заклада′й. На маладо′га казла′ ры′бу до′бра ву′дзіць. *Гіл.*

КАЗЁ′ЛЧЫК (казё′лчык) *мужч. Гл.* казёл.[2] Казё′лчыкі ёсьць вялі′кія, а ёсьць малы′я. *Вішн.*

КАЗЛЫ′ (казлы′). Вочкі на бульбіне. Казлы′ трэ′ба вы′калупаць, а то Ва′нька, бач, як наро′біў. *Шут.*

КАЗЮ′ЛЬКА (казю′лька) *жан.* Маленькая лаўка. Дзет са′маму ме′ншаму ўну′ку казю′льку зрабі′ў ла′дненькую. *Кар.*

КАЛАВУ′РЫЦЬ (калаву′рыць), -ру, -рыш; *незак. тр.* Вартаваць. Но′чы калаву′ру магазі′на. *Ляшч.*

КАЛАМА′ШКА (калама′шка) *жан.* Вазок летняга тыпу на колах. У калама′шцы нат і не такі′я ко′лы, як у калё′сах, што дабро′ во′зяць. За′днія ко′лы бо′льшыя за пярэ′днія, на ве′рсе калама′шкі — сядзе′ньне, па бака′х — прысту′пкі. *Бяс.*

КАЛАПНЯ′ (калапня′) *жан.* Каноплі. *Малм.* С калапні′ але′й ме′ляць. *Ляшч.*

КАЛАПНЯ′НАЕ (калапня′нае) *прым.* Зробленае з канапель. А мы до′ма таўклі′ харо′шае малако′ калапня′нае. *Малм.*

КАЛАПНЯ′НКА (калапня′нка) *жан.* Парцяная хустка сярэдняга памеру. *Варн.* Сё′ньня зі′мна, укруці′лася калапня′нкай. *Вішн.*

КАЛАШМА′Н (калашма′н) *мужч.* Чалавек у шырокіх нязграбных штанах. А які зь яго′ кавале′р? Хо′дзіць як калашма′н які′, не мо′жа на′ват адзе′цца па-лю′цку. *Мік.*

КАЛЕ′ЙКА (кале′йка) *жан.* Чарга. Я сё′ньня паганю′ каро′вы, трэ′ба ш кале′йку адбы′ць. *Цял.*

КАЛЁХАВА′ЦЬ (калехава′ць) *незак. тр.* Кіпець.

Здыма′й кастру′лю, бо вада′ ўжэ каляхава′ць пачала′. *Якш.*

КАЛІЗО′ЎКА (калізо′ўка) *жан.* Прышчэпліванне. Зраблю′ я′блынькам калізо′ўку, бу′дуць до′брыя я′блыкі. *В. В.*

КАЛО′ДКІ (кало′ткі) *жан. Гл.* абіякі. Пра гэ′тыя кало′ткі мы ўжо й забы′ліся, у вайну′ іх насі′лі. *Хож.*

КАЛО′ЦЬ (кало′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Секчы дровы. У шко′ля дро′ва кало′лі. *Дук.*

КАЛТЭ′ЙКА (калтэ′йка) *жан.* Прылада, якой абіваюць лён. У снапы′ вы′рвуць лён, пастаі′ць тро′хі, тады′ калтэ′йкамі выбіва′лі. *Варн.*

КАЛЮБЕ′ЛЬ (калюбе′ль) *жан.* Калыска. Калюбе′ль трэ′ба паве′сіць, а то не′льга дзіця′ці пакалыха′ць. *Дук.*

КАЛЯВІ′НА (калявi′на) *жан.* Каляіна. У калявi′ну пра′ма тру′пкі ат калё′с хава′ліся, така′я даро′га гра′ская і няро′ўная. *Бяс.*

КАЛЯ′ДАВАЦЬ (каля′даваць), -дую, -дуеш; *незак. тр.* Святкаваць каляды. Паста′віла пат ко′ляды Мары′нкіну ка′ртачку, каля′давала зь ё′ю, пагавару′, кап ні так само′тна было′. *Сав.*

КАЛЯСНІ′К (калясьні′к) *мужч.* Чалавек, які робіць калёсы. Зрабі′лі драбі′ны і калё′са, ве′дама, свае′ калясьніке′. *Цял.*

КАЛЯШНЯ′ (каляшня′) *жан.* Прыстасаванне, на якім робяць калёсы. У нас не′калі была′ свая′ каляшня′, на ёй Васі′ль з Ільюко′м рабі′лі калё′са. *Цял.*

КАМА′Ш (кама′ш) *мужч.* Жаночы чаравік з кароткай халяўкай, якая зашнуроўваецца. Ране′й усе′ гавары′лі камашэ′, а цяпе′р баці′нкамі называ′юць. *Пр.*

КАМІЗЭ′ЛЬКА (камізэ′лька) *жан.* Верхняя вопратка без рукавоў. Камізэ′лька ў майго′ Ю′зіка чо′рная была′. *Вішн.*

КАМІЗЭ′РКА (камізэ′рка) *жан.* Цёплая на ваце

безрукаўка. Аддала′ ёй сьві′ту стару′ю, кап камізэ′рку пашы′ла, у камізэ′рцы ляхчэй′й, чым у сьві′ця. *Жор.*

КАМІНА′РНІК (каміна′рнік) *мужч., перан.* Брудны, неахайны чалавек. Схадзі′ў бы ты ў ба′ню, а то хо′дзіш, як каміна′рнік той. *Цял.*

КАНА′ (кана′) *жан. Гл.* про′скурка. Ежа з проскурак, якую падаюць на памінках. Накры′шаць про′скуркі ў сало′ткаю ваду, дак гэ′та кана′ заве′цца, і ста′вяць на стол. *Цял.*

КАНАТО′ВІКІ (канато′вікі) мужч. *Гл.* вяровачнікі. У канато′віках хаця′ лё′хка хадзі′ць. *Сал.*

КАНДАЛЫ′ (кандалы′) *мужч.* Абутак на драўлянай падэшве. Не′калі называ′лі ў нас кандалэ′, гэ′та што на драўля′най падэ′шве. *Ніз.*

КАПА′ЛЬНЯ (капа′льня) *жан.* Жанчына, якая капае бульбу. Быва′я капа′льня пад рыдлё′ўку капа′е. От накапа′ешся, як не так мя′кка. *Так.*

КАПАНІ′ЧЫЦЬ (капані′чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Матычыць. Ма′ці пайшла′ карто′плю капані′чыць. *Цял.*

КА′ПЕЛЬНІЦА (ка′пельніца) *жан.* Піпетка. Трэ′ба во′чы зака′пацць, але′ ка′пяльніцы німа′. *Дук.*

КАПЕ′ШКА (капе′шка) *жан.* Капа. Як вы′сахне трава′, валы′ зграба′юць у капе′шкі. Я во тут дзьве капе′шкі растрэ′сла. *Ігр., Быт.*

КАПІЖО′Н (капіжо′н) *мужч.* Капюшон. Прышы′й паве′рх капіжо′н, кап не спада′ў. *Вішн.*

КАПО′ТА[1] (капо′та) *жан.* Верхняя жаночая вопратка свабоднага пакрою. Капо′ту ху′ценька ўссу′неш на пле′чы ды й бяжы′ш на двор. *Шут.*

КАПО′ТА[2] (капо′та) *жан.* Адзенне. Уся′ твая′ капо′та — у ша′фе ляжы′ць. *Бар.*

КАПТУ′Р (капту′р) *мужч.* Выступ у коміне, на якім што-небудзь кладуць. Трэ′ба на капту′р памідо′ры паста′віць, кап скарэ′й прарасьлі′. *Аздз.*

КАПЦІ'ЦЬ (капці'ць), -у, -іш; *незак. тр.* Вендзіць. Мя'са бараво'ў капці'лі. *Ляшч.*

КА'ПЧЫК[1] (ка'пчык) *мужч. Гл.* згрэбач. Вазьмі' ка'пчык ды ідзі' лесь на вос. *Ігр.*

КА'ПЧЫК[2] (ка'пчык) *мужч.* Бугарок каля расліны пасля акучвання. Гэ'ты ва'лік, што вы ка'жыця, мы завё'м ка'пчыкам. *Вайк.*

КАПЫЗІ'ЦЦА (капызі'цца) *незак. тр.* Задзіраць нос. Не'чага табе' капызі'цца. *Дук.*

КАПЭ'ЛЮШ (капэ'люш) *мужч.* Капялюш. Ні надзява'й капэ'люша, сяго'ньня ш го'рача. *Вайк.*

КАРАНЁ'К (каранё'к) *мужч.* Зрэзаная ніжняя частка клубня цыбуліны. Каранё'к цыбу'ліны са'дзяць, а вяршо'к вікі'дваюць. *Ляшч.*

КАРАЎЛО'Т (караўло'т) *мужч.* Калаўрот. *Р. Ч., Так.* Караўло'т стаі'ць пе'рат табо'й, а даўне'й быў караўло'т ляжа'к. *Хож.*

КАРДО'НІНКА (кардо'нінка) *жан.* Памяншальнае ад кардон. Невялікі кусок плоскага кардону. З кні'жнай кардо'нінкі партно'й выраза'ў брыль у ша'пку. *Бяс.*

КАРО'БАЧНІК (каро'бачнік) *мужч., устар.* Карабейнік. Не'калі каро'бачнікі хадзі'лі с тава'рам па сё'лах. Каму' які' тава'р трэ'ба, дык купля'лі. *Цял.*

КАРО'ВІЦА (каро'віца) *жан.* Карова. Як па'сьвілі, то ўкале'чылі. Цяпе'р бес каро'віцы. *Так.*

КАРО'МІСЛА (каро'місла) *ніяк.* Прылада для нашэння вёдзер з вадой. Да каро'місла прыла'джаны кручкі', гэ'тымі кручка'мі зачэ'плівалі за по'чапку вё'дзер і нясьлі'. *Бяс.*

КАРО'НКІ (каро'нкі) *толькі ў мн. Гл.* анталяжы. Каро'нкі даўне'й ба'бы ды дзе'ўкі на вячо'рках пля́лі'. *Мік.*

КАРО'ЎКА (каро'ўка) *жан.* Каліва цыбулі. Мы так і заве'м ка'ліва цыбу'лі каро'ўкай. *Кальч.*

КАРУШО′К (карушо′к) *мужч.* Сцяблo шчаўя. Нарва′ла і адрыва′ла карушкі′ ў шча′ўя. *Варн.*

КАРЫ′ЧВЕННАЯ (кары′чвянная) *прым.* Карычневая. Я кары′чвянных ху′стак ні лю′блю. *Цял.*

КАСА′ (каса′) *жан.* Селязёнка. У на′шага парсюка′ каса′ згніла′, дзі′ва што ён ня еў. До′бра, што закало′лі, а то здох бы. *Дук.*

КА′СЛАЎКА (ка′слаўка) *жан.* Змятая жменя лёну. Ско′лька хо′чаш ка′славак зьвя′жам. *Вішн.*

КАСМІРО′ЎКА (касьміро′ўка) *жан.* Кашміровая хустка. Касьміро′ўка чо′рная ў мяне′ цвята′мі. *Вішн.*

КАТА′НКА (ката′нка) *жан.* Блузка. Ве′льмі до′бра шы′я ката′нкі На′ста Ляво′навых. *Заб., Дук.*

КА′ТАНКІ (ка′танкі) *толькі ў мн.* Цвёрдыя валенкі. Як зімо′й, дык німа′, а цяпе′р во ба′чыш, ляжа′ць ка′танкі. *Шут., Хож., Вайк., Р. Л., Малм.*

КАТУ′С (кату′с) *мужч.* Завязка ў фартуху. Фарту′х завя′зваюць катуса′мі. *Папл.*

КАЎБЯ′К (каўбя′к) *мужч.* Свіны страўнік, набіты дробна пакрышаным мясам, вантробамі, здорам. Цяпе′р бу′дзім каўба′сы е′сьці, а каўбя′к к ле′ту хай вісі′ць. *Аздз.*

КАЎГА′Н (каўга′н) *мужч.* Драўляная міска. Цё′тка нам варэ′ньне ў каўгане′ пры′не′сла. *Кар.*

КАЎНЕ′РЦЫ (каўне′рцы). Манжэты. Не′калі ў саро′чках каўне′рцы былі′ вышыва′ны. *Цял.*

КАЎНЕ′РЧЫК (каўне′рчык) *мужч.* *Гл.* каўнерцы. Трэ′ба ўста′віць но′выя каўне′рчыкі, бо стары′я парва′ліся. *Сал.*

КАЎНЕ′РЫК (каўне′рык) *мужч.* *Гл.* каўнерцы. У руба′шцы каўне′рыкі засьціра′ліся. *Хож.*

КАЦА′ (каца′) *жан.* Тупы канец яйца. Ты як мало′я дзіця′, ня ўме′яш яйцо′ е′сьці. Што ты з но′сіка б′еш, на′да с кацы′ с тупо′га бо′ку. *Сав.*

КАЦЁ′ЛКА (кацё′лка) *жан. Гл.* галава. Кацё′лку рас злама′ла, дык аш у сусе′дняя сяло′ хадзі′ла зака′зваць. *Мік., В. В.*

КАЦЮ′ЛКА (кацю′лка) *жан. Гл.* галава. Ішчэ′ ім і кацю′лка трэ′ба. *Папл.*

КАЧЭ′БРЫК (качэ′брык) *мужч.* Лёгкія сані. Я ўжо но′вы качэ′брык зрабі′ў, прыяжджа′йце, дзе′ўкі, паката′ю. *Жор.*

КАЧЭ′РГІ (качэ′ргі) *толькі ў мн.* Месца, дзе стаяць вілкі, чапяла і інш. Не′дзе ў качэ′ргах дзярка′ч валя′ецца, пада′й яго′ сюды′. *Мік.*

КВА′СКА (ква′ска) *жан.* Кадушка. Была′ по′ўная ква′ска гурко′ў, пае′лі. *Комл.*

КВА′СНЫ (ква′сны) *прым.* Кіслы. Жураві′ны ква′сныя я′гады. *Ляшч.*

КВАСО′ЛЯ (квасо′ля) *жан.* Фасоль. Квасо′ля быва′е двух сарто′ў. *Папл.*

КВАТАРА′НЕЦ (кватара′няц) *мужч.* Кватарант. Мой кватара′няц до′бра зарабля′я. *Цял., Дук.*

КВО′ЛІЦЦА (кво′ліцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Недамагаць. Хло′пяц кво′ліцца, руку′ пабі′ў. *Дук.*

КВЯ′ТЫ (квя′ты) *толькі ў мн.* 1. Кветкі. Пара′ ўжо квя′ты садзі′ць, трэ′ба агаро′дчык ускапа′ць. *Дук.* 2. Кветкі з воску, з якіх робяць вянок нявесце. Ране′й на маладу′ю адзява′лі квя′ты кра′сныя і зе′ляні больш рабі′лі, а цяпе′р то′лькі бе′лыя — ні′якай красаты′. *Жор.*

КЕ′ЎКНУЦЬ (ке′ўкнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Пікнуць. Хло′пяц, як прыці′сьня, дак і ні ке′ўкняш. *Цял.*

КІЖЛА′ТЫ (кіжла′ты) *прым.* Малы, недарослы. І кіжла′таму дрэ′нна быць, і стрынге′лю таксама. Бох ве′дае, які′ паві′нен быць нарма′льны чалаве′к. *Сял.*

КІЛА′ТЫ (кіла′ты) *прым.* Хворы грыжай. Яму′ апяра′цыю рабі′лі, ён жа кіла′ты быў. *Цял.*

КІНДЗЮ′К (кіндзю′к) *мужч. Гл.* каўбяк. Мы, як

зако′лям парсюка′, дак кіндзю′к наліва′ям дра′наю карто′пляю і пяко′м у гара′чай пе′чы. *Дук., Жор.*

КІ′ТА (кі′та) *жан.* Сноп бобу, гароху, саломы. Сноп жы′та, а сало′мы — кі′та. От, як ко′нчаць малацi′ць, так ба′бы дава′й кі′ты вяза′ць. *Хож., Так., Лях.*

КІ′ТКА (кі′тка) *жан.* Вялікі сноп лёну. Мая′ кі′тка мно′га бо′льшая. *Бяс.*

КІ′ШКІ (кі′шкі) *толькі ў мн.* Мякаць у гарбузе, дзе знаходзіцца насенне. *В. В., Папл., Лях.* Гарбу′с бяс кі′шак, а ў гэ′тым мно′га кі′шак. *Ніз.*

КІШЛА′ТЫ (кішла′ты). *Гл.* кіжлаты. Вось які′ ты ў мяне′ кішла′ценькі. *Заастр.*

КЛАДАЎЁ′ (кладаўё′) *ніяк.* Могілкі. У нас кладаўё′ ў ле′сі. *Р. Ч.*

КЛЁ′ВАЦЬ (клё′ваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Адчуваць сябе вельмі слабым. Яна′ чуць клё′вая, му′сіць, памрэ′. *Цял.*

КЛЁ′МБА (клё′мба) *жан.* Клумба. До′бра каля′ ха′ты клё′мбу зрабі′ць. *Ляшч., Так.*

КЛІНО′К (кліно′к) *мужч.* Хустка трохкутнай формы. Звяза′ла сабе′ кліно′к на галаву′. *Сал.*

КЛО′НБЫ (кло′нбы) *жан. Гл.* дзеравяшкі. Пасьля′ гэ′тай вайны′ яшчэ′ я насі′ла кло′нбы. *Вайк.*

КЛУ′МБЫ (клу′мбы) *жан. Гл.* дзеравяшкі. Ня было′ чаго′ абува′ць. Часьце′й за ўсё клу′мбы насі′лі ба′бы. *Сал., Шут.*

КЛУ′МНЫ (клу′мны). *Гл.* дзеравяшкі. Мой дзет но′сіць яшчэ′ клу′мны. *Вішн.*

КЛУ′СТЫ (клу′сты) *прым.* Тлусты. Клу′стага (мяса) я ні магу′ е′сьці. *Цял.*

КЛЫ′НДА (клы′нда) *жан.* Страва з ільняной мукі. Жанкі′ з апецi′там е′лі клы′нду. *Комл.*

КЛЫЧО′К (клычо′к) *мужч. Гл.* кароўка. На′да адлама′ць па′ру клычко′ў цыбу′лі. *Хож.*

КЛЯМЭ′РКА (клямэ′рка) *жан.* Жалезная спражка. І ўсы′паў жа рэ′мня, аш сінякі′ засталі′ся ад клямэ′ркі. *Варн.*

КЛЯ′ПА (кля′па) *жан. Гл.* вылога. Мне застало′ся прышы′ць то′лькі кля′пы. *Вішн.*

КЛЯТЭ′РКА (клятэ′рка) *жан. Гл.* манішка. Надзе′нь Ю′зік, но′выя шта′ны′, я гля′ну, як клятэ′рка палучы′лася. *Пр.*

КЛЮ′ЧЫК (клю′чык) *мужч.* Маленькі вадзяны чарвячок, які будуе вакол сябе домік-трубачку. Калі′ мы былі′ малы′я, то лаві′лі клю′чыкаў у рэ′чцы. Для нас было′ ўсё інцярэ′сна тады′. *Гіл.*

КНЯГІ′НЯ (княгі′ня) *жан.* Нявеста. Ой, на′ша княгі′ня прыго′жа ўвабра′лася. *Комл.*

КО′ЖАЧКА (ко′жачка) *жан.* Скура. Ко′жачку ён іздо′ў у магазі′н. *Дук.*

КО′ЖЫН (ко′жын) *займ.* Кожны. Ко′жын гаду′я свае′ дзе′ці. *Цял.*

КО′ЛКІ (ко′лкі) *толькі ў мн.* Калаццё. Як развярну′ся, дак ко′лкі ў баку′. *Цял.*

КО′ЛЬЦЫ (ко′льцы) *толькі ў мн.* Калені. Пасадзі′ дзіця′ на ко′льцы, хай сьці′хне. *Прудз.*

КО′МІНАК (ко′мінак) *мужч. Гл.* гзымсік. Палажы′ мы′ло на ко′мінак, мы ка′жды рас на ко′мінак ло′жымо. *Горкі.*

КО′НЦАМ (ко′нцам) *прысл.* Абавязкова. Мне сяго′ньня ко′нцам трэ′ба да ма′мы сходзі′ць. *Чан.*

КО′ПАНЬ (ко′пань) *жан.* Сажалка, у якой беляць палатно. У ко′пань но′сім палатно′, як ё′сьць. *Ігр.*

КО′ПКА (ко′пка) 1. Ямка ў печы, куды выграбаюць вуголле. Згарні′ жар у ко′пку, там ён перагары′ць на по′пел. *Бяс.* 2. Круглае паглыбленне на градзе для цыбулі, часнаку. Ко′пкі зро′біш — вада′ не выліва′ецца пасьля′ дажджу′. *Ляшч.*

КО′ПАЧКА (ко′пачка) *жан.* Парастак. У бу′льбе ўжо′ ко′пачкі паказа′ліся. *Ляшч., Быт.*

КО′ПЧЫК (ко′пчык) *мужч. Гл.* капчык. Каля′ капу′сты мая′ гаспады′ня ко′пчыкаў нарабі′ла, ле′пей расьці′ бу′дзя. *Хож., Так.*

КО′СЫ[1] (ко′сы) *толькі ў мн.* У гарбузоў, агуркоў. Гарбузэ′ ко′сы папушча′лі. *Цял.*

КО′СЫ[2] (ко′сы) *толькі ў мн.* Пер'е ў хвасце пеўня. Ка′жды гот харо′шо пе′ўня пакіда′ю, а перазіму′я — га′дасьць стано′віцца, грэ′бінь харо′шы, а ко′саў німа′. *Сав.*

КО′ЎДРО (ко′ўдро) *ніяк.* Саматканая пасцілка, падшытая кудзеляй або ватай. А я ш вам сваё′ ко′ўдро, то′ё, што на пе′чы, цё′плаё, яно′ ўжо дра′хлянько, яшчэ ба′цько мульта′нік купля′ў. *Сав.*

КО′ХЛІК (ко′хлік) *мужч.* Коклюш. Майго′ хло′пца ко′хлік забіва′я, як ста′ня ка′шляць, дак аш захо′дзіцца. *Цял.*

КОЦ (коц) *мужч.* Шарсцяная коўдра. Гэ′ты коц віcе′ў, намачы′ла да на карасі′нку — і патушы′ла. *Сав.*

КО′ШАНЬ (ко′шань) *жан., толькі ў адз.* Нядаўна скошаная трава, якая крыху завяла. Ко′шань дождж намачы′ў. *Ляшч.*

КО′ШЫК-ПАДЖЫВО′ТНІК *мужч.* Кошык з дзвюма ручкамі, які нясуць перад сабой. Я сама′ ба′чыла, як не′сьлі ко′шыкі-паджыво′тнікі зь дзьвіма′ ру′чкамі. *Дук.*

КРА′ЛІ (кра′лі) *толькі ў мн.* Пацеркі. Во, вы′вясіла кра′лі, як цыга′нка. *Ігр.*

КРАПІ′ЎНІК (крапі′ўнік) *мужч. Гл.* бахур. Прывяла′ сабе′ крапі′ўніка і гаду′я. *Дук.*

КРАСІВО′ (красіво′) *ніяк.* Крэсіва для дабывання агню. Каб дабы′ць аго′нь для курэ′ньня, б'юць каме′ньчыкамі адзі′н аб адзі′н, кладу′ць кнот або′ порт і крэ′сюць. Гэ′та і ё′сьць красіво′. *Бяс.*

КРАСІ'ВЫ (красі'вы) *прым.* Прыгожы. Красі'вы, лі'ха яго' ма'тары. *Дук.*

КРА'СНАЯ СУБО'ТА. Субота напярэдадні вялікадня. У кра'снаю субо'ту пяклі' пірагé', а ўно'чы хадзі'лі на ўсяно'чную. *Цял.*

КРАСНІ'НА (красьні'на) *жан.* Бок ткацкага станка. Бу'ду зьбіва'ць красьні'ны. *Пр.*

КРАЦА'СТЫ (краца'сты) *прым.* Рознакаляровы. Сарпі'нка — гэ'та як яка'я краца'стая ткані'на. *Пр.*

КРО'ШКІ (кро'шкі) *толькі ў мн.* Тварог з малаком. Пае'ш кро'шкі с цалё'нкамі. Зьдзе'лаць кро'шкі на сьняда'ньня? *Аздз.*

КРУГ (крух) *мужч.* Верхняя частка мужчынскай шапкі. Яшчэ' во і ша'пка дабрава'тая, але крух вы'гарэў, дык і вы'кінуць пры'дзецца. *Р. П.*

КРУ'ГА (кру'га) *прысл.* Вакол. Хло'пцы схава'лі ключ, дак бе'дныя дзе'ўкі ўсю ноч бе'галі кру'га ха'ты. *Дук.*

КРУГЛЯ'К (кругля'к) *мужч.* Камізэлька. Ма'ма сабе' пашы'ла но'вы кругля'к, а стары' мне аддала'. *Кар.*

КРУГО'М (круго'м) *прысл.* Вакол. Як атрэ'жу хле'ба круго'м бу'лкі, дык хо'піць усі'м. *Дук.*

КРУЖО'К (кружо'к) *мужч.* Дошка, выразаная кругам, для прыкладання капусты, агуркоў. Зрабі' ты кружо'к, капу'ста ня прыложана, мо ўжо' й папо'рцілася. *Дук.*

КРУКІ' (крукі'). Суцэльныя загатоўкі на боты. Хале'ва с пе'радом уме'сьце — гэ'та крукі'. *Варн.*

КРУЦІ'ЦЬ (круці'ць), -чу, -ціш; *незак. тр.* Завіваць валасы. Кру'цяць валасэ' на ану'чы. *Дук.*

КРУ'ЦІЦЬ (кру'ціць) *незак. тр.* Ломіць. Ат шчо'ўя кру'ціць суста'вы. *Дук.*

КРУ'ЧАНЫЯ (ВАЛАСЫ) (кру'чаныя валасэ'). Кучаравыя. У Ма'ні валасэ' ні кру'чаныя. *Дук.*

КРУ′ЧАНЫ (кру′чаны) *прым.* Шалёны. Каза′лі, што ў на′шай вё′сцы кру′чаны саба′ка зьяві′ўся. *Мік.*

КРЫВЕ′ЛЬ (крыве′ль) *мужч.* Кульгавы чалавек. Але′ крыве′ль гэ′ты за ба′бамі бе′гая. *Дук.*

КРЫВЫ′ (крывы′). Кульгавы. Мой мужы′к крывы′, на вайне′ нага′ яго′ пара′няная. *Цял.*

КРЫВЯ′НКА (крывя′нка) *жан.* Калбаса са свіной крыві, прыпраўленая крупамі або мукой. Бяру′ць кроў з муко′ю прыгато′ўляную, наліва′юць у кі′шкі і пяку′ць— вот табе′ і крывя′нка. *Горкі.*

КРЫЖАЧО′К (крыжачо′к) *мужч. Гл.* галава. Аткруці′ўся крыжачо′к, пашука′й. *Варн.*

КРЫСА′ (крыса′). Крысо. Крысу′ пра′вільна атрэ′зала. *Дук.*

КРЫША′Н (крыша′н) *мужч.* Цвёрдая частка капусты, якая знаходзіцца ў сярэдзіне качана. Мае′ дзе′ці ве′льмі лю′бяць крышанэ′, як шатку′ю капу′сту, дак ле′пшыя крышанэ′ паяду′ць, а го′ршыя каро′вя сяку′. *Дук.*

КРЫ′ШКІ (кры′шкі) *толькі ў мн.* Суп. Ве′льмі ш кры′шкі гара′чыя. *Карм.*

КРЭ′ПАЗНЫ (крэ′пазны) *прым.* Вельмі моцны. Мой хала′т стары′, але′ крэ′пазны. *Дук.*

КРЭ′СЛА (крэ′сла) *ніяк.* Устаўка ў мужчынскіх штанах. *Хож., В. В., Папл., Быт., Р. Ч., Ніз., Дук.* Са′ма трудне′й у штана′х — гэ′та вы′краіць крэ′сла. *Заб.*

КУБА′ТАРКА (куба′тарка) *жан.* Цялё, што з′явілася на свет у выніку штучнага асемянення. Быко′ў німа′, іску′сцьвянныя, з гэ′тых куба′тарак цяля′ты малы′я, то′ўсценько, але′ мале′нько. *Сав.*

КУ′БЕЛ (ку′бел) *мужч.* Пасудзіна з клёпак, у якой захоўваюць адзежу. У мае′ ма′мы ку′бел адзе′жы стаі′ць. *Цял.*

КУДЗЯЛЯ′НКА (кудзяля′нка) *жан.* Коўдра з кудзе-

лі. Акрыйся кудзяля′нкай з галаво′ю, цяпле′й бу′дзе. *Жабч.*

КУ′КА (ку′ка) *жан.* Прылада, пры дапамозе якой нарыхтаваную гліну збіваюць у вялікія кавалкі. Зьбіва′ем ку′кай глі′ну, разраза′ем стально′й про′валкай. *Г. п. Беразіно.*

КУ′КЛА (ку′кла) *жан* 1. Жаночая прычоска, калі валасы скручваюцца або заплятаюцца і закручваюцца на патыліцы. Вот у каго′ валасэ′, ку′клу як закру′ціць, дак на ўсю паты′ліцу. *Дук.* 2. Шэсць ручаек ільну, скручаныя разам. Сатру′ць лён, дай зьве′рцяць шэ′сьць руча′як, дак гэ′та ку′кла. *Дук.*

КУЛЁ′К (кулё′к) *мужч.* Верхняя мужчынская кароткая вопратка з саматканага сукна. У дзе′да Міхе′я бе′лы кулё′к. То′лькі стары′я і но′сяць кулькі′ ў каго′ ё′сьць. *Аздз.*

КУМО′ДА (кумо′да) *жан.* Камода. Як ране′й — то ў кумо′ду адзе′жу скла′двалі. *Бяс.*

КУПА′ЦЦА (купа′цца) *незак. тр., перанос.* Зіхацець, як быццам пераліваецца. Чаму′ на вялі′кдзень со′нца купа′яцца? *Цял.*

КУПІ′ЛА (купі′ла) *ніяк.* Купля. Няха′й яно′ згары′ць с такі′м купі′лам, у вас што-не′буць ку′піш, усе′ страля′юць, страля′юць, рвуць з рук. *Сав.*

КУПІ′ЦА (купі′ца) *жан.* Трава, што расце ў балоце на купінах. Там травы′-купі′цы мно′га. *Цял.*

КУРА′ЧЫНА (кура′чына) *жан.* Кураціна. Я ні люблю′ суп с кура′чынаю. *Цял.*

КУРУ′НКІ (куру′нкі) *толькі ў мн.* Карункі. С-пат пасьці′лкі само′й про′стыні не віда′ць, зьвіса′юць то′лькі яе куру′нкі як ты′я зупкі′. *Бяс.*

КУРУ′НЫ (куру′ны) *толькі ў мн. Гл.* анталяжы. У нас і да спадні′цы прышыва′юць куру′ны. *Кальч.*

КУ′КСА (ку′кса) *жан. Гл.* кукла. Цяпе′р ку′ксаў ня

закру′чваюць, бо валасо′ў няма′, усе′ гало′вы паабгалцава′лі. *Дук.*

КУ′ЦАЦЦА (ку′цацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Качацца, курчыцца ад болю. Не, лю′бачка, я ўчо′ра ні была′ нідзе′, цэ′лы дзень жывато′м ку′цалася. *Цял.*

КУЦЦЯ′ (куцьця′) *жан.* Пярэдадне калядд, вадохрышча, а таксама Новага году (па старому стылю). На куцю′ сходзі′ла се′на назьбіра′ла, каб было на чом паста′віць куцю. *Цял.*

КУЦЦЯ′ (куцьця′). 1. Каша з ячных круп. Пяра′т каля′дамі стано′вяць на се′на куцю′. *Цял.* 2. Ячныя крупы. Не′калі са′мі рабі′лі куццю′, таўклі′ ячме′нь у сту′пі. *Цял.*

КУ′ЧАЮ (ку′чаю) *прысл.* Гуртам. Вы ўсе ку′чаю, а я адна′. *Дук.*

КУЧУ′МКА (кучу′мка) *жан.* Шапка з аўчын. *Мік.* Як ша′пка лахма′тая з аўчы′н, то кучу′мка ка′жуць. *Ніз.*

КЯТУ′РКА (кяту′рка) *жан. Гл.* прарэх. Мужчы′нскія ш штаны′ бяс кяту′ркі не быва′юць. *Варн.*

## Л

ЛА′ДНЫ (ла′дны) *прым.* Не малы. Дзе′вачкі ла′днянькія былі: адно′й пяць гот было′, а друго′й тры. *Дук.*

ЛАБУЗЬЁ′ (лабузьё′) *ніяк.* Сцябло мака з лісцямі. Лабузьё′, калі′ патсо′хне, яго′ па′ляць. *Лях.*

ЛА′ДНЕ (ла′дне) *прысл.* Шмат, многа. Я ўжэ не малада′я, мне ла′дне гадо′ў. *Так.*

ЛАЕ′НКА (лае′нка) *ніяк.* Сукенка. Надзе′ла во не′йкае лае′нка. *Няд.*

ЛАМА′КА (лама′ка) *жан.* Чалавек, які вядзе пярвічную апрацоўку льну. Як шмат лама′каў сабяру′ць, так агрыга′там ро′бяць. *Хож.*

ЛАМА′ХА (лама′ха) *жан. Гл.* ламака. А дзе ж лама′ха? То′лькі была′ тут. *Сал.*

ЛАМА′ЦЬ (лама′ць), -ю, -еш; *незак. тр. Гл.* парысаваць. По′ле пад жы′та лама′ць трэ′ба, каб раўне′й зямля′ была′. *Вайк.*

ЛАНІ′ТЫ (ляні′ты) *толькі ў мн.* Шчокі. Лані′ты на маро′зі пачырване′лі. *Заастр.*

ЛАПАТКАВА′ЦЬ (лапаткава′ць), -ую, -еш; *незак. тр. Гл.* вагаць. У канцы′ баразны′ лапатку′юць, кап не застано′ўлівалася вада′. Рыдлё′ўкай баро′зны палапатку′еш ды ваду′ спушча′еш. *Так.*

ЛАПАТУ′ХА (лапату′ха) *жан. Гл.* жаба. *Так., Дук., Лях., Р. П., Бяс., Хож., В. В.* Кляпа′ць ня ўме′еш, касу′ ўсю на лапату′хі пабі′ў. *Сал.*

ЛА′ПАЦЬ (ла′паць), -ю, -еш; *незак. тр.* Хапаць. Лап за каўне′р і німа′. *Ляшч.*

ЛА′ПІНА (ла′піна) *жан.* Невялікая плошча зямлі, на якой расце што-небудзь. Ла′піна малі′н у са′дзі ў старо′й. *Цял.*

ЛАПШЫ′ВЫ (лапшы′вы) *прым.* Прагны. Гэ′ты Васі′ль такі′ ўжо лапшы′вы, усё′ б ён сабе′ захапі′ў. *Ін.*

ЛАСКАТА′ЦЬ (ласката′ць), -чу, -чаш; *незак. тр.* Гаварыць хутка, незразумела. Здалё′к чува′ць, што на фе′рме Я′дзя ласко′ча. *Ст. С.*

ЛА′СТАЎКА (ла′стаўка) *жан. Гл.* крэсла. Як уста′ўка ў штана′х, то гэ′та й ла′стаўка бу′дзя. *Малм., Мік., Горкі, Ляшч.*

ЛА′ТА (ла′та) *жан.* Пустое, голае месца. Калі′ не ўзы′дуць які′я-не′буць насё′на, то там ла′та ро′біцца. *Малм.*

ЛАСУ′Н (ласу′н) *мужч.* Чалавек, які любіць часта хадзіць у госці. Ён до′бры — такі′ ласу′н быў, усё′ хадзі′ў ат ха′ты да ха′ты. *Ляшч.*

ЛА′ТКА (ла′тка) *жан.* Кучка саломы, сена. Спача′тку

мы се′на граблі′ ў ла′ткі, а заты′м ужо′ ў ко′пы склада′лі. *Комл.*

ЛАХМАНІ′НКА (лахмані′нка) *памянш.* ад лахманіна. Парванае адзенне. Па адной лахмані′нцы аддаво′ў. *Дук.*

ЛЕ′ГЧЫ (ле′хчы) *прысл.* Лягчэй. Такі′я анталя′жы — са′ма ле′хчы вяза′ць. *Сал.*

ЛЕМАНТАВА′ЦЬ (лямантава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Галасіць. Яе′ ма′цяру забі′ла гро′мам на сьвіна′рніку. Яна′ так ужо′ лямантава′ла — на ўсё сяло′. *Жор.*

ЛЕ′ТНІЦТВА (ле′тніцтва) *ніяк.* Летні час, летні час адпачынку. У нас мно′га се′м'яў павы′яхаўшых на цаліну′. Прыяжджа′юць то′лькі на ле′тніцтва. *Так.*

ЛЕ′ХА (ле′ха) *жан.* Градка. Вунь гуркі′ на той лясе′ расту′ць. *Вайк.*

ЛЕ′ШКА (ле′шка) *жан. Гл.* леха. У нас гаво′руць — пасе′яў не гра′тку, а ле′шку капу′сты. *Кальч., Лях., Варн., Малм.*

ЛЁ′ЖКІ (лё′шкі) *прым.* Што доўга можа ляжаць, доўга захоўвацца. Я′блакі сё′лета лё′шкія, мо′гуць ляжа′ць да вясны′. *Дук.*

ЛЁ′ЛЯ (лё′ля) *жан.* Сарочка груднога дзіцяці. Сё′ньня яму′ кра′сьнінькую лё′лю надзе′нем. *Мік.*

ЛІ′ВАР (лі′вар) *мужч.* Лейка. Вазьмі′ лі′вар да гра′ды палі′. *Ляшч.*

ЛІГА′РЫ (ліга′ры) *толькі ў мн.* Бярвенні (бэлькі), на якія кладзецца падлога. На ліга′ры кладзе′цца падло′га. Ліга′ры мо′жа зье′сьці грып. *Бяс.*

ЛІ′ПАЎКА (лі′паўка) *жан.* Драўляная пасудзіна, выдзяўбаная з ліпы. Цэ′лую лі′паўку мукі′ сьві′ньні зье′лі. У нас лі′паўка да′ўнішняя. *Аздз.*

ЛІСІ′ЦА (лісі′ца) *жан.* Калодачка з дзірачкамі, праз якія прадзяваюць шнуркі ад панажоў. Мой зрабі′ў мне но′вую лісі′цу. *Гіл.*

ЛІСЦІНА′ (лісьціна′) *жан.* Ліст капусты. Капу′снай лісьціно′й ма′сла прыкры′ла. *Ляшч.*

ЛО′ЖКА (ло′шка) *ніяк.* Ложак. Даўне′й ні′келяво ло′шко — ро′скаш, усё′ дзеравя′нныя былі′, ды ні такі′я, як цяпе′рачы, а самаро′бныя. *Горкі.*

ЛО′НКА (ло′нка) *жан.* Гл. копка. Я ў ло′нку агуркі′ саджа′ю. *Лях.*

ЛО′ПАТНІ (ло′патні) *толькі ў мн. Гл.* жаба. *В. В., Ніз.* Ні до′бра касу′ накляпа′ў, адны ло′патні. *Мік.*

ЛО′ПАЎКА (ло′паўка) *жан. Гл.* жаба. *Быт., Варн., Ігр., Папл., Вайк., Вішн., Ляшч., Заб.* Як няўда′ла зрабі′ў, ка′жуць — нагна′ў ло′павак. *Шут.*

ЛО′ПАЦЕНЬ (ло′пацень) *мужч.* Вялікі круглы свярдзёлак, якім выкручваюць дзіркі ў калодцы кола. Ло′патням выкру′чуюць дзі′рку у кало′тцы, кап надзе′ць на вось. *Цял.*

ЛУНА′ЦЬ (луна′ць), -аю, -еш; *незак. тр.* Хадзіць павольна. Ён хво′ры, таму і луна′я. *Сал.*

ЛУПІ′ЦЬ (лупі′ць), -плю, -іш; *незак. тр.* 1. Моцна біць каго-небудзь. Але′, кап ты сказа′ла; «Лупі′», дак ба і доў. 2. Рваць. Травы′ як налу′пім ля са′жалкі, дак на цэ′лы дзень каро′ві хо′піць. *Цял.*

ЛУ′ПЫ (лу′пы) *жан.* Губы. Лу′пы пакра′шаныя, а мо′рда мурза′тая. *Дук.*

ЛУ′ТЧАЙ (лу′ччай) *прысл.* Лепш. Цяпе′р у нас лу′ччай, чым пры По′льшчы. *Так.*

ЛУШПА′І (лушпа′і). *Гл.* лупіны. Лушпа′і мо′жна браць сьвіньня′м. *Дук.*

ЛЫ′ГА (лы′га) *жан.* Віка. Лы′га піта′цельная для жывё′лы. Лы′га по′ле до′бра выпа′рвае. *Мік.*

ЛЫЧА′НЫЯ ЛА′ПЦІ (лыча′ныя ла′пці). Лапці з лыка. На лыча′ныя ла′пці лазу′ дзяру′ць ля ракі′. *Р. П.*

ЛЭ′ПАЦЬ (лэ′паць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шавяліць губамі. Усё′ губа′мі лэ′пая, але′ маўчы′ць. *Дук.*

ЛЮ′БАЧКА (лю′бачка) *жан.* Ласкальны зварот да жанчыны або дзіцяці. Лю′бачка мая′, я табе′ скажу′, як гэ′та было′. А, лю′бачка мая′, вы′цяў но′шку. *Цял.*

ЛЮБО′ШЧЫ (любо′шчы) *толькі ў мн.* Заляцанні. У іх, брат, любо′шчы буць-буць. Я табе′ дам е′тыя любо′шчы. *Дук.*

ЛЮ′ДНЫ (лю′дны) *прым.* Прыхільны да сваякоў. *Гл.* бязлюднік. *Сав.*

ЛЮ′ШКА (лю′шка) *жан.* Юшка. Гром грымі′ць, трэ′ба лю′шкі пазакрыва′ць. *Хож.*

ЛЯВО′НІХА (ляво′ніха) *жан.* Самагон. Ну і начмо′хаўся ён ляво′ніхі! *Комл.*

ЛЯ′ДА (ля′да) *ніяк.* Рухомая рама ў ткацкім станку з устаўленым у яе бёрдам. До′брае ля′да зрабі′ў. *Варн.*

ЛЯДА′КІ (ляда′кі) *прым.* 1. Дрэнны. Не′йкі ш пэ′нзаль ляда′кі, не магу′ ма′заць. *Масц.* 2. Дрэнны, непаслухмяны (аб чалавеку). Чаму′ гэ′та твой сыно′к такі′ ляда′кі? *Заастр.*

ЛЯДА′ЧЫ (ляда′чы) *прым.* Пераборлівы на яду. Ото′ ляда′чы да яды′, ляжа′ць блінэ′, а ён ка′жа: «Што мы, А′ня, е′сьці бу′дзям?» Муштро′ўны, крый бох. *Сав.*

ЛЯДА′ШТЫ (ляда′шты) *прым.* Слабы. Яна′ ляда′штая была′, ве′льмі до′ўга хварэ′ла. *Дук.*

ЛЯ′МКА (ля′мка) *жан.* Надточаная частка падола ў спадніцы з іншага матэрыялу. Пры′дзецца дабіра′ць матэ′рыі на ля′мку, бо ма′ла набра′ла, не хапа′е на спадні′цу. *Р. П.*

ЛЯПЛЁ′НКА (ляплё′нка) *жан.* Жылое глінабітнае памяшканне. У ляплё′нках зімо′й дрэ′нна жыць, ў іх сы′ра. *Вайк.*

ЛЯПО′НКА (ляпо′нка) *жан. Гл.* ляплёнка. Жыць у ляпо′нцы — не ў ха′це, во′сеньню глі′на сырэ′е, зімо′й трэ′скаецца каля′ пе′чкі. *Сал.*

ЛЯПЯ′НКА (ляпя′нка) *жан.* Зямлянка. За′раз няма′

ўжо ляпя′нкаў. Ляпя′нкі былі′ даўно′-даўно′. *Мік., Хож.*

ЛЯСЁ′НКА (лясё′нка) *жан.* Радняная посцілка, у якой носяць траву, сена. Вы лясё′нкамі траву′ цяга′яцця? *Цял.*

ЛЯХА′ (ляха′) *жан. Гл.* леха. Я сё′лета вунь тры ляхі′ цыбу′лі пасадзі′ла. *Малм.*

## М

МАГІЛІ′ЦЫ (магілі′цы) *толькі ў мн. Гл.* кладаўё. Схадзі′ла на магілі′цы, магі′лку папра′віла. *Малм.*

МА′ГНАСЦЬ (ма′гнасьць) *жан.* Скварнасць. Я кажу′, што гэ′та ма′гнасьць, яны′ до′бра жылі′, кра′сьці ня трэ′-ба было′. *Дук.*

МАДНЕ′Й (мадне′й) *прысл.* Не так, як усе. Няўжо′ мы мадне′й гаво′рым за ўсіх. *Дук.*

МАЖДЖЭ′Р (мажджэ′р) *мужч.* Неразумны чалавек. Мажджэ′р гэ′ты дурны′. *Цял.*

МАЖЫ′НКІ (мажы′нкі) *жан. Гл.* машынкі. Вот як дзьве сьці′сьняш, ды трэ′сьне, гэ′та і ё′сьць мажы′нкі. *В. В.*

МАЗГІ′ (мазгі′) *толькі ў мн. Гл.* кішкі. Вы′кінь мазгі′ гарбузо′вы. Мно′га мазго′ў. *Хож.*

МАЙ (май) *мужч.* Вецце зялёнага дрэва і кустоў, якім упрыгожваюць хаты на сёмуху. На сё′муху ло′мяць май і ха′ты прыбіра′юць. Красі′ва, ве′дама, нало′мяць уся′кага дзе′рава. *Цял.*

МА′ЙТКІ (ма′йткі) *толькі ў мн. Гл.* нагавіцы. У старо′га парва′ліся зрэ′бныя ма′йткі і няма′ ш чаго′ пашы′ць. *Пр.*

МАКАЦЁ′Р (макацё′р) *мужч.* 1. Гліняная пасудзіна, у якой труць мак. Не′калі на куцьцю′ мак цё′рлі ў макатро′х. *Дук.* 2. *Перан.* Нязграбная прычоска, якая робіць галаву падобнай на макацёр. Гало′вы паро′бяць, як макатрэ′, гэ′тымі прычо′скамі. *Цял.*

МАЛАДЗЁ′Ж (маладзё′ш). Моладзь. Не′льга было′ ў магазі′н зайсьці′ маладзё′жу. *В. В.*

МАЛАЦІ′ЎКА (малаці′ўка) *жан.* Малатарня. У яго′ была′ свая′ малаці′ўка, мы ў яго′ малаці′лі. *Цял.*

МАЛЕ′НСТВА (мале′нства) *ніякі.* Маленькае, ласкавае дзіця. Маё′ мале′нства! Дзіця′тка маё′! *Кальч.*

МА′ЛЕЧКА (ма′лечка) *прысл.* Зусім мала. Ма′ляччка во гэ′дак во зрабі′ў і ўжэ паўлі′тра про′сіць. *Цял.*

МА′ЛЬСТВА (ма′льства) *ніякі.* Маленства. Дзяце′й трэ′ба з ма′льства прывуча′ць к пара′тку. *Жор.*

МА′НІЦЦА (ма′ніцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Спрабаваць. Ма′ніліся шука′ць укра′дзеную пшані′цу і жу′лікаў. *Бяс.*

МАНКІРА′НТ (манкіра′нт) *мужч. Гл.* знакі. Кукуру′зу манкіра′нтам у нас манкіру′юць. *Кальч.*

МАНКЁ′Р (манкё′р) *мужч. Гл.* знакі. Манкё′р каро′ва палама′ла, каб яна′ здаро′ва была′. *Так.*

МАНКЕ′Т (манке′т) *мужч.* Манжэта. Ні′ на′да рукавы′ на рызі′нцы, з манке′там пашы′й. *Вішн.* 2. Частка рукавіцы. У рукаві′цах у нас манке′ты ро′бяць ура′мачку. *Р. П.*

МАНІ′ЦЫ (мані′цы) *толькі ў мн. Гл.* барніцы. Мані′цы спача′тку выбіра′юць. *В. В.*

МАНІ′ШКА (мані′шка) *жан.* Накладка на правую частку прарэха ў мужчынскіх штанах. *Мік., Варн., Малм., Папл., Быт., Шут., Р. Ч., Сал.* Не′йкая ў мяне′ мані′шка вы′йшла ні ро′ўная. *Заб.*

МА′ННАВАЯ КА′ША (ма′ннавая ка′ша). Каша з манных круп. Дзе′цям ва′рацьма′ннавую ка′шу з ма′ннавай крупы′. *Бяс.*

МАРАЗЯ′НА (маразя′на) *прысл.* Марозна. Гуркі′ ўжо прарасьлі′, а тут так маразя′на ста′ла, што ўсё і прапа′ла. *Жор.*

МА′РКЕР (ма′ркер) *мужч. Гл.* знакі. *Шут., Р. Ч.,*

*Лях.* Стары′, зрабі′ў бы ты мне ма′ркер, а то надае′ла хадзі′ць пазыча′ць. *В. В.*

МАРМУЛЯ′ДА (мармуля′да) *жан.* Мармелад. Мармуля′да зь я′блыкаў ро′біцца. *Ляшч.*

МАРЦ (марц) *мужч.* Сакавік. У ма′рцы ме′сяцы ўстрэ′ціла но′вага прасяда′целя. *Так.*

МАРШЧА′К (маршча′к) *мужч.* Маршчына. Мой твар уве′сь у маршчако′х, бо, ве′дама — стара′я. *Цял.*

МАРШЧА′ТАЯ (маршча′тая) *прым.* Маршчыністая. Ціпе′р яна′ старэ′йшая за мяне′, маршча′тая, худа′я. *Цял.*

МАРЫНА′РКА (марына′рка) *жан.* Світка, якая апранаецца на кажух. Надзе′нь, Іва′не, марына′рку наве′рх, каб было′ цяпле′й. *Сал.*

МАСЛЕ′НІК (масьле′нік) *мужч.* Масляк. Цяпе′р ужо′ ве′даю, дзе масьле′нікі расту′ць. *Дук.*

МА′СЛЕНКА (ма′сьленка) *жан.* Масленіца (свята). Ужо′ пасьле′дні ты′дзень ма′сьленкі. *Быт.*

МАСЛІНО′ЎКА (масьліно′ўка) *жан.* Хустка з шэрсці фабрычнага вырабу з кветкамі. У цё′ткі Мары′лі ё′сьць да′ўнішняя масьліно′ўка, на тэй цьвяты′, як жывы′я, заглядзе′ньне. *Аздз.*

МАСЦЕРАВЫ′ (масьцеравы′) *прым.* Майстравы. Але′сь масьцеравы′, рабі′ў сле′сарам па пя′таму разра′ду. *Сав.*

МАСЦЬ (масьць) *жан.* Мазь. На два рублі′ ма′сьці купі′ла, нага′ балі′ць. *Дук.*

МАТАВІ′ДЛА (матаві′дла) *ніяк.* Матавіла. *Шут., Варн.* Шчэ ні′ткі зьвіва′юць і на матаві′дла. *Малм.*

МАТО′ЦЫК (мато′цык) *мужч.* Матацыкл. У яго′ ў се′нцах зусі′м но′венькі мато′цык стаі′ць. *Астр.*

МАТРО′СКА (матро′ска) *жан.* Жаночая блузка з кароткім рукавом. Згра′бненькая матро′сачка атрыма′лася. *Сал.*

МАХНА′ШКА (махна′шка) *жан.* Галавешка. Вы′кінь махна′шку сь пе′чы і закры′й печ, а та ўча′дзець мо′жна. *Якш.*

МАХРА′ТКА (махра′тка). Сорт бульбы (дробная, але ўрадлівая). Вот та′я карто′пля махра′тка, што пат карчо′м мно′га, але′ мале′нькая, до′бра разва′руяцца. *Цял.*

МАХРАШЫ′ (махрашы′) *толькі ў мн.* Карэнні цыбулі. Як пляце′ш цыбу′лю, махрашы′ абраза′іш. *Так.*

МАЦЕ′РАЯ (маце′рая) *прым.* Моцная, здаровая. Ну і маце′рая ў цябе′ жо′нка! *Сял.*

МАЦІЛІ′ННЕ (маціліʹньня) *ніяк., зборн.* Агульная назва тонкай лёгкай тканіны. Быў у мяне′ празры′сты ша′лічак, з маціліʹньня. *Заб.*

МАЧО′НКА (мачо′нка) *жан.* Вапнянка. Мачо′нкі во′ўначкай абро′шшы. *Ляшч.*

МАШЫ′НКІ (машы′нкі) *жан.* Кнопкі. Купі′ машы′нкаў у ко′фту. *Шут., Пр., Дук.*

МЕ′ЖДЫ (ме′жды) *прыназ.* Паміж. Ме′жды Мя′дзяла і Кабы′льніка жылі′. *Ляшч.*

МЕ′НЕЙ (ме′ній) *прысл.* Менш. Ніха′й яно′ бу′дзіць ме′ній, але′ тваё′. *Ляшч.*

МЕСЯНДЗО′ВЫ (месяндзо′вы). Медны. У нас не′калі месяндзо′вы ўцюх быў. *Дук.*

МЕТР (метр) *мужч.* Цэнтнер. Гэ′ты мяшо′к цу′кру ро′ўна метр ва′жыць. *Комл.*

МІЖЫ′ПАРНІЦА (міжы′парніца) *жан.* Нарыў паміж пальцаў. У міне′ міжы′парніца была′ міш па′льцаў на ле′вуй руцэ′. *Цял.*

МІ′ЛТА (мі′лта) *жан.* Страва, прыгатаваная з аўсянай мукі на халоднай вадзе. У хало′ннай вадзе′ раскало′чвалі аўся′ную муку′ і запраўля′лі але′ім. *Аздз.*

МІ′ЛЬГАЦЦА (мі′льгацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Мітусіцца. Яна′ мі′льгаяцца — ні туды′, ні сюды′. *Дук.*

МІС (міс) *прыназ.* Між. Не′шта мне міс плеч балі′ць. *Дук.*

МІ′ТУСЬКІ (мі′туськi) *прысл.* Улукаткі. Хаце′ла вяза′ць сюды′-туды′, мі′туськi. *Дук.*

МО (мо). Можа. Та′я, мо, купі′ла шкап. *Дук.*

МО′ГЛІЦЫ (мо′глiцы) *толькі ў мн. Гл.* кладаўё. На мо′глiцах, на но′вых, усё′ па-мятнікі і абгаро′ткі. *Цял., Лях., В. В.*

МО′ДА (мо′да) *жан.* Прывычка. У іх німа′ мо′ды, кап пярашы′ць старо′я. *Дук.*

МО′КРЫ ГОД (мо′кры гот). Дажджлівы. Дрэ′нна мо′крым го′дам — усё′ гніе′. *Ляшч.*

МО′РГАВА (мо′ргава) *жан.* Морква. Не абышла′ сё′лета мо′ргава. *Ляшч., Шут.*

МУЖЫ′К (мужы′к) *мужч.* Муж. Гэ′та мужыка′ кі′нула. *Дук.*

МУЛЁ′Н (мулё′н) *мужч.* Палка, пры дапамозе якой круціцца верхні камень у жорнах. Мулё′н быў до′бры, гла′ткi, а гэ′ты мулё′н — шурпа′ты, дак аж ру′кі баля′ць, кру′цячы жо′рны. *Бяс.*

МУР (мур). Жылы будынак з гліны або з камення. У вё′сцы то′лькі адзі′н мур, гла′ткі, вы′белены, аста′тнія ха′ты — усе з дрэ′ва. *Кальч.*

МУРАВА′НКА (мурава′нка) *жан.* Цагляны будынак. Пры пано′х пчо′лы ў мурава′нках зімава′лі. *Цял.*

МУРГА′ЦЬ (мурга′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Міргаць. У нас быў адзі′н, яго′ вы′слалі, дак ён на кірмашы′, бы-ва′ло, усё′ мурга′е. *Бяс.*

МУЛЬТАНО′ЎКА (мультано′ўка) *жан.* Кофта з мультану. Спра′ўную мультано′ўку Я′дзя пашы′ла, якра′з па мне. *Горкі.*

МУ′СІ (му′сі). Мусіць. Му′сі, васьміна′ццаці год ні было′ яму′. *Ляшч.*

МУЧА′Н (муча′н) *мужч.* Расліна. Расьце′ ў ле′се та-

кі′ распрасьціра′сты, лістэ′, як на брусьні′чніку. Яго су′шаць, таўку′ць, зава′рваюць. Тагды′ туды′ кладу′ць то′я, што трэ′ба кра′сіць. Мучано′м ве′льмі до′бра кра′сіць. *Цял.*

МЭ′ЦНУЦЬ (мэ′цнуць), -ну, -неш; *зак. тр.* Памацаць. Я мэ′цнула, дак там кроў. *Цял.*

МЯ′ГНУЦЬ (мя′гнуць) *незак. тр.* Хадзіць, бегаць па сене (саломе). Сплю і чу′ю, як кот мя′гае па се′не. Чу′ла, як мя′гнуў ра′ніцай апо′шні рас і зьнік. *Бяс.*

МЯДЗВЕ′ДЗЬ (мядзьве′ць) *мужч.* Бульбяная каша. Во мядзьве′ць сё′ньня на сла′ву ўда′ўся. *Астр.*

МЯДНІ′ЦА (мядні′ца) *жан.* Вялікая міска. Дзе Алё′на? Бялі′зну ў мядні′цы мы′е. *Рак.*

МЯНШЭ′ЙШЫ (мяншэ′йшы) *прым.* Меншы, малодшы. Дво′я дзяце′й мяншэ′йшых. *Дук.*

МЯРЦВЕ′Ц (мярцьве′ц) *мужч.* Мярцвяк. Сьпяку′ць пе′ршы блін, разло′млююць на кусо′чкі і кладу′ць на во′кна, мярцьвіцо′м, ка′жуць. *Цял.*

МЯ′СА (мя′са) *ніяк.* Мясістая частка гарбуза. *Лях., В. В., Хож.* Зь мя′са ў нас ка′шу ва′раць. *Р. Ч.*

МЯСТЭЧКА (мястэ′чка) *ніяк.* Цэнтральная частка сяла. На мястэ′чку ў нас усе′ схо′ды прахо′дзяць, хло′пцы і дзяўча′ты зьбіра′юцца, як захо′чуць пагуля′ць і папе′ць. *Жор.*

МЯСЁ′НЖКА (мясё′ншка). *жан.* Мясцовы гатунак бульбы. Мясё′ншка ра′на расьце′ць, скарэ′й як гэ′та ўся. *Малм.*

МЯ′ЦІВА (мя′ціва) *ніякі.* Бацвінне. Бура′чнага мя′ціва сьвіньня′м накрышы′ла. *Шут.*

МЯ′ЧКА (мя′чка) *жан. Гл.* вымінака. *Малм., Папл., Вайк., Ляшч., Пр., Шут.* Мя′чкі мну′ць, то′лькі мя′ліцы дра-драх! Ско′лька там за дзень адна′ мя′чка намне′ць, тра′хтар — во! *Бяс.*

МЯША′ЦЦА (мяша′цца), -аю-ся, -аеш, -ся, *незак. тр.* Умешвацца. Вы то′лька ні мяша′йціся, я сам зраблю′. *Цял.*

## Н

НАБО′Р (набо′р) *мужч.* Неабходны матэрыял, каб пашыць боты. Былі′ купі′лі два набо′ры на бо′ты. *Дук.*

НАБРА′КЛАЕ (набра′клае) *дзеепрым.* Намочанае, але не прарослае (насенне). Сё′ньня набра′клыя гуркі′ садзі′ла. *Ляшч.*

НАБРА′КШАЕ (набра′кшае) *дзеепрым.* Гл. набраклае. Набра′кшае зе′рне мо′жна садзі′ць на гра′ды. *Шут., Хож.*

НАБРУНЯ′ЎШАЕ (набруня′ўшае) *дзеепрым.* *Гл.* набраклае. Насе′ньне ўжо набруня′ўшае, ско′ра прарасьце′. *Так.*

НАВАЛІ′ЦЬ (навалі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Нагаварыць. Не′калі пяра′д людзьмі′ нава′ліць уся′к на мужыка′. *Дук.*

НАВЕЛІЧКІ′ (навялічке′) *прысл.* У вышыню. Навялічке′ ён дарма′, ні ве′льмі малы′. *Цял.*

НА ВЕ′РСЕ (на ве′рсі) *прысл.* Верхам. Не′хта е′хаў на ве′рсі на кані′. *Цял.*

НАГА′МАЦЦА (нага′мацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Наесціся. Ужо′ не хачу′ са′ла, я нага′маўся кру′пніку. *Мік.*

НА′ГДЫ (на′гды) *прысл.* Іншы раз. На′гды дождж ідзе′ вялі′кі, а на′гды ма′ленькі. *Бяс.*

НАГІБА′ЦЦА (нагіба′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Нагінацца. Мне не′льга нагіба′цца, сярэ′дзіна балі′ць. *Цял.*

НАДАБРА′ЦЬ (надабра′ць), -дбяру, -дбярэш; *зак. тр.* Узяць толькі невялікую частку. Узяла′ надабра′ла мукі′, а пасы′пала со′лі, а тады′ зноў мукі′. *Дук.*

НАДАРА′ЦЦА (надара′цца) *незак. тр.* Здарацца пры выпадку. Зарабо′так у яе′ малы′, але′ надара′яцца, дык яна′ падрабля′я. *Жор.*

НАДАЎЖКІ′ (надаўшке′) *прысл.* Удаўжыню. Надаўшке′ до′бры гэ′ты хала′т. *Цял.*

НАДЗЕ′ЖНІК (надзе′жнік) *мужч.* Тканая сурвэтка, якой накрываюць дзежку з цестам. У на′шай ба′пкі ё′сьць надзе′жнік, вы′тканы яшчэ′ яе′ ма′ткаю. *Кар.*

НАДЗЕ′ЦЦА (надзе′цца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* Апрануцца. Я надзе′лася ды пашла′ на ву′ліцу. *Дук.*

НАДЗІМА′ЦЬ (надзіма′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Начыняць. Ку′рыцу до′бра надзіма′ць пячэня′мі. *Цял.*

НАДУКАВА′ЦЬ (надукава′ць), -кую, -куеш; *зак. тр.* Навучыць. Я яе′ надуку′ю, хай усё′ вы′скажа. *Цял.*

НАДЗЯ′ЎБЦІ (надзя′ўпці), -у, -еш; *зак. тр.* Насекчы. Пашла′ надзяўбла′ капу′сты — мё′рзлая. *Дук.*

НАЖЭ′НЬКІ (нажэ′нькі) *толькі ў мн.* Нажніцы. На′шы нажэ′нькі абыкнаве′нныя, як і ўсе. *Кальч.*

НАЖУ′ТКА (нажу′тка) *жан.* Верхняя жаночая вопратка з рукавамі, якую носяць паверх кашулі. Нажу′тку мне купі′ў уну′чак Пе′трык. *Вішн.*

НАЗА′ЎТРАЕ (наза′ўтрае) *прысл.* Заўтра. Наза′ўтрае ма′ма ўста′ла і пайшла′ ў сьві′ран дабра′ ку′рам пасы′паць. *Бяс.*

НАЗДРА′ (наздра′) *жан. Гл.* мазгі. Замно′га наздры′ ў гарбузе′. *Ваўк.*

НАЗУ′БЛЕНАЕ (назу′бленае) *прым.* Насенне, якое толькі пачынае прарастаць. *Р. Ч., Папл.* У зямлю′ пакла′лі назубленае зе′рня. *В. В.*

НАІНСТРУМЭ′НЦІЦЬ (наінструмэ′нціць), -чу, -ціш; *зак. тр., перан.* Натравіць, нацкаваць. Яшчэ′ й ма′цяру наінструмэ′нціла, і та′я тро′хі перагавары′лася. *Сав.*

НАЙГРАВА′ЦЦА (найграва′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Здзеквацца, смешкі строіць. От з гэ′таго старо′га

ўсе найграва′юцца, сьме′шкі стро′яць, а яму′ ж усяго′ хо′чацца — і пачу′ць і ўве′даць. *Сав.*

НАКАЗА′ННЕ (наказа′ньня) *ніяк.* Пакаранне. Яму′ наказа′ньня далі′. *Цял.*

НАКА′Т (нака′т) *мужч.* Дарога, вымашчаная бярвеннямі. Па нака′ця ке′пска е′хаць, бо ён ве′льма павыбіва′ны. *Дук.*

НАКЛАДА′ЦЬ (наклада′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Надзяваць. Накладзі′ кашу′лю чы′стую. *Варн.*

НАКЛА′СЦІ (накла′сьці), -ду, -дзеш; *зак. тр.* Надзець. Накла′ла но′вую суке′нку. *Р. Ч.*

НАКЛЮ′НУТАЕ (наклю′нутае) *дзеепрым. Гл.* назубленае. *Кальч., Заб.* Наклю′нутае се′мя адра′зу і са′дзім. *Ляшч.*

НАЛАКТА′ЦЦА (налакта′цца), -чу-ся, -чаш-ся; *зак. тр.* Напіцца. Налакта′ўся во′ткі, чуць дамо′ў папо′ўс. *Кальч.*

НАМЕ′ТКА (наме′тка) *жан.* Кавалак тонкага кужэльнага палатна, які абмотвалі жанчыны вакол галавы. Гадо′ў мо сто наза′т насі′лі наме′ткі. *Малм.* У Шэ′вішчыне жанчы′ны накрыва′лі на гало′вы наме′ткі. *Папл.*

НАМІ′ТУСЬ (намі′тусь) *прысл.* Спосаб вязання: вочка направа, вочка налева. У мяне′ рукаві′цы зьвя′заныя намі′тусь. *Быт.*

НАМО′Т (намо′т) *мужч. Гл.* наметка. Намо′т шы′лі са свайго′ палатна′ яшчэ′ пры прыго′не. *Р. Ч.*

НАМО′ТКА (намо′тка) *жан. Гл.* наметка. Намо′тку не′калі заму′жнія ба′бы насі′лі. *Ніз.*

НАПАМКІ′ (напамке′) *прысл.* Ні ў галаве. Я паляджу′, але′ мне ні напамке′ запыта′цца. *Цял.*

НАПАЦЁ′НКУ (напацё′нку) *прысл.* Упоцемку. С кіно′ ішлі′ напацё′нку, дык стра′шна было′. *Варн.*

НАПЕРАКІ′ (напяраке′) *прысл.* Насупроць. Усё′ ро′біць напяраке′, абы′ пасвары′цца. *Цял.*

НАПЕ′РВАЦЬ (напе′рвуць), -ю, -еш; *незак. тр.* Уставіць спіцы ў вобад. Сьпі′цы напе′руюць у во′бат. *Цял.*

НАПІНА′ЦЦА (напіна′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Перашкаджаць. Хале′ра яго′ ве′дая, каму′ гэ′та са′ла напіна′яцца. *Дук.*

НЕПРЫЛЮ′ДАК (непрылю′дак) *мужч.* Нелюдзень. Што зь яго′ во′зьмеш, непрылю′дак ён не′йкі. *Сл.*

НАПЯ′РЦІК (напя′рцік) *мужч.* Напарстак. Калі′ шы′юць, дык надзява′юць напя′рцік на па′ляц. *Ігр.*

НАПЯ′ЦЬ (напя′ць), -пну, -пнеш; *зак. тр.* Надзець. Я хала′т напя′ла і хаджу′ цэ′лы дзень. *Дук.*

НАРО′ССЫПІ (наро′ссыпі) *прысл.* На апошнім месяцы цяжарнасці. Яна′ наро′ссыпі, уско′расьці прывядзе′ дзе′вачку або′ хло′пчыка. *Сав.*

НАПЯ′ЦЦА (напя′цца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* Намагчыся. Дак яны′ і напя′ліся, кап яго′ ўзяць. *Дук.*

НАРАЗГАНЯ′ЦЬ (наразганя′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Наразорваць. Учо′ра карто′плі шмат наразганя′лі, дак чуць ні заначава′лі на по′лі. *Цял.*

НАРЭ′ШЦЕ (нарэ′сьце) *прысл.* Пазней за другіх, пасля другіх. У яе тры дачкі′, дак бо′льшая вы′шла за′муж нарэ′сьце. *Цял.*

НАРУ′ЧНІК (нару′чнік) *мужч.* *Гл.* манкет. *Быт.*, *Мік.* Вя′жам нару′чнікі сь цьвятны′х ні′так, з па′лачкамі. *Дук.*

НАСА′ДКА (наса′тка) *жан.* *Гл.* адноснік. Даста′нь наса′тку ды пот вы′тры. *Заастр.*

НАСО′ЎКА (насо′ўка) *жан.* Вопратка ў выглядзе плашча, якая надзяваецца на кажух. Цяпе′р заме′ст насо′ўкі больш плашч ці накі′тку яку′ю надзява′юць. *Аздз.*

НАСПІ′ЧЫЦЬ (насьпі′чыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Уста-

віць спіцы ў калодку. Кало′тка ўжэ′ насьпі′чаная, ціпе′р трэ′ба во′бат нацяну′ць. *Цял.*

НАСТА′ВІЦЬ (наста′віць), -ўлю, -віш; *зак. тр.* Надшыць што-небудзь новым ці другім матэрыялам. У сукеʼнцы плячуке′ параздзіра′ліся, дак я наста′віла другі′м, мо шчэ пано′сіцца тро′ха. *Дук.*

НАСУБІРА′ЦЬ (насубіра′ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Назбіраць. Трэ′ба было′ п тро′хі грыбо′ў к ве′чару насубіра′ць. *Якш.*

НАТА′РЫЦЬ (ната′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Надраць бульбы на тарцы. Мой мне і бу′льбы ната′рыць і ба′пку паста′вя. *Кол.*

НА′ТШЫ (на′тшы) *займ.* Інакшы. Дзіва′н купі′ла на′тшы як той, што быў. *Дук.*

НА′ЎЕЧКА (на′ўечка) *жан.* Сукенка, якую надзяваюць дружкі на вяселле. Прышлі′ дзе′ўкі на вясельля ўсе ў на′ўечках, а я адна′ ў спадні′цы ды ў ката′нцы. *Жор.*

НАЎЗМЁ′Т (наўзьмё′т) *прысл.* Навока, не мераўшы. Прышлі′ наўзьмё′т, раскі′далі і ўсё. *Ляшч.*

НА′ЎЛЕЧКА (на′ўлечка) *жан.* Навалачка. Бе′лыя на′ўлечкі ста′лі шыць няда′ўна і надзява′ць на на′сыпку. Не′калі спа′лі на адно′й на′сыпцы, без на′ўлечкі. *Бяс.*

НАЦЭ′ЎНІК (нацэ′ўнік) *мужч. Гл.* манкет. Цяпе′р ка′жуць манжэ′тка, а не′калі дык нацэ′ўнік называ′лі. *Варн.*

НА′ЧАЙ (на′чай) *прысл.* Інакш. У іх на′чай гаво′раць, як у нас. *Цял.*

НАЧЫ′СТА (начы′ста) *прысл.* Поўнасцю. Не′мцы начы′ста вы′граблі ўсё. *Ляшч.*

НАШЫВА′НЫ (нашыва′ны) *дзеепрым.* Вышыты. Не′калі каўнярэ′ нашыва′ныя былі′ чырво′нымі і чо′рнымі ні′ткамі. *Цял.*

НЕДАБО′Й (недабо′й) *мужч.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. Ай, які′ недабо′й у мяне′ ат-

рыма′ўся, ужо′ сла′бае бё′рда. *Кальч., Шут., Лях., Заб., В. В.*

НЕДАЛЭ′НГІ (нідалэ′нгі) *прым.* Няздольны, няздатны. Не′йкі нідалэ′нгі ён хло′пяц. *Бобр.*

НЕДАСЕ′К (недасе′к) *мужч.* *Гл.* недабой. *Малм., Р. Ч., Папл., Мік., Р. П., Ляшч.* Пасадзі′ла дурну′ю гэ′ну, дак сла′ба бё′рдам бі′ла: недасе′к атрымаўся. *Вішн.*

НЕДАТКНЕ′НТЫ (нядаткне′нты) *дзеепрым.* Недаткнёны. Такі′ ўжо ты стаў нядаткне′нты, што і сло′ва ня скажы′. *Дук.*

НЕ′МА (не′ма) *прысл.* Вельмі моцна. Не′ма крыча′ла, як прысла′лі на аляме′нты. *Дук.*

НЕМАГУ′ШЧЫ (немагу′шчы) *прым.* Вельмі слабы. Я ні пярайду′ праз даро′гу, я німагу′шчы. *Цял.*

НЕ′МЕЦ (не′мяц) *мужч., зборн.* Немцы. Як прышо′ў не′мяц, лясы′ рубі′лі пат пе′нь. *Ляшч.*

НЕНАБІРУ′ШЧЫ (ненабіру′шчы) *прым.* Незаразлівы. До′ктар казо′ў, што як вы′дзяш на двор, дак адзё′р нінабіру′шчы. *Цял.*

НЕПРАЛО′ЖНАЯ (непрало′жная) *дзеепрым.* Занесеная снегам. Па непрало′жнай даро′зе ця′шка е′хаць, са′ні вя′знуць. *Малм.*

НЕПРАХО′ДЗІМЫ ЛЕС. Густы вялікі лес, які трудна прайсці. Лясо′ў ніпрахо′дзімых было′ тут ко′лькі! *Ляшч.*

НЕ′РАДЗЬ (не′рацьь) *жан.* Дробныя ягады. Выбіра′ць надае′ло не′рацьь гэ′ту, сё′лета клубні′ка плаха′я. *Сав.*

НЕ′РАСЛЬ (не′расль) *жан.* *Гл.* нерадзь. Неўрадзі′ла клубні′ка, не′расль адна′, паго′да прыжа′рыла. *Сав.*

НЕ′ТРА (не′тра) *жан.* Поле, якое ніколі не апрацоўвалася. Нічагу′сенькі німа′ ту′така, там ужо′ не′тра. *Так.*

НЕ′ТШТО (не′тшто) *прысл.* Многа. У нас гэ′тага стар′я′ дак не′тшто. *Цял.*

НЕЦІКА′ВАЯ ТРАВА′ (неціка′вая трава′). Непрыгодная для корму. Трава′ неціка′вая, сьві′ня ні хо′чуць е′сьці. *Цял.*

НІ′ГДЫ (ні′гды) *прысл.* Ніколі. У нас ні′гды гэ′дак ні было′. *Ляшч.*

НІ′ЗКІ НА ВО′ЧЫ (ні′скі на во′чы). Блізарукі. Ён ні′скі на во′чы, трэ′ба ачке′ купля′ць. *Цял.*

НІ′ЧАЛЬНІЦА (ні′чальніца) *жан.* Прыстасаванне з нітак або шнурочкаў, цераз якія працягваюць ніткі асновы. *Варн., Так.* На гары′ ляжа′ць у Бэ′нюка ні′чальніцы гэ′тыя. Зьвяза′ла но′выя ні′чальніцы. *Кальч.*

НІЧО′ГАЧКА (нічо′гачка) *прысл.* Нічагусенькі. Зь іх жа німа′ нічо′гачка. *Дук.*

НОЛЕ′ (ноле′) *сцвярдж. часціца.* Ага, але (да). Ноле′, за′ўтра абавяско′ва пайду′ ў лес. *Масц.*

НО′СНІЦА (но′сьніца) *жан. Гл.* адноснік. Пакладзі′ ў кішэ′ню бе′лую но′сьніцу, яна′ ш прыгажэ′йшая. *Якш.*

НО′ШКА (но′шка) *жан.* Вязка, клунак. Як са′ла но′шку накладзе′ чуць пане′сьці, дак до′бра. *Дук.*

НУРЭ′ІНА (нурэ′йіна) *агульн.* Нелюдзімы, непрыязны флегматычны чалавек. Я на яго′ во′ка ні ма′ю, на таго′ О′леся, нурэ′йіна гэ′та, і ў вас быў, і мне нічо′га ні сказа′ў. *Сав.*

НЮ′ХАЎКА (ню′хаўка) *жан., перан.* Нос. Як даў фі′гу ў ню′хаўку, аж ню′хаўка зьвярну′лася. *Бяс.*

НЯВЕ′ХНА (няве′хна) *жан.* Нявестка. Ба′цюшка казо′ў, што Кацяры′на праз няве′хну паме′рла. *Цял.*

НЯДЗЕ′ЛЯЙ (нядзе′ляй) *прысл.* У нядзелю. У Ашмя′ну е′зьдзілі на кірма′ш нядзе′ляй. *Кальч.*

НЯЙМАВЕ′РНЫ (няймаве′рны) *прым.* Неспагадлівы. Які′я вы няймаве′рныя, ён ка′жа, што хво′ры, а вы ні ве′рыця. *Цял.*

НЯМА′ШАКА (німа′шака). Няма. Німа′шака больш нічо′га ў іх. *Цял.*

НЯЎДО′БА (няўдо′ба) *жан.* Поле, непрыгоднае для апрацоўкі. *Шут., Ляшч., Папл., Р. П.* Ня ва′рта се′яць на гэ′най няўдо′бе. Няўдо′бы куста′мі парасьлі′. *Вайк.*

НЯЎДО′БІЯ (няўдо′бія) *жан. Гл.* няўдоба. За ле′сам там ду′жа няўдо′біі. *Кальч.*

НЯЎДО′БНІЦА (няўдо′бніца) *жан. Гл.* няўдоба. Е′сьць няўдо′бніцы ў нас і на гара′х. *Заб.*

НЯЎДО′БШЧЫНА (няўдо′пшчына) *жан. Гл.* няўдоба. Ат, на няўдо′пшчыне і ні пасе′еш. *Мік.*

НЯХО′РАША (ніхо′раша) *прысл.* Брыдка. Пла′каць ніхо′раша, пяраста′нь. *Дук.*

## О

О′КСВА (о′ксва) *жан. Гл.* Асва. Знайшлі′ гняздо′ о′ксвы і разбуры′лі. *Вішн.*

О′РНАЯ (о′рная) *прым.* Добра апрацаваная зямля. *Хож.* О′рная зямля′ харо′шая. У нас уся′ така′я. На о′рнай зямлі′ што хо′чаш пасе′еш, а на пусто′й адно′ грэ′чку ра′ньша се′ялі. *Мік.*

О′СВА (о′сва) *жан. Гл.* Асва. О′свы больш у ле′сі жыву′ць. *Вайк.*

ОСЬ (ось) *часц.* Вось. Ось я пакажу′, што купі′ла. *Дук.*

## П

ПАБІ′ЦЬ (пабі′ць), -б'ю, -б'еш; *зак. тр.* Ударыць. Пабі′ла па′ляц, і цяпе′р яшчэ′ балі′ць. *Дук.*

ПАБЛЯКА′ЦЬ (пабляка′ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Абцянуць гузік матэрыяй. Трэ′ба мне ішчэ′ гу′зікі пабляка′ць. *Ляшч.*

ПАБРАЙСА′ЦЬ (пабрайса′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Баранаваць па пасеяным. Трэ′ба жы′та пабрайса′ць, кап ні

было′ на вярху′, кап пта′шкі ні выбіра′лі й на сло′нцы кап ні пякло′. *Так.*

ПАБУРЫ′ЦЬ (пабуры′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Распусціць вязанае. Штанэ′ пабуры′ла і зрабі′ла дзьве па′ры рукаві′ц. *Дук.*

ПАВАЛАКА′НЫ (павалака′ны) *дзеепрым.* Абшыты (тканінай). Адзе′нь кажу′х павалака′ны. *Вішн.*

ПАВЕ′ТРА (паве′тра) *жан.* Хвароба. Не′кая паве′тра на мяне′ напа′ла. *Дук.*

ПАВІЛЮ′ХА (павілю′ха) *жан.* Хвароба ягадных раслін. Про′ста пазна′ць америка′нскую павілю′ху: бе′лыя пяткі′ на а′грэсьці. *В. В.*

ПАВО′ДЗІЦЦА (паво′дзіцца) *незак. тр.* Трымацца. У яе′ і гро′шы паво′дзяцца. *Цял.*

ПАВУЦІ′НКА (павуці′нка) *жан.* Тонкая лёгкая тканіна. То′ненькі даліка′тненькі мацерыя′л — гэта і е павуці′нка. *В. В.*

ПАВУЦЦЁ′ (павуцьцё′) *ніяк.* Павуцінне. Павуцьцё′ паву′к ўе. Му′ха, калі′ запу′таецца ў павуцьцё′, здыха′е. *Пр.*

ПАВУЧЫ′ННЕ (павучы′ньне) *ніяк. Гл.* Павуццё. *Шут.* От гаспады′ня, павучы′ньне ўсе вуглы′ запляло′. Мно′га павучы′ньня лята′ець, во′сень ужэ′, ба′біна ле′та пачало′ся. *Вішн.*

ПАГІБА′ЦЬ (пагіба′ць), -блю, -блеш; *зак. тр.* Пагнуць. Ні пагі′блі ку′пка. *Цял.*

ПАГІБА′ЦЦА (пагіба′цца) *зак. тр.* Пагнуцца. Мае′ тэ′пкі пагіба′ліся. *Цял.*

ПАГЛЯДЗЕ′ЦЦА (паглядзе′цца), -джу-ся, -дзіш-ся; *зак. тр.* Пабачыць, паглядзець. Паглядзі′сься, што гэ′дак бу′дзя. *Дук.*

ПАГРЫ′ЗЦІСЯ (пагры′сьціся), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Пасварыцца. Пагры′сься до′ма, дак ка мне зьбех. *Дук.*

ПАГУЛЯ′ЦЬ (пагуля′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Патанцаваць. Ён адва′жыўся з ёй пагуля′ць. *В. В.*

ПАДАБРА′ЦЬ (падабра′ць) ПАДБОРЫ. Узяць не вартае, тое, што не патрэбна нікому. Мне сынэ′ пападбіра′лі падбо′ры чужы′я. *Цял.*

ПАДБІЦЦЁ′ (падбіцьцё′) *ніяк.* Падкладка. Ма′ма вунь к но′ваму пальто′ падбіцьцё′ прышыва′е. *Кар.*

ПАДВА′ЛІНКА (падва′лінка) *жан.* Жэрдкі, якія кладуцца пад снапы ў таку. Прынясі′ сюды′ падва′лінкі, на′да пат снапы′ палажы′ць. *Лях.*

ПАДВА′ЛІНЫ (падва′ліны), *адз.* падваліна. Бярвенні, на якія кладзецца падлога. Падва′ліны згнілі′, і падло′га рашшата′лася. *Жор.*

ПАДВЕ′Й (падве′й) *мужч.* Параліч. Як падве′й нападзе′, то мо′жа атабра′ць ру′кі, но′гі. *Гіл.*

ПАДВУ′ЙНЯ (падву′йня) *жан. Гл.* дубальтовыя. Гэ′ты ўзор зро′блены падву′йняй. *Хож.*

ПАДГА′ЛІСТЫ (падга′лісты) *прым.* Худы, з доўгімі нагамі. На′ша сьвіня′ падга′лістая. *Дук.*

ПАДДЫХНУ′ЦЬ (паддыхну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Адпачнуць. Я се′ла паддыхну′ць, а по′тым пашла′ да′ляй. *Дук.*

ПАДЗЕ′ЖНІК (падзе′жнік) *мужч.* Абрус, якім накрываюць хлебную дзяжу. І бу′льбу с сагана′ сы′палі на падзе′жнік. Падзе′жнікі рабі′лі з мало′га куска′ палатна′. *Шут.*

ПАДЗЁ′ЎБАНЫ (падзё′ўбаны) *перан.* Рабы ад воспы. Б′е жо′нку падзё′ўбаны гэ′ты, задае′цца шчэ. *Дук.*

ПАДЗО′РНІК (падзо′рнік) *мужч.* Прасціна з махрамі, карункамі ці вышыўкай. Падзо′рнікаў і навышыва′ла і намярэ′жыла. *Жор.*

ПАДЖА′РЫ (паджа′ры) *прым.* Рудаваты. Ты ба′чыў учо′ра вялі′кага паджа′рага саба′ку? Магчы′ма гэ′та ён яго′ і ўкусі′ў. *Ін.*

ПАДЖЫ′ЛЫ (паджы′лы) *мужч.* Пажылы, у гадах. Харо′шы чалаве′к, хоць і паджы′лы. *Цял.*

ПАДКАЛО′ТКА (паткало′тка) *жан.* Суп з бульбы, прыпраўлены працёртай мукой і забелены малаком. Ідзі-ця′ е′сьці цё′плую паткало′тку. Улі′й бо′лі малака′ ў пат-кало′тку. *Аздз.*

ПАДЛА′СІЦА (падла′сіца) *жан.* Ласка. Падла′сіца са′ма то′ўсьцянькая, а пат чэ′раўцам бе′лая. *Цял.*

ПАДЛО′ЖЫНА (падло′жына) *жан.* Дошка падлогі. Падло′жыны ву′скія, трэ′ба но′выя палажы′ць. *Жор.*

ПАДМЯ′ЛІЧЧА (падмя′лічча) *ніяк. Гл.* амялле. С падмя′лічча даўне′й ко′ўдры шы′лі. *Малм.*

ПАДНАДО′ЛАК (паднадо′лак) *мужч.* Подбіўка. На′да абрубі′ць паднадо′лак. *Вайк.*

ПАДО′БАЦЦА (падо′бацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Падабацца. Яны′ ш мне ня падо′баюцца. *Дук.*

ПАДПА′ТА (патпа′та) *жан. Гл.* галава. Дрэ′нна вы′разала патпа′ты, нязгра′бныя рукавы′ бу′дуць. *Ніз.*

ПАДПА′ШНІК (падпа′шнік) *мужч. Гл.* вустаўка.

ПАДРА′ПАЦЬ (падра′паць), -а-ю, -а-еш; *зак. тр.* Закультывавацы. Гэ′та ён, кап падра′палі, хо′дзіць за трактары′стам, а чорт яго′ дра′паць, узьня′ў ды сей са-бе′. *Сав.*

ПАДРУЧА′ЦЦА (падруча′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Абяцаць зрабіць, выканаць што-небудзь. Нашто′ яму′ было′ падруча′цца ха′ты пілнава′ць. *Цял.*

ПАДСТРО′ІЦЬ (патстро′іць), -ою, -іш; *зак. тр. Гл.* паправіць. *Варн.* Трэ′ба бо′ты патстро′іць, бо ско′ра бу′дзя хо′лат. *В. В.*

ПАДТРО′ЙКА (паттро′йка) *жан.* Баранаванне папа-ру перад ворывам. Паттро′йка лепш як гнаё′ўка. *Вайк.*

ПАДУПРА′ВІЦЦА (падупра′віцца), -ўлю-ся, -віш-ся; *зак. тр.* Зрабіць хатнюю работу. Папрыхо′дзяць по′зна, ве′дама, трэ′ба ш падупра′віцца. *Дук.*

ПАДХАДЗЯ′ШЧА (патхадзя′шча). Дастаткова, мнагавата. А ў нас і дрэў патхадзя′шча ё′сьць. *Ляшч.*

ПАДХІЛІ′ЦЬ (патхілі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Падрубіць. Засталo′ся то′лькі патхілі′ць падо′л у су′кні. *Кальч., Варн.*

ПАДЦУКРАВА′ЦЬ (патцукрава′ць), -рую, -руеш; *зак. тр.* Падкусіць, удаць. Не′калі Іва′н як патцукру′я дзірэ′ктару ба′цьку, дак той і чапля′ецца да ба′цькі. *Цял.*

ПАДЦЯ′ЖКА (патця′шка) *жан.* Клін у коле пярэдняга навоя. *Папл., Р. Ч.* Дзе′ці як закі′нулі патця′шку на печ, по′тым чуць знайшлі′. *Малм.*

ПАЖДА′ЦЬ (пажда′ць), -у, -джэш; *зак. тр.* Пачакаць. Пасла′лі пі′сьма, пажда′ць трэ′ба, што адве′цяць. *Дук.*

ПА′ЗАЛКА (па′залка) *жан.* Мыльная вада. Дачу′шка, вы′нясі па′залку на двор. *Астр.*

ПА′ЗВІШЧА (па′зьвішча) *ніяк.* Месца, дзе пасуць жывёлу. У нас па′зьвішча блі′ска зусі′м. *Лях.*

ПАЗЁ′МКІ (пазё′мкі), *адз.* пазёмка. Суніцы. Кра′сьнінькія у нас пазё′мкі расту′ць. *Ляшч.*

ПАЗРУ′Б'Е (пазру′б'е) *ніяк.* Ніжні вянок у зрубе. Пат пазру′б'ем баравіке′ расту′ць, ото′ ро′скаш. *Сав.*

ПАЗЫВА′ЦЬ (пазыва′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Запрашаць. Ён на вялі′кдзень пазыва′я нас. *Цял.*

ПА′ЙМА (па′йма) *жан. Гл.* вынашай. З ла′зьні лён па′ймамі выно′сілі. *Ляшч.*

ПАЙСЦІ′СЯ (пайсьці′ся) *зак. тр.* Павесціся. Ні пашлі′ся дзе′ці. *Цял.*

ПАК (пак) *мужч.* Скрыня з дошак для захавання збожжа ці мукі. Не′калі пашню′ ссыпа′лі ў паке′. *Цял.*

ПА′КАЛАК (па′калак) *мужч.* Кол, паплеціна. А-о-о, кап ты маю′ жо′нку любі′ў, то я узя′ў па′калак і адра′зу п даў. *Сав.*

ПАЛА′НАЧКІ (пала′начкі) *толькі ў мн. Гл.* апалаечка. *Вайк., Быт., Бяс.* Пала′начкі ў нас гэ′то называ′юць. *Малм.*

ПАЛА′НКІ (пала′нкі) *толькі ў мн. Гл.* апалечка. *Р. Ч., Заб., Ігр., Дук.*

ПАЛЕ′ПШАЦЬ (пале′пшаць), -аю, -еш; *зак. тр.* Паправіцца, ачуняць. Я ду′мала, ён пале′пшае, а ён усё ляжы′ць. *Дук.*

ПАЛЕ′ТКА (пале′тка) *жан. Гл.* леха. На пале′ццы пасадзі′ла буракі′ і гуркі′ ўпераме′шку. *Вайк.*

ПАЛІ′НА (палі′на) *жан. Гл.* балечкі. Палі′ны і жэ′рткі ў во′сеці то′лькі, бо там со′хне лён. *Так.*

ПАЛІНА′ (паліна′) *жан.* Крысо. Грэ′ўся каля′ агню′ і патпалі′ў паліну′ ў накі′ццы. *Р. П.*

ПАЛІТО′Н (паліто′н) *мужч.* Верхняя мужчынская вопратка. Кароткае паліто з саматканага сукна. Як с свайго′ сукна′ і сам пашы′еш, дык паліто′н і гаво′раць. *Ніз.*

ПАЛО′ЙКА[1] (пало′йка) *жан. Гл.* каслаўка. Я сё′ньня атрапа′ла два′ццаць пало′як. *Пр., Мік.*

ПАЛО′ЙКА[2] (пало′йка) *жан. Гл.* апалойка. Мы сё′лята капу′сты ня шаткава′лі, пало′йкамі накла′лі каду′шку, яна′ пало′йкамі да вясны′ стаі′ць. *Дук.*

ПАЛО′СКА (пало′ска) *жан.* Вузкі шнур зямлі. У ка′ждага на пало′сцы быў лес. *Ляшч.*

ПАЛУ′ДНІЦА (палу′дніца) *жан.* Полудзень. Цэ′лу палу′дніцу рабі′ла, не паспе′ла і засну′ць. *Кальч.*

ПАЛУ′ШКА (палу′шка) *жан. Гл.* каслаўка. Палу′шку я ху′тка зьмя′ла. *Вайк.*

ПАЛЫКНУ′ЦЬ (палыкну′ць), -н-у, -н-еш; *зак. тр.* Праглынуць. Я ты′я бу′лкі вы′кінула, ні палыкну′ць: ні то сьмярдзі′ць, ні то па′хня. *Сав.*

ПАЛЬСЭ′ТКА (пальсэ′тка) *жан.* Вязанне ў «рызінку». Пальсэ′ткай усе′ ро′бяць дзе′цям панчо′хі. *Так.*

ПАЛЬТО'Н (пальто'н) *мужч. Гл.* палітон. Пальто'н не'калі каза'лі на пальто'. *Быт.*

ПАЛЮЛЯ'КАЦЬ (палюля'каць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пакалыхаць. Прышла' дамо'ў, а дзіця' пла'ча, німа' каму' палюля'каць. *Жор.*

ПАЛЯТЫ'НКА (паляты'нка) *жан.* Мужчынская верхняя вопратка з даматканага сукна, даўжэйшая за фрэнч. У паляты'нках да касьцё'ла хадзі'лі не'калі, у дзе'да захава'лася. *Пр.*

ПАМАЛАЦІ'ЦЬ (памалаці'ць), -чу, -ціш; *зак. тр.* Пабіць. Я ўсё памалаці'ла, што стая'ла на стале'. *Цял.*

ПАМАНІ'ЦЬ (памані'ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Паклікаць. Памані', вунь куды' забе'х. *Дук.*

ПАМАРЫ'ЦЬ (памары'ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Стаміць. Са'мі наму'чыліся і дзяце'й памары'лі. *Жор.*

ПАМА'НЬВАЦЬ (пама'ньваць), -ю, -еш; *незак. тр.* Дражніць. Яго' пама'нююць «ма'льчык». *Дук.*

ПАМЫ'СНЫ (памы'сны) *прым.* Кемлівы. Памы'сная дзіця', хоць і мало'е. *Сл.*

ПАНАРА'Д (панара'т) *мужч.* Ткацкі станок з усімі прыладамі да яго. *Р. Ч.* Калі'сь у нас быў уве'сь панара'т, а цяпе'р няма', ды і не патрэ'бен ён. *Заб.*

ПАНТО'ВАЯ (панто'вая) *прым.* Добрая. Яна' дзе'ўчына панто'вая, што і каза'ць. *Астр.*

ПАНЦА'К (панца'к) *мужч.* Суп з ячменных круп. На'тта ш густы' панца'к палучы'ўся, лы'шку ні паве'рняш. *Горкі.*

ПАНЭ'ЛКА (панэ'лка) *жан.* Месца на ганчарным кругу, у якое ўпіраецца ніжні канец восі. Панэ'лкамі ма'ло хто за'рас карыста'ецца, на патшы'пніках стаі'ць верацяно'. *Г. п. Івянец.*

ПА'ПА (па'па) *жан., дзіцячае.* Хлеб. Еш с па'пай су'пчык, а то так ні сма'шно. *Горкі.*

ПАПАБІВА'ЦЬ (папабіва'ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Біць

многа раз. Я по′мню, ко′лькі мы яго′ папабіва′лі, ко′ні пасу′чы. *В. В.*

ПАПАЛАВІ′НІЦЬ (папалаві′ніць), -ю, -іш; *зак. тр.* Узяць палавіну. Яна′ до′бры ухва′т. Пасла′лі цыбу′лю выбіра′ць, дак папалаві′ніла. *Цял.*

ПАПАРЫ′ (папары′) *прысл.* Позна. Аду′маўся, але′ ўжо папары′. *Кальч.*

ПАПАРЭ′ГЧЫ (папарэ′хчы), -рагчу, -рэгчаш; *зак. тр.* Папарагатаць. Што яны′ папарэ′глі зь мяне′. *Дук.*

ПАПЕ′РАДЗЕ (папе′радзі) *прысл.* Перш. Ён жа папе′радзі ўцё′к. *Цял.*

ПАПІРА′ЦЬ (папіра′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Папіхаць. У людзе′й няве′сткі ро′бяць, а вы ўсё нас папіра′яця. *Цял.*

ПАПЛЁ′ВІЧ (паплё′віч) *мужч., лаян.* Чалавек, які вельмі часта плюе. Паплё′віч гэ′ты, усю′ ха′ту сплё′вая, як ста′ня куры′ць. *Цял.*

ПА′ПЛІСАК (па′плісак) *мужч. Гл.* аскалабак. Аччапі′ся ты ад мяне′, бо як вазьму′ па′плісак да як сьцё′бну, дак бу′дзяш ве′даць. *Дук.*

ПАПЛЯ′МІЦЬ (папля′міць), -млю, -іш; *зак. тр.* Забрудзіць, пакрыць плямамі. Ні ўспе′яш надзе′ць чы′стаю суке′нку, як яно′ (дзіця′) ўжо папля′міла. *Цял.*

ПАПРО′ДАЦЬ (папро′даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Прадаць. Папро′даў абе′дзьвя ха′ты. *Дук.*

ПАПЯЛІ′ЦА (папялі′ца) *жан.* Тля. *Ніз.* Папялі′ца на вы′саткі напа′ла. *Пр.*

ПАПЯЛУ′ХА (папялу′ха) *жан. Гл.* папяліца. Папялу′ха уністо′жвая капу′сту, пасыпа′ць трэ′ба каля′дным по′пелам. *Так.*

ПАРАЖНІ′ЦЬ (паражні′ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Апаражняць. Гэ′таму паро′жняць ко′мнату. *Дук.*

ПА′РАНКА (па′ранка) *жан.* Дробная бульба, якая прызначана для свіней. З баразё′н выбіра′ецца і пера-

выбіра′ецца карто′пля, са′мую бо′льшую на яду′ адбіра′юць, серадня′чку на насе′ньне, астае′цца дро′бная па′ранка для сьвіне′й. *Бяс.*

ПАРАСЁ′ТАК (парасё′так) *мужч.* Парася. Кап парасё′ так дзяржа′ла, то было′ п ляхчэ′й. *Так.*

ПАРАЧКАВА′ЦЬ (парачкава′ць), -кую, -куеш; *зак. тр.* Парабіць нагнуўшыся. Пашла′ парачкава′ла два дні, зарабі′ла яку′ю капе′йку ды пае′хала. *Дук.*

ПА′РКЛІЦА (па′ркліца) *жан. Гл.* панэлка. Во′ська вы′скачыла там с па′ркліцы. *Ляшч.*

ПА′РНАЕ (па′рнае по′ле) *прым.* Поле, засеянае пасля таго, як яно некалькі гадоў стаяла дзірваном. У нас жы′та пасе′ялі ў па′рным по′лі. *Лях.*

ПАРО′ЛКА (паро′лка) *жан.* Драўляная лапатачка, якой рашчыняюць хлеб. Папары′ це′ста паро′лкай, а то січа′с зь дзяжы′ пабяжы′ць. *Аздз.*

ПАРО′ЧЫЦЬ (паро′чыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Гаварыць. Паслу′хайце то′лькі, што яна′ паро′чыць. *Гр.*

ПАРУБЕ′НЬ (парубе′нь) *мужч. Гл.* рубель. Пат парубе′нь се′на ці сало′мы во′зьмеш куды′ больш, як так. *Заастр.*

ПАРШНЯ′ (паршня′) *жан.* Хвароба пладовых дрэў. Сё′лета на ігру′шы паршні′ мно′га. *Вайк.*

ПАРЫСАВА′ЦЬ (парысава′ць), -ую, -еш; *зак. тр.* Параўняць. Пе′рат жы′там трэ′ба парысава′ць, кап лькі′бы параўня′ліся, кап раўне′й се′іць. *Малм.*

ПА′РЫЦЬ (па′рыць), -у, -еш; *незак. тр.* 1. Заліваць варам лён, каб прэў. Ва′раткам заліва′юць, тады′ па′раць і пра′нікам б′ю′ць. *Так.* 2. Варыць бульбу ў лупінах. Не′калі па′рылі бу′льбу ў лупі′нах і е′лі сь сялядца′мі. До′бро было′ пасьці′ць. *Дук.*

ПАС (пас) *мужч. Гл.* няўдоба. Пас, дзе не се′яць, там скот хо′дзіць. *Лях.*

ПАСАБЕ′ (пасабе′) *прысл.* 1. Асобна. Што мы паса-

бе′ бу′дзям е′сьці? *Цял.* 2. Па адным. Што гэ′то, Іва′наўна, ідзяце′ пасабе′, ён адзі′н і вы зза′ду. *Сав.*

ПАСЕ′І (пасе′і) *толькі ў мн. Гл.* апаліны. Пасе′і вы′паліў, пасе′і жо′ўтыя, там мукі′ няма′. *Хож.*

ПАСЕ′РБІЦА (пасе′рбіца) *жан.* Нярodная дачка. Была′ пасе′рбіца там у аднэ′й, так ужо′ не слу′хала ма′чыхі, блага′я была′ к ма′чысе. *Бяс.*

ПА′СКІ (па′скі) *мужч. Гл.* катусы. Трэ прышы′ць у хварту′х но′выя па′скі. *В. В., Ніз.*

ПАСКРО′БАК (паскро′бак) *мужч.* Кавалак цеста, які застаецца ад хлеба. Укі′нула паскро′бак у ваду′. Як паскро′бак падні′міцца, то хлеп сыпё′кся. *Аздз.*

ПАСКРЭ′БІЧ (паскрэ′біч) *мужч.* Апошняе дзіця ў сям'і. Ён хоць і паскрэ′біч, але′ разу′мны, ву′чыцца до′бра. *Дук.*

ПАСЛУШНЫ′ (паслушны′) *прым.* Паслухмяны. Харо′шы хло′пяц, паслушны′ такі′. *Цял.*

ПА′СМА (па′сма) *жан.* 30 пар нітак у аснове. *Ніз., Мік., Дук., Цял.* Хто ў дзе′сяць па′сам снуе′, а хто і ў пятна′ццаць. *Заб.*

ПАСО′ЛЯ (пасо′ля) *жан. Гл.* квасоля. *Ніз., Дук., Хож., В. В., Мік.* У нас с пасо′лі суп харо′шы ва′раць. *Заб.*

ПА′СТА (па′ста) *жан.* Паша. На па′сту пагна′ў ужо′. *Быт.*

ПАСТАНАВІ′ЦЬ (пастанаві′ць), -ўлю, -віш; *незак. тр.* 1. Паставіць. У вуго′л пастанаўлю′, калі′ бу′дзяш дурэ′ць. 2. Вынесці пастанову. Пастанаві′лі на сабра′ньні вы′гнаць с калга′са, бо гульта′й, ні хо′ча рабі′ць нічо′га. *Цял.*

ПАСТАРНА′К (пастарна′к) *мужч.* Колік, да якога прывязваюць нанач каня. Нанач ко′ні на пастарна′к навязваю′ць. *Быт.*

ПАСТАЎНІ′К (пастаўні′к) *мужч. Гл.* даржнік. Па-

стаўні′к у саўхо′зе ё′сьць, абгаро′джаны круго′м хле′ва. *Бяс.*

ПАСТО′ЯЛКА (пасто′ялка) *жан.* Вяршок, смятанка някіслая. От дзень пастая′ў збано′к — і пасто′ялка, тро′шкі пасто′ялкі на хрэн сабрало′сё. *Сав.*

ПАСТРО′ЙКА (пастро′йка) *жан.* Агульная назва ўсіх будынкаў. Пастро′йкі яго′ ўжо стары′я. *Заб.*

ПА′СХА (па′сха) *жан.* Пасылка з велікодным гасцінцам. Нясе′ дзя′цька па′сху Я′нку ў Маладзе′чно. *Сав.*

ПА′СЫНКІ[1] (па′сынкі) *мужч.* Храсткі. Ба′чыш, як бу′льба па′сынкі пуска′е. *Р. П.*

ПА′СЫНКІ[2] (па′сынкі) *мужч.* Адросткі ў пазухах памідорных лісцяў. *Шут., Хож., Ніз., Мік., Лях., Дук.* Ма′рныя памідо′ры бу′дуць, па′сынкі і то дрэ′нна расту′ць. *Пр.*

ПАСЫНКАВА′ННЕ (пасынкава′ньне) *ніяк.* Абшчыпванне пасынкаў. *В. В., Лях., Папл.* Ідзі′ скарэ′й, пасынкава′ньне трэ′ба канча′ць. *Шут.*

ПАСЯЛЕ′НЬ (пасяле′нь) *мужч. Гл.* ласун. Такі′ пасяле′нь, што до′ма і не стыка′ецца. *Папл.*

ПАСЯЛЫ′НДА (пасялы′нда) *мужч. Гл.* ласун. Цяга′ецца і цяга′ецца, ну і пасялы′нда! *Пр.*

ПАТАЛЬМА′ХА (патальма′ха) *жан.* Мачанка. Ю′зік патальма′хі ўво′лю нае′ўся, больш ня про′сіць. *Комл.*

ПАТО′М (пато′м) *прысл.* Потым. Мы спача′тку папало′лі, а пато′м пашлі′ на се′на. *Дук.*

ПАТО′ПАК (пато′пак) *мужч. Гл.* астопкі. Вы′кінь гэ′ты пато′пак, чаго′ ён тут ляжы′ць. *Быт.*

ПАТРА′ЎКА (патра′ўка) *жан.* Рэдкая страва з мяса, вады, падкалочаная мукою. Ча′сам патра′ўка і ні ўда′сца, то мукі′ перадасі′, то мя′са ма′ла пало′жыш. *Бяс.*

ПАТРУ′ХА (патру′ха) *жан.* Дробная, перабітая ў час маладзьбы, салома. Для скаці′ны сабіра′юць патру′ху, прасява′юць, некато′рыя амме′шваюць. *Так.*

ПАЎБІВА′ЦЬ (паўбіва′ць), -ю, -еш; *зак. тр.* Павыбіваць. Я п яму′ зу′бы паўбіва′ла. *Дук.*

ПАЎБУТЭ′ЛЕК (паўбутэ′лек) *мужч.* Бутэлька ёмістасцю ў 0,25 літра. Паста′віла паўбутэ′ляк, вы′пілі — і хоць бы што. Што ш той паўбутэ′ляк на двоі′х мужчы′н! *Горкі.*

ПАЎЗ (паўз) *прысл.* Уздоўж. Вялікая буды′ніна, там ла′вачкі паўз сьцен. *Ляшч.*

ПАЎМУ′РЗВАЦЦА (паўму′рзвацца) *зак. тр.* Папэцкацца, забрудзіцца. До′брыя жаке′ткі, але паўму′рзваліся валя′ючыся. *Дук.*

ПАЎПАЛІ′Т (паўпалі′т) *мужч.* Паўпаліто. До′бры паўпалі′т, цё′плы і цьвет харо′шы. *Горкі.*

ПАЎПРЫ′ЦА (паўпры′ца) *жан. Гл.* панэ′лка. У паўпры′цу ўкру′плена вось, каб яна′ не шата′лася. *Бяс.*

ПАЎСУКЕ′НАК (паўсуке′нак) *мужч.* Тканіна хатняга вырабу, у якой аснова парцяная, а ўток суконны. С паўсуке′нка шы′лі касьцю′мы мушчы′нам. *Шут.*

ПАЎСУКЕ′ННІК (паўсуке′ньнік) *мужч. Гл.* паўсукенак. Вы′ткала сабе′ паўсукеньнік на паліто′ і на ю′пку. *Вішн.*

ПАЎТАЛЕ′ТЫК (паўтале′тык) *мужч.* Сподак. Яна′ заўсё′ды чай у паўтале′тык наліва′я. *Нік.*

ПАЎТАРА′ЧКА (паўтара′чка) *жан.* Бутэлька ёмістасцю ў 0,75 літра. А ты ў паўтара′чку лі, больш уле′зя. *Горкі.*

ПАХЛАПЕ′НЬ (пахлапе′нь) *мужч.* Мужчынападобная жанчына. Я сама′ на сябе′ кажу′, што пахлапе′нь. *Дук.*

ПАХРАСЦІ′ЦЦА (пахрасьці′цца) *зак. тр.* Прарасці, пайсці ў расткі. Бу′льба ж у цябе′ пахрасьці′лася, ско′ра ў по′грабе зазеляне′е, а ты не глядзі′ш. *Лях.*

ПА′ЦУКА (па′цука) *жан.* Суп з круп. На абе′т я вам па′цукі ўсто′ўлю. *Жор.*

ПАЦЯ′ГАВІЧ[1] (паця′гавіч) *мужч. Гл.* завірач. *Р. П.* Во гэ′ты клін і называ′юць паця′гавіч. *Ігр.*

ПАЦЯ′ГАВІЧ[2] (паця′гавіч) *мужч.* Верхняя, доўгая жаночая вопратка з аўчыны, абшытая тканінай. Цяпе′р пацягавіча′ў ні шы′юць, бо ў магазі′не по′льта ё′сьць. *Бяс.*

ПАЧАКА′ЛЬНЯ (пачака′льня) *жан.* Пакой для наведвальнікаў (у бальніцы). Мяне′ ні пусьці′лі, пасядзе′ў ў пачака′льні, даў яму′ тры рубле′ на даро′гу, тады′ прыня′ў. *Сав.*

ПА′ЧАСНІНА (па′часьніна) *жан. Гл.* абцягавіны. Як чэ′шуць на другі′ грэ′бень, атхо′дзіць па′часьніна. *Так.*

ПАЧА′ТАК (пача′так) *мужч. Гл.* адкідзіч. *Заб.* Два пача′ткі пра′жы вы′сушыла і змата′ла ў клубо′к. Быў у нас пача′так но′вы. *Вайк.*

ПАЧУВА′ЦЦА (пачува′цца), -а-юся, -а-ешся; *незак. тр.* Адчуваць сябе. Мае′ аднаго′ткі шчэ на рабо′ту ў калхо′с хо′дзяць, а я ле′дзьвя жыву′, пачува′юся сла′бо. Хай бы ш напіса′ў цё′ці, як пачува′юцца старэ′нькія, а то маўчы′ць. *Сав.*

ПАЧТА′РКА (пачта′рка) *жан.* Паштальён. А цяпе′р малада′я до′ктарка ра′зам с пачта′ркай хо′дзіць, і хло′пцаў ма′юць, ім і ве′села. *Так.*

ПАЧЫ′НАК (пачы′нак) *мужч. Гл.* адкідзіч. *Мік., Малм., Цял.* Во напра′ла на пачы′нак. Пачы′нак, як верацяно′ вялі′кае. *Р. Ч.*

ПАЧЭ′ПНЫЯ (пачэ′пныя) *прым.* Накідныя вочкі пры вязанні. На па′лец пяць пачэ′пных во′чак накі′нула. *Заб.*

ПАШАРАШЭ′ЦЬ (пашарашэ′ць) *зак. тр.* Злёгку падмерзнуць і зрабіцца ломкім. Сё′ньня за′мараз быў, трава′ пашарашэ′ла. *Дук.*

ПАШНЯ′ (пашня′) *толькі ў адз.* Абмалочанае збожжа. Не′калі пашню′ ў засе′кі ссыпа′лі. *Цял.*

ПАШЧА′СЦІЦЦА (пашча′сьціцца) *зак. тр.* Пашанцаваць. Ёй пашча′сьцілася, до′бры чалаве′к тра′піўся. *Цял.*

ПАШЭ′РХНУЦЬ (пашэ′рхнуць) *зак. тр.* Адзеравянець. Вот як во′зьмя — і но′гі паш′эрхнуць. *Цял.*

ПЕ′ЛІКА (пе′ліка) *жан.* Жоўты пясок. Старыкі′ гаво′раць па стары′нушкі — пе′ліка. *Быт.*

ПЕ′ЛІНА (пе′ліна) *жан.* Прыпол. Во малайчы′нка, по′ўную пе′ліну агурко′ў з гра′ткі нясе′. *Вен.*

ПЕ′ЛЮСЦІ (пе′люсьці). Пелюшцы. Са′мі но′чвы до′брыя, але′ пе′люсьці то′нянькія. *Цял.*

ПЕРАБА′БІЦЬ (пяраба′біць), -блю, -іш; *зак. тр. Гл.* адбабіць. *В. В., Быт., Ігр., Лях.* Я ў вайну′ пяраба′біла дзе′вачку. *Дук.*

ПЕРАБІРА′НЕЦ (перабіра′нец) *мужч.* Пасцілка, тканая ў перабор. Ву′ньдзека ляжы′ць харо′шы перабіра′нец. *Вішн.*

ПЕРАБІ′ЎКА (перабі′ўка) *жан.* Тонкая перагародка ў жылым памяшканні. Спа′льня ад ле′пшага пако′я ў ха′це адлу′чана перабі′ўкаю. *Бяс.*

ПЕРАБЫТНО′Е (пярабітно′я). Пражытае. Усё′ пярабітно′я, але′ ні забытно′я. *Дук.*

ПЕРАДАСЁ′Т (перадасё′т) *мужч.* Пярэдняя частка асеці. У перадасё′ці мнуць лён, по′ўна пы′лу. *Пр.*

ПЕРАДАСЁ′ТАК (перадасё′так) *мужч. Гл.* перадасёт. З ба′ні лён патро′ху выно′сяць у перадасё′так і мнуць. *Сал.*

ПЕРАДНЯ′ (передня′) *жан.* Вышыўка на верхняй частцы рукава кашулі. Даўне′й дзе′ўкі прыго′жа рашшыва′лі перадні′. *Бяс.*

ПЕРАДО′К (перадо′к) *мужч.* Лаўка. Паглядзі′, малы′ ўжо сам на перадо′к узьбіра′ецца. *Кол.*

ПЕРАДРО′ГАЦЦА (пярадро′гацца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Пeратрэсьціся. Мо′жа кап ні пае′хаў у Ру′дзянск,

дак бы пажы′ў дзён са два. А то ве′дама пярадро′гаўся, яму і зашко′дзіла. *Цял.*

ПЕРАЗО′Ў (перазо′ў) *мужч.* Паслявясельны абрад. *Быт.* У нідзе′лю пайе′дзем да дачкі′ на перазо′ў. Трэ′ба гасьце′й скліка′ць на перазо′ў. *Ігр.*

ПЕРАЗО′ЎКІ (перазо′ўкі) *толькі ў мн. Гл.* перазоў. На перазо′ўках бацькі′ е′дуць да няве′сты. *Р. Л.*

ПЕРАКЛІ′КІ (пераклі′кі) *толькі ў мн. Гл.* перазоў. Го′сьці маладо′га е′дуць звыча′йна на пераклі′кі да маладо′й. *Ляшч.*

ПЕРАЛО′Г (перало′х) *мужч. Гл.* нетра. Сё′лета на перало′зе пасе′ялі лён, до′бры ве′льмі ўда′ўся. *Заб.*

ПЕРАМО′Т (перамо′т) *мужч. Гл.* жарабок. *Вішн., Ігр., Бяс., В. В.* Яна′ мно′га перамо′таў нарабі′ла. Дрэ′н-на. *Ляшч.*

ПЕРАМО′ТА (перамо′та) *жан. Гл.* жарабок. *Пр., Ніз., Дук., Заб., Малм., Вайк.* Калі′ быва′е перамо′та, дык трэ′ба яе разьвясьці′. *Быт.*

ПЕРАСЫ′ПАЦЬ (пярасы′паць), -плю, -плеш; зак. *тр.* Перабраць будынак. Хле′ў пярасы′палі ўдваі′х бяс старо′нняй дапамо′гі. *Цял.*

ПЕРАТЫКА′НКА (перАтыка′нка) *жан.* Спадніца з саматканага палатна. Ціпе′р ужо′ ма′ла дзе пертыка′н-ка й пачу′еш, спадні′ца про′ста ды і ўсё′. *Мік.*

ПЕРАХАРЧЫ′ЦЬ (перахарчы′ць), -ч-у, -ч-ыш; *зак. тр.* Пратрымаць зіму, пракарміць. Па тры с палаві′най пудо′чак харчы′, папро′буй перахарчы′. До′раго. *Сав.*

ПЕРАХО′ЎКНУЦЬ (пярахо′ўкнуць), -ну, -неш; *зак. тр.* Пераплаціць. Мы за каро′ву аддалі′ тры′ста рублё′ў. Му′сіць, на паўсо′тню пярахо′ўкнулі, яна′ такі′х гро′шай ні ва′рта. *Цял.*

ПЕРАЦІРУ′ХА (пераціру′ха) *жан.* Жанчына, якая пераціраe лён. Вот до′брая пераціру′ха, гэ′так лён вы′-скрабла. *Вайк.*

ПЕ′РЫЦЬ (пе′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Біць вельмі моцна. За што ты пе′рыш гэ′тага хло′пца? *Дук.*

ПЕ′ТРЫЦЬ (пе′трыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Разумець. Нічо′га ты, бра′тка, ня пе′трыш, лепш ня лесь ня ў сваё′ дзе′ла. *Дук.*

ПЕЧАНІ′ (пячане′) *толькі ў мн.* Печань. У яе рак на пячанё′х. *Цял.*

ПЕ′ЧЫВА (пе′чыва) *ніяк.* Выпечка хлеба за адзін раз. У скры′нца пе′чыва хле′ба ляжа′ла. *Дук.*

ПЁК (пёк) *мужч.* Пякучы боль. Сухі мазо′ль быў, у срадзі′не не′ка бо′бачка бе′лянькая сядзі′ць, пёк агняві′, нівазмо′жно цярпе′ць. *Сав.*

ПІГУ′ЛКА (пігу′лка) *жан.* Таблетка. Куды′ мае′ пігу′лкі падзе′ла? Пры́ня′ць трэ′ба ўжо. *Астр.*

ПІ′САНЫ (пі′саны) *дзеепрым.* Запісаны, зарэгістраваны. А ён із′ ё′ю пі′саны, яна′ яго′ жо′нка. *Цял.*

ПІЎНІ′ЦА (піўні′ца) *жан.* Пограб. У на′шай пі′ўніцы кажаны′ во′дзяцца. *Комл.*

ПЛАЦЯНКО′ВАЯ (плацянко′вая) *прым.* Парцяная. Плацянко′выя пасьці′лкі цяпе′р не тку′ць, а купля′юць адзія′лы. Во надзе′ла плацянко′вую спадні′цу. *Вайк.*

ПЛАШЫ′ЦЬ (плашы′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Ганіць. А я яго′ ні плашу′, хло′пяц харо′шы, але′ як вы′п'е, усё′ гэ′так глядзі′ць, яму′ й нада′юць, а то ў лу′жыне вы′качаюць. *Сав.*

ПЛАШЧА′К (плашча′к) *мужч.* Бервяно з плоскімі бакамі. Вялі′кі дом, харо′шы, плашчаке′ то′ўстыя. *Цял.*

ПЛЕХ (плех) *мужч. Гл.* лата. Рэ′цька абы′шла пляха′мі. *Ляшч.*

ПЛЁ′СА (плё′са) *жан. Гл.* лата. Маро′с плё′самі вы′маразіў буракі′. *Пр.*

ПЛЁ′ТАЧКА (плё′тачка) *жан.* Першы радок, з якога пачынаюць вязаць кручком. Плё′тачку вяза′ць ве′льмі ке′пска, таму′ што спада′ець с кручка′. *Вішн., Хож.*

ПЛІСА′ (пліса′) *жан. Гл.* абручы. Яшчэ′ й цяпе′р у Ту′рцы кабе′ты но′сяць спадні′цы з плі′самі. *Дук.*

ПЛО′ЙМА (пло′йма) *жан.* Зборышча людзей. Гэ′та пло′йма разье′дзяцца — спакайне′й бу′дзя. *Дук.*

ПЛО′МІК (пло′мік) *мужч.* Часопіс. На′ша бабу′ля лю′біць каля′ пе′чкі пло′мік чыта′ць. *Заям.*

ПЛУЦЕ′НКА (плуце′нка) *жан.* Спадніца, тканая ў рознакаляровыя палоскі. Плуце′нкі цяпе′р ма′ла хто но′сіць, а ране′й тка′лі з ро′зных ні′так і шы′лі до′ўгія, да са′мых пят. *Аздз.*

ПЛЮ′ХНУЦЬ (плю′хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Моцна ўдарыць. Як плю′хнуць, дак з нох зва′лісься! *В. В.*

ПЛЮ′ШАЎКА (плю′шаўка) *жан.* Плюшавы жакет. Ду′мала, мо мая′ бра′тавая ідзе′ ў плю′шаўцы. *Дук.*

ПЛЯ′СТРА (пля′стра) *жан.* Пластыр. Доў мне па′-чачкі бі′нту і пля′стры. *Дук.*

ПЛЯ′СНУЦЦА (пля′снуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Упасці. Учо′ра Ва′ся як пля′снуўся, дак чуць усто′ў. *Дук.*

ПОД (пот) *мужч.* Частка печы, дзе гараць дровы, стаяць гаршкі. Пот вы′дзярся, німа′ як гаршкі′ ста′віць, трэ′ба вы′мазаць глі′най. *Бяс.*

ПО′ДАЛ (по′дал) *мужч.* Падол. По′дал падлажы′, а то ве′льма до′ўгая спадні′ца. *Дук.*

ПО′ДБІЎКА (по′дбіўка) *жан.* Надточаная частка падола ў спадніцы з іншага матэрыялу. *Варн., Ніз., Папл.* Не′шта спадні′ца мая′ се′ла, трэ′ба по′дбіўку пат-тачы′ць. *В. В.*

ПО′ДМАЗКА (по′дмаска) *жан.* Прапітаны тлушчам кавалак тканіны, якім мажуць скавараду. Ма′ня, пашу-ка′й, по′дмаску, няма′ чым скавараду′ ма′заць. *Мік.*

ПО′ДПІСЬ (по′тпісь) *жан.* Подпіс. За яго′ по′тпісьсю было′ мно′га бума′жак. *Дук.*

ПО′ДТАЧКА (по′ттачка) *жан.* Ніжняя частка (ад

пояса) кашулі, надточаная іншым матэрыялам. По′ттачку трэ′ба з і′ншай матэ′рыі прышы′ць. *Ігр.*

ПО′ЛАГ (по′лах) *мужч.* Роды. Ка′жуць, што яна′ іс по′лагу паме′рла, а дзіця′ застало′ся жыво′я. *Цял.*

ПО′ЛКА [1] (по′лка) *жан.* Невялічкая прасцінка, у якую ўкручваюць грудных дзяцей. *Варн., Шут., Бяс., Р. П., Вайк., Малм., Папл., Ніз., Сам.* Ве′дама ж, дзіця′ці трэ′ба чо′ртшто по′лак. *Дук.*

ПО′ЛКА [2] (по′лка) *жан.* Крысо ў жакеце. Гэ′та ш то′лька адна′ по′лка, а трэ′ба дзьве. *Цял.*

ПО′ЛКА [3] (по′лка) *жан.* Поліва. *Шут., Ніз., Папл.* Ско′ра по′лка кукуру′зы пачне′цца. Тады′ ні дыхну′ць бу′дзя. *Р. Ч.*

ПО′РАЎНЯ (по′раўня) *прысл.* Пораўні. Іх жа пало′са по′раўня з на′шай была′. *Цял.*

ПОРТ (порт) *мужч., зборн.* Матэрыял, што запальваецца пры красанні. Порт ро′бяць с палатна′, яго прыру′дзяць, гэ′та прапа′ляць, кладу′ць на адзі′н ка′мень, другі′м выбіва′юць і′скры. *Бяс.*

ПО′РХАЎКА (по′рхаўка) *жан. Гл.* ашамотак. Некато′ры гот быва′е не капу′ста, а адны′ по′рхаўкі, няўда′лая. *Заб.*

ПО′СЛІ (по′сьлі) *прысл.* Пасля. По′сьлі вайны′ ён міліцыяне′рам быў. *Дук.*

ПО′СУХА (по′сухо) *прысл.* Сухавата. Што гэ′то за кукуру′за? Мачы′ла, мачы′ла, і то, ка′жацца, по′сухо. *Сав.*

ПО′ЎНА (по′ўна). Многа. Варэ′ньня зацукрава′лася, му′сіць, пяравары′ла я яго′, а мо по′ўна цу′кру палажы′ла. *Дук.*

ПО′ЧАПКА (по′чапка) *жан. Гл.* вяшак. Не′калі рабі′лі по′чапкі з дро′ту. Быва′юць по′чапкі із ланцушка′. *Шут.*

ПО′ЧАТ (по′чат) *мужч.* У значэнні «каб духу не бы-

ло». Уцяка′й хутчэ′й, кап твайго′ і по′чату тут ні было′, а то ке′пока табе′ бу′дзя. *Цял.*

ПО′ШАР (по′шар) *мужч.* Зялёная маса для кармлення жывёлы. Мешані′на з гаро′хам, авё′с — гэ′та по′шар до′бры. *Малм.*

ПО′ШАЎКА (по′шаўка) *жан.* Навалачка. По′шаўка ўжэ парва′лася на маі′х паду′шках. *Цял.*

ПРА′ВІЦЦА (пра′віцца), -ўлю-ся, -віш-ся; *незак. тр.* Прыбаўляць вагі, паўнець. *Так.* Стоў е′сьці і стоў пра′віцца. *Дук., Цял.*

ПРАВО′РНЫ (право′рны) *прым.* Спрытны. Як като′рыя право′рныя, дак тым до′бра было′. *Дук.*

ПРАДЗЕ′РЖАЦЬ (прадзе′ржаць), -у, -ыш; *зак. тр.* Пратрымаць. Каро′ву тру′дна прадзе′ржаць бяс се′на. *Цял.*

ПРА′ЖА (пра′жа) *жан.* Ніткі. Купі′лі пра′жы і палавіко′ў натка′лі. *Цял.*

ПРАЗ[1] (прас) *прыназ.* На працягу некаторага часу. Кляё′нку праз не′кулькі дзён дава′лі. *Дук.*

ПРАЗ[2] (прас) *прыназ.* Пра. Прас цябе′ така′я сла′ва нідо′брая ідзе′. Ты, му′сіць, забы′ўся праз мяне′. *Цял.*

ПРАЗАНТАВА′ЦЦА (празантава′цца) *незак. тр.* Спалучацца. Занаве′скі хачу′ пашы′ць, купі′ла не′каго сала′тавого, паве′шу ўні′зе, а тут гардзі′нку, красі′во празанту′ецца гэ′та і гэ′то. *Сав.*

ПРА′ЙНІК (пра′йнік) *мужч. Гл.* апранік. Ране′й дык і лён пра′йнікам малаці′лі, а цяпе′р хто гэ′то бу′дзя? Я сё′ньня пра′йнікам бялі′зну бі′ла. *Ляшч.*

ПРАЛЁ′Т (пралё′т) *мужч.* Пропуск, зроблены ў час сяўбы няўважлівым сейбітам. Як гэ′та се′яў ён, пралё′таў наро′біў, што по′ле пусто′е. *Быт.*

ПРАЛЁ′ЦІК (пралё′цік) *мужч. Гл.* пралёт. Як дзе мі′не, ня згле′дзе, дык і пралё′цік. *Быт.*

ПРАЛЮБІ′ЦЦА (пралюбі′цца), -лю-ся, -іш-ся; *зак.*

*тр.* Правесці час с хлопцам ці з дзяўчынай. Усю′ ноч пралюбі′лася зь не′кім хло′пцам. *Цял.*

ПРАНДАВА′ЦЬ (прандава′ць), -ду-ю, -ду-еш; *незак. тр.* Разумець. Некато′ры не пранду′е, то і пакіда′е так, ня зро′біць. *Так.*

ПРА′НЦЫ (пра′нцы) *толькі ў мн.* Венерычная хвароба. Хай яго пра′нцы яду′ць. *В. В.*

ПРАПА′ЖНЫ (прапа′жны) *прым.* Непрыгодны. Ён прапа′жны ўжо, кінь. *Мік.*

ПРАСЕ′СЦЬ (прасе′сьцъ) *жан.* Даўжыня нітак ад задняга навоя да пярэдняга. Сатку′ адну′ прасе′сьць ды пайду′ гуля′ць. *Мік.*

ПРАСТЫВА′ЦЬ (прастыва′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Праступжвацца. Яны′ ў го′радзі больш прастыва′юць. *Цял.*

ПРАТА′ЛКА (прата′лка) *жан. Гл.* пралёт. Прата′лка ў жы′це — пу′ста ў кле′ці. *Вайк.*

ПРАЧЫХА′ННЕ (прачыха′ньне) *ніяк.* Спаць без просыпу. О, бес прачыха′ньня сьпі′ць і сьпі′ць. *Кальч.*

ПРО′БАВАЦЬ (про′баваць), -бую, -буеш; *незак. тр.* Спрабаваць. Про′буя зноў хадзі′ць. *Цял.*

ПРО′ДАЦЬ (про′даць), -ю, -еш; *незак. тр.* Прадаваць. Усю′ зіму′ карто′плю про′дала. *Цял.*

ПРО′СКУРКА (про′скурка) *жан.* Просвіра. Не′калі ў цэ′ркаві былі′ про′скуркі такі′я кру′глянькія с по′снага це′ста. *Цял.*

ПРО′СТЫНА (про′стына) *жан.* Прасціна. У мяне′ про′стынаў штук дзе′вяць. *Дук.*

ПРУГІ′ (пругі′) *мужч.* Дзве тонкія дошчачкі, якія служаць для таго, каб роўна нацягвалася палатно. *Заб., Ніз.* Мой гаспада′р такі′я ўжо пругі′ гла′ткія вы′габляваў. *В. В.*

ПРЫБІ′ЦЬ (прыбі′ць), -ю, -еш; *зак. тр. Гл.* прыбі-

ваць. Прыбі′ць зямлю′, каб раўне′й кла′лася дабро′. *Хож.*

ПРЫБО′РЫ (прыбо′ры) *толькі ў мн.* Уборы. Трэ′ба было′ ні шыць гэ′тыя прыбо′ры, а на рабо′ту ісьці′. *Дук.*

ПРЫ′ВЕНЬ (пры′вянь) *мужч.* Сенцы. Прайдзі′ пры′вень, а там і камо′рка. *Мік.*

ПРЫВЕ′СЦІ (прыве′сьці), -ду, -дзеш; *зак. тр.* Нарадзіць. Дзяце′й ізь дзівя′цяра прывядзе′. *Дук.*

ПРЫГАЛО′ВІЧЫ (прыгало′вічы) *толькі ў мн.* Доўгія палены дроў, якія кладуцца спераду ў печы. Не парасяка′й, сыно′к, гэ′та прыгало′вічы бу′дуць. *Мік.*

ПРЫЗВО′ЛІЦЬ (прызво′ліць), -ю, -іш; *зак. тр.* Дазволіць. А по′тым ім прызво′лілі лаві′ць ры′бу. *Ляшч.*

ПРЫКАСЦЮ′МІЦЦА (прыкасьцю′міцца), -млю-ся, -міш-ся; *зак. тр.* Надзець касцюм. Прыкасьцю′міўся, дак ве′льма харо′шы. *Цял.*

ПРЫКУ′Р (прыку′р) *мужч.* Пасаг. Ён бага′ты прыку′р за ёй узё′ў. *Жор.*

ПРЫМЕ′РНА (прыме′рна) *прысл.* Напрыклад. Прыме′рна ты была′ ў Мі′нску, а пато′м цябе′ пяравялі′ ў Маскву′. *Дук.*

ПРЫМО′РАК (прымо′рак) *мужч.* Прымурак. Кап наго′ю стаць, абяза′цельно прымо′рак патрэ′бян, а то ш як на печ зале′сьці? *Горкі.* Ба′ба слаба′я, то не зале′зе. *Бяс.*

ПРЫПЛУГА′НІЦЦА (прыплуга′ніцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Прывалачыся. Мой жа ўчо′ра напі′ўся, дык чуць прыплуга′ніўся. *Цял.*

ПРЫПУСКНІ′К (прыпускні′к) *мужч.* Доўгая палка, якой нацягваюць ніткі асновы. Вот табе′ і на, паляце′ў мой прыпускні′к. *Мільчы.*

ПРЫРО′ДА (прыро′да) *жан.* Спадчыннасць. У маё′й ма′мы быў гус, і ў міне′, мо′жа, гэ′та па прыро′дзе. *Цял.*

ПРЫСАКАТА′ЦЬ (прысаката′ць), -чу, -кочаш;

*зак. тр.* Прыбегчы. Іва′н, як даве′даўся, што ба′цька хво′ры, дак прысакато′ў аж з Ру′дзянска. *Дук.*

ПРЫСВІРО′НАК (прысьвіро′нак) *мужч.* Прыбудоўка да свірна. Пшані′цу насі′лі прас прысьвіро′нак ў сьві′ран. *Бяс.*

ПРЫСЛЯПІ′ЦЦА (прысьляпі′цца), -плю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Прычапіцца. Чаго′ ты прысьляпі′ўся к гэ′таму дзіця′ці. *Цял.*

ПРЫСНУ′ЦЬ (прысну′ць), -н-у, -н-еш; *зак. тр.* Заснуць на кароткі час. Паста′віла я парася′там, я іх даўно′ купі′ла, паста′віла парася′там, а сама′ ўзяла′ газе′ту («Праме′нь» прышо′ў), прыле′гла пачыта′ць — і прысну′ла. До′бро, што нек ско′ро прачну′лася. *Сав.*

ПРЫСТА′ЦЬ (прыста′ць), -ну, -неш; *зак. тр.* Стаміцца. Прыста′няш за дзень, дзі′ва што, так ро′біш. *Жор.*

ПРЫСТРЫГАВА′ЦЬ (прыстрыгава′ць), -г-ую, -гу-еш; *зак. тр.* Прыфастрагаваць скроенае. *В. В.* Прыстрыгава′ла суке′нку, цяпе′р мо′жна паме′рапь. *Мік.*

ПРЫСТУ′ПНА (прысту′пна) *прысл.* Добра, ёмка. У чумака′х мя′кка, прысту′пна хадзі′ць. *Р. П.*

ПРЫСЫ′ПАЦЬ (прысы′пацъ), -лю, -еш; *зак. тр.* Прынесці. Прысы′пі два вядра′ вады′, ня менш. *Мац.*

ПРЫ′ТАЧКАМ (пры′тачкам) *прысл.* Урыўкамі. Я пры′тачкам кро′сны вы′ткала. *Мільчы.*

ПРЫТО′Н (прыто′н) *мужч.* Прытулак, свой кут. Я кажу′, што Со′ня бяс прыто′ну. *Цял.*

ПРЫХА′ТАК (прыха′так) *мужч.* Памяшканне, пераважна жылое, прыбудаванае к дому. Ле′тась прыбудава′ў прыха′так — вось жыць у ім ста′лі. *Хож.*

ПРЫХАТУ′ЛІЦЬ (прыхату′ліць) -ю, -іш; *зак. тр.* Пахаваць. Трэ′ба кап капе′йка была′ ў запа′ся, бо трэ′ба бу′дзя прыхату′ліць, кап лю′дзі ня сьмяя′ліся. *Дук.*

ПРЫЦІСКА′ЦЬ (прыціска′ць), -аю, -аеш; *незак. тр.* Мыць бялізну. З ра′ніцы я бялі′зну прыціска′ла. *Бобр.*

ПРЫШПІНДЭ′РЫЦЬ (прышпіндэ′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Прышыць. Да ясё′нкі гу′зік трэ′ба прышпіндэ′рыць. *Астр.*

ПРЭ′НЗЛІ (прэ′нзьлі) *толькі ў мн. Гл.* брыжыкі. *Ніз.* Харо′шая была′ ху′стка с прэ′нзьлікамі. Круго′м ху′сткі прэ′нзьлі. *В. В.*

ПРЭНТ (прэнт) *мужч.* Металічны прут. Прэ′нтам зава′львалі з сярэ′дзіны дзьве′ры. Прэнт у нас жале′зны. *Бяс.*

ПСТРЫ′ЖКА (пстры′шка) *жан. Гл.* бабка. Пстры′шкі такі′я вялі′кія быва′юць! *Вішн.*

ПУЗА′ТАЯ (пуза′тая) *прым.* Цяжарная. Яе′ ні мо′жна чапа′ць, яна′ пуза′тая. *Дук.*

ПУК (пук) *мужч.* Ножка ў цыбулі, на якой знаходзіцца суквецце. Цыбу′ля пашла′ ў пуке′. Ба′цька, быва′ла, як пака′жацца пук, дак зрыва′я. *Цял.*

ПУКАВА′ТАЯ (пукава′тая) *прым.* Морква, якая пашла ў пукі. У мяне′ дык мо′ргава ўжо пукава′тая. *Шут.*

ПУ′ЛКА (пу′лка) *жан. Гл.* полка. Вонь з гэ′тай ху′сткі зрабі′ пу′лку. *В. В.*

ПУЛЬСЭ′ТКА (пульсэ′тка) *жан.* 1. *Гл.* пальсэтка. *Вайк., Варн., Хож., Р. Ч., Ляшч.* Начала′ рабі′ць сьве′тар пульсэ′ткай. *Вішн.* 2. Частка суконнай шкарпэткі. *Хож., Малм., Вайк.* Зрабі′ла ўжэ пульсэ′тку. Ну, вось пульсэ′тка, зь яе ш пачына′юць вяза′ць шкарпэ′ткі, а по′тым вя′жуць про′ста. *Варн.*

ПУП (пуп) *мужч.* Прылада, пры дапамозе якой робяць пасуду. Гэ′ты пуп стары′, яшчэ′ дзед рабі′ў. *Ляшч.*

ПУСТАГАЛО′ВАК (пустагало′вак) *агульн.* Бесталковы чалавек. А ба′цька ка′жа: «Эх пустагало′ўкі вы, бу′дзя вам го′ра». *Сав.*

ПУ′СТКА (пу′стка) *жан.* Нежылое, пакінутае памяшканне. Стаі′ць пу′стка с павыбіва′нымі во′кнамі, а ко′лісь як з гэ′тых ако′н сьпява′лі. *Бяс.*

ПУСТЫ′НЯ[1] (пусты′ня) *жан.* Неўрадлівае поле. *Бяс., Быт., Так.* Во ў тым баку′ пусты′ня. *Вішн.*

ПУСТЫ′НЯ[2] *перан.* Пусты, несур'ёзны чалавек. Напі′ўся ўжо, пайшо′ў, пусты′ня. *Вішн.*

ПУСТЭ′ЛЬНЯ (пустэ′льня) *жан.* Вялікі будынак. Пустэ′льня гэ′дакая, дро′ў ні набра′цца, кап нагрэ′ць. *Цял.*

ПУСТЭ′ЧА [1] (пустэ′ча) *жан. Гл.* пустыня [2]. Вот, галава′— пустэ′ча. *Ігр.*

ПУСТЭ′ЧА [2] (пустэ′ча) *жан. Гл.* пустыня[1]. На пустэ′чы дрэ′нна ўсё ўдае′цца. *Ігр.*

ПУЦІ′НА (пуці′на) *жан.* Сцежка. Вы′кінуў я даро′гу баяву′ю і пайшо′ў пуці′наю, і мно′га бліжэ′й. *Бяс.*

ПУЦЬ (пуць) *жан.* Чыгунка. Вот як ірва′лі гэ′ту пуць, так стра′шна было′. *Дук.*

ПУ′ЧЧА (пу′чча) *ніяк., зборн. Гл.* карушок. *Р. Ч., Заб.* Сё′лета мой шча′вель уве′сь у пу′чча пайшо′ў, во насе′ньне бу′дзе. *Ігр.*

ПУШЫ′ЦЬ (пушы′ць) *незак. тр.* Брадзіць. Як ма′ла са′хару, то я′гады кі′снуць і пу′шаць. Быва′я, што яны′ запуша′ць. *Ляшч.*

ПЫЛО′К (пыло′к) *мужч. Гл.* амялле. Пыло′к трэ′ба ш сабра′ць, дзе дзі′рку заткну′ць. *Дук.*

ПЫЛЯ′ТА (пыля′та). Кураняты. Глядзі′, Ната′шка, кап кот пыля′т ні сьцёх. *Жор.*

ПЫНІ′ЦЬ (пыні′ць), -ю, -іш; *незак. тр.* Рабіць усю хатнюю работу. За гэ′та ёй′ і до′ма пыні′ ўсё. *Дук.*

ПЫ′РСКАЦЬ (пы′рскаць), -ю, -еш; *незак. тр.* Сварыцца з запалам. Як узлуе′цца, дак калі′ запы′рская. *Цял.*

ПЭ′ЛАХ (пэ′лах) *мужч.* Спалох. Пры′дзя п'яны′-п'яню′сянькі, пэ′лаху наро′біць у ха′ця. *Сав.*

ПЭ′НСЯ (пэ′ньсся) *жан.* Пенсія. Яна′ яшчэ′ пэ′ньсі не палуча′е, але′ зая′ўлена ў раё′ні. *Так.*

ПЯНЬКО′ЎКА (пянько′ўка) *жан.* Хустка сярэдняга

памеру з парцяных нітак. Быва′ла як вы′йдуць дзяўча′та ў ро′ўных пянько′ўках. *Шут.*

ПЯРА′К (пяра′к) *мужч.* Градкі бульбы, размешчаныя ўпапярок. У канцы′ на′шых со′так пасе′яна было′ калхо′зная жы′та, і кап яго′ ні патапта′ць, паара′лі пяра′к. *Дук., Жор., Вішн.*

ПЯРВЕ′Й (пярве′й) *прысл.* Раней, некалі. Пярве′й тут была′ бо′йкая даро′га, цяпе′р зарасла′. *Малм.*

ПЯРЫНА′ (пярына′) *жан., зборн.* Лісце цыбулі. До′ўгая пярына′ ў цыбу′ліны гэ′тай. *В. В.*

ПЯ′РЫЦЬ (пя′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Біць пранікам. Пра′нікам пало′тны як вы′ччым, пя′рым. *Быт.*

ПЯРЭ′БАРКА (пярэ′барка) *жан.* Ахапак. Я яшчэ′ патка′рмліваю каро′ву, пры′дзя с по′ля, а я ёй′ яшчэ′ пярэ′барку се′на палажу′. *Жор.*

ПЯРЭ′ДНЯЯ ХАТА. Кухня. Сь се′нцаў ідзе′ш у пярэ′днюю ха′ту, у яко′й стаі′ць печ. *Бяс.*

ПАРЭ′ЗАЎКІ (пярэ′заўкі) *толькі ў мн. Гл.* перазоў. Пасьля′ вясе′льля ў нядзе′лю бацькі′ е′дуць у пярэ′заўкі. *Хож.*

ПЯРЭ′ЗВЫ (пярэ′звы) *толькі ў мн. Гл.* перазоў. *Р. Ч., Мік., Дук., Лях., Ніз., Цял.* На пярэ′звы ў нас заву′ць са′мых блі′скіх. Калі′ вязу′ць паса′х няве′сты, а за ім іду′ць го′сьці, то гаво′раць, што е′то пярэ′звы. *В. В.*

ПЯРЭ′ЧКА (пярэ′чка) *жан. Гл.* пярак. Каб ня патапта′ць чаго′, у канцы′ гра′нак пярэ′чкі ро′бяцца. *Вішн.*

ПЯРЭ′ЧНАЯ (пярэ′чная) *прым.* Папярочная. Паганя′й, там пярэ′чныя баро′зны. *Ляшч.*

ПЯТЛЮ′ШКА (пятлю′шка) *жан. Гл.* гафтачка. Зрабі′ла велікава′тую пятлю′шку, але′ мо′жа нічо′га бу′дзе. *Вішн.*

ПЯТРУ′ШКА (пятру′шка) *жан. Гл.* андрэйка. Пятру′шачка, мая′ ду′шачка, дзе ты была′. *Ляшч.*

ПЯЦІСЦЕ′ННЫ (пяцісьце′нны) *прым.* Будынак, у

які́м ёсць пяць сцен. Пяцісьце′нны дом сабе′ схо′дна купі′ў. *Заб.*

ПЯЧАЛА′ (пячала′) *жан.* Чапяла. Маўчы′, а то як агрэ′ю пячалы′. *Кол.*

## Р

РАБО′ЧЫ (рабо′чы) *прым.* Працавіты. Іх Гэ′ля няціка′вая, але′ рабо′чая. *Цял.*

РАГАВІЧО′К (рагавічо′к) *мужч.* Вугал плота. Навяза′ла казу′ ў рагавічку′ пло′та. *Бяс.*

РАДАБО′ДЗІНА [1] (радабо′дзіна) *жан.* Грубое палатно. І вытка′лася радабо′дзіна. *Кальч.*

РАДАБО′ДЗІНА [2] (радабо′дзіна). Дрэнная, нясмачная ежа. Што я бу′ду е′сьці гэ′тыя радабо′дзіны? *Кальч.*

РАДАБО′ДЗЬ (радабо′ць) *жан. Гл.* радабо′дзіна[1]. Яко′е ж гэ′та палатно′? Адна′ радабо′ць. *Кальч.*

РАДЗІ′НЫ (радзі′ны) *толькі ў мн.* Гасцінец з прычыны нараджэння дзіцяці. Прынё′с радзі′ны — віна′, бу′лак—усі′м учыцяля′м. Што ш ты′я радзі′ны. То′лькі ты′я пачалі′, а по′тым дава′й скла′ччыну. Гуля′лі ўсю ноч. *Сав.*

РАДНІНО′ (радніно′) *ніяк. Гл.* зрэбніна. На гру′бае палатно′ ка′жуць радніно′. *Папл.*

РАДО′ЎКА (радо′ўка) *жан.* Чарга пасвіць скаціну. *Бяс., Р. Ч., Р. П.* Ско′ра і на′ша радо′ўка пады′дзе. У нас у радо′ўку ганя′юць: сё′ньня нам, а за′ўтра друго′му. *Заб.*

РА′ЖКА (ра′шка) *жан., перан.* Тлусты твар. Старшыня′ прые′хаў маладзе′нькі, худы′, а прабы′ў тры гадэ′, дык таку′ю ра′шку нае′ў, што і вачэ′й ня віда′ць. *Жор.*

РАЖЭ′РНЯ (ражэ′рня) *жан.* Аранжарэя. Не′калі ў па′на ражэ′рня была′, дзе цьвятэ′ расьлі′. *Цял.*

РАЗА′К (раза′к) *мужч.* Піла, якой пілуюць дровы.

Да′лі сусе′ду раза′к, дык ён яго так стачы′ў, што хоць но′вы купля′й — навастры′ць няма ж дзе. *Жор.*

РАЗБАРСА′ЦЬ (разбарса′ць) *зак. тр.* Разматаць абory ці што іншае з вяровак, шнуркоў, нітак. Ла′пці разбарса′ліся. *Дук.*

РАЗБІ′ЦЬ (разьбі′ць) *зак. тр.* Падзяліць зямлю на ўчасткі. За По′льшчаю ў на′шу дзярэ′ўню прыяжджа′лі, каб разьбі′ць на футара′. *Ляшч.*

РАЗБРА′КЛАЕ (разбра′клае) *дзеепрым. Гл.* набраклае. Даста′ла разбра′клае насе′нне са шкля′нкі. *Р. Ч.*

РАЗБРЫНЯ′ЎШАЕ (разбрыня′ўшае) *дзеепрым. Гл.* набраклае. Пагляддзі′, яко′я мае′ разбрыня′ўшая насе′ньня. *Дук.*

РАЗБУРЫ′ЦЬ (разбуры′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Распусціць вязанае. Ху′стачку разбуры′ла і наске′ зьвяза′ла. *Дук.*

РАЗВО′ДНІК (разво′днік) *мужч.* Калодачка з дзірачкамі, праз якія прадзяваюцца шнуркі ад панажоў. А разво′днік, кап панажы′ не зьязджа′лі ў адно′ ме′сца. *Ляшч.*

РАЗВЯРНУ′ЦЬ (разьвярну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Глыбока парэзаць. Дзе′ці Ната′шцы па′ляц разьвярну′лі шкло′м. *Жор.*

РАЗГІРЭ′ГАНЫ (разгірэ′ганы) *прым.* Кульгавы. По′тым яна′ паняла′, што ніко′му яна′ ня трэ′ба разгірэ′ганая. *Жор.*

РАЗЗЯ′ПІЦЬ (разьзя′піць), -плю, -іш; *зак. тр.* Адчыніць. Ну чаго′ ты там разьзя′піў дзьве′ры ды стаі′ш! *Гум.*

РАЗЛУ′ЧНІК (разлу′чнік) *мужч. Гл.* разводнік. *Дук., Р. П., Р. Ч., Кальч., Варн., Бяс., Ігр.* Як палама′ўся разлу′чнік, то панажы′ вунь як адзі′н на адзі′н наляза′юць. *Папл.*

РАЗМАІ′ТА (размаі′та) *жан. Гл.* думаўё. Размаі′ту трэ′ба было′ б абабі′ць чым-не′буць. *Вішн.*

РАЗРАБІ′ЦЦА (разрабі′цца), -блю-ся, -біш-ся; *зак. тр.* Растаўсцець. Га′нна разрабі′лася, як печ, гэ′дакая тоўстая. *Цял.*

РАЗРЫВА′ЦЬ (разрыва′ць), -аю, -еш: *незак. тр. Гл.* прарываць. *Вайк., Ляшч.* Як пашла′ разрыва′ць буракі′, дык і прапа′ла. *Шут.*

РАМНО′ЎКА (рамно′ўка) *жан.* Мясцовы гатунак бульбы. Я ле′тась быў усе′ со′ткі ўкі′даў рамно′ўкай. *Дук.*

РА′НА (ра′на) *прысл.* Раніцай. Зарэ′жам цяля′ ра′на. *Дук.*

РАСЛЯКІ′ (расьлякі′) *толькі ў мн. Гл.* копачка. Вот е′такай паро′й, калі′ ў каго′ ё′сьць бу′льба, дык яна′ з расьляка′мі. *Дук.*

РАСПАСЦЕ′РЦІСЯ (распасьце′рціся), -стру-ся, -стрэш-ся; *зак. тр.* Заняць многа месца, рассесціся. Пасу′нься тро′ха, распасьце′рлася на ўсю ла′ву. *Цял.*

РАСТ (раст) *мужч. Гл.* копачка. Ско′лькі во′чак, сто′лькі расто′ў. *Варн.*

РАСПАТВО′РЫЦЬ (распатво′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Раздурыць. Распатво′рыў дзе′ці, дык ніко′га ня слу′хаюць. Распатво′рыў жо′нку, нічо′га ня рабі′ла, усё′ най-ма′ла. *Дук.*

РАСПЫЛЯ′Ч (распыля′ч) *мужч.* Прылада для распылення парашкоў. Распыля′ч узяў пат паве′ткай, на′да сат ду′стам апсы′паць. *Вайк.*

РАСША′ХТАЦЬ (расша′хтаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Разрэзаць. Разлажы′лі руку′ дый рысша′хталі мне па′ляц. *Цял.*

РАСШЭ′ЎКА (рашшэ′ўка) *жан.* Карункі, якія ўшываюцца ў сярэдзіну абруса, ручніка, прасціны. *Р. Ч., Вайк., Ніз., Папл., Так.* Я′снае дзе′ла, што як уvашы′еш рашшэ′ўкі ў ручнікі′, дык і прыгажэ′й. *Р. Л.* Сістра′ зьвяза′ла рашшэ′ўкі. *Пр.* Пашы′ла на′валкі з но′вымі рашшэ′ўкамі. *В. В.*

РА′ТА (ра′та) *жан.* Падатак. Цяпе′р ка′жуць нало′х, а не′калі каза′лі ра′та, ра′ту трэ′ба плаці′ць. *Хар.*

РАЎНЯ′ (раўня′) *жан.* Узрост. Вало′дзя, му′сіць, твае′ раўні′. *Дук.*

РАЎЧУЧО′К (раўчучо′к) *мужч. Гл.* лонка. Мно′га на′до раўчучко′ў нарабі′ць пад мо′ркву. *Р. Ч.*

РАЧКАВА′ЦЬ (рачкава′ць), -кую, -куеш; *незак. тр.* Рабіць не разгінаючыся доўгі час. Ты сё′ньня цэ′лы дзень рачкава′ла. *Дук.*

РАШЧЫ′НА (рашчы′на) *жан.* Цеста. Рашчы′ну ме′сяць і са′дзяць у печ. *Бяс.*

РВЯНУ′ЦЬ (рвяну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Рвануць. Яна′ як рвяну′ла, дак і парва′ла. *В. В.*

РОГ (рох) *мужч.* 1. Канец сяла. Іх ха′та на рагу′ ся-ла′ стаі′ць. *Дук.* 2. Куток у садзе. У рагу′ расьце′ вялі′кая сьлі′ва. *Дук.*

РО′ЙСТРА (ро′йстра) *жан. Гл.* няўдоба. Ро′йстра ў ле′се — бярэ′зьніку і мо′ху шмат, пні гнію′ць. *Так.*

РО′ЛЬНЯ (ро′льня) *жан.* Соткі ў полі. Я падышла′ пад сваю′ ро′льню, паглядзе′ла, дак там грась, а я хаце′ла падра′паць, а тады′ ду′маю, што ш ту′ю грась варо′чаць. *Сав.*

РО′СКА (ро′ска) *жан.* Розга, дубец. Мой сядзі′ць цэ′лы дзень, хоць бы ро′сак прынё′с на ве′нік, а я і сама′ п ужо′ зьвяза′ла. *Жор.*

РО′ШАЎКА (ро′шаўка) *жан. Гл.* расшэўка. На′ўлечкі пашы′ла, але′ трэ′ба яшчэ′ зьвяза′ць ро′шаўку. *Шут.*

РО′ШВА (ро′шва) *жан. Гл.* расшэўка. Паўшыва′ла ро′швы ў абрусы′. *Сал.*

РУБО′Е (рубо′е) *прым. Гл.* зрэбіна. Вы′ткала рубо′га, цяпе′р на не′калькі гот хва′ціць. *В. В.*

РУДА′ (руда′) *жан.* Гразь карычневага колеру. На бало′ця бяро′м таку′ю руду′ю зялянкава′тую грась — руда′ заве′цца. Рудо′ю фарбава′лі палатно′. *Цял.*

РУМ (рум) *мужч.* Лес, які высякаюць. Тут пачына′ўся рум, на ты′сячы кіламе′траў выво′зілі. *В. В.*

РУ′ПІЦЦА (ру′піцца), -плю-ся, -піш-ся; *незак. тр.* Клапаціцца. Я сё′лята ні бу′ду ру′піцца, кап сьвінчо′ купі′ць. *Цял.*

РУСТА′ЎКА (руста′ўка) *жан. Гл.* расшэўка. У нас, му′ся, гэ′та бу′дзя руста′ўка. *Кальч.*

РУ′ШЫЦЦА (ру′шыцца), -у-ся, -ыш-ся; *незак. тр.* Ісці. Ён ка′жа: «Кабе′тачка, сядзі′ тут і ні ру′шся ніку′да». *Цял.*

РУКА′ЎКА (руко′ўка) *жан.* Рукавіца. Зьвяза′ла руко′ўку хло′пцу. *Дук.*

РУКА′СТЫ (рука′сты) *прым.* Чалавек, які любіць узяць чужое. Яна′ была′ рука′стая: усё′ падбярэ′. *Дук.*

РУ′ХНУЦЬ (ру′хнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Схадзіць. Мне трэ′ба ў За′зярку ру′хнуць сьвя′там. *Дук.*

РУЦЕ′НЬКА (руце′нька) *жан. Гл.* каслаўка. Усяго′ та дзьве руце′нькі. *Ігр.*

РУЦНЯ′ (руцня′) *жан.* Палойка ільну. Сматра′ які′ цюк. Быва′юць і па пятна′ццаць, тры′ццаць, со′рак руце′нь лё′ну ў цюку′. *Быт.*

РУЧЭ′ЙКА[1] (ручэ′йка) *жан. Гл.* каслаўка. *Бяс., Малм., Р. П.* Ручэ′йкі кладу′ць аддзе′льна. *Вайк.*

РУЧЭ′ЙКА[2] (ручэ′йка) *жан. Гл.* адкідзіч. На ручэ′йку быва′е по′йдзе два-тры верацяны′. *В. В.*

РЫБА′РНЯ (рыба′рня) *жан.* Будынак, у якім перапрацоўваюць рыбу. Была рыба′рня на ры′бу, там усё′ гато′вілі з ры′бы. *Ляшч.*

РЫЗМА′Н (рызма′н) *мужч.* Парваная адзежына. Я ране′й і рызмано′м была′ ра′да, а цяпе′р то′лькі ў кра′мнум хаджу′. *Цял.*

РЫЗМА′ННЕ (рызма′ньня) *толькі ў адз., зборн.* Парванае адзенне. Бе′дныя сіро′ткі, у іх нічо′га няма′: адно′ рызма′ньня. *Жор.*

РЫ′ЗНІК (ры′зьнік) *мужч.* Чалавек, які збірае рыззё. Як ры′зьнік е′зьдзіць, дак усе′ нясу′ць рызьзё′. *Ляшч.*

РЫЗО′ЎКА (рызо′ўка) *жан.* Пасцілка, тканая з рыззя. І цяпе′р часьцяко′м яшчэ′ ткуць рызо′ўкі. *Р. Л., Малм.*

РЫ′ЗЫ (ры′зы) *толькі ў мн.* Парванае адзенне. *Варн.* Ай, ры′зы мы здае′м ры′зьніку на мы′ла ці ху′сткі. Як папа′ўся ў саба′кі , дык чуць вы′рваўся, усю′ адзе′шку парва′лі, адны′ ры′зы аста′лі′ся. *Пр.*

РЭЗЬ (рэсь) *жан.* Аперацыя. Ні пайду′ ў бальні′цу, бо павяду′ць мяне′ на рэсь. *Цял.*

## С

САБА′ЧЫЯ ГРЫБЫ (саба′чыя грыбы). Непрыгодныя для яды. Мухамо′ры заву′ць саба′чыя грыбы′. *Ляшч.*

САГА′Н (сага′н) *мужч.* Жалезны або чыгунны гаршчок. Вазьмі′ гэ′ты сага′н, што ва′рым бу′льбу сьві′ньням. *Бяс.*

САДЗЕ′ЛЬНЯ (садзе′льня) *жан.* Жанчына, якая садзіць бульбу. Садзе′льні па чарзе′ ро′бяць адна′ ў друго′й. *Так.*

САДЗЭ′НЕ (садзэ′не) *ніяк.* Частка крэсла. Не ў ко′жным крэ′сьле садзэ′не мя′ккае. Як у нас дык ніко′лі і не было′ крэ′сла зь мя′ккім садзэ′нем. *Бяс.*

САК (сак) *мужч.* Верхняя мужчынская вопратка з даматканага сукна, пашытая ў зборкі. Сак бы′ў даўжынё′й ніжэ′й кале′на, шы′лі з забо′рамі і ў скла′ткі. *Аздз.*

САЛАДУ′ХА (саладу′ха) *жан.* Раствор, у які апускаюць пасуду пасля абпальвання. Ты што, чуць не забы′ў апусьці′ць пасу′ду ў саладу′ху! *Шут.*

САЛАННЁ′ (саланьнё′) *ніяк., толькі ў адз.* Свежаніна. Палажы′ла кускі′ два саланьня′ на маро′с, а адле′га была′, дак яны′ і запа′хлі, прышло′ся сьвіньня′м павары′ць. *Жор.*

САЛАПА′ТЫ (салапа′ты) *прым.* З адчыненым ротам. Дзе′ці такі′я салапа′тыя ў яе′. *Жор.*

САЛЕ′ТРА (сале′тра) *жан. Гл.* дукет. Дай сале′тры тро′шкі набяру′, трэ′ба до′ма пасы′паць. *Пр.*

САМАТКА′НКА (саматка′нка) *жан.* Спадніца з саматканага палатна. Яшчэ′ мая′ ма′ма насі′ла саматка′нкі. *Ніз.*

САНАПРА′ДКА (санапра′тка) *жан.* Калаўрот. Цяпе′р ніко′му санапра′тка ні патрэ′бна, бо ма′ла хто прадзе′. *Быт.*

САПРЫ′ЧКА (сапры′чка) *жан. Гл.* падцяжка. *Заб.* Сапры′чка патры′млівае наво′й, і ён ня мо′жа аткру′чвацца наза′т. *Бяс.*

САПХНУ′ЦЬ (сапхну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Скінуць. Ён раска′зуваў як цара′ сапхну′лі з прасто′лу. *Дук.*

САРАКІ′ (саракі′) *толькі ў мн.* Свята, якое прыходзіцца на 9 сакавіка (па ст. ст.). *Бяс., Р. Л., Быт., Ігр., В. В., Папл., Хож., Заб.* Саракі′ го′няць сьнех да ракі′. *Вішн.*

САРАКО′ЎКА (сарако′ўка) *жан.* Гатунак бульбы, якая паспявае за сорак дзён. Сарако′ўка сьпе′я прас со′рак дзён. *Цял.*

СЕРАМЯ′ЖЫ (серамя′жы) *прым.* Сарамяжлівы. На′тта ш ужо′ ён сарамя′жы, саро′мяяцца сло′ва сказа′ць. *Дук.*

САРО′ЧКА (саро′чка) *жан.* Жаночая кашуля. Дык у саро′цца я вы′шла. *Дук.*

САРПІ′НКА (сарпі′нка) *жан. Гл.* шарпінка. *Ніз.* Сарпі′нка — гэ′та як яка′я краца′стая ткані′на у кле′ткі або ў кве′ткі. *Пр.*

САСТРЫГАВА′ЦЬ (састрыгава′ць), -г-ую, -гу-еш; *зак. тр. Гл.* прыстрыгаваць. Пачака′й, састрыгу′ю пла′цьця, тады′ пpыме′раіш. *Папл.*

САСТУПІ′ЦЦА (саступі′цца) *зак. тр.* Збегчыся, ссес-

ціся. Андрэ′яву руба′шку памы′лі, дак саступі′лася, трэ′ба купля′ць но′ваю. *Цял.*

СА′ТКА (са′тка) *жан.* Вязаная хустка. Што вя′занка, што са′тка, усё′ адно′. *Мік.*

САЎСІ′М (саўсі′м) *прысл.* Зусім. Ён саўсі′м быў няграматны, але′ ў салда′тах навучы′ўся чыта′ць. *Дук.*

СА′ЧЫК (са′чык) *мужч.* Верхняя кароткая жаночая вопратка з саматканага сукна. *Варн., Р. П.* З гэ′тай вё′скі дзяўчы′на ў са′чыку. Са′чык — гэ′та трохчвэ′ртны жаке′т. *Вайк.*

САЧЫ′ЎКА (сачы′ўка) *жан.* Сачавіца. *Ляшч., Варн.* Сачы′ўка пахо′жа на старадэ′ль. Сачы′ўка цьвіце′ сі′нім цьве′там. *Бяс.*

САШЧАЎКНУ′ЦЦА (сашчаўкну′цца), -ну-ся, -неш-ся; *зак. тр.* Скрануцца з месца. А то яна′ сашчаўкну′лася і скулі′лася с са′нак. *Дук.*

СВАБО′ДА (свабо′да) *жан.* Савецкая ўлада. А свабо′да як прышла′, пан уцё′к. *В. В.*

СВЕ′ТЛЫ ПАКО′Й (сьве′тлы пако′й). Лепшы пакой у жылым доме. За′рас у ко′жным до′мі ё′сьць прасто′рны сьве′тлы пако′й. *Мік.*

СВІНУ′РКА (сьвіну′рка) *жан.* Свінарка. Сьвіну′рка пака′зувала нам, дзе радзі′лася дзіця′. *Дук.*

СВІРКУ′Н (сьвірку′н) *мужч.* Цвыркун. У ха′ці сьвірку′н завё′ўся. *Шут.*

СВІСТУ′Н (сьвісту′н) *мужч.* Манцель. Ня ве′рця вы гэ′таму сьвістуну′, ён жыў ня бу′дзя, як ня зма′ніць. *Дук.*

СВЭ′ТАР (свэ′тар) *мужч.* Світар. Цяпе′р у мо′дзя вя′заныя свэ′тры. *Вішн.*

СВЯРШЧО′К (сьвяршчо′к) *мужч.* *Гл.* свіркун. *Гіл.* Сьвяршчо′к жо′ўценькі, а гало′ўка чо′рная. Вот як завё′ўся сьвяршчо′к, як пры′йдзе то′лькі ноч, спако′ю ні даво′ў. *Пр.*

СЕ′ДЗЕЛКА (се′дзелка) *жан.* Дошка, на якой сядзіць

ткаля. Пазы′ч се′дзелкі на два дні, по′куль сваю′ зро′бім. *Мільчы.*

СЕ′ЖА (се′жа) *жан.* Сетка, якой перагароджваюць раку. Се′жаю не′калі лаві′лі ры′бу. *В. В.*

СЕЛЯДЗЁ′ЎКА (селядзё′ўка) *жан.* Бочка з-пад селядцоў. Я ўжо нашаткава′ла сялядзё′ўку капу′сты. *Дук.*

СЕЛЯДО′РШЫ (сялядо′ршы) *прым.* Сярэдні ў сям'і. Сялядо′ршы сын із'е′зьдзіў на цаліну′, але′ вярну′ўся. *Цял.*

СЕ′М'Е (се′мье) *ніяк.* Льняное семя. Се′мье было′ ў мяшку′ падве′шана, мяшо′к зьня′лі, вы′ехалі ў по′ле і пачалі′ се′яць лён. *Бяс.*

СЕ′МЯ (сё′мя) *ніяк. Гл.* се′м'е. Сыпе′лае сё′мя тако′е чо′рненькае як вот мура′шкі. *Вішн.*

СЕМЯНО′ (семяно′) ніяк. Насенне. На семяно′ зе′рне збіва′лася, высыпа′лася са′мае бу′йнае. *Бяс.*

СЕНАВА′ЦЬ (сенава′ць), -ую, -еш; *незак. тр.* Касіць сена. А хазя′ін хо′дзіць сенава′ць. Трэ′ба ш каро′ўцы се′на прыдба′ць. *Так.*

СЕ′НЕЧКІ (се′нічкі) *толькі ў мн.* Сенцы. У мяне′ се′нічкі адра′зу ж ад сяла′, адчы′ніш іх, а пасьля′ ў ха′ту другі′я дзьве′ры вяду′ць. *Папл.*

СЕРАДНЯ′ (серадня′) *прысл. Гл.* палудніца. Калі′ ра′ніцай захо′ча спаць, ка′жуць — серадня′ пасьпі′ш. *Кальч.*

СЁ′НІ (сё′ні) *прысл.* Сёння. Сё′ні трэ′ба йсьці. *В. В.*

СІБІ′РНА (сібі′рна) *прысл.* Моцна. На′ша няве′стка сібі′рна б'е дзяце′й. *Цял.*

СІБІ′РНАЯ (сібі′рная) *прым.* Злосная, сярдзітая. Яна′ш сібі′рная. Як узлуе′цца, дак бы забі′ла. *Цял.*

СІВАБА′ВІНА (сіваба′віна) *жан.* Пясчаная глеба з прымессю чарназёму. На сіваба′віне то′лькі сьвірэ′пка і расьце′. *Пр.*

СІВУ′ХА (сіву′ха) *жан.* Сталая жанчына, паводзіны

якой выклікаюць асуджэнне. На што′ табе′ гэ′тыя дзе′ці? Сіву′ха ты. *Дук.*

СІ′ЛЬНА (сі′льна) *прысл.* Цяжка. Ён жыў, але′ сі′льна ра′няны. *Цял.*

СІНЮ′К (сіню′к) *мужч.* Малады шчупак. От на днях я сінюко′ў зляві′ў, то з два′ццаць было′. *Мік.*

СІНЯ′К (сіня′к) *мужч.* Спадніца з саматканага палатна, пафарбаваная ў сіні колер. Цяпе′р сіняко′ў няма′, цяпе′р но′сяць сі′нія кра′мныя спадні′цы. *Хож.*

СІПА′К (сіпа′к) *мужч.* Пясчаная глеба сівога колеру. Калі′ на сіпаку′ се′юць лу′бін, дык яшчэ′ мо′жа спра′віцца. *Бяс.*

СІПАКАВА′ТАЯ (сіпакава′тая) *прым. Гл.* сіпак. На сіпакава′тай зямлі′ гной нічо′га не памо′жа. *Бяс.*

СІПЕ′Ц (сіпе′ц) *мужч. Гл.* сіпак. На сіпцы′ арэшніча′к расьце′. *Папл.*

СІПУГА′ (сіпуга′) *жан.* Глеба з прымессю глею. У нас чарназё′мнай зямлі′ саўсі′м ма′ла, сіпуга′ на ні′скіх ме′снасьцях. *В. В.*

СІ′ТНІЦА (сі′тніца) *жан.* Сітны хлеб. Нама′зала дзьве скі′пкі сі′тніцы. *Дук.*

СІФО′НІЦЬ (сіфо′ніць), -ю, -іш; *незак. тр.* Пранізваць поглядам. Ты чаго′ мяне′ сіфо′ніш? Даўно′ ні ба′чыў? *Гр.*

СКАЛО′ЧАНКА (скало′чанка) *жан.* Маслёнка. Люблю′ ато′пленую скало′чанку. Пада′й мі′ску, я скало′чанку з бо′йні вы′лью. *Аздз.*

СКАЛЯРУ′ШЧЫНА (скаляру′шчына) *жан.* Лушпіна ад яйка. Быва′ла я′йца пяку′, скаляру′шчын мно′га, з двух-трох дзён, а ма′тка пры′дзя і накрычы′ць — раско′шно, раско′шно. *Сав.*

СКАРАСПЕ′ЙКА (скарасьпе′йка) *жан.* Ранняя бульба. Скарасьпе′йку ужэ падгляда′ю. *В. В.*

СКАРА′Ч (скара′ч) *мужч. Гл.* падзежнік. *Сал., Лях.,*

*Варн., Пр., Цял.,* Быва′ло вы′тчыш кру′глы шыро′кі скара′ч і закрыва′еш це′ста, кап прусаке′ не нале′зьлі. Накры′й скарачо′м, кап му′хі не ле′зьлі. *В. В.*

СКЛА′ДЗІК (скла′дзік) *мужч.* Кладоўка. Ты пасто′ў ку′фар у скла′дзік. *Цял.*

СКЛЮ′Д (склю′т) *мужч. перан.* Худы, нязграбны чалавек. Склю′т гэ′ты сухі′, і ён іш'чэ′ сьмяе′цца. *Цял.*

СКО′ПАВІЧ (ско′павіч) *мужч. Гл.* згрэбач. Ско′павіч з двума′ зуба′мі, як у ві′лках, але′ з загнё′нымі рага′мі. *Быт.*

СКО′САК (ско′сак) *мужч.* Касынка. Ско′сак у цьвяты′ я сяго′ньня завяжу′ на та′нцы. *Варн.*

СКО′ЧКА (ско′чка) *жан.* Блыха. А ні ско′чка, а ні му′ха, а ні клоп, вот сыно′к, як у дзярэ′ўні. *Сав.*

СКРОЙ (скрой) *мужч.* Выкрайка. Да′йце мне скрой ко′фты. *Быт.*

СКРУЖАВА′ЦЬ (скружава′ць), -ва-ю, -ва-еш; *незак. тр.* Ачысціць зерне шляхам паўкругавога вярчэння рэшата. Скружава′юць каласкі′ ў рэ′шаце, адбі′тыя цэ′пам, нявы′малачаныя. *Быт.*

СКРУЖАВІ′НЫ (скружаві′ны) *толькі ў мн.* Не выбітыя цэпам каласы, што ляжаць наверсе рэшата пры скружаванні. Скружаві′ны сабіра′юцца зьве′рху, іх бярэ′ш і ку′рам аддае′ш. *Быт.*

СКРЫ′ГА (скры′га) *жан. Гл.* брыля. *Бяс.* Вот по′ле цяшко′е, скры′гі нія′к ня адве′рнеш. *Вайк.*

СКРЫЛЬКІ′ (скрылькі′) *толькі ў мн.* Суп з бульбы. Навары′ла скрылько′ў, а ніхто′ ні паспыта′ў. *Аздз.*

СКРЫЛЬ (скрыль) *мужч. Гл.* брыля. *Ігр.* Як адве′рнеш скрыль, дык варо′ны адра′зу ліця′ць. *Быт.*

СКРЭ′БСЦІСЯ (скрэ′псьціся), -бу-ся, -беш-ся; *незак. тр.* Чухацца. Скрабе′цца, як то′е парася′. *Дук.*

СКУ′ЛЛЯ (ску′лля). Трасцу. Ску′льля п вы′вучыўся за свае′ гро′шы. *Дук.*

СКУПО′ШЧЫ (скупо′шчы) *толькі ў мн.* Скупасць. Зь вялі′кіх скупо′шчаў чуць з го′ладу ні дайшла′. *Цял.*

СЛАБІ′ЦЕЛЬНЫ (слабі′цяльны) *прым.* Нядужы. Ты нічо′га ні ясі′, дак загэ′тым і слабі′цяльны. *Цял.*

СЛА′БКА (сла′пка) Слаба. *Ляшч.* Спадні′ца сла′пка дзяржы′цца. *Цял.*

СЛАНІ′НА (слані′на) *жан. Гл.* мяса. *Вайк.* Слані′ну мо′жна с цу′крам вары′ць. *Так.*

СЛІБІЗАВА′ЦЬ (сьлібізава′ць), -зу-ю, -зу-еш; *незак. тр.* Ездзіць сюды-туды. Дзьве ско′рыя по′мачы сьлібізу′-юць па го′радзя, шука′юць. *Дук.*

СЛІНКАВА′ТЫ (сьлінкава′ты) *прым.* Слінявы. Сьлінкава′ты не′кі хло′пяц удо′ўся. *В. В.*

СЛІПЕ′НДЗІЦЦА (сьліпе′ньдзіцца), -джу-ся, -дзіш-ся; *незак. тр.* Плакаць. Ну і ба′ба ж у мяне! Як то′лькі што зда′рыцца, дык адра′зу і сьліпе′ньдзіцца, няма′ жыцьця′ зь ё′ю. *Выд.*

СЛІХТАВА′ЦЬ (сьліхтава′ць), -т-ую, -ту-еш; *незак. тр.* Шліхтаваць. Насычаць аснаваную пражу растворам, каб ніткі былі больш гладкімі і моцнымі. Сліхтава′ла, кап ле′пей было′ ткаць, кап не касма′цілася. *Ляшч.*

СЛІ′ШЧА (сьлі′шча) *ніяк.* Месца, дзе сцелюць лён. *Быт., Дук., Сал.* На сьлі′шча ме′сца ро′ўнае выбіра′юць. Трэ′ба ўжо лён на сьлі′шча слаць. *Мік.*

СЛО′ВІК (сло′вік) *мужч.* Слоік. Пералі′ ты сьмята′-ну ў сло′вік, ды занясі′ ў камо′ру. *Комл.*

СЛУГАВА′ЦЬ (слугава′ць), -гу-ю, -гу-еш; *незак. тр.* Дагаджаць. Гэ′дак ужо′ слугу′ю, а яна′ ўсё крычы′ць. *Цял.*

СМА′ЖАНКА (сма′жанка) *жан.* Смажаная бульба. Пafраста′віла сма′жанку у стая′к, бо печ асты′ла. На абет сма′жанку з мя′сам рабі′ла, папро′буй, калі′ хо′чаш. *Горкі.*

СМАЛІ′ЦЬ (смалі′ць), -ю, -іш.; *незак. тр.* Выгавар-

ваць, дапякаць словам. Онь Марзалі′ха на рабо′ту ідзе′... Ба′ба стара′я, якая зь 'яе рабо′та, яна′ ш ле′пшу рабо′ту выбіра′я, а малады′я злую′ць, што ўжо сма′ляць ёй, што мало′чшыя ёй сма′ляць. *Сав.*

СМЯ′ЛА (сьмя′ла) *прысл.* Смела. Цяпе′р, калі′ вайны′ німа′, спіш сьмя′ла. *Так.*

СНАВА′ХА (снава′ха) *жан.* Жанчына, якая снуе кросны. Зайшла′ ўчо′ра я да сусе′ткі, а снава′ха ўжо за кро′снамі сядзі′ць. *Заб.*

СНЕГАВІ′ЦА (сьнегаві′ца) *жан.* Тоўстае снежнае покрыва. Харо′шы ўраджа′й паві′нен быць, ба′чыце, яка′я сьнегаві′ца, па зіме′ віда′ць, што ўраджа′й харо′шы бу′дзя. *Сав.*

СНУ′ЛЛЯ (сну′льля) *жан.* 1. *Гл.* губіца. У гу′пцы дзе′вяць ме′траў, а то быва′е во′сем. Гэ′та ўжо мала′я сну′льля. *Бяс.* 2. Прыстасаванне, пры дапамозе якога снуюць кросны. Я прыйшла′ пазы′чыць сну′льлі. *Вайк.*

СНЯГО′ЎЦЫ (сьняго′ўцы) *мужч.* Зімовы абутак з кароткімі халяўкамі. Фе′льчар сяго′ньня, но′выя сьняго′ўцы абу′ўшы, му′сіць, у Ве′нец по′йдзя. *Пр.*

СО′ЎГАЦЦА (со′ўгацца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Сланяцца без справы. Іс цэ′ха ў цэх со′ўгаўся. *Дук.*

СПАВА′ЖНА (спава′жна) *прысл.* Павольна. Васі′ль спава′жна рабі′ў. *Цял.*

СПАДНЯ′К (спадня′к) *мужч.* Парцяная спадніца. *Хож.* Але′ ж і но′окі папа′ўся мне спадня′к, хоць і с по′рту. *Малм.*

СПАЗРЫ′ЦЬ (спазры′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Угледзець. Мало′е, а адра′зу спазры′ць, дзе і што. *Клоч.*

СПАЛЯРЫЖАВА′НЫ (спалярыжава′ны) *дзеепрым.* Паралізаваны. *Ляшч.* У друго′й вё′сцы там дзя′цька ё′сць адзі′н спалярыжава′ны. *Гіл.*

СПАРЫША′НКА (спарыша′нка) *жан.* Двайныя рады бульбы. У спарыша′нкі нява′жна бу′льба, дро′бная. *Варн.*

СПАРЭ′Й (спарэ′й) *прысл.* Больш. Му′сі, спарэ′й як се′мдзісят гот. *Ляшч.*

СПЛАЦІ′ЦЬ (сплаці′ць), -ч-у, -ц-іш; *зак. тр.* Выплаціць. Няве′стка яму′ сплаці′ла, і ха′та ёй застала′ся. *Дук.*

СПЛО′ШЫЦЬ (спло′шыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Высечы амаль зусім. Не′мцы на′тта спло′шылі лес. *Ляшч.*

СПО′ДАК (спо′дак) *мужч. Гл.* вустаўка. Як у мушчы′нскую кашу′лю, вялі′кі спо′дак дае′цца. *Пр.*

СПО′ДНІК (спо′днік) *мужч.* Сподняя спадніца. Даўне′й спо′днік апшыва′лі кружава′мі. *Папл.* Два ме′тры хва′ціць на спо′днік. *Сал.*

СПО′ЎНІВАЦЬ (спо′ўніваць), -ню-ю, -ню-еш; *зак. тр.* Аддаваць пазычанае. Я свой доўх спо′ўнюю цё′нгля. *Цял.*

СПРАВЕ′ТНЫ (справе′тны) *прым.* Спрадвечны, вельмі даўні. Гэ′тыя сьлі′вы, му′сіць, справе′тныя, я ня по′мню, калі′ іх ста′віла. *Дук.*

СПРАКВО′ЛІ (спракво′лі) *прысл.* Нехаця. Ат! Ро′біць спракво′лі. Гэ′та не рабо′та. *Халм.*

СПРАКО′Н ВЕ′КУ (спрако′н ве′ку). Спрадвеку. Спрако′н ве′ку яна′ Ву′са называ′яцца. *В. В.*

СПРО′НЖКА (спро′ншка) *жан.* Спражка. Малы спро′ншку згубі′ў. *Дук.*

СПРЫ′ЧЧА (спры′чча) *ніяк.* Здарэнне. Яко′я мне спры′чча было′. *Дук.*

СПЯРША′ (сьпярша′) *прысл.* Спачатку. Сьпярша′ ні хаце′ў, а да′ляй лёх. *Цял.*

СТАЕ′ННЫ КОНЬ (стае′нны конь). Выязны конь, які не выкарыстоўваецца для працы. На канё′х на стае′нных е′дзям. *Цял.*

СТАЁ′НКА (стаё′нка) *жан.* Стойка, пры дапамозе якой вучацца стаяць малыя дзеці. Дзіця′ ў стаё′нку паста′ў, а сама′ мо′жаш любу′ю рабо′ту рабі′ць. *Бяс.*

СТАІ′ЦЬ (стаі′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Затаіць, не ска-

заць праўды. Крык быў, але′ стаі′лі, што ніхто′ ні сказо′ў. *Цял.*

СТАГА′Н (стага′н) *мужч.* Шклянка. Як перакулі′ў стага′н гарэ′лкі, дык і асла′б зусі′м. *Кол.*

СТАЛІНА′ (сталіна′) *жан.* Дошка ў столі. Каза′лі, ве′дзьма ні паміра′ла, дак узадра′лі сталіну′ і тагды′ паме′рла. *Цял.*

СТАЛЬНІ′ЦА (стальні′ца) *жан.* Верхняя плоская частка стала. До′шкі ў стальні′цы разышлі′ся. *Бяс.*

СТАН (стан) *мужч.* Талія. Пашы′еш сабе′ суке′нку да ста′ну. *Ляшч.*

СТАНАВІ′ЦЬ (станаві′ць), -ўлю, -іш; *незак. тр.* Ставіць. Нале′ю вады′ ў гаршчо′к, ды станаўлю′ ў печ. *Цял.*

СТАРАДЭ′ЛЬ (старадэ′ль) *жан. Гл.* серадэра. Няма′ дзе і пасе′іць старадэ′лі. *Быт.*

СТАРАЖАВА′ЦЬ (старажава′ць), -жу-ю, -жу-еш; *незак. тр.* Вартаваць. *Дук.* Ба′цька бурако′ў старажу′я. *Цял.*

СТАРАЖО′ЎСТВА (старажо′ўства) *ніяк.* Варта. Зьм′ерзла ве′льма на старажо′ўстві, ве′дама ўсю ноч трэ′ба хадзі′ць па дварэ′. *Цял.*

СТАР'Ё′ (стар'ё′) *ніяк., зборн.* Старыя, непрыгодныя для ўжывання рэчы. Яна ш ужо на′тта бе′дная, акрамя′ стар'я′ нічо′га німа′. *Дук.*

СТАРКАВА′ТЫ (старкава′ты) *прым.* У маршчынах. У іх ува ўсі′х старкава′ты твар. *Цял.*

СТАЎБУ′Н[1] (стаўбу′н) *мужч.* Шапка з аўчын (высокая). Не′калі стаўбунэ′ былі′, што як цярні′цы накла′двaліся, а цяпе′р шы′юць куба′нкі, альбо′ купля′юць вуша′стыя ша′пкі. *Гр.*

СТАЎБУ′Н[2] (стаўбу′н) *мужч.* Кветканоснае сцябло часнаку. *Так., Кальч.* Высо′кі які′ стаўбу′н часнаку′ на градзе′. *Варн.*

СТАЎПЕ′Ц (стаўпе′ц) *мужч.* Прылада, пры дапамо-

зе якой вяжуць ніцяныя петлі. Схадзі′ да Стэ′пкі, папрасі′ стаўпе′ц на час. *Мільчы.*

СТАЦІ′ВЫ (стаці′вы) *толькі ў мн. Гл.* красніна. Дзет яшчэ′ рабі′ў стаці′вы, а яны′ і за′рас го′дныя. *Лях.*

СТАЦІ′НЫ (стаці′ны) *толькі ў мн. Гл.* скрасніна. Нясі′, нясі′, хутчэ′й стаці′ны. *Варн.*

СТАЦЬВІ′НЫ (стацьві′ны) *толькі ў мн. Гл.* панарад. Стацьві′ны сюды′ во ў ха′ту нясі′. *Ляшч.*

СТАЯ′К (стая′к) *мужч.* Печка-галанка. Стая′к мы зімо′ю па′лім, як хо′ладно, а ўве′сну рэ′тко калі′. *Горкі.*

СТВАЛАВА′Я (ствалава′я) *прым.* Што пашла ў ствол. Калі′ по′йдзя ў ство′л, дак ка′жуць ствалава′я рэ′цька. *Дук.*

СТО′ЛАК (сто′лак) *мужч.* Лаўка. А гэ′ты сто′лак сюды′ трэ прыне′сьці. *Гр.*

СТО′ЛІК (сто′лік) *мужч.* Шуфляда ў стале. Цяпе′рашнія сталы′ без сто′лікаў, німа′ шуфля′ды, гла′ткія. *Сав.*

СТО′ЦЬВЫ (сто′цьвы) *толькі ў мн. Гл.* красніна. Сто′цьвы рабі′ліся с сасны′ або′ бяро′зы бо′льшасьці. *Хож.*

СТРАКА′ЦЦА (страка′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Сустракацца. Я зь ім ча′ста страко′ўся. *Цял.*

СТРАЛЯ′ЦЬ (страля′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шукаць настойліва. А со′да ці ест? У нас усе′ страля′юць со′ды, со′ды кап дзе. *Сав.*

СТРАМІ′ЦЬ (страмі′ць), -млю, -іш; *незак. тр.* Сараманіць. Я яе′ за пасу′ду ста′ла страмі′ць. *Дук.*

СТРАЧЫ′ЦЬ (страчы′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* 1. *Перан.* Служыць у арміі. Ён за мяне′ на два гады′ старэ′йшы, ён с тры′ццаць дзівя′таго, ён два го′да страчы′ў у а′рміі, пака′ я пашо′ў. *Сав.* 2. Адтарміноўваць. Жэ′ню ўзя′лі ў ва′рмію, страчы′лі, страчы′лі і ўзя′лі вясно′ю. *Цял.*

СТРО′І (стро′і) *толькі ў мн.* Уборы. Хай стро′яў прада′сьць тро′ха, ды сьвінчо′ ку′піць. *Цял.*

СТРО′ІЦЦА[1] (стро′іцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Будавацца. Пастро′іліся до′бра, ха′ту паста′вілі, хле′ў харо′шы. *Цял.*

СТРО′ІЦЦА[2] (стро′іцца), -ю-ся, -іш-ся; *незак. тр.* Прыбірацца. Яна′ лю′біць стро′іцца, мудрэ′й за маладу′ю. *Цял.*

СТРОК (строк) *мужч.* Тэрмін. На які′ строк пазыча′ла гро′шы, тады′ і адда′сьць. *Цял.*

СТРО′КІ (стро′кі) *мужч. Гл.* забарскі. На ско′лька строк ла′пці? Ла′пці на двана′ццаць стро′к *Р. П.*

СТРЫ′ЖКА (стры′шка) *жан. Гл.* бабка. *Пр.* Дзяце′й пало′хаюць стры′шкай, ка′жуць: «Хавай′ся, а то стры′шка апстрыжэ′!». *Вішн.*

СТРЭ′ЛАШНІЦА (стрэ′лашніца) *жан. Гл.* бабка. Во ко′лькі стрэ′лашніц лята′ець над вадо′й. *Ігр.*

СТРЭК (стрэк) *мужч.* Строчка пры шыцці. Быва′е дро′бны, сярэ′дні і бу′йны стрэк. Са′мы найле′пшы — сярэ′дні стрэк. *Сал.*

СТРЭ′ЛКА (стрэ′лка) *жан. Гл.* бабка. Стрэ′лка — зялё′ная, бліску′чая. *Вішн.*

СТУ′ЖКІ (сту′шкі) *жан. Гл.* катусы. Папрышыва′й ты но′выя сту′шкі ў хварту′х, а то бры′тка глядзе′ць. *Р. П.*

СТУ′КНУЦЬ (сту′кнуць). Ударыць. Пяру′н сту′кнуў у ка′мень, аш ка′мень разьбі′ў. *Бяс.*

СТУПЕ′НЬ (ступе′нь) *мужч.* Ступня. Адзі′н ступе′нь на назе′ зусі′м адарва′ны. *Дук.*

СТУ′ПКА (сту′пка) *жан.* Кубак, кружка. Прынясі′ ты мне сту′пку вады′, стамі′лася ве′льмі. *Паг.*

СТЫ′ДНІК (сты′днік) *мужч.* Сараматнік. Пужа′я дзяце′й гэ′ты сты′днік, два′ццаць гот, а ён зь дзе′цьмі ў быка′ гуля′я. *Дук.*

СТЫ′ДНІЦА (сты′дніца) *жан.* Сараматніца. Сты′дніца, дзе твае′ во′чы? *Дук.*

СУ′ВАЛАЧ (су′валач) *мужч. Гл.* амялле. С су′валачы вілі′ пу′ты ко′ням. *Быт.*

СУВО′ІНА (суво′іна) *жан. Гл.* абердзіца. *Р. Ч.*

СУВО′ЙЦЫ (суво′йцы) *толькі ў мн. Гл.* абердзіца. Пацьцягні′ суво′йцы, асла′блі. *Папл.*

СУ′ВЯЗЬ (су′вясь) *жан.* Паштовае аддзяленне. У Го′рках і канто′ра, і медыцы′нскі пу′нкт. Су′вясь і канто′ра ў адны′м до′мі, пад адно′й кры′шай. *Сав.*

СУ′КАРАТКА (су′каратка) *жан.* Скручаная нітка. Ні′ткі ў су′кáраткі падабра′ліся. *Мільчы.*

СУПАКО′Й (супако′й) *мужч.* Спакой. Ніко′лі ня было′ супако′ю. *Дук.*

СУ′СЛА (су′сла) *жан., перан.* Нязграбная жанчына. Іва′навых няве′стка не′кая, як су′сла. *Цял.*

СУТАНЯ′ЦЦА (сутаня′цца) *безасабовы, незак. тр.* Змяркацца. Сутаня′ецца, като′ра гадзі′на? *Сав.*

СУХАТА′ (сухата′) *жан., толькі ў адз.* Сухое надвор'е. Гэ′дакая сухата′ была′, агаро′т паліва′ла штодзе′нь. *Ляшч.*

СУ′ХНУЦЬ (су′хнуць), -у, -еш; *незак. тр.* Сохнуць. Але′ вот дажджу′ няма′, то бу′льба су′хне. *Так.*

СУ′ЧАЧКА (су′чачка) *жан.* Прыстасаванне, якое злучае вялікае кола калаўрота з падножкай. Адзе′нь су′чачку, а то звалі′лася, ня зно′йдзяш по′тым. *Мільчы.*

СХІЛІ′ЦЦА (схілі′цца), -ю-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Адсунуцца. Сьхілі′ся, я хачу′ вы′йсьці. *Вар.*

СХРОН (схрон) *мужч.* Сховы. Кап каму′ ў схрон зане′сьці, а то нічо′га е′сьці ня хо′чуць, давай′ варэ′нё. *Сав.*

СЦЕ′НКА (сьце′нка) *жан.* Сцежка паміж гумнамі і полем. Пайду′ сьце′нкаю, блі′жай бу′дзя. *Цял.*

СЦЁ′БНУЦЬ (сьцё′бнуць), -ну, -неш; *зак. тр.* Укра-

сці. Не′шта сьцё′бнулі з бра′там, ды ні падзялі′лі, дак пабі′ліся. *Цял.*

СЦІЖА′Р'Е (сьціжа′р'е) *ніяк.* Прыстасаванне з дрэва, веццяя пад снапы або салому. Лажы′ пабо′льш сьціжа′р'е, кап сало′ма не по′рцілася. *Лях.*

СЦІ′ЛЬШЧО (сьці′льшчо) *ніяк. Гл.* слішча. Сьці′льшчо там до′брае лён слаць. *Малм.*

СЦІ′РКІ (сьці′ркі) *толькі ў мн.* Карты. Бу′дзем у сьці′ркі гуля′ць? Учо′ра но′выя купі′лі. *Заастр.*

СЦЯГА′Ч (сьцяга′ч) *мужч. Гл.* згрэбач. Сьцягачо′м ле′пей гной сьця′гваць. *Мік.*

СЦЯГНЯ′К (сьцягня′к) *мужч.* Шынка. А мы свае′ сьцягняке′ павэ′ндзілі. *Дук.*

СЦЯЖА′Р'Е (сьцяжа′р'е) *ніяк. Гл.* сціжар'е. Нацяга′й больш сьцяжа′р'яў, не ляні′ся. *Пр.*

СЦЯНА′ (сьцяна′) *жан. Гл.* губіца. *Варн., Так., Лях.* Вы′ткала кро′сны ў пяць сьцен. Сьцяна′ ма′е пяць ме′траў. *Ляшч.*

СЧЫНІ′ЦЬ (шчыні′ць), -ю, -іш; *зак. тр.* Злучыць разам. *Р. Л., Хож., Р. Ч., Дук., Быт., Вайк., Варн., Шут., В. В., Ніз., Малм., Мік.* Шчыні′ць кудзе′лю трэ′ба і вярце′ць у кудзе′лькі. *Лях.*

СЫ′ННІ (сы′ньні) *прым.* Дзіця сына. Сы′ньняя дзіця′ гаду′я. *Дук.*

СЫП (сып) *жан.* Высыпка. Сып панапада′ла на іх. *Цял.*

СЫРАБО′ЙНЯ (сырабо′йня) *жан.* Гумно. Карто′плі с сырабо′йні нацяга′лі. *Дук.*

СЫРАПО′НЬ (сырапо′нь) *жан.* Сыракваша. Там у зба′не ё′сьць сырапо′нь? *Кол.*

СЫСКА′ЦЬ (сыска′ць) -шчу, -шчыш; *зак. тр.* 1. Сыскаць доўг. Трэ′ба гро′шы сыска′ць. Бо ня′ма ш чым на кірма′ш е′хаць. 2. Вызваць, даставіць каго-небудзь. Трэ′ба яе′ сыска′ць сюды′. *Цял.*

СЫ′ТАЯ (сы′тая) *прым.* Адкормленая, тлустая. Каро′ва сы′тая, аж блішчы′ць. *Дук.*

СЮТ-ТУТ (сют-тут) *прысл.* Сюды-туды. Сют-тут павярну′лася і пашла′. *Дук.*

СЯВО′К (сяво′к) *мужч.* Цыбуля, якую сеюць насеннем. Сяво′к се′юць ра′ньняй вясно′й, я і сама цяпе′р пасе′яўшы яго′. *Кальч.*

СЯГА′ННЯ (сяга′ньні). *Гл.* сёні. А сяга′ньні ра′нінька паляце′ў. *Ляшч.*

СЯДЗЕ′ЦЬ (сядзе′ць), -джу, -дзіш; *незак. тр.* Кватараваць. Ён сядзе′ў у нас не′кулькі гот на кватэ′ры. *Цял.*

СЯМЕ′НЕ (сяме′не) *ніяк.* Зерне, пакінутае на насенне. Трэ′ба ўкалаці′ць жы′та, за′ра се′яць пачну′ць, а сяме′ня няма′. *Так.*

СЯ′ННІ (ся′ньні) *прысл. Гл.* сёні. Я ні чу′ла, што яго′ ся′ньні бу′дуць судзі′ць. *Ляшч.*

СЯРДЗІ′ТЫ (сярдзі′ты) *прым.* Які пасварыўся і ні размаўляе. Ма′ла што вы сярдзі′тыя зь ім. *Цял.*

СЯРМЯ′ЖКА (сярмя′шка) *жан. Гл.* капота. Рас аста′віла сярмя′шку на мяжы′, дык і ні знайшла′ по′тым. *Заб., Малм.*

СЯРНІ′ЧКА (сярні′чка) *жан.* Запалка. Сярні′чкаю ап карабо′к шаргану′ць, і загары′цца сярні′чка. *Бяс.*

СЯРЭ′ДЗІНА( сярэ′дзіна) *жан.* Паясніца. Каза′ла, сярэ′дзіна балі′ць. *Цял.*

## Т

ТАВА′Р (тава′р) *мужч.* Матэрыял на боты. Ба′цька доў на бо′ты тава′ру. *Цял.*

ТАВАРЫ′СТВА [1] (тавары′ства) *толькі ў адз.* Кампанія. Як палу′чыць гро′шы, дак і тавары′ства на′йдзецца. *Цял.*

ТАВАРЫ′СТВА[2] (тавары′ства) *толькі ў адз.* Людзі

аднаго ўзросту. Ужо с тавары′ства німа′ ніко′га, усе′ паўміра′лі. *Цял.*

ТАКВЕ′ЛЯ (такве′ля) *прысл.* Ледзьве. Глянь, такве′ля што трыма′ецца. *Масц.*

ТА′ЛЬКА[1] (та′лька) *жан. Гл.* адаробкі. Сё′ньня на та′льцы віла′ ні′ткі. *Мік.*

ТА′ЛЬКА[2] (та′лька) *жан.* Няроўна спрадзеныя ніткі. Мно′га я сё′ньня та′ляк напра′ла. *Кальч.*

ТА′МАКА (та′мака) *прысл.* Там. Мне тут ле′пяй, як та′мака. *Дук.*

ТАПІ′ЦЬ (тапі′ць), -плю, -піш; *зак. тр.* Паліць у печы. Цэ′лую зіму′ плі′тку тапі′лі. *Дук.*

ТАРКА′Н (тарка′н) *мужч.* Таракан. Ране′й дык былі′ ўся′кія там тарка′ны. *Вішн.*

ТАРНАВА′ЦЬ (тарнава′ць) *безасабовы, незак. тр.* Трэсціся ў ліхаманцы. Во так мяне′ тарнава′ла ўсю ле′жачы. *Дук.*

ТАРНАВА′ЦЦА (тарнава′цца), -ую-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Калаціцца ад злосці, страху. Мы праз усю′ ноч тарнава′ліся, як не′мцы прышлі′. *Дук.*

ТАРО′ЧЫЦЬ (таро′чыць), -чу, -ыш; *незак. тр. Гл.* парочыць. *Заастр.* Дзед Анто′сь з уну′кам лю′біць таро′чыць. Скла′дна таро′чыць. *Рак.*

ТАРФІНА′ (тарфіна′) *жан.* Кавалак торфу, брыкеціна. Яе′ тарпіно′ю сьцё′бнула па галаве′. *Цял.*

ТАЎКАЧЫ′ (таўкачы′) *толькі ў мн.* Фальбоны. Чу′лі, што былі′ сьві′ты с таўкача′мі, але′ ні за на′шай па′мяцьцю. *Дук.*

ТАЎСТЫ′ (таўсты′) *прым.* Вялікі. Наўбіра′ла таўсты′х яе′ц. *Дук.*

ТАЎХА′ЛЬ (таўха′ль) *мужч.* Кухталь. Пха′юць таўхаля′мі. *Дук.*

ТАШЧАНІ′ЦА (ташчані′ца) *жан.* Пустая пятля ў

ніце. Глядзі′, кіда′й до′бра ў ніт, кап не было′ ташчані′ц. *Мільчы.*

ТКА′ЛЯ (тка′ля) *жан.* Жанчына, якая тчэ. *Вішн., Ігр.* От ткаля, перамо′т вы′снавала, спраўля′й хутчэй. *Ляшч.*

ТКА′ЛЬНЯ (тка′льня) *жан. Гл.* ткаля. *Ляшч., Пр.* Така′я ўжо саба′чая тка′льня, на′ват ні ўме′е і чаўно′к трыма′ць. *Так.*

ТКА′ХА (тка′ха) *жан. Гл.* ткаля. *Хож.* От тка′ха, дык тка′ха, і чаўнако′м ня ўме′е залажы′ць. *Рак.*

ТКА′ЧКА (тка′чка) *жан. Гл.* ткаля. Мне тка′чка даўно′ кро′сны вы′ткала. *Варн.*

ТНОМ (тном) *прысл.* Адным чынам. Як уля′піў, дак адны′м тном «хадзе′м да нас». *Дук.*

ТО′ЖА (то′жа) *прысл.* Таксама. Яны′ то′жа харо′шыя або′я. *Дук.*

ТО′ЛЕЧКА (то′лячка) *прысл.* Толькі што. То′лячка мы прые′халі зь ле′су, як прыбе′гла сусе′тка. *Цял.*

ТО′РНЫ (то′рны) *прым.* Дрэнны. Даро′га ве′льмі то′рная, ісьці′ на′ват ця′шка. *Сл.*

ТО′ЎПІЦЦА (то′ўпіцца), -плю-ся, -піш-ся; *незак. тр.* Змяшчацца. Сто′лькі было′ людзе′й, што ня то′ўпіліся ў ха′ця. *Дук.*

ТО′ЎСТАЯ (то′ўстая). Цяжарная. Я хадзі′ла То′лям то′ўстая. *Дук.*

ТО′ШНА (то′шна) *прысл.* Цяжка. Сто′лькі го′ра пражыла′, што ўспаміна′ць — то′шна ста′ня. *Жор.*

ТРАВЯ′НІК (травя′нік) *мужч.* Ляка′рства з траў. Цяпе′р гэ′тымі травя′нікамі ле′чацца. *Дук.*

ТРАЖКІ′ (трашкі′) *толькі ў мн.* Чорнае зерне. От чо′рных трашко′ў шмат у ячме′ні. Сі′нім ка′мнем трэ′ба мачы′ць, ён з'яда′е. *Ігр.*

ТРАКТАРЫ′СТЫ (трактары′сты) *мужч.* Трактарыст. Трактары′стых памясьці′лі ў на′шуй ха′ці. *Цял.*

ТРА′МА (тра′ма) *жан.* Прастора паміж бэлькай і столлю. Пат тра′му мо′жна падлажы′ць руча′йку лё′ну, карабо′к запа′лак. *Бяс.*

ТРАПАШЧЫ′ЦЬ (трапашчы′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Вастрыць касу трапашкай. Дзе ён дзе′ўся? Касу′ трапашчы′ць на′да, а я аддыхну′ў с ча′сік. *Быт.*

ТРАПКА′Ч (трапка′ч) *мужч. Гл.* датыкальні. Даўне′й с трапкачо′ў рабі′лі вяро′вачкі, каб насі′ць на по′ле яду′ для рабо′чых. *Папл.*

ТРАПКО′ЎКА (трапко′ўка) *жан. Гл.* рызоўка. Трапко′ўкі мы на пол пасьціла′ем. *Бяс.*

ТРАПЯТКІ′ (трапяткі′) *прым.* Падкі да работы. Яны ш гэ′такія трапяткі′я на рабо′ту. *Цял.*

ТРАПЯТУ′Н (трапяту′н) *мужч.* Малое дзіця, якое перабірае ножкамі. О, мой трапяту′н! Трапе′ча і трапе′ча но′шкамі. *Кальч.*

ТРАСКА′ (траска′) *жан.* Тоненькія дошчачкі для пакрыцця даху. Траско′ю кры′ецца ха′та. Ганта′ — ла′дныя до′шчачкі, а траска′ быва′е тане′йшая за ганту′. *Бяс.*

ТРАЎЛІ′ВАЯ (траўлі′вая) *прым.* Зарослая пустазеллем. Сё′лята карто′пля ве′льма траўлі′вая. *Дук.*

ТРАШЧУ′ХА (трашчу′ха) *жан.* Брак у палатне, калі разарвана нітка асновы. Не дагле′дзела, што ні′тка разарва′на, і цяпе′р тчэ′цца трашчу′ха. *Гіл.*

ТРАЯНЫ′ (траяны′) *толькі ў мн.* Драўляныя вілы з трыма зубамі. У нас калі′сь траяны′ дзірав′ныя былі′. *Заб.*

ТРО′НУЦЦА (тро′нуцца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Звар′яцець. Яна′ тро′нулася і ляжы′ць у бальні′цы. *Цял.*

ТРО′ХА (тро′ха) *прысл.* Крыху. Брат тро′ха ле′пяй жыве′. *В. В.*

ТРОХКУ′ТНІК (трохку′тнік) *мужч. Гл.* клінок. Цяпе′р дзяўча′ты ду′жа лю′бяць насі′ць трохку′тнікі. *Сал.*

ТРУДЗЯ′ШЧЫ (трудзя′шчы) *прым.* Працавіты.

Яны′ ш лю′дзі стары′я, мае′ бацькі, але′ без рабо′ты ні мо′гуць, яны′ лю′дзі трудзя′шчыя. *Сав.*

ТРУПЭ′РНЯ (трупэ′рня) *жан.* Трупярня, морг. Прышла′ ў трупэ′рню, дак ве′льма спужа′лася. *Дук.*

ТРУ′СІЦЬ (тру′сіць), -шу, -сіш; *незак. тр.* Баяцца. Вот я гэ′тага і тру′шу, і ні сто′ўлю зубо′ў. *Цял.*

ТРЫБУ′Х (трыбу′х) *мужч.* 1. Вялікі жывот. Наш парсю′к такі′ сы′ты, трыбу′х аш па зямлі′ цяга′яцца. 2. *Перан.* Тлусты чалавек. Разье′ўся трыбу′х гэ′ты, забы′ўся, як не′калі штанэ′ ня трыма′ліся. *Дук.*

ТРЫМБУ′ЛЬКА (трымбу′лька, трынбу′лька) *жан. Гл.* сявок. *Лях.* Трымбу′льку се′яла бабу′лька. *Заб.*

ТРЫСЦЕ′НКА (трысьце′нка) *жан.* Прыбудова да хаты з трох сцен. Акура′т така′я трысьце′нка ё і ў каваля′. *Дук.*

ТРЫСЬЦЕ′ННІК (трысьце′ньнік). *Гл.* трысценка. Трысьце′ньнік к ха′ця прыстро′іў. *Дук.*

ТРЭ′ЙЧЫ (трэ′йчы). Тройчы, тры разы. Трэ′йчы хадзі′ла, паку′ль вы′пісалі се′на. *Цял.*

ТРЭ′ЕР (трэ′ер) *мужч.* Трыер. *Заб.* У тры′еры шмат пы′лу адганя′е. Прыве′зьлі тры′еры пе′рат пасяўно′й, ужо′ чы′сьцім насе′ньне. *Так.*

ТРЭ′ЛЬНІЦА (трэ′льніца) *жан.* Жанчына, якая трэ лён. На бап, які′я труць, трэ′льніца гаво′раць. Пайшлі′ трэ′льніцы працава′ць. *Ніз.*

ТРЭ′ПАЦЬ (трэ′пацЬ) *жан. Гл.* абцягавіны. Быва′е трэ′пацЬ разго′рнеш, а там кастры′ца. *Так.*

ТРЫСЦЁ′Н (трысьцё′н) *мужч. Гл.* перадасёт. У трысьцё′ні то′лькі мнуць лён, і мя′ліцы стая′ць, яшчэ′ там ня па′ляць. *Так.*

ТРЫСЦЕ′НЬ (трысьце′нь). *Гл.* трысценка. Яму′ ба′цька трысьце′нь прыстро′іў. *Цял.*

ТРЭ′СЦІ КУЛІ′, -у, -еш; *незак. тр.* Вытрасаць змятую і перабітую салому. *Шут., Вішн., Ляшч., Заб., Дук., Лях.,*

*Р. П., Сал., Так., Варн., Хож.* Пайду, ка′жа, трэ′сьці кулі, трэ′ба ха′ту перакрыва′ць. *Ігр.*

ТРЫФУ′НЦІК (трыфу′нцік) *мужч.* Дзіця, якое не набірае вагі да нормы. А мой уну′чак лё′гянькі, трыфу′нцік, як я заву′, вялі′кі, каб ні ўрачы′, хло′пчык, тры гадо′чкі, але′ ху′дзенькі. *Сав.*

ТУК (тук) *мужч.* Растоплены тлушч. Я вам, дзе′ўкі, ту′ку распушчу′, ды яшчэ′ ўзаб′ю′ яйцо′, не трэ′ба ў стало′ўку ісьці′. *Жор.*

ТУРНУ′ЦЬ[1] (турну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Прагнаць. Дзе′ці ў са′дзі былі′, дак я іх турну′ла, бо пало′мяць усё′. *Цял.*

ТУРНУ′ЦЬ[2] (турну′ць). Папхну′ць. Як турну′ла яна′ міне′, дак і паляце′ла ўгару′ нага′мі, лець падняла′ся по′тым. *Цял.*

ТУРО′К (туро′к) *мужч.* Мядзведка. Туро′к турчы′ць і ўсё по′ўзае ды по′ўзае па зямлі′ прадаўгава′ты, жо′ўты. *Бяс.*

ТУРЧА′К (турча′к) *мужч. Гл.* турок. *Шут., Р. Л., Ляшч., Хож.* Турчакі′ ры′юць зямлю′, як крот. Турчака′ найшо′ў навярху′, вы′лез з зямлі′. *Вішн.*

ТУ′ТАКА (ту′така) *прысл.* Тут. Ту′така цыбу′ля ні бу′дзя расьці′, зямля′ ке′пская. *Дук.*

ТЫ′ЦНУЦЬ (ты′цнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Сунуць. Яна′ мне ты′цнула пяцё′рку ў ру′кі. *Дук.*

ТЭЗ (тэс) *мужч.* Месца, дзе сушаць ганчарныя вырабы. Мы ста′вім гато′выя вы′рабы на тэс, дзе яны′ даю′ць усу′шку (уса′тку) на во′сім — двана′ццаць про′центаў. *Г. п. Івянец.*

ТЭ′НЧА (тэ′нча) *жан.* Вясёлка. Каля′ сло′нца ста′ла тэ′нча, зна′чыць, калі′ на паго′ду, а калі′ на до′шч. Але тэ′нча ма′ла хто гаво′рыць, больш гаво′раць ра′дуга, вясё′лка ў нас цяпе′р ніхто′ не гаво′рыць, то′лькі ў кні′жках пі′шуць. *Бяс.*

У АБМЫ′ЛІ (у абмы′лі) *прысл.* Памылкова. Мо′жа яна′ ў абмы′лі ўзяла′. *Цял.*

УБІРА′ЦЦА (убіра′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Прыбірацца. Там дзе′ўкі ўбіра′юцца на ве′чар. *Дук.*

УБО′ІНА (убо′іна) *агульн.* Гультай. Вы′расьціла убо′іну, а што зь ім рабі′ць? *Варн.*

УБЫ′ЦЬ (убы′ць), убуду, -дзеш; *зак. тр.* Ужыцца. З гэ′такімі сына′мі ён ні ўбу′дзя. *Цял.*

УВАБРА′ЦЬ[1] (увабра′ць), -у, -эш; *незак. тр.* Злавіць. Як увабро′ў хло′пца, дак адлупцаво′ў до′бра. *Дук.*

УВАБРА′ЦЬ[2] (увабра′ць). Узяць, захапіць. Ён глядзіць, кап сабе′ як увабра′ць. *В. В.*

УВАРЫ′ЦЬ (увары′ць), -у, -ыш; *зак. тр.* Моцна ўдарыць. За′рас як увару′, дак бу′дзяш ве′даць. *Цял.*

УВЕ′ДАЦЬ (уве′даць), -ю, -еш; *зак. тр.* Даведацца, дазнацца. Я гэ′та ўжо по′сьля вайны′ ўве′дала. *Дук.*

УВО′ІНЫ (уво′іны) *толькі ў мн. Гл.* абердзіца. *В. В.* Ушчамля′ць трасьцё′ на ўво′іны. *Лях.*

УВАЙСЦІ′ (увайсьці′), -ду, -дзеш; *зак. тр.* Пазбегнуць. Ні хо′чацца памі′ра′ць, але′ гэ′тай даро′гі ня ўво′йдзяш. *Дук.*

УВО′ЙЧЫК (уво′йчык) *мужч. Гл.* абердзіца. Адзі′н рас ў мяне′ бяда была′. Тка′ла, а ўво′йчык палама′ўся, а трысьцё′ ўзяло′ і вы′сыпалася. Прышло′ся палатно′ вырэ′зваць. *Гіл.*

УВЭ′НДЗІЦЬ (увэ′ндзіць), -джу, -дзіш; *закон. тр.* Моцна ударыць. Вот я цябе′ як увэ′нджу! *Бар.*

УВЯРНУ′ЦЦА (увярну′цца), -у-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Абысціся. Мы не′як уве′рнемся, ня трэ′ба пазыча′ць, бо пато′м аддава′ць ке′пска. *Дук.*

УГАРУ′ (угару′) *прысл.* Угору. Зо′ўтра бу′дзя маро′с, дым угару′ йдзе. *Цял.*

УГРУ'НЬ (угру'нь) *прысл.* Бягом. Вунь мой ма'ляц, угру'нь пабе'х. *Халм.*

УГРЭ'БЦІ (угрэ'пці), -у, -еш; зак. тр. Забраць, захапіць. А яна' хадзі'ла по'куль усё' угрэ'бла. *Цял.*

УДАБРА'ЦЬ (удабра'ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Угнойваць. Як удабры'лі, выпа'хавалі до'бра, дак расло' ўсё. *Ляшч.*

УЖАЛЕ'ЦЬ (ужале'ць) *зак. тр.* Ператварыцца. Не'-шта сягю'ньня ўсё не так у мяне', вось і бу'льба да'йжа ўжале'ла. *Гум.*

УЗБУ'БНЕЦЬ (узбу'бняць). Уздуцца. Жыво'т узбу'бняў — пу'шыць. *Цял.*

УЗДУ'МАЦЬ (узду'маць), -ю, -еш; *зак. тр.* Успомніць. Я ўзду'мала, што ключ у су'мцы. *Дук.*

УЗДЗЯБУ'РЫЦЬ (узьдзябу'рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Падняць, узваліць. Як набярэ' мех, дак ле'дзьве ўзьдзябу'рыць на сябе'. *Цял.*

УЗІМО'Ю (узімо'ю) *прысл.* Зімою. Каро'ва ўзімо'ю на дзьве нагі' кульга'ла. *Цял.*

УЗРЭ'Х (узрэ'х) *мужч.* Агрэх. *Шут., Бяс., Хож., Ігр., Кальч.* Пасьля ара'ньня мно'га ўзрэ'хаў застало'ся. На ўзрэ'хі паара'ў. Ча'ста не даглядзі'ш і на ўзрэ'х пакі'-неш. *Сал.*

УКІДА'ЦЬ (укіда'ць), -аю, -еш; *зак. тр.* Пасеяць. Паара'лі тут зямлю' ды ўкіда'лі карто'плю. *Дук.*

УКРУ'ЧВАНКА (укру'чванка) *жан.* Тонкая хустка сярэдняга памеру. У нас такі'я ху'сткі называ'юцца ўкру'чванкамі. *Папл.*

УКРЫВА'НКА (укрыва'нка) *жан.* Вялі'кая суко'нная ху'стка. Як хо'ладна было', дык не'калі ўкрыва'нкі насі'лі. *Дук.*

УЛЕ'ВА (уле'ва) *жан.* Праліўны дождж. Яно' гэ'дак: спача'тку гра'давая ўле'ва, а по'тым вадзяна'я ўле'ва, вот і пацякло' с ко'міна, адно' печ зага'дзіла. *Сав.*

УЛЕ′ЎНЫ (уле′ўны) *прым.* Праліўны. Ідзе′ такі′ ўле′ўны дошч, што і схава′цца не было′ дзе, ні пат ку′стам, ні пад дзе′равам ме′сца не было′. *Бяс.*

УЛО′ЧКА (уло′чка) *жан.* Баваўняныя ніткі. Уло′чка — гэ′та пра′жа куплё′ная. *Цял.*

УЛУ′КАТКІ (улу′каткі) *прысл.* Зігзагам. Кап уцячы′, трэ′ба бе′хчы ўлу′каткі. *Дук.*

УЛЯПІ′ЦЦА (уляпі′цца), -плю-ся, -лепіш-ся; *зак. тр.* Прычапіцца. Была′ ўляпі′лася не′кая ба′ба да мяне. *Дук.*

УЛЯПІ′ЦЬ (уляпі′ць), -плю, -піш; *зак. тр.* Аддаць без карысці. Яна′ пла′ча, што гро′шы уляпі′ла напра′сна. *Дук.*

УМАСЦІ′ЦЬ (умасьці′ць), -шчу, -мосьціш; *зак. тр.* Уладкаваць, прыстроіць на работу. Туды′ б яна′ яе′ ўмасьці′ла, але′ яна′ ня захаце′ла. *Дук.*

УМАХА′ЦЦА (умаха′цца), -ю-ся; -еш-ся; *зак. тр.* Пратаргавацца, зрабіць растрату. Дачка′ рабі′ла ў магазі′ні, дак умаха′лася на сто рублё′ў. *Цял.*

УМЕ′ЦЬ (уме′ць), -ю, -еш; *незак. тр.* Ведаць. Я ско′лька гэ′тых пе′сянь уме′ю. *Цял.*

УМІГ (уміх) *прысл.* Імгненна. Парася′та пакі′даліся ўміх і ляжа′ць. *Цял.*

УНЕ′СЦІСЯ (уне′сьціся), -у-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Злавацца, моцна сердзіцца. «Му′сіць і вам, ма′ма, на во′сім трэ′бо»,— не вы′трымаў, сказа′ў. Як уне′слася, крыча′ла до′ўга, ле′дзь супако′ілася. *Сав.*

УНЯ′ЦЦА (уня′цца), -йму-ся, -ймеш-ся; *зак. тр.* Супакоіцца. Як разо′йдзяцца, дак ня мо′жа ўня′цца. *Дук.*

УПА′Л (упа′л) *мужч.* Спякота. О-о-ха-ха! Які′ упа′л, жара′, пёк, хай бох кры′я. *Сав.*

УПЕ′РАК (упе′рак) *прысл.* Папярок. *Вайк., Папл., Ляшч.* Упе′рак барану′еш, каню′ цяжэ′й, але сабе′ лепш. Хто і ўпе′рак барану′е, як каму′ нра′віцца. *Малм.*

УПЕ′РАД (упе′рат) *прысл.* 1. Раней, Упе′рат ён ху-

дзе′йшы быў, а цяпе′р трыбу′х у яго′ вы′рас. *Дук.* 2. Спачатку. А ўпе′рат за дзе′ці пасвары′ліся, а да′ляй пабі′ліся. *Цял.*

УПІНА′ЦЦА (упіна′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Упірацца, не згаджацца. Хаце′лі яго′ на ку′рсы пасла′ць, але′ ён упіно′ўся. *Дук.*

УПЫНЯ′ЦЦА (упыня′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр. Гл.* ухаджацца. Калі′ ўпыня′лася, дык яшчэ′ была′ даро′шка, а цяпе′р ўсё′ сьне′гам заме′цена. *Ляв.*

УПЯРО′Т (упяро′т) *прысл. Гл.* уперад. Упяро′т купі′ла два па′чкі со′ды і хо′піць. *Дук.*

УПРА′ВІЦЬ (упра′віць), -ўлю, -віш; *зак. тр.* Супакоіць. За′ра я цябе′ ўпра′ўлю. Вунь рэ′мень не′дзе вісі′ць. *Так.*

УРА′ДНЫ (ура′дны) *прым.* Парцяны. Мы цяпе′р ні тчом, ні прадзё′м, дык ні суко′нных, ні ўра′дных пасьці′лак німа′. *Р. П.*

УРАЧЫ′ (урачы′), -ку, -чэш; *зак. тр.* Сурочыць. Нас, му′сіць, ураклі′, бо ве′льмі ні вязе′ на каро′вы. *Цял.*

УРО′ДЗЕ (уро′дзе) *прысл.* Накшталт. Уро′дзе мармуля′ды палуча′ецца. *Ляшч.*

УРУ′НА (уру′на) *жан.* Рунь. До′брая ўру′на, калі′ яна′ густа′я, як шчэ′тка така′я. *Папл.*

УСЕ′ЯЦЦА (усе′яцца), -ю-ся, -еш-ся; *зак. тр.* Закончыць сяўбу. Як усе′ямся, дак бу′дзем ску′пці пе′р′я по′куль пало′ць. *Цял.*

УСКІ′НУЦЬ (ускі′нуць), -у, -еш; *зак. тр.* Надзець. Кап чы′сьцінькая пла′ціца ўскі′нула на сябе′. *Цял.*

УСКРУЦІ′ЦЦА (ускруці′цца), -чу-ся, -іш-ся; *зак. тр.* Ра′на ўстаць. Чаго′ гэ′то ты ўскруці′лася так ра′на? Сьпі яшчэ′. *Гум.*

УСПУ′ЛКУ (успу′лку) *прысл.* Разам. У мяне′ яшчэ′ ёсьць брат і сястра′. Жыву′ць паасо′пку. Успу′лку няма′ як жыць. *Так.*

УСЦЯГЦІ′ (усьцяхці′), -ну, -неш; *зак. тр.* Усцягнуць. Мяне′ чуць′ усьця′глі на вос. *Дук.*

УСШЫПЕ′ЦЦА (ушшыпе′цца), -плю-ся, -піш-ся; *зак. тр.* Узлавацца. Як ушшыпе′ўся на мяне′, дак до′ўга ня хадзі′ў. *Дук.*

УСЯГДЫ′ (усягды′) *прысл.* Заўсёды. Ле′та і зіма′— усягды′ на во′зеры. *Ляшч.*

УСЯДНО′ (усядно′) *прысл.* Усёроўна. Усядно′ ўстаю′ ра′на. *Дук.*

УТАПТА′ЦЬ (утапта′ць), -чу, -чаш; *зак. тр.* Увапхнуць. Бо′ты і ту′флі ў се′тку ўтапта′ла. *Дук.*

УТАХЦІ′ЦЬ (утахці′ць), -чу, -ціш; *зак. тр.* Увапхнуць. Утахці′ла ху′стку ў гаршчо′к ра′зам с палатня′ным, дак яна′ абле′зла. *Дук.*

УТРАПЁ′НЫ (утрапё′ны). Шустры. Не′йкая ш ве′льмі ўтрапё′ная, усю′ды пасьпе′я перш за ўсіх. *Цял.*

УТРА′ТНАЕ (утра′тнае) *субст. прым.* Затрачанае на барыш. Калі′ дзе′ўка ні по′йдзя за′муш, а бары′ш папілі′, то трэ′ба вярну′ць утра′тнае. *Цял.*

УТУРО′ЧЫЦЬ (утуро′чыць), -чу, -чыш; *зак. тр.* Аддаць што-небудзь без толку. Утуро′чыў усе′ гро′шы ёй, а то′лку ма′ла. *Дук.*

УХВА′Т (ухва′т) *мужч.* Чалавек, які любіць браць чужое. Такі′ ухва′т, што нічо′га ні палажы′ за ё′ю, бо падбярэ′! *Цял.*

УЦІРА′ННІК (уціра′ньнік) *мужч.* Ручнік, якім уціраюцца. Уціра′ньнікі даўне′й былі′ тка′ныя, а цяпе′р ўсё больш кра′мныя. *Ігр.*

УЦУ′НДРЫ (уцу′ндры) *прысл.* Ушчэнт, удрузг. Паўлі′тру віна′ брась — та′я буты′лка ўцу′ндры, разбі′лася, от што яна′ вы′рабіла. *Сав.*

УЦУЦУ′РЫЦЬ (уцуцу′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Ударыць. Ты што гэ′на задзіра′ешся, чаго′ на мяне′ лу′піш во′чы? Адыдзі′ ле′пш, а то як уцуцу′ру! *Выд.*

УЧАРА′СЬ (учара′сь) *прысл.* Учора. Учара′сь сваймну′ панчо′шкі зьвяза′ла. *Вайк.*

УЧВЭ′РЫЦЬ (учвэ′рыць), -у, -ыш; *зак. тр.* Зрабіць што-небудзь незвычайнае. Мы былі′ ўчвэ′рылі што. *Цял.*

УЧО′РАЧЫ (учо′рачы) *прысл. Гл.* учарась. Учо′рачы ве′льмо′ ж по′рача было′. *Р. Ч.*

УШУ′ШКАЦЬ (ушу′шкаць), -ю, -еш; *зак. тр.* Ухутаць. Ушу′шкая гэ′та дзіця′, дзі′ва, што яно′ прасту′джваяцца. *Цял.*

УШЧУВА′ЦЦА (ушчува′цца), -аю-ся, -аеш-ся; *незак. тр.* Крыўдзіцца. Во′тку лю′біць, а ма′тка не′шта сказа′ла — ушчу′ўся на ма′тку. *Сав.*

УЮ′ШЧЫЯ ВАЛАСЫ′ (ую′шчыя валасэ′). Кучаравыя. У яго′ ую′шчыя валасэ′. *Дук.*

## Ф

ФАРЫ′НА (фары′на) *жан., перан.* Бочка, чалавек які многа п'е. Ка′жа, ня п'ю, а лье, як у фары′ну. *Сав.*

ФАЦЭ′ТНА (фацэ′тна) *прысл.* Смешна, камічна, забаўна. Ве′льмі фацэ′тна арці′сты выступа′лі, усе′ сьмяя′ліся. *Комл.*

ФАШЫ′РКА (фашы′рка) *жан., толькі ў адз.* Вантрабянка. Зь лё′хкіх, пе′чані і мя′са фашы′рку ро′бяць. усё′ гэ′та набіва′еццца ў трыбу′х. *Бяс.*

ФЛЕНС (фленс) *мужч.* Расада для перасаджвання. Там была′ фасо′ль пасадзі′ўшы, але′ дрэ′нная яна′, і я фле′нсы пасадзі′ла. *Так.*

ФЛЯ′НЕЦ (фля′нец) *мужч.* Адно каліва расады. Вы′рвала не′калькі фля′нцаў і нясе′ць садзі′ць на граду — вы′расьце до′брая капу′ста. *Ляшч.*

ФЛЯНЦ (флянц) *мужч. Гл.* флянец. Бурако′ў фля′нцаў нарва′лі і рассадзі′лі. *Ляшч.*

ФРЫ′ТА (фры′та) *жан.* Раствор, пры дапамозе яко-

га пасудзе надаецца бляск. За′раз мы ва′рым са′мі палі′ву, яка′я называ′ецца фры′та. *Г. п. Івянец.*

ФРЭ′НЗЛІ (фрэ′нзьлі) *толькі ў мн.* Махры. Фрэ′нзьлі паабрыва′ліся ат ху′сткі. *Дук.*

ФУНТО′ЎКА (фунто′ўка) *жан.* Гатунак бульбы, у якой вельмі вялікія клубні. Не′калі была′ фунто′ўка-карто′пля. *Цял.*

ФУС (фус) *мужч. Гл.* абцягавіны. Фус выкіда′юць, непрыго′дны ён. *Мік.*

## Х

ХАДНІ′К (хадні′к) *мужч.* Палавік, дарожка. Сама′ хаднікі′ рабі′ла? *Заастр.*

ХАЛАДА′ЦЦА (халада′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Прахалоджвацца. Гэ′та халада′лася ко′шка на балко′ні? *Цял.*

ХАЛАДЗІ′ЛА (халадзі′ла) *ніяк.* Холад. У ха′ця ні тапі′ла, халадзі′ла была′. *Дук.*

ХАЛЕ′ВА (хале′ва) *жан.* Халява. Да хале′вы прышыва′ецца перадо′к. *Варн.*

ХАЛЕ′РЫЯ (хале′рыя) *жан., лаенк.* Халера. Пае′хаў па дро′ва і там нашо′ў хале′рыю, як і сам. *Цял.*

ХАПІ′ЦЬ (хапі′ць) *зак. тр.* Раптоўна захварэць. Як хапі′ла паты′ліца, дак ду′мала зайду′ся. *Дук.*

ХАРО′ШЫ (харо′шы) *прым.* Добры. У яго′ ве′льма харо′шыя сьві′ньня. *Дук.*

ХА′ТА (ха′та) *жан.* Пакой. Чы′стая ха′та, а там збо′ку ха′та для сну. *Бяс.*

ХАХЛА′ТЫ (хахла′ты) *прым.* Футровы. Надзе′нь хахла′тую ша′пку, бу′дзіць цяпле′й. *Вайк.*

ХАЦІ′ (хаці′). Хоць. Хаці′ кап маро′зу ні было. *Дук.*

ХВАЛЬБО′НА (хвальбо′на). Фальбона. Гэ′та ко′фта зрабі′лася каро′ткая, трэ′ба патшы′ць хвальбо′ну. *Вішн.*

ХВА′НДА (хва′нда) *жан.* Зборкі ў ніжняй частцы світкі. Прышы′й хва′нду, што адарва′лася. *Вішн.*

ХЛЁ′БАЎКА (хлё′баўка) *жан. Гл.* ступка. Да′йце, калі′ ла′ска, хлё′баўку вады′. *Астр.*

ХЛЫ′СНУЦЦА (хлы′снуцца), -уся, -еш-ся; *зак. тр.* Ударыцца. На дварэ′ сьлі′ска, не хлы′сьніся ілбо′м. *Варн.*

ХМУ′РА (хму′ра) *жан.* Хмара. Як падыма′ецца чо′рная хму′ра, му′сі, бу′дзе дошч, а, мо′жа, ча′сам і грат. *Бяс.*

ХМУ′РАЕЦЦА (хму′раецца) *незак. тр.* Хмарыцца. Не′ба хму′раецца, мо′жа, бу′дзе дошч. *Бяс.*

ХО′РАША (хо′раша) *прысл.* 1. Добра. Тут жа чыта′цца хо′раша паві′нна. 2. Прыгожа. У нас вясно′ю ве′льма хо′раша, як усё′ расьцьвіце′. *Цял.*

ХРО′ПНУЦЬ (хро′пнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Памерці. Як я ні хачу′ маро′зам, так, му′сіць, хро′пну, ця′шка вам бу′дзя хава′ць мяне′. *Цял.*

ХРУШЧ (хрушч) *мужч.* 1. Печыва са здобнага цеста. Хрушчы′ с пшэ′ннага це′ста ро′бяцца. На′тта ж дзе′ці на′шы іх лю′бяць. *Бяс.* 2. Майскі жук. Сто′лькі сё′лета хрушчо′ў у анге′льшчыні, пад ве′чар гуду′ць, як пчо′лы, але′ яны′ ні куса′юцца. *Цял.*

ХУДАРЭ′БНІК (хударэ′бнік) *мужч.* Вельмі худы чалавек. А мой хударэ′бнік не есьць нічо′га, ско′ра нох не паця′гне. *Мік.*

ХУДО′БА (худо′ба) *жан.* Худзізна. Не′ка патанча′ла, худо′ба ста′ла, худо′ба гэ′та. *Сав.*

ХУРАВА′ЦЬ (хурава′ць), -ую, -уеш; *незак. тр.* Рабіць без перапынку. Цэ′лы дзень і хуру′й: то каро′ві дай, то сьвіня′м. *Цял.*

ХЭ′НТНЯ (хэ′нтня) *жан.* Ахвота. Усю′ хэ′нтню адбі′лі, не пайду′. *Масц.*

ХЭ′ЎРА (хэ′ўра) *жан.* Кампанія. Хаджу′ адна′, хэ′ўры німа′ ні′я′кай. *Дук.*

# Ц

ЦАДО′ВЫ (цадо′вы) *прым.* Спечаны ці звараны з цэду. На дзядэ′ пяку′ць цадо′выя блінэ′ (с аўся′нага цэ′-ду). *Цял.*

ЦАЛЁ′НКІ (цалё′нкі) *толькі ў мн.* Бульба, звараная цэлай. Паглядзі′, калі′ звары′ліся цалё′нкі, то аццадзі′. Еш цалё′нкі з гурка′мі ці качано′м. *Аздз.*

ЦВЕК (цьвек) *мужч.* Цвік. Наступі′ла на іржа′вы цьве′к — нарва′ла нагу′ аш да касьці′. *Бяс.*

ЦВЁЛ (цьвёл) *мужч.* Кветканоснае сцябло цыбулі. У цывёл цыбу′ля пайшла′. *Пр.*

ЦВЭ′ТАР (цвэ′тар) *мужч.* Світэр. Па′ша сама′ такі′ цвэ′тар зьвяза′ла, што й магазі′нны ні дака′жа. *Горкі.*

ЦЕЛЬПУКАВА′ТЫ (цяльпукава′ты) *прым.* Непаваротлівы. Ён цяльпукава′ты не′кі, ідзе′ і сьпі′ць. *Цял.*

ЦЕ′ПЕРСЯ (це′пірся) *прысл.* Даўно. Калі ж гэ′та ба′цька прые′хаў? Це′пірся ужо′. *Якш.*

ЦЕ′РЛІЦА (цё′рліца) *жан.* Цёрла. Трэ′ба ўзяць цё′рліцу і сыце′рці мак. *Бяс.*

ЦЕЛЯПА′ЦЦА (целяпа′цца) *незак. тр.* Матацца. У мяне′ язык′ шчэ цяляпа′яцца. *Дук.*

ЦЕ′М′Я (це′м′я) *ніяк.* Цемя. Мяне′ крэ′пка вы′цяла па це′м′і. *Дук.*

ЦЕРАБІ′ЦЬ (цяраб′і′ць), -блю, -біш; *незак. тр.* Адразаць бацвінне. Учо′ра мы бру′шку цярабі′лі. *Дук.*

ЦЕ′НГЛЕ (цё′нгля) *прысл.* Заўсёды. Хло′пяц цё′нгля забяжы′ць. *Цял.*

ЦІ′ХАЦЯ (ці′хаця) *выкл.* Ціха. Ці′хаця! Лю′дзі пры′йдуць, дык ня пагавары′ць, калі′ ля′мант у ха′ця. *Жор.*

ЦУ′НДРА (цу′ндра) *жан., перан.* Сухая, гліністая глеба, зверху парэпаная, патрэсканая. Глі′на сьсяда′я, што цу′ндра ро′біцца, і расьлі′на прапада′я. *Сав.*

ЦУ′РАЧКА (цу′рачка) *жан. Гл.* цуркі. Ну, звыча′йна

цу′рачкі рабі′лі з дрэ′ва, гэ′тыя цу′рачкі былі мо′цныя. *Дук.*

ЦУ′РКА (цу′рка) *жан.* Драўляны гузік прадаўгаватай формы. Цу′ркі — гэ′та па′лачкі зь дзе′рава, які′мі зашпі′львалі штанэ′ або сьві′ты. *Дук.*

ЦЫБУ′К (цыбу′к) *мужч. Гл.* стаўбун. Вось вы′махаў цыбу′к — аш да по′яса. *Вайк.*

ЦЫБУЛЛЕ′ (цыбульлё′) *толькі ў адз., зборн.* Цыб'ё. Картапля′нік пагарэ′ў, то′лька адно′ цыбульлё′ тарчы′ць. *Дук.*

ЦЫГА′ТЫ (цыга′ты) *прым.* Цыбаты. Такі′ ўжэ ён бры′ткі: цыга′ты, сухі′. *Дук.*

ЦЫМАНТО′ВЫ (цыманто′вы) *прым.* Цэментны. Ва′нначкі парабі′ла цыманто′выя. *Дук.*

ЦЫ′МЕНТ (цы′мянт) *мужч.* Цэмент. Трэ′ба цы′мянту купі′ць мяшо′к, падмуро′ўку зрабі′ць. *Цял.*

ЦЫНДА′ЛЬ (цында′ль) *мужч.* Сандаля. Цында′лі но′выя купі′ла, надзе′ў ужо′ адра′зу. *Варн.*

ЦЫРГУ′Н (цыргу′н) *мужч. Гл.* свіркун. Цыргуны′ зь ле′су прыбяга′юць і но′ччу цы′ргаюць. *Малм.*

ЦЫРУ′БАЛКА (цыру′балка) *жан. Гл.* цурка. *Ніз.* Цыру′балкі не′калі рэ′залі з дрэ′ва, зь ве′ніка. *В. В.*

ЦЭ′ЛЬНЫ (цэ′льны) *прым.* Цэлы. Хадзі′ў, блудзі′ў на ву′ліцы цэ′льны дзень. *Цял.*

ЦЭП (цэп) *мужч.* Ланцуг. На гэ′тым цапу замо′к. *Дук.*

ЦЭР (цэр) *мужч.* Бярозавая кара. Ну і капу′ста, што цэр бе′лая. *Сав.*

ЦЭ′СКА (цэ′ска) *жан.* Металічны наканечнік на папрузе. Цэ′ска гэ′та з друго′га канца′ ат спро′нжкі жале′зная. *В. В.*

ЦЮ′КНУЦЬ (цю′кнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Крыкнуць. Я цю′кнула на ваўка′: «Цюйга′, цюйга′!» — Ён і пабе′х. *Бяс.*

ЦЯГЦІ′ (цяхці′), -ну, -неш; *незак. тр.* Цягнуць. Та′я ня дала′ цяхці′ шкап. *Дук.*

ЦЯГЦІ′СЯ (цяхці′ся), -ну-ся, -неш-ся; *незак. тр.* Цягнуцца. По′зна бу′дзя дадо′му цяхці′ся. *Дук.*

ЦЯЛЕ′ЖКІ (цяле′шкі) *толькі ў мн.* Двухколка. Іс калё′с былі′ зро′бляны цяле′шкі. *Цял.*

ЦЯЛЯ′ТНІКІ (цяля′тнікі) *толькі ў мн. Гл.* копань. Аднясі′ пало′тны на цяля′тнікі. *Варн.*

ЦЯ′ПКА (ця′пка) *жан. Гл.* драчык. Ця′пка на дварэ′ ўсю зіму′ прастая′ла і заржаве′ла. *Жор.*

ЦЯПЛО′ (цяпло′) *ніяк., толькі ў адз.* 1. Святло. У се′нцах цяпла′ німа′, во′бмацкам чуць кля′мку знашла′. 2. Касцёр. Як па′сьцілі ко′ні, дык уно′чы раскла-да′лі цяпло. *Дук.*

ЦЯПЛУ′ХА (цяплу′ха) *жан.* Ватоўка. Дзе мая′ цяплу′ха? Цяплу′ха не′дзе закі′нулася. *Сав.*

## Ч

ЧАРВЯ′ (чарвя′) *ніяк., зборн.* Вусень. На я′блыні чарвя′ напа′ла, не′шта рабі′ць на′да. *Лях.*

ЧАРНУ′ШКА (чарну′шка) *жан.* Расліна з чорным духмяным насеннем, якое выкарыстоўваецца ў хлебапячэнні як прыправа. Чарну′шку і пад во′кнамі пасадзі′ла, расьце′. *В. В.*

ЧАРНЯ′К (чарня′к) *мужч.* Спадніца з саматканага палатна, пафарбаваная ў чорны колер. Ве′льмі згра′бнянькі мой чарнячо′к. *Малм.*

ЧВАРЫ′ЦЬ (чвары′ць), -у, -ыш; *незак. тр.* Вытвараць нейкія штукі, дурыць. У Багдано′віча на хрэ′зьбінах на відэ′льцах ігра′лі, трэ′ба не′шта чвары′ць. *Кальч.*

ЧВІРКУ′Н (чвірку′н) *мужч. Гл.* сверкун. Злаві′лі вяско′выя хло′пцы чвіркуна′ і дзяўча′т усі′х пало′халі. *Вішн.*

ЧВЯ′КНУЦЬ (чвя′кнуць), -ну, -неш; *зак. тр.* Кінуць з сілай. Як чвя′кня, дак і касыце′й ні зьбярэ′ш. *Цял.*

ЧМА′РЫЦЬ (чма′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Курыць. І калі′ кі′не чма′рыць? Ужо не прадыхну′ць ад ды′му. *Кол.*

ЧОП (чоп) *мужч., перан.* Чан. Нае′лася, як чоп. *Сав.*

ЧО′РНЫ (чо′рны) *прым.* Бру′дны. Хварту′х на ёй чо′рны, аш ло′міцца ад гра′зі. *Дук.*

ЧО′РТАВАЯ КО′ЖА (чо′ртавая ко′жа). Баваўняная моцная тканіна. Ш чо′ртавай ко′жы ба′бы шы′юць цё′плыя штаны′. *Шут.*

ЧО′РТШТО (чо′ртшто) *прысл.* Вельмі многа. Чо′ртшто я′блыкаў бу′дзя сё′лята. *Дук.*

ЧУ′ХІ (чу′хі) *толькі ў мн.* Гл. вяровачнікі. Некаторыя й чу′хі насі′лі. *Вайк.*

ЧО′САНКА (чо′санка) *жан. Гл.* катанка. Е і цяпе′р у нас спецыялі′ст, што ва′ліць до′брыя чо′санкі. *Дук.*

ЧУЖНІ′К (чужні′к) *мужч.* 1. Чужы чалавек. *Папл., Шут., Ляшч., Так., Малм.* На другі′ дзень вясе′льля чужніко′ў зусі′м не было′. У нас чужні′к няда′ўна начава′ў, *Р. Ч.* 2. Рабочы, наняты з чужога краю. Чужні′к ня про′ста чужы′ чалаве′к, а наня′ты рабо′чы. *Ігр.*

ЧЫКІЛІ′НДА (чыкілі′нда) *жан.* Ні на што не здатная жанчына. За харо′шым мужыко′м і чыкілі′нда жана′. *Мех.*

ЧУМАКІ′ (чумакі′) *мужч. Гл.* вяровачнікі. *Р. П.*

ЧУ′НІ[1] (чу′ні). *Гл.* басілы. *Быт., Лях., Бяс., Р. Ч.*Ране′й чу′ні насі′лі, за′рас адны′ галё′шы. Чу′ні адзява′юць на валё′нкі.

ЧУ′НІ[2] (чу′ні). Лапці з нітак. Чу′ні рабі′лі даўне′й зь ні′так. *Шут. Малм.*

ЧЫ′СТАЯ ХА′ТА (чы′стая ха′та). Найбольшы і лепшы пакой у жылой частцы дома. Прайдзе′ця с ку′хні ў чы′-

стую ха′ту, пасядзе′ця тро′ха. *Ніз.* Я вам у чы′стуй ха′ці пасьцялю′. *В. В.*

ЧЫ′СТАЯ (чы′стая) *прым.* Ахайная. Ве′льмі яна′ чы′стая ў нас, у яе′ ўсё′ чы′сьцянькая. *Цял.*

ЧЭ′РАВА (чэ′рава) *ніяк.* Вялікі жывот. Яго′ вялі′зная каро′ва, але′ чэ′рава німа′. *Дук.*

ЧЭ′ЎРАЦЬ (чэ′ўраць), -ю, -еш; *незак. тр.* Доўга хварэць. Яна′ чэ′ўрала, чэ′ўрала і паме′рла. *Цял.*

ЧЭ′ЦВЕР (чэ′цьвер) *мужч.* Чацвер. Свя′та ў сіраду′ ці ў чэ′цьвер. *Ляшч.*

## Ш

ША′ЙКА (ша′йка) *жан.* Драўлянае вядро, якім дастаюць ваду з калодзежа. Трэ′ба на кало′дзяш но′вую ша′йку паве′сіць, а то з гэ′тай абру′ч зьляці′ць. *Жор.*

ШАЛА′ЦЦА (шала′цца), -ю-ся, -еш-ся; *незак. тр.* Бадзяцца без справы. Ён тут адзі′н шала′яцца. *Дук.*

ШАЛУПА′І (шалупа′і) *толькі ў мн.* Лупіны з бульбы. Бу′льба ўжо прывя′ла, дык такі′я то′ўстыя шалупа′і, ця′шка абіра′ць. *Бяс.*

ША′ЛЯ (ша′ля) *жан.* Шаля (вага з каромыслам). Вы адзіна′кавыя, хоць на адно′й ша′лі вас. *Хар.*

ШАЛЬБАБО′Н (шальбабо′н) *мужч. Гл.* квасоля. Хоць жме′ню шальбабо′ну дай. *Шут.*

ШАЛЭ′ХАВАТЫ (шалэ′хаваты) *прым.* Несабраны, незасяроджаны чалавек. Дзе′ўчына не′ка шалэ′хавата, а хло′пяц харо′шы, ву′чыцца до′бра, адзі′н на ўсю шко′лу. *Сав.*

ШАМО′Т (шамо′т) *мужч.* Бітае шкло, якое прымешваецца да гліны пры вырабе пасуды. Шамо′т атры′мліваецца зь бі′тага шкла і чарапко′ў бі′тай апа′ленай пасу′ды, кап вы′рабы былі′ трыва′лейшымі. *Г. п. Івянец.*

ШАМРЫ′ЦЬ (шамры′ць) *незак. тр.* Шамаціць. Блонь купі′ла гэ′ту, што шамры′ць. *Дук.*

ШАМШАЛІ′ (шамшалі′) *толькі ў мн.* Бульба, якая зімавала на полі. Каро′вы в′ыгналі на по′ле шамшалі′ е′сьці. *Кар.*

ШАР (шар) *мужч.* Рад. Зірне′ш у вакно′, дак два шарэ′ буды′нку. *Цял.*

ШАРА′К (шара′к) *мужч.* Тканіна, у якой аснова парцяная, а ўток суконны; спадніца з такога матэрыялу. Шаракі′ прыго′жыя, спадні′цы з іх не трэ′ба было′ і кра′сіць *Р. Ч.*

ШАРА′ЧАК (шара′чак) *мужч. Гл.* шарак. Ране′й сну′юць шара′чак, ткуць, тагды′ і спадні′цу шара′чак заву′ць. *В. В.*

ШАРАЧКО′ВАЯ СПАДНІ′ЦА (шарачко′вая спадні′ца). Спадніца, пашытая з шараку. Ране′й дзе′ўкі, насі′лі шарачко′выя спадні′цы. *Вайк.* У шарачко′вых спадні′цах асно′ва цё′мная, а патыка′ньне сьве′тлае. *Р. П.*

ШАРГАНУ′ЦЬ (шаргану′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Пацерці. Сярні′чкаю ап карабо′к шаргану′ць і загары′цца. *Бяс.*

ШАРКІ′ (шаркі′) *толькі ў мн. Гл.* лонка. У нас у шаркі′ мо′ркву са′дзяць. *Папл.*

ШАРПІ′НКА (шарпі′нка) *жан.* Фабрычная тканіна ў клетку. *Заб., Папл., Ніз., Пр.* Ёсьць і цяпе′р шарпі′нка ў кле′тачку, як у радну′ тка′ная. *Шут.*

ШАРЭ′Ш (шарэ′ш) *мужч.* Вельмі тонкі шурпаты слой снегу. Ры′ба ні хо′ча лаві′цца, як на рацэ′ шарэ′ш. *Дук.*

ШАСТЭ′РНЯ (шастэ′рня) *жан.* Цыстэрна з-пад малака. Шастэ′рня тры то′ны, і паўтары′ ў бідо′нах, на во′льны за′куп бяру′ць, малака′ мно′го, скот дагле′джаны. *Сав.*

ШАСЦЯРЫ′К (шасьцяры′к) *мужч.* Шэсць коней, запрэжаных у карэту. Шасьцяры′к запражэ′ і е′дзя. *В. В.*

ШАФА′РНЯ (шафа′рня) *жан.* Дом для купцоў па продажу лесу. Шафа′рня — гэ′та дом у ле′сі, дзе жылі′ купцэ′, што про′далі лес. *Цял.*

ШАЦІ′НКА (шаці′нка) *жан.* Сатын. Заўчо′ра была′ дачка′ ў ла′ўца і набра′ла мне на спаньні′цу шаці′нкі. *Дук.*

ШАЦІНКО′ВАЯ (шацінко′вая) *прым.* Сатынавая. У міне′ была′ блю′ска шацінко′вая. *Цял.*

ШВАБ (швап) *мужч.* Немец. У нас парціза′ны ўсіх шва′баў перабі′лі. *Комл.*

ШВО (шво) *ніяк.* Пашыўка, шыццё. До′рага за шво бяру′ць. Гэ′та ш адно′ пла′цьця дзе′сяць рублё′ў. *Цял.*

ШКАРЛАТЫ′ (шкарлаты′) *мужч. Гл.* астопкі. Пажджы′, зго′дзяцца яшчэ′ і шкарлаты′. *Вайк.*

ШКІ′ЛІКІ (шкі′лікі) *толькі ў мн.* Жарты. Ты ўсё на шкі′ліках, кінь ужо′! *Масц.*

ШКРЭ′БАЦЬ (шкрэ′бацць), -ю, -еш; *незак. тр.* Шкрабаць. Жале′знаю лапа′таю аб асфа′льт як шкрэ′баяш, дак у вуша′х аш зьвіні′ць. *Дук.*

ШЛУ′ННЕ[1] (шлу′ньне) *ніяк.* Адзенне. А як на′ша дзе′ўка, дык усё шлу′ньне па ха′це параські′дае, а по′тым ха′дзі за ёю′ і прыбіра′й. *Выд.*

ШЛУ′ННЕ[2] (шлу′ньня) *перан.* Вантробы. Ня злуй, бо шлу′ньня парве′ш. Ад′е′ў шлу′ньня ён мне за дзе′нь. *Дук.*

ШЛЯГ (шлях) *мужч.* Край хусткі з узорам. Я не люблю′ ху′сткі с шля′гам. *Вішн.*

ШЛЯК (шляк) *мужч. Гл.* шляг. Цяпе′р краі′ вышыва′юць, а даўне′й шляк быў. *Вішн.*

ШЛЯЧО′К (шлячо′к) *мужч., памянш. ад* шляк. Шлячко′м у нас называ′юць беражо′к с кве′ткамі. *Шут.*

ШМАНА′ЦЬ (шмана′ць), -аю, -аеш; *незак. тр.* Не звяртаць увагі. Вот Іва′н спако′йны: дзірэ′ктар крычы′ць, а ён і ня шмана′я. *Дук.*

ШМІ′НКА (шмі′нка) *жан.* Губная памада. Узяла′ шмі′нку ды так размалява′ла сабе гу′бы! *Заб.*

ШМО′РГНУЦЬ (шмо′ргнуць), -у, -еш; *зак. тр.* Шпарка ўцячы. Шмо′ргнулі між людзе′й, то′лькі іх і ба′чыў. *Цял.*

ШМО′ТАЦЦА (шмо′тацца), -аю-ся, -аеш-ся; *незак. тр.* Выконваць хатнія справы памаленьку, не спяшаючыся. А было′ цё′пленька, я ўжо бо′сая хадзі′ла, капе′ц гэ′ты вы′насіла, шмо′таюся. *Сав.*

ШМЭ′ЛЯЦ (шмэ′ляц) *мужч.* Шмалец. Зарэ′залі гусь, така′я жы′рная, мно′га шмэ′льцу ў гу′сі. *Бяс.*

ШНА′РЫЦЬ (шна′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Шукаць. Пашлі′ шна′рыць, усё забра′лі. *В. В.*

ШО′ПКА (шо′пка) *жан.* Месца, дзе складаюць дровы. У шо′пцы заўсё′ды каля′ дроў тапо′р і піла′ стаяць. *Астр.*

ШПАРАВА′НЫ (шпарава′ны) *прым.* Шпакляваны. Шпарава′ны пол не прапуска′е паве′тра с-пад ні′зу. *Бяс.*

ШПА′РЫ (шпа′ры) *толькі ў мн.* Пазы ў дошках, каб дошка за дошку захадзіла. Шпа′ры былі′ неглыбо′кія, а падло′га рассо′хлася. *Бяс.*

ШПО′НКА (шпо′нка) *жан.* Кнопка. Шпо′нка — гэ′та што ўшыва′юць у блю′ску, калі′ запіна′яцца. *Цял.*

ШТАБНАВА′ЦЬ (штабнава′ць), -ную, -нуеш; *незак. тр.* Страчыць. Штабнава′ць на машы′ні до′бра, рука′мі ні выштабну′яш гэ′дак. *Цял.*

ШТРЫ′ФЛІК (штры′флік). *Гл.* манішка. Штры′флікі ро′бяць с тане′йшай матэ′рыі. *Вайк.*

ШУРА′К (шура′к) *мужч.* Швагер. Шураке′ е′зьдзілі на пярэ′звы. *Цял.*

ШУРПА′ТКА (шурпа′тка) *жан.* Бульба з шурпатай скурай. Е′сьцяка не′кая шурпа′тка, то′ўстая карто′пля. *Цял.*

ШУ′НУЦЬ (шу′нуць), -у, -еш; *зак. тр.* Наляцець, на-

скочыць. Як шу′нулі ку′чаю, дак чуць з нох ні зьбі′лі. *Цял.*

ШЧАЛУКА′ЦЬ (шчалука′ць), -аю, -аеш; *незак. тр.* Лушчыць. *Ляшч.* Сухі′я, сьпе′лыя струкі′ до′бра шчалука′ць. *Хож.*

ШЧАМЕ′ЛЬ (шчаме′ль) *мужч. Гл.* Джмель. Ві′дзіш, які′ шчаме′ль, нат цьвіта′мі літа′ець. *Ігр.*

ШЧО′ДРЫК (шчо′дрык) *мужч.* Ноч перад Новым годам. На шчо′дрыка дзе′ўкі варо′жаць, пяю′ць пе′сьні, во′дзяць каня′. *Дук.*

ШЧО′ТУВАЦЬ (шчо′туваць), -ую, -уеш; *незак. тр.* Лічыць. Яна′ шчо′туя, што яе′ пярайшло′. *Цял.*

ШЧО′ЎЕ (шчо′ўе) *ніяк.* Шчаўе. Шчо′ўя расьце′ пры даро′зя. *Дук.*

ШЧУЦЬ (шчуць), -ю, -еш; *зак. тр.* Пачуць, даведацца. Але′ шчу′лі, што не′мцы, дак у другі′ бок пашлі′. *Цял.*

ШЧЫГУ′ЛЬНЫ (шчыгу′льны) *прым.* Па назе. Мае′ бо′ты шчыгу′льны, бо я ня люблю′, кап былі′ вялі′кія. *Дук.*

ШЧЫКІНЯ′ЦЬ (шчыкіня′ць), -яю, -яеш; *незак. тр.* Казытаць. Ой, не шчыкіня′й, не магу′ бо′лей. *Кальч.*

ШЫБА′ЛКА (шыба′лка) *жан.* Спінінг (самаробны). Шыба′лкаю ры′бу лаві′лі. *В. В.*

ШЫБНУ′ЦЬ (шыбну′ць), -у, -еш; *зак. тр.* Шыбануць. Як раззлую′ся, дак шыбну′ чым папа′ла. *Дук.*

ШЫДЭ′РЫЦЬ (шыдэ′рыць), -у, -ыш; *незак. тр.* Смяяцца. Чаго′ ты зь мяне′ шыдэ′рыш? А то′ я табе′ нашыдэ′ру. *Вен.*

ШЫ′КРУМ (шы′крум) *мужч.* Вадохрышча. Гэ′тае сьвя′та вадо′хрышчам называ′юць, а гаво′раць у нас яшчэ′ і шы′крум. *Вайк.*

ШЫЛІНО′ЎКА (шыліно′ўка) *жан.* Шарсцяная хустка фабрычнага вырабу. Чырво′ная шаліно′ўка яшчэ′ ў мяне′ даўне′йшая. *Вішн.*

ШЫ′ЦІК (шы′цік) *мужч. Гл.* клю′чык. Бяро′цца платва′ на шы′ціка. *Р. Л.*

ШЭ′РАК (шэ′рак) *мужч. Гл.* шарак. Адзе′ну шэ′рак у нядзе′льку. *Бяс., Ляшч.*

## Я

Я′БЛЫК (я′блык) *мужч.* Плод памідора. У гэ′тым то′дзе на кусто′х яшчэ′ няма′ я′блыкаў. *Вайк.*

ЯК БЫ′ ТО (як бы′ то) *прысл.* Быццам. Як бы′ то па два рубле′ мех. *Цял.*

ЯМЧЭ′ЙШАЯ (ямчэ′йшая) *прым.* Вышэйшая ступень ад ёмкі. Цяпе′р яна′ ямчэ′йшая, як дзе′ўкаю была′. *Дук.*

ЯРО′ЎКА (яро′ўка) *жан.* Яравая пшаніца. Не′калі пшані′цу-яро′ўку се′ялі вясно′ю. *Цял.*

Я′РЫЦА (я′рыца) *жан.* Яравое жыта. Я′рыцу се′ялі вясно′ю, у яе′ дро′бнянькая зе′рня і каласке′. *Цял.*

ЯСЁ′НКА (ясё′нка) *жан.* Дэмісезоннае паліто жанчыны. Так абнасі′лася, што адна′ ясё′нка астала′ся на пляча′х. *Горкі.*

Я′СІК (я′сік) *мужч.* Маленькая падушка. Як даўней, то кла′лі адну′ паду′шку на другу′ю, заты′м трэ′цюю, а наве′рх мале′нькую — я′сік. *Бяс.*

# ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ

Абабра′ць як бе′лку. *Дук.*

Абадра′ць як лі′пку. *Дук.*

Або′ йграй, або′ гро′шы адда′й. *Кам.*

Абу′ць ду′рня ў ла′пці. Каза′ла, што дасьць карто′плі, але′ ня дала′, абу′ла ду′рня ў ла′пці. *Дук.*

Абы′ ўме′ла танчы′ць, а рабі′ць го′ра наўчы′ць. *Дук.*

Абяца′нка-цаца′нка, а дурно′му ра′дасьць. *Цял.*

Агле′дзяўся лях, што тра′сца ў зуба′х. *Цял.*

Аго′нь з вадо′ю ні дру′жыць. *Цял.*

Ад бо′чкі заты′чка. *Цял.*

Адда′й рука′мі, а хадзі′ нага′мі. *Цял.*

Адда′м на сьвяты′я ні′гды. *Дук.*

Адзі′н зьеш хоць і вала′, дык адна′ хвала′. *Дук.*

Ад'е′сці вантро′бы. Такі′ ніго′дны хло′пяц, усе′ вантро′бы ад'еў. *Дук.*

Ад лі′ха ці′ха і дабра′ ня чува′ць. *Дук.*

Адна′ бяда′ ня хо′дзіць, а дзе′сяць за сабо′ю во′дзіць. *Дук.*

Адна′ галава′ до′бра, а дзьве′ яшчэ′ ле′пяй. *Дук.*

Ад наву′кі галава′ ня балі′ць, ад рабо′ты ру′кі ня со′хнуць. *Дук.*

Адна′ то′лькі ку′рыца ат сябе′ грабе′. *Дук* .

Адно′ бярвяно′ на дварэ′ ляпя′й, як дзе′сяць у ле′сі. *Кам.*

Адны′м ма′хам сем му′хаў ні заб′е′ш. *Кам.*

Ад уся′кай бо′чкі шпунт. *Дук.*

Ад яйца′ адле′я. *Цял.*

Ажані′цца — ні ўпі′цца. *Цял.*

Ажэ′ніцца — пяраме′ніцца. *Дук.*

Анто′сь ды Хвядо′ра — што ла′пaць ды або′ра. *Дук.*

Аткла′т ня йдзе на лат. *Дук.*

Ат сьме′рці ні атку′пісься. *Кам.*

Ат хле′ба па кро′шкі ні бягу′ць. *Цял.*

Аш валасы′ ды′бам паста′лі. *Дук.*

Ба′ба й каро′ва — шо′хвіру страх. *Кам.*

Ба′біна ле′та каро′ткая. Дук.

Бага′ты дзі′віцца, чым бе′дны жы′віцца, а бе′дны сьмяе′цца, дзе ў бага′тага дзяе′цца. *В. В.*

Бало′та бяс чо′рта ня быва′я. *Цял.*

Пакаці′цца с усі′х чатыро′х. *Цял.*

Ба′чыць во′ка далё′ка, але′ ро′зум ня йме. *Цял.*

Ба′чыць на свае′ во′чы. Я ш на свае′ во′чы ба′чыла. *Цял.*

Баязьлі′ваму й капа′ сто′гам зда′ецца. *Кам.*

Бе′днаму ад асату′ дае′ бог красату′, а бага′таму і ад хле′ба — сухату′. *В. В.*

Бе′дны чалаве′к — брат дурно′га. *В. В.*

Бё′рнік сі′тніку ні раўня′. *Цял.*

Біць пу′гаю па вадзе′. *Дук.*

Благо′й благаце′ дрэ′нна і на куце′. *В. В.*

Бо′йся ні нажа′, а зло′га языка′. *Цял.*

Быва′я, што і я′йца ку′рыцу ву′чаць. *Дук.*

Была′ б ахво′та, а рабо′та зна′йдзяцца. *Дук.*

Быў бы куст, а варо′на зна′йдзяцца. *Дук.*

Быць у кло′паці. Ішчэ′ ш мы ў кло′паці былі′. *Цял.*

Бяз гаспады′ні ха′та, што дзень бяс со′нца. *Дук.*

Бяручы′ на пуп — падарве′сься. *Цял.*

Бяс ча′ркі няма′ хваро′бы й сва′ркі. *Дук.*

Вада′ жы′віць, а гарэ′лка гу′біць. *Цял.*

Ве′дая, атку′ль хвост расьце′. *Дук.*

Век пражы′ць, як у сту′пі пратаўчы′. *Цял.*

Верх мушчы′нскі ўсё ро′ўна бу′дзя цё′нгля. *Цял.*

Воўк і лі′чаных бярэ′. *Дук.*

Во′чы завіду′шчыя, ру′кі заграбу′шчыя. *Цял.*

Во′чы, як лю′шкі, — не ба′чаць нітро′шкі. *В. В.*

Ву′даю до′бра то′лька ры′бу лаві′ць. *Цял.*

Вы′гналі з дрэ′ннага, ды ўвагна′лі ў до′брая. *В. В.*

Вы′драць во′чы. Ці ма′ці, ці ба′цька, дак ён во′чы вы′дзяра. *Цял.*

Вы′піць на шальмака′. Ён ве′льмі лю′бя вы′піць на шальмака′. *Кальч.*

Вы′расці як з-пад зямлі′. Як с-пад зямлі′ вы′расьлі не′мцы і паліца′і. *Дук.*

Вы′скачыў, як Пілі′п с канапе′ль. *Дук.*

Вы′шай ілба′ ня патско′чыш. *Дук.*

Вы′шай падні′мясься, мацне′й паб′е′сься, як скі′нясься. *Дук.*

Вялі′кі грош. Дая′ркі за ве′лькі грош го′няцца. *Сав.*

Гіц вы′йграў, гіц прайпро′ў. *В. В.*

Го′лы як бізу′н. *Цял.*

Го′сьцяйкі, калі′ вам ма′ла, кап вас парва′ла. *В. В.*

Грыбо′ў хоць касу′ заклада′й. *Дук.*

Гульта′й за рабо′ту, мазо′ль за руку′. *Дук.*

Гуля′ць кірма′ш. Вот ужо′ не′калі гуля′лі кірмашэ′. *Дук.*

Гу′ста пасе′яш — мно′га намало′ціш. *Дук.*

Да гато′вага пня і аго′нь до′бра кла′сьці. *Цял.*

Дай бох пе′ршым куско′м падаві′цца. *Кам.*

Даста′ць з агню′. Яна′ даста′ня с агню′. *Цял.*

Даць ду′лю. Прыка′с напіса′лі, але′ ду′лю да′лі, а ня бо′ты. *Дук.*

Даць на стол. Цяпе′р, як даду′ць на сталэ′, дак німа′ дзе хле′ба палажы′ць. *Цял.*

Даць прамы′тай вады′. Яна′ ім дасьць прамы′тай вады′. *Цял.*

Даць пы′тлю. Пяраста′ла свары′цца, як я дала′ ёй пы′тлю. *Цял.*

Даць ра′ды. Адзі′н жа ра′ды ні дасьць. *Цял.*

Да цябе′ ні п'юць, ні кажы′ здаро′ў буць. *Цял.*

Даць штырхача′. Като′ры храпе′, даў штырхача′ пад бок і сьці′хне, прачне′цца. *Кальч.*

Да чужо′га рота ні зро′біш варо′та. *В. В.*

Дзе няма′ зго′ды, там няма′ ла′ду. *Дук.*

Дзе сква′рка, там сі′ла. *Дук.*

Дзе фэст, там і я ест. *Цял.*

До′бра зрабі′ць, ні ў дало′ні пля′скаць. *Цял.*

До′бры і бо′гу трэ′ба, а благо′га і чорт ня бярэ′. *Дук.*

Ду′маў, ду′маў інды′к, ды здох. *Дук.*

Дурна′я галава′ ні сіве′я, ні лысе′я. *Цял.*

Дурно′га салаўя′ дурны′я і пе′сьні. *В. В.*

Ду′рню дурно′я сьні′цца. *Цял.*

Дзяржы′ язы′к на пры′вязі. *Дук.*

Душы′цца за рабо′тай. Душы′цца за гэ′таю рабо′таю. *Цял.*

Дзе′ля аднаго′ абе′ду сем міль е′ду. *Цял.*

Е′хаць у пірагі′. Ба′цьке прые′дуць у пірагe′ і нас прасі′ў на пірагe′. *Сав.*

Жме′ня кру′п — гэ′та ні ка′ша. *Цял.*

Жыць сваі′м ро′зумам. *Дук.*

Заве′сці го′ласам. Але′ шчэ пе′сьню завё′ў го′ласам. *Цял.*

За до′брым тава′рам і ду′рань бу′дзя па′нам. *Цял.*

За дурно′ю галаво′ю нага′м не′балазя. *Дук.*

Зайсці′ за′муж. Няўжо′ гэ′та дзе′ўка ні зо′йдзя за′муш? *Дук.*

Закі′нь напе′рат, то зна′йдзяш зза′ду. *Дук.*

За лучы′ну зна′йдуць прычы′ну. *Дук.*

За маю′ па′мяць было′. *В. В.*

За пы′ха бох зь не′ба сьпі′ха. *В. В.*

Засты′ць на язы′ку. У яе′ на язы′ку нічо′га ня засты′ня. *Дук.*

Зве′сці во′чы. Як во′чы зьвяду′, дак усё′ яе′ ба′чу. *Дук.*

Згубі′ць з све′ту. Згубі′ў сь сьве′ту таку′ю маладу′ю. *Цял.*

Бры′дкі з тва′ру. С тва′ру ён ні бры′ткі. *Цял.*

Ідзе′ і сьвіньні′ баі′цца. *Цял.*

Іс ха′ты ў ха′тку, рубе′ль упа′тку. *Цял.*

Ісці′ з го′лымі рука′мі. Ка мне йдзе з го′лымі рука′мі. *Дук.*

І пападзя′ княгі′ня, по′куль поп ні загі′ня. *Цял.*

Ка′ждая пачва′ра ма′е сваю па′ру. *В. В.*

Калі′ другі′х кара′яш, то сам ня грашы′. *Дук.*

Каля′ вады′ хо′дзячы намо′чысься. *Дук.*

Каля′дкі до′брыя сьвя′ткі — пад′е′ў ды на пала′ткі. *В. В.*

Каля′ чаго′ хо′дзіш, у то′я і абро′бісься. *Цял.*

Каму′ вайна′, а каму′ вае′нка. *Цял.*

Каму′ до′лата, а каму′ — зо′лата. *Дук.*

Каму′ па каму′, а мне два камэ′. *Дук.*

Каму′ што, а ку′рыцы про′са. *Дук.*

Кап ён, як корч, ляжо′ў. *Дук.*

Кап ня паце′шыўся, дак бы паве′сіўся. *Дук.*

Кап цябе′ ка′чка ўбрыкну′ла. *Дук.*

Каро′сту на языку′ ця′шка вы′лячыць. *Цял.*

Кве′тка харо′шая, але′ ў крапі′ві сядзі′ць. *В. В.*

Кі′нуцца рап′ё′м. Рап′ё′м ка мне кі′нуўся. *Цял.*

Клё′пкі ў галаве′ парассыха′ліся. *Кам.*

Ко′лька гало′ў, то′лька й вумо′ў. Цял.

Кру′ціцца, як шкура′т на агні′. *Дук.*

Куды′ ні кінь, дык усё′ клін. *Цял.*

Куку′ля куку′я, што свайго′ гнязда′ ня ма′я. *Дук.*

Кура′выя во′чы ды′му ні бая′цца. *Цял.*

Ла′ску даць. Трэ′ба было′ А′ні ла′ску даць, гэ′та маладзі′ца хоць малачко′ но′сіць. *Сав.*

Ле′зя, як жа′ба на ку′піну. *Дук.*

Ле′зці на ражо′н. Само′й мне ня хаце′лася ле′сьці на ражо′н. *Дук.*

Лепш жывато′м кача′цца, як ма′е дабро′ астава′цца. *В. В.*

Лепш пе′ршы гнеў, як апо′шняя ла′ска. *Дук.*

Лес і той няро′ўны. *Дук.*

Лепш адно′й гарава′ць, як зь ня мі′лым вякава′ць. *Цял.*

Ле′пяй з разу′мным згубі′ць, як з ду′рням найці′. *Цял.*

Лё′стачкі падпуска′ць. О, ён уме′я лё′стачкі патпуска′ць. Як ска′жа, дак і сок ня пацячэ′. *Дук* .

Лю′біш браць, лю′бі й адда′ць. *Дук.*

Ма′еш дачку′ — дзяржы′ гарэ′лку ў глячку′. *В. В.*

Ма′ла сьне′гу — ня бу′дзя хле′ба. *Дук.*

Мё′ртвых вялі′кдзень. Схаджу′ на мо′гліцы на мё′ртвых вялі′кдзень. *Цял.*

Мне з гэ′тага дзе′ла прамы′тай вады′ німа′. *Рат.*

Мужы′к хоць ла′паць, абы′ за ім ні пла′каць. *В. В.*

Мы′сьлі за вача′мі, а го′ра за пляча′мі. *Так.*

Мя′кка сьце′ля — цвё′рда спаць. *Цял.*

Мя′ккі, хоць у ву′ха кладзі′. *Дук.*

На адно′м ты′дні сем пя′тніц. *Дук.*

Набра′ць у галаву′. Я набра′ла ў галаву′, дак чуць ні памяша′лася. *Цял.*

Набра′ўся, як жа′ба, гразі′. *Жор.*

Нагару′ясься як сірата′. *Дук.*

Наго′ю над магі′лаю стаі′ць, а на дзе′вак пазірая′. *Дук.*

На капе′йку ўпі′ўся, на рубе′ль пахвалі′ўся. *Дук.*

Накуку′ясься, як удава′. *Дук.*

На пусто′м по′лі й трава′ ні расьце′. *Цял.*

Нарабі′ць кры′ку. Нарабі′ў кры′ку, дак я й пашла′. *Цял.*

Настаўля′ць ву′шы. Лю′дзі настаўля′юць ву′шы і слу′хаюць. *Дук.*

Не гані′ся за бага′цьцям, а за шча′сьцям. *В. В.*

Не дава′ць ве′ры. Ня дава′ла ве′ры, што ба′цька хво′-ры. *Цял.*

Недасо′л на стале′ — пярасо′л на сьпіне′. *Цял.*

Не ў нос. Ей жа гэ′та ні ў нос, злуе′, як хто напо′мніць пра ты′я я′блыкі. *Цял.*

Ні бо′йся сварлі′вага, а бо′йся маўклі′вага. *Цял.*

Ні госьць, ні гаспада′р. *Цял.*

Ні дай бо′жа йсьці на чужы′я дзе′ці. *Цял.*

Ні дзе′ўка, ні ўдава′. *Цял.*

Ні жада′й другo′му, чаго′ сабе′ ні хо′чаш. *Цял.*

Ні зайздро′сьці чужо′му, а прыдба′й сваё′. *Цял.*

Ні′зкі на во′чы. Гэ′лька ё′мкая дзе′ўка, але′ ні′ская на во′чы. *Цял.*

Ні капо′ўшы сту′дні, вады′ ні пі′ці. *Цял.*

Ні лю′быя го′сьці, ні лю′быя пірагe′. *Цял.*

Ні пад бок, ні пад галаву′ ні было′. *Цял.*

Ні пазіра′й на сьвет чужы′мі вачмі′. *Цял.*

Ні ра′дуйся, што забагаце′ў, ні смуці′ся, што зьбяд-не′ў. *Цял.*

Ні се′ла, ні па′ла дай ба′бі са′ла. *Кам.*

Ні ўся′кі до′ктар, хто ле′чыць. *Цял.*

Ні ўцяць, ні ўзяць. *Цял.*

Ніхто′ ня чу′я, як удава′ куку′я. *Цял.*

Ні хаце′ла ко′стка ляжа′ць на стале′ — хай ляжы′ць пат стало′м. *В. В.*

Но′сьма насі′ць. Мяне′ но′сьма насі′ла, але′ я пале′з-ла на печ, сагрэ′лася, дак пяраста′ла. *Дук.*

Нялю′бага ні пало′жыш, а лю′бага ні пады′мяш. *Дук.*

Няма′ бало′та бяс чо′рта. *Дук.*

Ня ма′хай рука′мі, калі′ бох ро′зуму ня доў. *Цял.*

Ня ме′рай другі′х на свой аршы′н. *Дук.*

Ня то′лька ат маро′зу твар чырване′я. *Дук.*

Няха′й та′я рука′ атсо′хня, што падыма′яцца на сірату′ і ўдаву′. *Дук.*

Падбі′ць шта′мпы. Глядзі′, Гэ′лька, кап ня падбі′лі табе′ шта′мпы. Ты бу′дзяш рабі′ць, а яна′ бу′дзя палуча′ць. *Дук.*

Пазіра′я, як мыш на кру′пы. *Дук.*

Пазна′й пту′шку па хвасту′. *Дук.*

Пайсці′ на бадзя′кі. Дзісь ня по′йдзям на бадзя′кі, на′тто зі′мна. *Кальч.*

Пайшо′ў на цянькі′ — ха′дзіў тры дзя′нькі, а пайшо′ў цера′з брод, дык хадзі′ў цэ′лы год. *В. В.*

Паказа′ць ду′лю. Хай бы вы′няс ды доў, дак ду′лю паказо′ў. *Дук.*

Паку′ль з бага′тага пух, дык зь бе′днага дух. *Дук.*

Памачы′ по′дмаску ў гарэ′лку, то за вярсту′ ён пабяжы′ць. *Цял.*

Пан нало′жыць пяча′ць, а му′жык гля′дзіць, як яе′ пача′ць. *В. В.*

Панэ′ б'ю′цца, а ў мужыко′ў чубэ′ трашча′ць. *Дук.*

Папо′ў па′льцам у не′ба. *Дук.*

Папо′ў у вараны′, крычы′, як яны′. *Дук.*

Папро′ў казе′ хвост. *Цял.*

Папро′ў кабы′ля снасьць, дак яна′ табе′ малака′ дасьць. *Дук.*

Па′рыць зямлю′. Па′рыць зя′млю со′рак гот. *Дук.*

Пасла′ць у падво′ды. Яго′ пасла′лі ў падво′ды, дак бе′дны ня вярну′ўся, му′сіць, не′дзя пагі′п. *Цял.*

Паста′віць сябе′. Я сама′ сібе′ паста′віла і ні пла′кала па ма′мі. *Цял.*

Пат чужу′ю ду′тку паска′чаш, поты′м атпла′чаш. *Дук.*

Пашкадаво′ў, як воўк цяля′. *Цял.*

Пашлі′ дурно′га, а за ім друго′га. *Кам.*

Пашло′ ў прах усё′. *Дук.*

Пець ката′. Ката′ сьпе′ла хло′пцу, чуць засну′ў. *Дук.*

Піцё′-сьмяцё′, але′ до′рага пасядзё′нка. *Цял.*

Пішча′ць го′ласам. То′нянькім го′ласам пішчы′ць, а ду′мая, што пяе′. *Дук.*

Пішчо′м ле′зці. Яго′ б'юць, а ён пішчо′м ле′зя. *Цял.*

Плю′нуць на руку′. Хоць бы хто плю′нуў на руку. *Дук.*

Поп сабе′, а чорт сабе′, адда′й маю′ малі′тву. *Цял.*

Прайсці′ прако′с. Я прайшла′ адзі′н прако′с, а тады′ мяне′ прагна′лі. *Дук.*

Прапа′ла каро′ўка, хай прапада′я і вяро′ўка. *Цял.*

Пра′ца і сі′ла го′ры зьве′рнуць. *Дук.*

Працу′яш і сма′ку не чу′яш. *В. В.*

Про′ўда во′чы ко′ля. *Дук.*

Про′ўда, як у мо′сьці дзі′рка. *Цял.*

Про′ўда, як на вярбе′ ігру′шы. *Цял.*

Прышла′ да лет, да до′лі нет. *В. В.*

Пры′дзя ко′за да во′за, папро′сіць се′на. *Дук.*

Прычапі′ўся, як п'я′ны к пло′ту. *Цял.*

Прышо′ў іспа′с, пашло′ ле′та ад нас. *Кам.*

Пыта′я лю′ты, ці до′бра абу′ты. *Дук.*

Рабі′ рука′мі, ду′май галаво′ю. *Дук.*

Рабі′ць ча′рку. Німа′ майго′. Не′дзе ча′рку ро′біць, а ён жа за рулё′м. *Так.*

Рабо′та ні воўк, у лес ні ўцячэ′. *Кам.*

Разьмя′к, як гніля′к. *Дук.*

Распусьці′ўся, як старэ′чая пу′га. *Цял.*

Расці′ ў ро′це. Хлеп той, як цэ′гла, жуе′ш, а ён у ро′ця расьце′. *Дук.*

Раўці′ ро′вам. Такі′ боль, што хоць ты ро′вам раві′. *Дук.*

Ро′біць, як мо′края гары′ць. *Кам.*

Рост чалаве′чы, а ро′зум аве′чы. *Дук.*

Рука′ руку′ мы′я. *Дук.*

Рэ′цька го′рка, але′ яду′ць, замужа′м ке′пска, але′ йдуць. *Дук.*

Рэ′шатам вады′ ні нано′сіш. *Цял.*

Саба′кам се′на косі′ць. *Дук.*

Сава′ ні ро′дзіць сакала′, а тако′га, як сама′. *Цял.*

Сама′ каля′ пе′чы, а язы′к за паро′гам. *Дук.*

Сам сабо′й жыве′. *Ляшч.*

Ска′жа, як зьвя′жа. *Дук.*

Сказо′ў — адрэ′заў. *Цял.*

Ска′ча, як ую′н на скаварадзе′. *Дук.*

Склада′нку склада′ць. Наза′ўтра ста′вяць заку′ску ты′я, у каго′ хрэ′зьбіны, а тады′ го′сьці склада′нку склада′юць. *Малм., Хож.*

Скрыпу′чае дрэ′ва до′ўга жыве′. *Цял.*

Сме′шкі пра′віць. Нашто′ вы с старо′га чалаве′ка сьме′шкі пра′віця. *Цял.*

С старо′га но′вага ні зро′біш. *Цял.*

Ста′рцу сяло′ ня накла′т. *Дук.*

Стая′ць на кватэ′ры. Вучы′цяль у іх стаё′ў на кватэ′ры. *Дук.*

Сьляпо′му даро′гі ня пака′жаш. *Дук.*

Сьмяё′ўся кацё′л з гаршка′, што той чо′рны. *Дук.*

Сьпі′ткі, зье′ткі — ні вам мае′ дзе′ткі. *Цял.*

Сьпіць, як пшані′цу прадо′ўшы. *Цял.*

Сядзе′ць дзё′бам. *Дук.*

Сядзі′ць, як мыш пад ве′нікам. *Дук.*

Сяк так накася′к, абы′ ня-палю′цку. *Дук.*

То′лька па хвасьце′ пту′шку ня пазна′яш. *Дук.*

То′лька дзя′цел дзяўбе′ гніло′я дзе′рава. *Дук.*

Той дурны′, хто валэ′ згубі′ў, а ні той, чые′ валэ′ стая′ць у хляве′. *Цял.*

Тру′дна, Зо′ся, так прышло′ся. *В. В.*

Ты яму′ гавары′, а ён табе′ — дагары′. *В. В.*

Ты на гару′, а чорт за нагу′. *Цял.*

У бо′га дзён мно′га. *Цял.*

Уве′сці ў бя′ду. Чалаве′ка мо′жна ў бяду′ ўве′сьці. *Цял.*

Узя′ць бо′га за бараду′. *Цял.*

Узя′ць у шчэ′пці. Так узяла′ яго ў шчэ′пці, дык ён і не пі′сьне ў яе. *Аляхн.*

Узя′ць ве′рхнасць. Вы ўжэ ўзя′лі ве′рхнасьць над мушчы′намі. *Цял.*

У ле′сі радзі′лася, на вясе′льлі згадзі′лася (С к р ы п к а). *Малм.*

У пірагі′ е′зьдзіць (прыехаць). У нас ніко′го до′ма ні было′, у пірагі′ е′зьдзілі ўсе. *Горкі.* І нас прасі′ў на пірагe′ ў гэ′ту нядзе′льку, бацькі′ маладо′й у пірагі′ прые′дуць. *Сав.*

Узя′ць шлюб. Ей не да′лі ўзяць шлюп. Сё′ньня мой пляме′ньнік пае′хаў у Ашмя′но ўзя′ць шлюп. *Пап., Вішн., Р. Ч., Ляшч., Хож., Кальч.*

У про′чкі зьбіра′йся, а жы′та сей. *Цял.*

Утну′ць на язык. Яна′ сядзі′ць, сядзі′ць, а да′ляй як утне′ на язы′к. *Цял.*

Хадзі′ць на адве′дзіны. На′шы то на адве′дзіны хадзі′лі, але на радзі′ны не по′йдуць, бо Ко′ля ў бальні′цы. *Сав.*

Хадзі′ць усме′лую. *Ніз.*

Хадзі′ць у цяжку′. Ся′стра мая′ за′раз у цяшку′ хо′дзіць. *Быт., Р. Л., Кальч.*

Хадзіць у шчо′дры. Цяпе′р не чува′ць, а ране′й хадзі′лі ў шчо′дры. *Пр.*

Хай на′шы ану′чы бу′дуць у ку′чы. *В. В.*

Хай яе′ курч во′зьмя. *Дук.*

Хай таго′ вала′ воўк зьесць, што каро′ўка б'е. *Цял.*

Хвасто′м накры′цца. Пазы′чыла сусе′ду гро′шы, а ён і хвасто′м накры′ўся. Каб ве′дала, ні пазы′чыла б. *Сав.*

Хібо′к наста′віць. Прысла′лі пяць малады′х наста′ўніц у шко′лу, то тры нічо′га, а дзьве′ хібо′к наста′вілі, куды′ ўзду′маюць, туды′ і пае′халі. Ні паччыня′юцца. *Сав.*

Харо′шых бацько′ў харо′шыя дзе′ці. *В. В.*

Хі′цяр Зьмі′цяр, але′ і Со′ўка ня дура′к. *Дук.*

Хлеп е′шча, а про′ўду рэ′шча. *Цял.*

Хо′дарам хадзі′ць. Сківі′цы хо′дарам хо′дзяць у яго′ *Дук.*

Хо′дзіць, як мы′ла з'е′ўшы. *Дук.*

Хо′дзіць як па′ва. Глядзі′ ты, яка′я на′ша Я′дзя зрабі′лася′. Пабыла′ год у Мі′нску, ідзе′ па вё′сцы як па′ва, ні з кім ні прывіта′яцца пе′ршая. *Сав.*

Хоць ваўко′ў (саба′к) ганя′й. Буды′ніна ве′лькая, ні абагрэ′ць, хоць ваўко′ў ганя′й. *Сав.* Трэ′ба бу′дзя ве′чарам у стаяку′ прапалі′ць, а то ха′ту вы′ветрая за ноч хоць саба′к ганя′й ра′ніцаю. *Там жа.*

Хоць гра′блямі грабі′. Ты ка′жаш, што грыбо′ў у ле′сі хоць гра′блямі грабі′, а я ўчо′ро ўвесь лес абла′зіў — і ў Но′вінах быў і ў Бе′лум Бало′цццы — і нічо′га ні знайшо′ў. От папада′юцца тро′хо, але каб мно′го, то не. *Сав.*

Хоць до′ўга чака′лі, але до′брае імя да′лі. *Дук.*

Хоць за вала′, абы до′ма не была′. *Цял.*

Хоць ні ўе′жна, але′ ўле′жна. *Цял.*

Хоць пад ла′ўкай пасяджу′, але′ на мі′лага пагляджу′. *Цял.*

Хоць сі′лу трачу′, але′ дно ўба′чу. *В. В.*

Хоць тапары′шча ве′шай. Мо′жно вы′нясьці крэ′сло й на дварэ′ пасядзе′ць, бо ў ха′ці ды′му хоць тапары′шчо ве′шай. *Горкі.*

Хоць ты кана′й. Хадзі′ла я пераве′даць старо′га ў бальні′цу, дак і ўну′чка ўчапі′лася, хоць ты кана′й — пайду′ і пайду′ с табо′ю. Му′сіла браць. *Сав.*

Хоць у шалашы′, абы′ мі′лы да душы′. *Дук.*

Хоць які′ цяляпе′й, але′ ўдваі′х ляпе′й. *Дук.*

Хо′чаш з ло′ўкі скі′нуцца і ні пабі′цца. *Цял.*

Хто зь языко′м, той сь пірашко′м. *Дук.*

Хто дасу′жы, той разу′мны. *Дук.*

Хто лес тралю′я, той у до′бруй ха′ця начу′я. *Дук.*

Хто мяня′я, у таго′ ха′мут гуля′я. *Дук.*

Хто ні працу′я, той ні ма′я. *Цял.*

Хто пану′я, а хто гару′я. *Дук.*

Хто п дзя′тла веда′ў, кап ня яго′ до′ўгі нос. *Дук.*

Хто ро′зуму ня ма′я, той у каццё′лкі гуля′я. *Дук.*

Хто сам сябе′ не ўсьцеражэ′, таго′ і бог не ўберажэ′. *В. В.*

Ці хто сьпяшы′ць, ці хто бязрукі′ дзяржы′ць. *В. В.*

Цягло′м цягну′ць. Цягло′м ця′галі яе′ па карчо′х. *Дук.*

Чужу′ю бяду′ рука′мі развя′ду, а к сваё′й вума′ ні прылажу′. *Цял.*

Чэ′рці ня то′лька ў бало′ця во′дзяцца. *Дук.*

Шану′й адзежыну′ до′ма, а яна′ ця′бе пашану′я ў лю′дзях. *Дук.*

Ша′рая гадзі′на. Рабі′ць ве′льмо німа′ чаго′, а сьвет шкаду′ю палі′ць, нагара′я мно′го, дак зале′зу ша′раю гадзі′наю на печ і драмлю′. *Сав.*

Шку′ры на сабе′ не чуць. Вот як даў ба′цько нагання′й, то й ву′чыцца хо′рашо, пяцё′ркі прыно′сіць, а то быў распусьці′ўся, шку′ры на сабе′ ня чуў. *Сав.*

Шля′хціца пазнаю′ць па халя′вах. *Дук.*

Што ўбі′ў, то ўе′хаў. *Цял.*

Што ў пасьце′лі, то ў касьце′лі. Ходзь бы ты прыадзеўся, на цябе′ш страх глядзе′ць, што ў пасьце′лі, то ў касьце′лі, сараматні′к ты. *Сав.*

Шука′ць у по′лі ве′тру. *Дук.*

Шчупа′к за пло′ткаю ганё′ўся, по′куль сам у не′рат ні папо′ўся. *Цял.*

Я′блыка ад я′блыні далё′ка ні атко′ціцца. *Цял.*

Яка′я яда′, така′я і красата′. *Цял.*

Яка′я яда′, така′я і рабо′та. *Дук.*

Як ану′чаю па зуба′х каму′. Ня ўсьпе′ў Петрашэ′ўскі вярну′цца (адбыць пакаранне), а яму′ як ану′чаю па зуба′х: «Ра′но ш ты вярну′ўсё, яшчэ′ жы′то ні пасьпе′ло». *Сав.*

Як боб адмалаці′ць. Быва′ло прышле′ пісьмо, дык той (брат) як боб яго адмало′ціць. *Пр.*

Як гол, так і во′сьцяр. *Дук.*

Як да та′нцаў, дык каха′нца, як да жні′ва, ле′дзьве жы′ва. *Так.*

Як дба′яш, так і ма′яш. *Дук.*

Як захо′ча бог пакара′ць, дык ро′зум адбярэ′. *В. В.*

Як зь які′м малако′м, дак ле′пяй з вадо′ю. *Кам.*

Які′м аршы′нам сам ме′раяш, які′м і та′бе бу′дзя адме′рана. *В. В.*

Як мо′крае гары′ць. *В. В.*

Як мужыку′ бяда′, дак па′ну каля′да. *Цял.*

Як на плот чапля′ць. Сілко′м прыму′сіла сябе′ е′сьці, е′ла як на плот чапля′ла, без апяці′ту. *Сав.*

Як на′тта разго′нісься, дык ця′шка будзя′ спыні′цца. *Дук.*

Як пяруно′м спалі′ла. *Дук.*

Як ні ма′яш, пабразгачо′ў, дык няма′ і паслугачо′ў, а як ма′еш пабразгачы′, тады′ бу′дуць і паслугачы′. *В. В.*

Яко′я дрэ′ва, такі′ клін, які′ ба′цька, такі′ сын. *Цял.*

Як паме́р бага́ты, дак па тро́я с ха́ты, а як паме́р бедняча́к, дак то́лькі поп ды дзячо́к. *Цял.*

Як па́наў па́рабак. Я ўжо на сваі́м вяку́ па́рабкаў ня по́мню, толькі вот ка́жуць, сабіра́іцца як па́наў па́рабак. *Бял.*

Як пасьце́ляш, так і вы́сьпісься. *В. В.*

Як радзі́лася жарабя́ з лы́сінай, дак і здо́хня з лы́сінай. *Цял.*

Яна́, як кот, жыву́шчая. *Цял.*

Яна дастаня з агню́. *Цял.*

Я па-про́стаму гавару́, гэ́та ты язы́к загіба́яш. *Цял.*

Я сама́ сібе́ паста́віла і ні пла́кала па ма́мі. *Цял.*

Я сют-тут павярну́ся і пайду́. *Дук.*

Як рэ́пу грызці. Глядзі́ ты, ко́лькі таго́ дзіця́ці, а ўжо чыта́я як рэ́пу грызе́. *Горкі.*

Як сеў, дак і прыкіпе́ў. *Цял.*

Як сьляпы́ да пло́ту *(прыстаць)*. Адыдзі́ся, прыста́ў як сьляпы́ да пло́ту, няма́ ў мяне́ гро́шай. *Горкі.*

Як той бу́сел з жа́бай. Мчы́цца зь ёю цераз вё́ску, як той бу́сел ж жа́бай. *Гіл.*

Як ты да людзе́й, так і лю́дзі да цябе́. *Дук.*

Як у адно́й кашу́лі хры́шчаныя. Дру́жба ў іх, як у адно́й кашу́лі хры́шчаныя. *Бял.*

Як у бо́га за па́зухай. А што ш той Ва́ньдзе? Жыве́ пры бацько́х, і нае́та і абу́та, як у бо́га за па́зухай. *Сав.*

Як усы́пана. Я́блык як у каго́: у Го́цкай як усы́пано, а ў Цярэ́шкаў німа́, у нас ма́ло, па два сядзя́ць. *Сав.*

Як ча́йка за мо́ра *(зайсці)*. Але дзе Мары́ся? От жа зайшла́. Як ча́йка за мо́ра. А мо́жа дзе закатру́піў хто, які́ злы́дух. *Пр.*

# ЗМЕСТ



*На белорусском языке*

МАТЕРИАЛЫ ДЛЯ СЛОВАРЯ
МИНСКО-МОЛОДЕЧНЕНСКИХ ГОВОРОВ

Издательство Белорусского государственного университета
им. В. И. Ленина. Минск, Кирова, 24.

Рэдактар *А. Ляпіч*
Мастацкі рэдактар *В. Лапіцкі*
Тэхнічны рэдактар *В. Безбародава*
Карэктары *В. Сербантовіч*, *А. Дзераш*

**АТ 29142. Здадзена ў набор 2/III 1970 г. Падпісана да друку 9/VII 1970 г. Фармат 70×108$^{1}/_{32}$. Папера друкарская № 2. Фіз. друк. арк. 5,375. Ум. друк. арк. 7,52. Уч.-выд. арк. 7,6. Тыраж 1000 экз. Выд. № 40-70. Заказ 507. Цана 14 к.**

**Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, Кірава, 24.**